


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**3** (977)

САКАВІК

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2011

## *ЗМЕСТ*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



## Юрка ГОЛУБ

### СНЕГ РАСТАЕ...

Дзе бяроз серпанціны,
Зрэнкам рэзі стае.
Дых вятры скарацілі.
— Можа, снег растае?

Не разьбярным пілястрам
Гаю рог паўстае.
Грак заўчасны, як пастыр.
— Мабыць, снег растае?

А нябёс пілігрымы
«Знаюць гнёзды свае».
— Покуль неба не грымне,
Хіба снег растае?

Рэкі лёд раскруцілі.
Каляндар прыстае.
Прэч з дарог, каранціны:
— Значыць, снег растае!

### ХАДА

Зышла пад выракам нябёс
таемным шляхам бліскавіца:

---

***Голуб Юрый Уладзіміравіч*** *нарадзіўся 20 кастрычніка 1947 года ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1970). Працаваў на Гродзенскім абласным тэлерадыёаб'яднанні, у газеце «Гродзенская праўда».*

*Аўтар паэтычных кніг «Гром на зялёнае голле» (1969), «Дрэва навальніцы» (1973), «Векапомнае поле» (1976), «Помню пра цябе» (1983), «Сын небасхілу» (1989), «Поруч з дажджом» (2001), «Зажураны камень» (2002), «Брама зімы» (2004), «Багра» (2006) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1999).*

з дарог расхрыстаных найбольш
у цемры збіцца не баіцца.

Аб галавешкі сіплы дождж
уласнай пыхі пырскі плюшчыў
і пацягнуўся трыбы ўздоўж
зніякавець у лёхах пушчы.

Раку прыняў літоўскі бок
і прытрымаў знарок на згібе,
дзе птушка села на буёк,
а вір скруціла на пагібель.

Барвовы верасень садам
даваў абвестку на раскошу,
і пыл сусветны асядаў,
нібы расіца на пакошу.

## НА СМЕРЦЬ ДУБА КАЛЯ ПАРЭЧЧА

З трэскам рвала каўнер
Бліскавіца на дубе.
Ліхам дуб закране —
Немінучая згуба.

Там, дзе сонца ўзыход,
Ён над светам узняты.
Волат. Блізка Чачот.
Не іначай — блізняты!

Пляжыў волю палаш.
Годнасць сыпала мліва:
«Шкада, што на голас ваш
Старонка драмліва…»*

У нутро, як асецць,
Вабіў дуб пілігрыма,
Покуль сам не асеў —
Разнадзеены грымнуў.

Злы закон без ікон,
З кандачка вырашае
Лёс карэнняў і крон,
Развяршэнне вяршалін.

Пагатоў ля ствала
Не на марна — з намерам

* З верша Я. Чачота «Да мілых мужычкоў».

І сякера-піла,
І піла, і сякера.

Люду дуб пажадаў
Ад нябёс пашаноты.
Медны бляск жалуда.
Воблік Яна Чачота.

## ГРОДЗЕНСКАЯ ГРАВЮРА

Нёман у вечнасць нёс
Жальбы шчыты панура.
Весціць пра вечны лёс
Гродзенская гравюра.

Ложа з грымотных пор
Гораду сцелюць буры.
Трубіць алень на збор:
Гродзенская гравюра.

Засціцца краявід:
Княжыць Давыд. Віхура.
Дзідай грыміць Давыд! —
Гродзенская гравюра.

Аблокі гайдаў палац.
Пісьмёнаў дубела скура.
Змогся горад палаць:
Гродзенская гравюра.

Каложыны галаснікі
Ляцяць, як анёлы муру.
Шапку пашаны скінь:
Гродзенская гравюра.

Прагны да зла заклён
Знесла адсюль алюрам.
Блішча за шклом акон
Гродзенская гравюра.

На гербе аленя знак
Грудзямі прастору бурыць.
Шэпча любоў юнак
Гораду на гравюры.

## ДА ПАРТРЭТА СЛАНЕЧНІКА

Пыл радоўку валок
Пры занятку адвечным.
Рыжым пчолам здалёк
Рады дзённы сланечнік.

… Дзе дзірван задрамаў,
Ці ўчынялася ляда,
Сам сябе нездарма
Ён у глебу закладваў.

А пасля напралом
Лез груvastка праз цемру —
Гэтак лез крыгалом
На завалы і цераз.

Ды таксама наўме:
Дзе ў старшынях не скнары,
Ласку пэўную меў
На калгасных гектарах.

Пастухам наўздагон
І насустрач аблокам
Нёс ён медны агонь,
Як разведчык бінокль.

Зрок — адна чысціня,
Шчодры — поўнаю жменяй.
Вёску ўсмак частаваў,
А часцей апраменьваў.

Да вакон, як ікон,
Набліжаецца босы.
Б'ецца сонечны звон.
Сцежку вызначыў посах.

## МАЗГАВАЯ АТАКА

Мазгавая атака —
Квет гудзе навуковы.
Не кульгае кульбака,
А ляскочуць падковы.

Кожны скажа без меры.
І яму не пярэчаць,
Бо ва ўласнай кватэры
Потым можаш аспрэчваць.

З тым патрэбна згадзіцца,
Там — бязлітасна рэзнуць.
І над ісцінай біцца —
Паміраць і ўваскрэснуць.

А на думку натрапіць
Не надзейна ж у тлуме.
Не чакай, калі раптам
Певень смажаны клюне.

Неабходна спяшацца
Да сябе і нашчадкаў.
Будзе час адляжацца
На тым свеце ашчадна.

У чупрынных астатках
Вы — ахвяры асветы.
Мазгавая атака
Патрасае сусветы!

## ПАБЕЛЕНЫ САД

Змрочны сад, нібыта ў спрат,
Прыхаваў сутоннем вокны.
Папярэднікам у страт
Можа стацца злое вока.

Не Венерын чаравік
Часам цюкае абцасам?
Не лічыце за пралік,
Што зблудзілі познім часам.

Сам паціху з сцежкі збоч.
Знікне ўміг мінор кялейны.
Беляхцяць у ноч праз ноч
Яблынь белыя калені.

## ПРЭЛЮД

Да палёту падкія стрыжы
Нахапалі вольніцы замашак:
Перуну парушылі рэжым —
Дах старога з’ехаў на паддашак.

Кроплям не дае спакою сверб
На абсяг засмяглы пераліцца.
А над ім між воблакаў і верб
Раскашуе ў белым бліскавіца.

Клічнікам загадна рэкнуў гром:
Прыпыніць у сказах перашэпты!
Гахне выбух. Побач. За бугром.
І зямлю раскроіць рыкашэтам…

## МАТЫЎ

Фара — як метафара.
Цёмнач. Зыкаў безліч.
Эх-ма! Сцежка трапіла
У абдымкі бэзу.

Цмоку ніцавокаму
Хэнць — на хутар бабчын.
Бачыць, бач, навокала
Той, хто дальнабачны.

Легкашумна лісце
Побач лекацела,
Бы шукала выйсця,
Як агонь з кацельні.

Ды вяльможна кратаў,
Бы анёлак крыллем,
Сон у сто каратаў
Мрою і Марылю.

Небывалы досвед
Неба адмыкала.
І было ўжо досыць
Знічкі, што знікала…

## ВІШНЯ

Старэю. Не ўцёк ад бяды.
Напрамак не зменіш.
Абозы стаяць ля вады.
Пясочак у жмені.

Пяшчоту дае хутарок.
Навошта…
Залішне…
Бо выбраў ты месца знарок
На воблаку вішні.

Хапала хвалы наўздагон —
Квяцістым петардам.
…А сведкі дамовяцца: «Ён
Не варты пагарды».





Алесь КАМАРОЎСКІ

## СМАКАТА

*Кулінарная аповесць*

Вялізны драўляны апалонік балюча таўхануў Данілку ў плячо. Хлопчык з перапуду паўсонна плюснуў вейкамі, мігам ускочыў з перавернутага кубельца, быццам яго заспелі на нечым недазволеным.

— Нясі! — дзве тлустыя складкі падбароддзя галоўнага кухара перасмыкнуліся, маленькія масляністыя вочкі злосна зыркнулі з-пад купчастых чорных надброўяў, утаропіліся на серабрысты паднос, на якім ляжалі тушаныя перапёлкі ў слівовай падліве.

Данілка падхапіў паднос і асцярожна ступіў у пераход. Пад скуранымі падэшвамі боцікаў рыпелі шырокія сасновыя маснічыны, паўцьмяныя лучнікі на паўспаленых агарках калыхалі жаўтлявыя языкі агню з чорнымі цяжамі дыму. У праймах пераходаў затоена стылі нябачныя воі ў сетчатых кальчугах з мячамі і бердышамі. Данілка хоць і не бачыў іх, але ведаў, што яны тут, за гэтымі мураванымі сценамі, гатовыя ў кожны міг пераступіць дарогу, не пусціць у святую святых князёў Радзівілаў.

У канцы перахода шырокія дубовыя дзверы з каванымі завесамі адчыніліся, і нечая рука з-за вушака ткнула ў паветра доўгім указальным пальцам:

— Туды!

Данілка яшчэ мацней прыціснуў да сябе паднос і сцярожка дробнымі шажкамі прамком пастрачыў па распісной кафлянай плітцы да адкрытых дзвярэй суседняй залы, адкуль чуліся раскацістыя галасы.

Стольнік, худы, як зроду някормлены, высоразны, ці не пад тры аршыны, страсянуў купчастай кучомкай кучаравых валасоў і, прыставіўшы пруткую далонь да худых Данілкавых лапатак, даў накірунак зніякавеламу целу хлапчука:

— З краю!

Данілка папраставаў да краю стала, акуратна паставіў паднос на льняны з залацістымі вышыванымі кветкамі абрус і вобмельгам акінуў вачыма захмялелае застолле…

---

***Камароўскі Аляксандр Адамавіч*** *нарадзіўся 1 сакавіка 1947 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў на Беларускім тэлебачанні, у часопісах «Маладосць» і «Вясёлка», у выдавецтве «Юнацтва».*

*Аўтар паэтычных кніг «Пачатак» (1975), «Зямля маіх надзей» (1989), «Валошкі памяці» (2002), «Азбука жыцця» (2009), аповесцей для дзяцей «Адкрытая тайна» (1979), «Заваражаны мяч» (1989), «Пенальці» (2000).*

Шырокія дубовыя сталы стаялі ўздоўж трох сцен. Сярэдзіна залы і адзін бок яе там, дзе вынырнуў Андрэйка, былі вольныя. За самым доўгім сталом пасярэдзіне сядзеў Радзівіл. Аберуч мясціліся родныя і блізкія, далей — запрошаныя шаноўныя госці. Усе сядзелі па адзін бок стала, ад сцяны. З другога боку снавала прыслуга, падносячы пітво і прыкуску. Між залацістых амфар з заморскімі вінамі, між ёмкіх карчаг з півам, між выпукастых шкляных і гліняных глячкоў з медавухай, блакітным лікёрам, настоеным на крываўніку, напоямі з ажынамі, чарніцамі і рознымі травамі, між паліваных гарлачыкаў з кляновікам і бярозавым квасам, між вычварных штофаў і квартаў з рознаю гарэлкай — міндалеўкай, кардамінаўкай, малінаўкай, мелісаўкай, кмінаўкай, аераўкай, мятнай… — стаялі залачоныя падносы з тушанымі мядзведжымі лапамі ў вінным соусе. На мелкіх драўляных ладзейках чырванелі сыравяленыя наразанцы вяндліны і паляндвіцы, вабна вылежваліся, спачатку вымачаныя ў настоях траў, а потым вэнджаныя палоскі мяса тура і стружастыя закручонцы з кумпякоў лані і казулі. Тушаныя качкі, рабчыкі і бакасы ў часночнай падліве, аздобленыя галінкамі і лапкамі кропу, здаецца, так і цягнулі свае запечаныя каленцы да прагных рук гасцей. Закальцаваныя свіныя і ласіныя каўбасы журыліся на берасцяных плецяніцах. Нацёртыя хрэнам, на прадаўгаватых гліняных латушках гарбаціліся запечаныя парсючкі з заціснутымі морквамі ў лычах. З размаляваных місак паказвалі белыя ножкі і карычневачорныя галоўкі марынаваныя баравікі, ружовымі пласцінкамі вабілі салёныя рыжыкі. У сярэбраных паўлодачках застылі ў заліўцы фаршыраваныя шчупакі і асятры. На дубовых лёстачках змяіліся вэнджаныя, вараныя і марынаваныя вугры, чакаючы вострага ляза. У распісных пазалочаных салатніцах зярніста крупенілася ласосевая і шчупачыная ікра. У гліняных паўмісках у падліве з мацярдушкі і мяты ляжала ўтушаная печань мянька… На фарфоравых лодачках, здаецца, плылі да ўчэпістых відэльцаў ласіныя губы і бабрыныя хвасты, вымачаныя ў вінным воцаце. У пазалочаных талерках-спарышах, фаршыраваныя разынкамі і арэхамі, застылі жаваранкі і заранкі. Іх язычкі, звонкія і малюпаценькія, што нядаўна ўслаўлялі ўсход сонца і веліч неба, аздаблялі тушаныя языкі заморскіх паўлінаў. У выразаных дубовых латках ад дотыку вострага нажа, здаецца, напружваліся карычняватыя тушкі гусей. Іх, адкормленых і лянівых (Данілка аж здрыганаўся, успамінаючы гэта), тапілі ў вадзе, каб не пускалася кроў, ахлыналі кіпятком, чыста абшчыпвалі. Вымалі вантробы. А ўсярэдзіну яшчэ цёплага цела з рэшата выкульвалі ёмкую міску чорных п’явак, прамытых халоднай вадой. Трапіўшы на яшчэ цёплае гусінае мяса, змеяватыя вертуны прысмоктваліся к бакавінам, паўзлі адна па адной, шукаючы вольны лапік. Лоўкія рукі служанак сыпалі часнок, каляндру і кмен, зашывалі гусіны жывот, клалі на шырокую бляху да такіх жа родзічак і неслі ў кухню, дзе іх чакалі соль, прыправы і печ. Праз гадзіны дзве з чалеснікаў выязджала гусіная крывянка.

Калі яшчэ Данілкава разуменне мірылася з тым, што трапляла на застолле з лесу, вады, хаця і гэта было Божым стварэннем, то сэрца хлапчука шчымела ад болю, калі дзеля гасцей адлоўліваліся белыя і чорныя лебедзі, прыгожыя, як маленькія каравелы, з доўгімі выгінастымі шыямі, даверлівыя да чалавечых рук. Галоўны кухар, ведаючы гэта, пасылаў заплаканага Данілку чысціць сцерлядзь і асятроў, прывезеных з Прыпяці ці Дняпра. А лебедзі, фаршыраваныя мясам зайца і гусінай пячонкай, абмазваліся салодкім цестам, у якое хітра ўпляталіся вяровачкі, абтыкаліся, як было, пер’ем і запякаліся на малым жары. На стол яны прыплывалі па двое на вялікіх падносах-латаках, як жывыя, здаецца, вось-вось гатовыя сарвацца ў расчыненае акно і зляцець на прызамкавае возера. Але гэта было толькі Данілкава жаданне. Канцы

вяровачак тузаліся ўмелай рукой, складвалі пер’е, як японскі веер, агаліўшы апетытныя бакавіны і спіну…

Чырвоныя ракі, адвараныя ў катлах з прыправамі, працягвалі гасцям сваімі клюшнямі галінкі сакавітай зелені. Між вялікага посуду туліліся шкляныя місачкі з белым і бурачковым хрэнам, узбітай на мёдзе смятанай, і амаль губляліся пад разваротамі краёў шырокіх страў масленіцы, цукарніцы, перачніцы…

Але захмялелая шляхта і вяльможныя госці з асаблівым нецярпеннем чакалі падсмажанага на калаўроце лася, зіркаючы час ад часу на прыстаўлены стол, куды ляжа гэты ласунак. Андрэйка ведаў, як цяжка давалася кухні прыгатаванне гэтага магутнага печыва. За дзень галоўны кухар са спелых аліўкавых пладоў сам даставаў костачкі і замяняў іх анчоусамі, якімі напаўняў тушку жаваранка. Нябесны спявак клаўся ў перапёлку, а перапёлка запіхалася ў качку, качка нырала ў жывот каплуна — адгадаванага на мяса, выпакладанага пеўня, а каплун заязджаў у жывот фазана… Усё гэта па ходу свайго шляху пасыпалася прыправамі, мазалася мёдам, палівалася вінным воцатам, абкладвалася пахучым зяленівам. Фазана ўжо чакаў падсвінак, які ныраў у жывот лані. Тут ужо ў справу ішла соль і мноства іншых прыправаў і траў. Чарнасліў без костачак і долькі салодкіх яблык запаўнялі нутро лычастага паўгадаванца. Жываты і грудзіны зашываліся валовымі жыламі. І нарэшце лань клалася ў чэрава дваццаціпудовага лася… Самым смачным у гэтай шматпавярховай смажаніне, як сцвярджаў галоўны кухар, былі жаваранак і перапёлка, угрэтыя ўсімі сокамі і набрынялыя парай многіх прыпраў.

Данілка ведаў, як выжыльваліся лоўчыя, гойсаючы па пушчы, каб позняй восенню ўстурыць нагулянага тлустага мядзведзя, загнаць у аблогу лася ці казулю. Чуў зімой ад іх, калі забягалі на кухню пагрэцца поліўкай ці адварам, як нялёгка праходзілі паляванні, са смяртэльным зыходам і калецтвам. Ды і бачыў, як прывозілі з лесу звярыныя тушы, ашкурвалі іх, свежавалі і валаклі сцёгны ў лядоўню. Не менш клопатаў было і ў птушкаловаў. Яны, як лясныя прывіды, ціха блукалі ў гушчарах і падлесках, сноўдалі па берагах рэк і азёрных затоках, правяраючы сеткі, сілкі і петлі, таксама рызыкуючы напароцца на драпежныя іклы і кіпцюры, поўзалі па жарстве, высочваючы перапёлак, курапатак і жаваранкаў, або са зграяй гончых выжлаў гойсалі вярхом на конях па балаціне і рэдкалессі. Рыбакі выпіналіся, цягнучы набрынялыя вяроўкі невадоў, мінаючы перакаты і водмелі, шукаючы глыбокія ямы, дзе трымалася буйная рыба, лазілі па старыцах і азярынах, моклі пад дажджом, смылелі пад пякучым сонцам, карчанелі ад траскучага марозу… Велізарныя мяхі язёў, ляшчоў і шчупакоў, стронгі і акунёў, валюхастых самоў поўнілі сталы разборачнай, дзе жаночыя рукі чысцілі луску, вымалі вантробы, вырывалі жабры, мылі і апускалі што ў лядоўню, што салілі і пасля адпраўлялі ў вяндлярню. Тую рыбу, што не вадзілася паблізу, прывозілі з мора, іншую жывой трымалі ў капаніцах да наступнага балю.

Данілка чуў, бачыў і ведаў… Яго маладыя дапытлівыя вочы і вушы…

Нечыя чэпкія пальцы балюча круцянулі за мочку вуха, вярнулі да застолля:

— Нясі! — стольнік кіўнуў на паднос з пустым посудам.

Данілка падхапіў яго і панёс у пераход…

* * *

Калгасны брыгадзір зірнуў на разбэрсаныя кроп, цыбулю і пятрушку, на апалавіненую пляшку «Вермута» і нясмела папрасіў:

— Дзядзька Мікола, можа, выйшлі б на ферму павазіць гной?

Дзядзька Мікола, худы, жылісты, насаты, з кучомкай пасівелых валасоў, хітравата, з прыжмурам утаропіўся ў таўсматага брыгадзіра, а пасля, ікнуўшы, як адрэзаў:

— Ной не пойдзе вазіць гной!

— Што ж, і па каня тады не прыходзь! — учырванеў брыгадзір, павярнуўся, ступіў да парога і, бразнуўшы дзвярыма, выйшаў з хаты.

— Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, сам прыйдзеш! Прыпрэ — сам прыбяжыш! Папросіш, каб палячыў, каб каня ўзяў…

Адставіўшы ўбок шклянку, як ён казаў, «палыновай прафілакцікі», лёгка падняўся, ускінуў на плячо вылінялы плашч, у сенцах прыхапіў вядзерца з накрыўкай, а ў прыгуменні выцягнуў дзве вуды, адну кароткую, другую, ялцоўку, доўгую, і пашыбаваў на недалёкае возера.

Хата дзядзькі Міколы была другая з краю вёскі. Нізкая, крытая пабурэлым шыферам, яна збоку нагадвала вялізную лодку, перавернутую ўверх дном. Між тыльнай сцяной хаты і паграбком густа парос маліннік, дружна ўзняліся пасынкі сліў. Крыху воддаль туліліся маленькае гуменца і лазня. Тут знаходзілі прытулак бадзяжныя каты і бяздомныя сабакі. Пасля рыбалкі ім перападала ад гаспадара злоўленая драбната. Час ад часу сюды завітвалі вясковыя выпівохі, ведаючы, што заўсёды знойдзецца скрылёк сала ці крамяны яблык з дагледжанага саду. Відаць, нехта з іх і назваў хату дзядзькі Міколы Ноевым каўчэгам. Мянушка прычапілася моцна, і яго, адзінокага, не звалі за вочы інакш, як Ной. Ён і не крыўдзіўся, бо лічыў за гонар мець падабенства з біблейскім выратоўцам усяго жывога.

Сёння рыба не клявала. Было сонечна і бязветрана. Рэдкія бялёсыя аблокі, як думкі ў галаве, паволі плылі над азярцом, любуючыся з вышыні сваімі адбіткамі ў сінечы вады.

Дзядзька Мікола ўспамінаў, як лавілася рыба гадоў дваццаць—трыццаць назад. Помнілася — ды яшчэ як! — аднойчы пасля полудня ён з нёманскай выспы рашыў закінуць на язя. Доўгае вудзільна з лёскай, а на кручку пачэплены майскі хрушч… Плынь падхапіла трапяткую карычневую прынаду і панесла на паварот, дзе пачыналася глыбокая бухта. Доўгая лёска давала магчымасць стаяць на месцы, не ідучы следам за плынню. Мікола бачыў, як хрушч мінуў надрэчную алешыну, і ўжо хацеў адкінуць прынаду назад, як нешта вялікае глыкнула насадку і пасля падсечкі пачало супраціўляцца, напяўшы лёску, выгнула вудзільна. Першы язь важыў пад кілаграмы тры. Трохі меншымі былі і дванаццаць іншых, што паквапіліся на майскага жука. «Чортаў тузін!» — думаў ён тады. Можа, злавіў бы і чатырнаццатага, але насунуліся плыты і, відаць, разагналі ўсю рыбу.

Яшчэ помніўся адзін выпадак. Лавіў ён тады на дажджавога чарвяка. Лавіў на павароце Нёмана. Пад круцялямі было камяністае дно. Адкуль яно ўзялося, цяжка сказаць. Мо размыла вада якую граду, насунутую ў далёкія часы ледніком? Ніхто не ведаў гэтага. Тут можна было насцябаць вядро плотак, выцягнуць добрага акуня. Але каб злавіць магутнага вусача… На памяці рыбакоў такога не здаралася.

Паплавок тады лёгка калыхаўся на млявых хвалях. Высокае сонца залаціла пясок другога берага, пускаючы ў вочы сляпучыя блікі. Ён і не спадзяваўся, што зловіць што-колечы. Любаваўся далёкім зубчатым лесам, зялёнымі купамі алешніку на лузе… Нават і не заўважыў спачатку, як нешта асцярожна павяло гусінае пяро паплаўка. Схамянуўся, як толькі ўбачыў дрыготкі круг, што пайшоў, пэўна, ад моцна ўзятай у рот нажыўкі. Падсек і адразу адчуў, што на кручку валюхнулася нешта вялізнае. Цягаў амаль гадзіну, пакуль не натаміў рыбіну. І тая нарэшце выйшла да паверхні, марудна паплыла за

наструненай лёскай да берага. Мікола спрытна завёў пад яе сачок, выхапіў з вады. Як адурнелая, глынуўшы паветра, затрапяталася яна ў ніцяных вочках. Але позна. Дома паважыў вусача: бязмен паказаў на сем кілаграмаў.

Чамусьці ўспомнілася, як яго сусед Міхась Базылёк расказваў пра рыбацкі паход на аддаленую старыцу, што затулілася кустамі на Княжым лузе. «Першы раз я на гэтае азярцо пайшоў. Калі ўтаймавалася разводдзе, ні разу не заглядваў туды. А тут пацягнула нешта. Прыйшоў, расклаў вуды, сыпнуў для прынады гароху, выразаў два лазовыя вільчыкі на падстаўкі і закінуў. Прасядзеў гадзіну — хоць бы адна клюнула! І другая гадзіна мінула — як павыдыхалі. А тут бачу: маладзіца шчаўе збірае, у мой бок кіруецца. Азірнуўся я і ўбачыў асмалкі ад старога кастравішча. А ля яго — некалькі камянёў. Паклаў я вуды, узяў адзін з іх, сярэдняга памеру, зноў сеў на бачок для рыбы, цікую адным вокам за паплаўкамі, а другім зыркаю на жаночую постаць. Ідзе, бачу, у мой бок. Узяў я камень і на галаву сваю, на шапку, палажыў. Сяджу, чакаю. Праз мінут дзесяць падышла яна, прывіталася. Смелая халера! Але і цікаўная. «А што гэта, дзядзька, у вас на галаве?» — пытае. — «О, гэта вялікая рыбацкая тайна!» — «Можа, вы мне раскажаце, а то і мой дурань — рыбак заядлы». — «Не, кажу, не магу, бо тайну гэтую нікому не выдаў яшчэ». — «Дзядзечка, скажыце! Я вам бы і заплаціла…» Не адстае, бачу. «Адкуль жа ў цябе грошы на лузе?» — пытаю. — «Прыхапіла во. Са шчаўя буду ісці, дык у магазін загляну па дарозе». Зірнуў я на яе: «ладная кабета! У нас у вёсцы такіх мо й няма. «Што мне тваe грошы? У мяне і сваіх хапае. А тайна рыбацкая адна!» — «Дзядзечка, ну раскажыце…» Акінуў я яе вабны стан яшчэ раз і кажу: «Ну, калі дасі раз пацалаваць і абняць, то выдам тайну». Азірнулася яна: ці не ўбачыць хто? Ды хто ж тут убачыць? Да вёскі далёка, кругом азярца — кусты… «Ну што ж, абдыміце…» Кінуў я вуды, абшчаперыў яе моцна, зацалаваў… А потым на рассцеленую ватоўку прылажыў. Як вялізная рыба, трапятала яна пада мной, сама, як у вір, зацягвала. Такой у мяне ніколі не было. А як сталі мы, яна хітра бліснула вачыма: «Расказвайце пра тайну…» Я і расказаў: «Вунь бачыш дзве вуды закінутыя? Тры гадзіны сяджу — і ніводная не клюнула. А во на камень — ужо трэцяя!» — Усміхнулася яна, падняла сваю торбу са шчаўем і, нічога не сказаўшы, пайшла. Нават імя спытаць забыў. А рыбы ў той дзень ніводнай не зловіў».

Ной верыў і не верыў байкам Міхася: у рыбакоў больш маны, чым праўды.

І сёння дзядзька Мікола дачакаўся. Гадзіны праз паўтары нешта ўзяло там, у глыбіні, хлебны шарык, памочаны ў алей, тарганула наструненую лёску. Шырокі лешч вабна бліснуў серабром лускі і за метр ад берага сарваўся з кручка, выратавальна пляснуўся ў ваду ля аеру.

— Цьфу ты, завала! Пачакай! Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, пападзешся ты мне!

Дзядзька Мікола начапіў новы хлебны камячок, закінуў яго на тое ж самае месца. І тут жа нешта клюнула. Не счакаўшы, пакуль паплавок нырне глыбей, падсек і пацягнуў вудзільна. Яно пайшло лёгка, без супраціўлення. На мурог ля дзядзькавых ботаў пляснулася зялёная жаба.

— А каб ты згарэла!

Адчапіў яе, кінуў у ваду. Пасля скруціў вуды, узяў пустое вядзерца і, як пабіты, падаўся да свае хаты.

* * *

Дэкан, як воўк, утаропіўся ў Андрэевы наіўныя вочы, якія не чакалі ад яго нічога добрага, кінуў ліст з вымовай у папку, прыпляскваючы далонёю закрыў яе, быццам паставіў на загадзе пячатку:

— Всё — стипендия накрылась! Сойди с глаз моих…

Андрэй не збіраўся апраўдвацца і прасіць, бо ведаў, што гэта не дапаможа. Падумаеш, вымова! Што за студэнт без яе? Як школьнік без двойкі — не школьнік.

І ўсё ж трэба было неяк жыць, выкручвацца, бо голад — не цётка. «Каб не было дзіркі ў роце, хадзілі б у золаце», — успамінаў Андрэй, едучы на мясакамбінат. Яму пашанцавала: якраз набіралі новую брыгаду грузчыкаў, бо старую разагналі за нейкія правіннасці. У аддзеле кадраў афармілі хвілін за дваццаць: «Хоць худы і запушчаны, але, відаць, жылісты. Адкормім хутка». На складзе выдалі штаны і куртку, керзавыя боты і каску, каб крук, не дай бог, сарваўшыся з падвескі, не аб'юшыў ці не пакалечыў. З Андрэем зажадаў падзарабіць яшчэ адзін безграшовец — Міша Міцкевіч. Ён, зямляк, высокі і ёмкі, таксама быў залічаны ў брыгаду.

Назаўтра пасля лекцый, закінуўшы ў інтэрнат канспекты, яны даехалі тралейбусам да мясакамбіната. Тоўстая вахцёрка, зірнуўшы на часовыя пропускі, па-мацярынску ўсміхнулася:

— Новенькія?

— Першы дзень…

— Не зявайце толькі… — загадкава дало параду «воблака ў штанах».

— Пастараемся…

Восем грузчыкаў лынды не білі. Двое вазілі печань у алюмініевых шырокіх бляшанках у халадзільную камеру — цаглянае скляпенне метраў пад трыццаць. Іншыя двое на цялежках завозілі парэзанае мяса ў другі халадзільнік. Заўтра ранкам машыны павязуць яго па рэстаранах і кафэ, барах і сталовых. Лепшыя выразкі — паляндвіцы, шыйную свіную мякаць, кумпякі — у камерцыйныя, астатняе — па рангах. Чатыры грузчыкі разгружалі рэфрыжэратары, адрывалі замарожаныя тушы, чаплялі крукі між каленных сухажылляў і тралявалі па падвясной лініі важкіх быкоў, кароў і свіней у халадзільныя камеры. Рэдка, калі чарга машын заканчвалася, у пярэрве можна было адрэзаць добры кавалак мяса, у вядро з вадой апусціць вялікі кіпяцільнік і варыць гадзіны паўтары, а пасля нарэзаць у варыва цыбулі, сыпнуць трошкі прыпраў і солі. З хлебам «пазычанае ў дзяржавы», як казалі хлопцы, мяса здавалася асабліва смачным. Куплёнае такім не бывае. Адвар з прыправамі таксама піўся ўзахлёб. Калі горача — для падняцця тонусу і сіл, калі холадна — для сугрэву.

Брыгадзір і яго памочнік ад цяжкай працы ўвільвалі. У іх заўсёды былі адгаворкі: то трэба ісці да начальства, то — у каўбасны цэх, то вырашаць фінансавыя пытанні. Але кожны іх адход і прыход хіба што дабаўлялі ў вочы хмельнай невыразнасці, што давала іх языкам яшчэ большую гаварлівасць.

Праца была цяжкая, але і ежа гатавалася не горшая. Праўда, можна было танна перакусіць у камбінатаўскай сталоўцы, дзе кампот каштаваў даражэй за першае і другое, але хлопцы прызвычаіліся да харчовага самапасу, што было больш выгадна. Ды і рубель як-ніяк зберагаўся.

Аднойчы, калі самая вялікая халадзільная камера была запоўнена тушамі і мясам да адказу, а ад варот ад'ехаў апошні рэфрыжэратар, Міша, скінуўшы зашмальцаваную робу, узяў нож у рукі:

— Я хутка!

Андрэй не бачыў, куды сігануў аднакурснік. Брыгадзір, як звычайна, паўп'яны, узнік нечакана:

— Ну што, запоўнілі?

— Поўныя.

— Закрывайце!

Хлопцы закрылі цяжкія жалезна-гумавыя дзверы. Яны герметычна як прыклеіліся да такіх жа вушакоў. Усярэдзіне халадзільнай камеры, Андрэй ведаў гэта, аўтаматычна адключалася святло.

Мішы не было. Куды ён пабег, ніхто не ведаў. Мінут праз дваццаць Андрэй захваляваўся, падышоў да брыгадзіра:

— Недзе прапаў Міцкевіч! Трэба шукаць…

— Ты што, ахранеў? Сам прыйдзе.

— А, можа, мы яго ў халадзільніку закрылі? Ён жа крыху не дачувае. Скалянее там. І ты будзеш адказваць, — не супакойваўся Андрэй.

Апошняе падзейнічала. Брыгадзір перасмыкнуў губамі:

— Ладна… Адкрывайце…

Масіўныя дзверы, вызваленыя ад тоўстага шпінгалета, паволі пачалі адкрывацца. І раптам з-за іх вылецела воблака пары. Хвілін пяць Міша не мог слова сказаць. Загаварыў толькі пасля глытка спірту, які прынёс аднекуль брыгадзір. Ён расказаў, што хацеў адрэзаць кавалак паляндвіцы, а як закрывалі — не пачуў. Калі пагасла святло, у цемры пачаў бегаць туды і назад па праходзе, каб выратавацца ад дваццаціградуснага холаду. Думаў, закарчанее і лясне, пакуль дабегае да заўтрашняй раніцы. Але сябры — дзякуй богу! — не далі бясслаўна замарозіць яго галоднае цела для будучых вопытаў.

* * *

Лета шыкавала ва ўсёй сваёй прыгажосці. Частыя залевы і цеплыня гналі ў рост нават паўжывыя, замэнчаныя адросткі дрэў і кустоў. Як на дражджах раслі на агародзе кабачкі і гарбузы, пёрыліся цыбуля і часнок, раскашавала морква, разварочвалі зямлю буракі. Якраз была пара найвышэйшай сілы прыроды, калі кожны лісцік, кожная кветачка прагна пілі зямныя і нябесныя сілы, шалелі ад хуткаплыннасці лета.

Ной ведаў гэта. Праз які тыдзень сакавітае зяленіва траў і лістоў пачне губляць яркасць фарбаў, аддаўшы сілу ў прыплод і насенне. Сабраўшы дзясяткі два торбачак, ён злажыў іх у мяшок з прышытымі паскамі-наплечнікамі, прыхапіў свой адточаны багнэт і паціху рушыў у лес. З таго часу, як перастаў ён есці скаромнае, лес, акрамя агарода, стаў яго надзейным кармільцам. Яшчэ ранняй вясной блукаў Ной па высечках і палянах, прыносіў кожны дзень па карзіне смарчкоў і страчкоў, адварваў, разы два мяняючы ваду, і са смакам еў іх, прыпраўленыя цыбуляй і палітыя алеем. Пры Нёмане, сярод ляшчынніку і чаромхі, расла чарамша — мядзведжы часнок. Яна, падобная лістамі на ландыш, амаль месяц падтрымлівала дзядзьку сваёй сакавітасцю, пакуль лісты не лубянелі, а з кораня ўздымаліся парасончыкі белых кветачак. Ной чуў, што чарамша нават была некалі магутным сродкам ад цынгі. Багатая вітамінамі, яна поўніла яго цела бадзёрасцю і сілай, маладой лёгкасцю і прыткасцю. І хоць, кажуць, закон бараніў яе, не дазваляў рваць, Ной апраўдваў сябе тым, што мядзведзяў тут даўно няма, а летам кветкі і лісты марна жухлі і прападалі, таму рваў красавіцка-майскі зялёны ласунак смела, не звяртаючы ўвагі на кепікі суседзяў. Тады ж, вясной, ён шчыпаў маладыя смалістыя адросткі сасонак, перамешваў іх з цукрам і варыў на маленькім агні, пакуль месіва не станавілася цягучым, як мёд, варэннем. Калі ў каго з суседзяў, малых ці дарослых, хрыпела горла, даўка прыціскала ангіна, прыбягалі да яго, прасілі паратунку. І ён не адмаўляў, развязваў настылы глечык, дзяліўся жыццядайным варывам.

І ранняй вясной, калі сыходзіў снег, Ной шыбаваў у бярозавы гай, асцярожна свярдзёлкам пракручваў абалонь белакорых прыгажунь, прывязваў

цэлафанавыя мяшкі да ствалоў, а пасля на веласіпедзе раніцай і вечарам у дваццацілітровым бітоне вазіў дадому бярозавы сок. Працадзіўшы, апускаў яго ў пограб, пераліваў у столітровую бочку. Калі яна напаўнялася, падсмажваў ячмень і сыпаў у будучы напітак, кідаў па ладным кавалку вашчыны. А ў дзве вываркі, што стаялі ў сенцах, таксама наліваў сок, сыпаў па кілаграму цукру, дабаўляў разынкі і скарынкі хлеба. Праз дзён пяць лепшага квасу не было на свеце. Піў яго Ной нагбом і стараўся з тыдзень амаль нічога не есці. «Голад — лепшы лекар, калі ідзе чыстка вантробаў», — любіў ён паўтараць свайму суседу. Да канца лета ў спёку пасля надакучлівай палявой праполкі пограб частаваў яго халодным, мядова-рэзкаватым пітвом.

А зараз ён шыбаваў на паляны, дзе далікатна стрыг багнэтам лілова-ружовы цвет чабору, зразаў жоўтыя букеты святаянніку, рваў лісце суніц, адшчыкваў калючыя парасткі малінніку, перавязваў іх шпагатам. Усё гэта сохла на зацененым гарышчы на фанерных лістах ці падвешанае на кроквах. Асобна на лугавіне, у далечы ад дарог, ён рваў ліпавы цвет і бярозавае лісце. На агародзе зразаў кветкі мацярдушкі і траву-зуброўку, скуб лісты чорных парэчак і пахкай мяты. У канцы лета да іх дабавяцца кветкі верасу. Высушаныя зёлкі будуць вісець у торбах на шастку ля печы. Лепшай заваркі для чаю, бясплатнай і лячэбнай, як сцвярджаў Ной, не было.

Летам, калі дрэвы былі ў самай сіле, рэзаў і вязаў бярозавыя, дубовыя, ліпавыя і ядлоўцавыя венікі, падсушваў мяцёлкі палыну. Усё гэта спатрэбіцца ў лазні. На Нёмане, і не толькі на Сёмуху, стрыг пахкі аер, вязанкамі прыносіў дадому, што-колечы расцілаў на падаконніках, на падлозе пад ложкам, а астатняе сушыў на зіму. Можа таму, што ў хаце пастаянна стаяў пах зёлак, траў і аеру, мухі і камарэча не рваліся ў адчыненыя вокны і дзверы. І ў гэты ж час Ной кірэчыўся на чарнічных палянах, пасля адно вядро ягад сушыў, а другое пускаў на варэнне. Таксама збіраў маліну і ажыну, адварваў з цукрам.

Цяпло і парнасць гналі ў рост россыпы жаўтлявых лісічак, цыбатых падбярозавікаў, а падлескі шчодрыліся на ліпкія масякі. Ной безупынку шлындаў па асінніках і беразняках, прабіваўся праз завалы буралому, абабягаў маладыя сасняки і ельнікі і вяртаўся дахаты з поўным плеценым кошыкам. Кожныя грыбы адварваў паасобку ў двухвядзёрным катле з нержавейкі на вобадзе аўтамабільнага кола. Як некалі маці, ён працэджваў адвар праз друшляк, кіпяціў на пліце новы марынад, заліваў ім грыбы ў літровых слоіках, зверху ліў тры лыжкі алею, закрываў слоікі пластмасавымі крышкамі і ставіў у халодны пограб. Адвар грыбоў піў проста так або варыў на ім боршч.

У канцы чэрвеня вылазілі першыя баравікі-каласавікі. Як святлафоры, у зелені верасу ўспыхвалі жоўта-чырвоныя падасінавікі. І тады яму перадавалася грыбная ліхаманка вяскоўцаў, несла па ўсполлі маладнякоў, выжарынах і гушчарняках, па белым і зялёным мосе, заводзіла ў свае любімыя месцы. Пасля такіх паходаў выпальвалася печ і нанізаныя на пруткі «добрыя» і чырвонагаловікі на падстаўках ехалі на гарачы под, засушваліся і поўнілі палатняныя торбы. Зімою, калі якая з «ухажорак» частавала аладкамі, ён варыў з грыбамі мачанку або суп ці расольнік.

У жніўні другая хваля баравікоў поўніла лес людскімі галасамі сваіх і прыезджых. Ной шнырыў па ельніках і асінніках, збіраў белыя і чорныя грузды, тры дні вымочваў, мяняючы ваду, і саліў у драўляных кадоўбчыках, нават у бойцы, у якой некалі білі масла. Баравікі і асавікі ішлі сюды ж, у засол. Апенькі, таўстухі, лісічкі і махавікі ён адварваў і марынаваў. А позняй восенню лес даваў яшчэ адну дань — зялёнкі і падзялёнкі. Перабраўшы ад лістоў і шыпулля, Ной доўга паласкаў іх у балеі і саліў у драўляных фасках або ў выдзяўбаных ліпавых кадоўбчыках, якія рабілі яны яшчэ з бацькам. Лісты

хрэну і вішняку, кроп і часнок, лаўравы ліст, пацеркі чорнага перцу — усё гэта перакладалася між грыбамі для прысмаку. Засоленае і замарынаванае апускалася ў халодны пограб на драўляныя паддоны.

Вясной, летам і восенню Ной рэзаў бярэмі крапівы, лебяды, рваў падарожнік, рамонак і шалфей, скуб лісты бруснічніку, шчыпаў жоўтыя кветачкі бяссмертніку, жардзінкай збіваў з грэцкага арэха разлапістыя лісты, капаў у баровай нізіне карані калгану… Высушанае, падвешанае на шасткі пры сценах, яно магло спатрэбіцца калі не яму, то каму-небудзь з вяскоўцаў. Адзін дзень ён траціў на кар'ер, капаў гліну і вёдзер пяць яе прывозіў на ровары ў веранду.

Лес карміў і паіў, грэў і лячыў. Лес даваў яму сілу і спакой. Не раз, седзячы на лаўцы з мужыкамі, Ной гаварыў: «Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, каля лесу жыць — галоднаму не быць!»

* * *

Андрэй за паўмесяца нават крыху паправіўся. Мацаў шчокі, падбародак і адчуваў лёгкую праслойку тлушчу, якая схавала яго худзізну. Яно і не дзіўна: зробленыя за дзень грошы давалі волю ў сталовай паставіць на паднос талеркі з больш важкім і каларыйным наедкам, чым дагэтуль. Не прайшлі дарэмна выразаныя паляндвіцы і лепшыя кавалкі кумпякоў, згатаваныя на працы. А яшчэ Андрэй і Міша вывучылі шлях у цэх, дзе можна было пажывіцца сухой каўбаскай. Дзяўчаты ў белых халаціках з радасцю віталі «бедных студэнцікаў», паказвалі ім, як замешваецца і фасуецца каўбаса, а на развітанне дарылі кожнаму «па палцы пахучай і смачнай». У канцы змены яны выходзілі да канца агароджы, што высілася перад вуліцай, у цемнаце клалі пару палак дробназярністай «Слуцкай» ці «Майкопскай» на цагляны край, а пасля змены, пераадзеўшыся, выходзілі праз прахадную і на вуліцы цішком забіралі «пачастунак для пакойнікаў», тых, хто жыў з імі ў адным пакоі. Хлопцы ў інтэрнаце спаць доўга не лажыліся, чакалі сваіх кармільцаў. Каўбаса мігам знікала ў паўгалодных жыватах, выклікаючы цікавыя доўгія пасляпаўночныя ўспаміны.

Андрэй уцягнуўся ў працу, падужэў. Цяпер не здаваліся цяжкімі прымарожаныя тушы бычкоў-трацячкоў, якія выцягвалі яны з рэфрыжэратараў. Маладзецкая сіла спраўлялася з любой задачай, якую ставілі гультаяваты брыгадзір і яго памочнік.

І ўсё было б добра, каб не ўздумалі два іхнія начальнікі на добрым падпітку звалакчы свіную тушу. Ці сабе, ці каму паабяцалі — цяжка сказаць. Але вечарам укруцілі яе ў посцілку і паперлі да сцяны. Пільны ахоўнік не даў перакінуць цэнтнер свіных далікатэсаў праз верх, выклікаў міліцыю. Чым закончыўся свіны раман, Андрэй з Мішам не ведалі, але назаўтра вышэйшае начальства аб'явіла аб звальненні ўсёй брыгады грузчыкаў. Толькі за што? За тое, што бачылі і не спынілі? Але ж хто ведаў, куды яны валакуць тую тушу… Можа, таму ж начальству? І ўсё ж крыўдна было за тое, што грашовы і харчовы прыбытак так нечакана перасекся.

Зноў трэба было думаць, дзе зарабіць рубель, каб хоць трохі задаволіць свае ненажэрныя вантробы. І вось аднойчы…

Яшчэ тады, калі Андрэй вучыўся ў адзінаццатым класе, у раённым цэнтры праходзіла зімовая спартакіяда па лыжах. Андрэй, высокі, статны, з першым дарослым разрадам, рвануў са старту ў агульным натоўпе. Лыжы, палкі, шапачкі, нумары на спінах, гетры на нагах мільгалі перад вачыма,

пакуль ён выбіўся на вольную лыжню. Толькі наперадзе спрытна бег Іван Дэвойна, цягавіты хлопец, які займаўся на пятым курсе ўніверсітэта народнай гаспадаркі і ўсё яшчэ выступаў за сваю, як казаў ён, раённую сталіцу. Бег ён размашыста, тэхнічна, не выкладваючыся дачасна. У яго рухах адчувалася ўпэўненасць у сваіх сілах. Андрэй лёгка слізгаў следам, не мяняючы тэмп. Так яны гналі лыжы кіламетраў сем. І толькі тады Іван рвануў. «Думае, што не вытрымаю», — прыбавіў ходу Андрэй. Ён ведаў, як цяжка пачуваецца лідар, калі пасля зацяжнога рыўка даганяла не адстаў, настойліва малоціць палкамі, дыхае амаль у патыліцу. За кіламетр да фінішу пачынаўся цягун, гарысты пад'ём, які забіраў апошнія сілы. Андрэй гэта ведаў, не першы раз шыбуючы па знаёмай трасе. «А за сто метраў, да фінішнай стужкі — роўнядзь. Калі выцягну пад гару ўпоруч — выйграю…» Іван быццам адчуваў, што маладзейшы лыжнік не адстае, а з кожным дзясяткам метраў прыбліжаецца. Ён яшчэ мацней упіраўся палкамі ў схіл, часціў сляды лыжнай «ёлачкі», але, адчуваў гэта, сілы былі на зыходзе. Малады даставаў яго, на грэбень гары выскачылі адначасова. Сто метраў яны павінны прабегчы лыжа ў лыжу. У каго больш сіл? Хто першы перасягне чырвоную стужку? Сантыметр за сантыметрам пачаў выйграваць Андрэй. Ён ужо бачыў свайго фізрука і сяброў. Раптам метраў за дзесяць да фінішу левая палка зачапілася за едлаўчыну, тузанула ўбок, выбіла з рытму. Ледзь утрымаўшы раўнавагу, зноў ірвануўся са зляжалага снегу на тупкую лыжню. Але гэтага хапіла Івану, каб дагнаць маладога і на нейкі міг апярэдзіць яго на фінішы. Сарваўшы стужку, ён пластом упаў на снег, ушчэнт абяссілены. Андрэй сплюнуў са злосцю, але імгненне нельга было вярнуць.

Калі трэнеры паднялі Івана, ён пад'ехаў да Андрэя, па-сяброўску абняў:

— Віншую… Не перажывай, у цябе ўсё яшчэ наперадзе… А я — завязаў…

Пра ўсё гэта ўспомнілася Андрэю, калі на праспекце аднойчы ён выпадкова сустрэў Івана Дэвойну. Тады каржакаваты, а цяпер узмужнелы і размажнелы, што яўна падкрэслівала яго фігура, Іван прыязна абняў Андрэя:

— О, зямляча! Бачу-бачу, спорт не закінуў. Худы, стройны! Але чаго такі смутны?

— Ай, лепш і не расказваць…

— А ты раскажы, падзяліся. Можа, я чым падсаблю.

Андрэй зірнуў у светлыя вочы Івана і рашыў расказаць:

— Стыпендыя накрылася. З падзаробткаў, з мясакамбіната, брыгаду вытурылі. А жыць трэба, есці трэба… Тут не да спорту.

— Слухай, давай я цябе залічу на платныя кулінарныя курсы. Трыццаць дзевак і — ты!

— Платныя не пойдуць. Я — на мялі.

— Гэта для іх платныя, а ты — збоку прыпёку: бясплатна. Па маім, дырэктара трэста сталовых, дазволе.

Андрэй па-новаму зірнуў на Івана: і праўда, падобны на дырэктара.

— Я нават і не ведаю… — збянтэжыўся Андрэй.

— Скажы, што ведаеш, там і паабедаеш. І не толькі перакусіш, але і з сабою сёе-тое возьмеш.

— Мо і праўда… Толькі…

— Ніякіх «толькі»! Заўтра ў шаснаццаць гадзін прыходзь у рэстаран «Папараць-кветка». Скажаш, што ад Івана Іванавіча, на курсы. Там пакажуць.

— Што ж, дзякуй земляку, што ад голаду збавіў!

Іван Іванавіч хітра зірнуў на Андрэя, усміхнуўся:

— Гэта табе за тое, першае месца…

* * *

Лоўчыя дзве апошнія сядміцы не мелі ўпынку. Днём і ноччу, пяшком і конна асочвалі яны выбраны край пушчы, падганяючы ў гушчар казуль і ласёў. Недзе тут, у самай нетры, развальваючы лычамі мурашнікі, мясілі рыхлы перадвясновы снег тры старыя ўчарнелыя секачы, тры замацярэлыя дзічыхі, каля дзясятка даволі ладных шэрых падсвінакаў, дзясяткі тры двухгадовых, яшчэ зусім маладых, на баках якіх не сышлі яшчэ палосы, парасят. Сагнаныя ўпартай воляй лоўчых, яны клычылі насыпанае пад магутнымі дубамі аўсянае вотруб'е, перамешанае са снегам, не забываючы пільна ўглядацца ў блізкія яловыя падлескі, ловячы прадаўгаватымі храпамі свежакі паветра. Час ад часу пад сапрэлым лісцем трапляліся запозненыя восеньскія жалуды, і тады лепшага прысмаку ім, пушчанскім бадзягам, і жадаць было нельга. Заплюшчаныя на міг ад слодычы вочы тут жа сцярожка азіралі наваколле, ведаючы, што за гэтай здрадлівай цішынёй і спакоем заўсёды тоіцца небяспека.

Як гайня шэрых прывідаў, затоена кралася за вепрамі і чакала свайго часу зграя ваўкоў. Два дні назад яна бязлітасна разарвала абяссіленага старога зубра, які далёка адстаў ад статку і загруз у распадку ажыўшага ручая, не маючы сіл выцягнуць ногі з правалаў гразі. Таму залёгшы сярод лаўжоў, сытая і заспакоеная, яна не спяшалася, стрымлівала свой гон, ведаючы, што дзікі нікуды не дзенуцца, доўга будуць мясіць капытамі ўляжалы снег.

Князь Радзівіл даўно аб'явіў дзень вялікага палявання, таму так стараліся лоўчыя, каб не трапіць пасля ў няміласць, не страціць свой нялёгкі кавалак хлеба. За дні тры да палявання з пяці бліжэйшых вёсак былі апавешчаны мужыкі, якія ішлі загоншчыкамі. Яны, не раз бывалыя ў княжых аблогах, рыхтавалі трашчоткі і бразгаўкі, даставалі з падстрэшшаў драўляныя вілырагаціны, мянялі на атопках сырамятныя канчукі падвязак. Калі пашанцуе і загон будзе ўдалым, князь на падпітку можа расшчодрыцца, адарыць іх чым-небудзь.

Ціха і спакойна было да дня палявання.

Ваўкі адчулі небяспеку першымі. Не звяртаючы ўвагі на дзікоў, яны рванулі праз дуброву ў дальні падлесак, але там, адрэзаўшы ад гушчару і глухамані, іх сустрэў людскі ланцуг, шумны і пагрозлівы. Раз'ятраныя страхам, яны развярнуліся і паімчаліся ў другі бок дубровы. Так яны не пласталіся ў пагоні за аленем ці ласём. Важак, грудасты, разлапісты, які аднойчы трапіў у аблогу і ледзь пераскочыў жалезныя вілы, ведаў, што прарваць ланцуг лягчэй спачатку, пакуль загоншчыкі не сышліся ў шчыльную загарадку. Зграя, злосна ашчэрыўшыся, імчала напрамкі, на няроўны строй мужыкоў. Страх надаваў ёй большай сілы, чым пагоня за ахвярай. І абложнікі расступіліся, без супраціву пусцілі ваўкоў у прарыў. Ды і нашто было трымаць у загоне тых, хто мог разбіць, разладзіць паляванне? Не на іх рыхтавалася вялікая княжая бойня.

Дзікі несліся напрасткі, туды, дзе быў вольны прастор. Пушча закончылася, і яны перлі праз вялікае гала поля, капыцячы снег, гразь і зялёную рунь. Перад імі порстка праставалі з паўдзясятка казуль. Збоку валюхаста галапавалі два ласі з ласіхай, трывожна азіраючыся па баках. Ззаду рыўкамі бег тур, чорны, з белымі падпалінамі ўздоўж спіны, з вострымі кверху рагамі. Ён пакінуў трыснягі свайго балота, выйшаў на край поля пашчыпаць сакавітую азіміну і трапіў у шумную аблогу. На яго вяку памяць захавала неадчэпны брэх выжлаў, енк прабітых рагамі ваўкоў, удары дзідаў па хрыбце і шалёныя ўцёкі на выратавальныя астраўкі амаль непраходнага балота. А сёння начная

неасцярожнасць, перадвясновая прага жыцця завялі яго ў гэтае разгалёканае атачэнне. І ён, спуджаны знянацку, бег туды, куды імчалі суседзі яго пушчанскіх забалаткаў, раз'ятраныя вепры.

За вёрст пяць на крутым заломе Нёмана, які заканчваўся высокім абрывам берага, за выгарадкай вострых частаколін гарцаваў на кані перад гасцямі і світай князь Радзівіл, чакаючы пачатку палявання. Сюды, у клешчы, загнутыя ракой, у смяротную пастку гналі мужыкі звар'яцелых звяроў.

Круг загоншчыкаў няўмольна звужаўся. Выжлы, напінаючы повязь ашыйных павадкоў, да хрыпаты заліваліся брэхам. Моцны шум трашчотак і бразгавак блізіўся.

Першымі на ўзлобак пасткі выскачылі казулі і, убачыўшы ў гэтым вэрхале невялікі прарыў, рынуліся наперад. Рынуліся праз нецярплівую провузь пасткі і тут жа палі ад стрэл лукаў і арбалетаў.

Акрываўлены снег і трапяткія целы раненых казуль не спынілі дзікоў. Яны, гнаныя страхам, прагай выжывання і волі, не прыпынілі свой цяжкі туп ні на міг, пранесліся ля распластаных ахвяр і, ламаючы цяжарам сваіх цел храбусткі насціл, паляцелі ў лоўчыя ямы.

Князь, важка трымаючы кап'ё наперавес, зірнуў на выспу і выгукнуў:

— Лошу выпусціць, тур — мой!

Збройнікі тут жа падхапілі:

— Лошу выпусціць, тур — князю!

Ласіха, ацяжараная будучым ласянём, стомленая пагонямі, бегла наперадзе. Двума скачкамі яна адолела праломы ям, узбегла на абрыў берага і, убачыўшы крыгі разводдзя, хацела павярнуць назад, але левы частакол раптам адступіў, аднесены дужымі рукамі, утварыўшы вольны пралаз, і яна пайшла ў яго, амаль не баючыся, пасля імкліва рванула, знікла ў кустах лазняку.

За ёй рынуліся і два ласі, але дабегчы да адсунутага частакола не паспелі. У мокрыя бакі магутных цел паляцелі дзіды і коп'і, прабіваючы вантробы і шыі, яршыста засядаючы ў жылістых кумпяках і лапатках…

Князь чакаў тура. Яго час яшчэ не прыйшоў. А тур раптам спыніўся, як укапаны, павёў вострымі рагамі, скасавурыўся на князя, пасля павярнуўся бокам. І князь не выцерпеў, махнуў рукой, даючы знак адсунуць прасла частаколу. Даўно ён не бачыў такога быка, як вытачанага з паленага дуба, дужага і прыгожага. Мужыкі тут жа адкінулі загарадку, і конь, прышпораны княжай нагой, выскачыў на тупкі цалік. Кап'ё, пушчанае няўпэўненай рукой, трапіла туру ў сцягно. Развярнуўшыся, ён зароў і кінуўся на каня. Вострыя, як вілы, рогі прабілі пахвіну гнядога, завалілі на дол. Князь паспеў саскочыць і ўстаяць на нагах. Але наступны ўдар у яго мог быць смяротным. І тут з натоўпу, кінуўшы загарадку, выскачыў здаравенны мужык у аўчынным вываратку. Хапіўшы тура за рогі, ён прыгнуў галаву яго да акрываўленага снегу. Збройнік падаў князю другое кап'ё, і Радзівіл, схамянуўшыся, дзвюма рукамі ўсадзіў вастрыё пад лапатку, туды, дзе было сэрца. Тур хіснуўся і сваліўся на бок. Збройнік уклаў у княжую руку шаблю…

— Не трэба, і так сканае… — павярнуўся да мужыка-асілка і, прыжмурыўшы вока, спытаў. — Хто, адкуль?

— Піліп з Мікуціч…

— Староста, воз пшаніцы яму! А загоншчыкам — па тры пуды.

— Зробім, княжа, — сагнуўся ў паклоне староста.

Лоўчыя і мужыкі дабівалі ў ямах дзікоў, грузілі на сані ласіныя тушы. А князь з гасцямі і світай узяў кірунак на бярозавы гай, дзе яго чакалі кастры і сталы з пачастункам.

* * *

— Дзядзька Мікола, даю галаву на адсячэнне, але крыўду не трымай, — брыгадзір ледзь праціснуўся праз вузкія весніцы на дрывотнік. Таўсматы, невысокі, з праплешынай на галаве, ён вялікай насоўкай раз-пораз выціраў буйныя кроплі поту на рабаціністым твары.

Ной паклаў сякеру на калодку, ботам адсунуў горку корчыкаў для распалу дроў, з усмешкай зірнуў на брыгадзіра-бурвэлка:

— Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, я ніколі крыўду не трымаю. Крыўда на чужога, так як і на свайго, душу раз'ядае і рушыць яе. А на цябе, Іван… Шкада мне жонку тваю і дзяцей. Паглядзі на сябе ў люстэрка. Не зайздрошчу я табе… А яшчэ ж і пяці дзясяткаў няма?

— Няма… Праз два гады стукне, — Іван цяжка прысеў на невялікі ўслончык, прыстаўлены да пограба. — А пра зайздрасць… Пудлуеце вы трохі, дзядзька Мікола. Не веру я. Хто ж з вяскоўцаў не тыкае пальцам у мой бок: «Дзве каровы, цяля, пяць свіней…» А гарод, ды яшчэ ў полі соткі? І сабе, і на продаж хапае…

— Не, браток, не зайздрошчу я. Шкадую я вас моцна, па-чалавечы. Ты, Іван, калі-небудзь чуў пра закон гарбуза?

— Не. У школе не праходзілі… — брыгадзір здзіўлена ўтаропіўся на дзядзьку Міколу.

— І не маглі праходзіць. Гэта мой закон. Я яго прыдумаў. І ты помні яго: гарбуз расце, а кончык сохне.

— А я тут прычым?

— А ты, Іване, на жывот свой глянь. Падобны ён на вялізны гарбуз?

— Гэта не гарбуз, дзядзька Мікола, а курган славы, — усміхнуўся брыгадзір, задаволены пачутым недзе параўнаннем, пагладжваючы паласатую футболку на жываце.

— Праўда-праўда, курган славы. А пад ім — паўшы воін!

— Ну-ну, — аж прыўзняўся Іван з услончыка, — не скажыце…

— Ной зняў з рук спяцоўкі, кінуў іх на карчы:

— Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, я цябе і тваю жонку ляйчынай бы добра адхвастаў. Жонку за тое, што корміць цябе нанач, набівае твой трыбух. А ты ж яшчэ кожны дзень на падпітку добрым. Нап'ешся, наясіся пад завязку — які ж з цябе мужчына і кавалер? Мяшок з дзярмом. А цябе адлупцаваў бы за тое, што меры не знаеш: ні ў пітве, ні ў ядзе.

— Яно, мажа, і праўда, — брыгадзір цяжка ўздыхнуў і ў каторы раз выцер хусцінкай лоб і шчокі.

— Знаеш, Іван, а ты адпусці на ноч да мяне сваю жонку. От тады і праверым, ці праўда ўсё, што я гавару, — хітра бліснуў вачыма Ной.

— Барані божа! Каб я ды сваю жонку да некага адпусціў? Трасцу! — брыгадзір, як раз'ятраны бык, забегаў сюды-туды па трэсках, упёрся ў сцяну паграбка. — Я ў два разы маладзейшы за цябе, дзядзька Мікола. А значыць, у два разы дужэйшы.

— Як сказаць… Сіла не толькі целам вымяраецца, але і духам. А твая ўся моц у чэрава пайшла. Паспрабуй, панасі такі гарбуз кожны дзень. Большы жывот, чым у цяжарнай маладзіцы. Дык яна дзевяць месяцаў дзіця носіць, а ты свой курган гадоў дзесяць калышаш. Уся сіла твая рупіцца, каб утрымаць яго вертыкальна, не паваліцца. Мне яшчэ дзед гаварыў: еш упаўсыта, не пі дап'яна, пражывеш век дапаўна. Праўду казаў!

Брыгадзір трохі ачах, супакоіўся, зноў сеў на ўслончык:

— Відаць, праўда…

— Ты думаеш, чаму людзі прыдумалі малы і вялікі пост? Пасля дакопак, малацьбы і загатоўкі дроў цяжкай работы не надаралася. Не трэба было, як летам, упірацца, выжыльвацца, высільвацца. А ежа была сытая: саланіна, мачанка з каўбасамі, бабка са скваркамі… От тады, убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, чалавек паўнеў і, як мядзведзь, тлушчам заплываў. Царква і касцёл для вернікаў і завялі пасты. Нават брацць шлюб забаранялася ў гэты час.

— Але ж, дзядзька Мікола, згадзіся, што і сіла не тая, калі скрыль сала не з’ясі, — не здаваўся брыгадзір, так ці інакш апраўдваючы сваё тлустае цела.

— Гэта толькі здаецца. Ды і ці ж мне табе даказваць? Сам быццам не ведаеш, — Ной узяў у руку сякеру, прысеў на калодку. — Але ж не за гэтым ты ка мне прыйшоў. Бачу я, точыць цябе нейкая зараза, пот градам коціцца, задышка грудзі спірае…

— О-о, дзядзька Мікола! Як у ваду глядзіш. Мусіць, захварэў я цяжка. Усё цела баліць. Сэрца пачаў адчуваць. Пад раніцу як ёкне, чуць прыпыніцца, я з перапуду з пасцелі ўскокваю, жонку палохаю. І якая зараза ў мяне ўбілася? Пот цурком цячэ, задышка на поўныя грудзі дыхаць не дае… І што на мяне напала?

— Вось тое і напала, пра што я гаварыў.

— Дзядзька Мікола, памажыце… Дайце якога адвару, каб лягчэй стала. Я і каня вам дам, і чым хочаце аддзячу. Не трымайце крыўду…

— Так і быць, Іван, памагу я табе, калі будзеш слухаць мяне. Заўтра ў гадзіны чатыры раніцы прыходзь на ўзлесак Канцывалок, дзе жыта расце. Чакай мяне ля дарогі. Трыко якое спартыўнае адзень. А я не спазнюся, — Ной адзеў на рукі спяцоўкі, устаў, паказваючы, што гаворка закончана, а наперадзе яшчэ шмат клопатаў, — вылечу цябе.

Ранкам Ной з трохлітровым слоікам зёлкавага адвару стаяў на рагу ўзлеску, ля ўтравянелай дарогі, за якой нерухома каласілася поле высокага жыта. Сонца вось-вось павінна было выкаціцца з-за бярозавага гаю, які пачынаўся за кар’ерамі калгаснай цагельні. Ветрык яшчэ не прачнуўся. А ў небе над полем ужо заліваліся раннія жаваранкі, пільнуючы першыя промні свяціла.

Брыгадзір прытупаў з-за ўзлеску і, убачыўшы Ноя, з палёгкай уздыхнуў, выцер насоўкай лоб:

— А я грэшнай думкай засумняваўся ўчора. Пакеплівае, мусіць, разыгрывае мяне дзядзька.

— Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, што гаварыў я ўсё на поўным сур’ёзе. Ды што цяпер выясняць? Раздзявайся! Дагала…

Іван не запярэчыў, хуценька скінуў трыко, застаўся ў кветчатых доўгіх трусах.

— Іх таксама скінь…

Брыгадзір скінуў трусы, зябка сцепануўся, скурчыўся перад жытам, як плывец перад халодным морам.

— Адступіш ад краю жыта крокі два-тры і бяжы аж да канца поля. Назад па сваіх слядах не вяртайся. Адступі на метры два ўглыб. Бяжы, каб добра выпацеў. Сорам свой рукамі не закрывай, не адарвецца. Хай каласы сцябаюць па голым целе.

Адвыкшы ад бегу, Іван глянуў на дальні лясок, да якога трэба было яму даімчаць, выпраміўся і рынуўся ў каласістае жыта. А Ной хітра глядзеў услед і бачыў, як цела брыгадзіра, відаць, зачапіўшыся за нешта, знікала некалькі разоў у жыце, потым зноў вынырвала, бегла далей, пакідаючы за сабой ледзь заўважны прыхін густых каліваў. «Жыту не пашкодзіць, а сабе дапаможа», — падумаў Ной, ставячы слоік на траву.

Праз хвілін дваццаць цела брыгадзіра, бэрсаючы і прымінаючы каласы другой сцежкі, выплыла недалёка ад Ноя і, не маючы сіл ад знямогі, прайшло

апошнія метраў дваццаць пехам. Ной сарваў пластмасавую крышку са слоіка, падаў Івану. Як засмяглы конь пасля ворыва, брыгадзір прыпаў да пітва і за глыткоў пяць апалавініў слоік. Нічога не кажучы, нахіліўся да зямлі, падняў трыко, выцер ім пот на лысіне і твары. Рукі і калені былі ў гразі. Грудзі, жывот і сцёгны пакрыў жаўтлява-карычневы пылок з каласоў.

— Адзявайся. Дома гразь вытры, а пылок з цела не змывай да заўтра.

— Думаў кончуся я ў гэтым жыце. Восенню сеяў тут, а летам — хто б сказаў? — бегчы па ім буду… — Іван прагна дапіў другую палову зёлкавага адвару. — Як пабег назад, трохі палягчала, адкаціў цяжар ад грудзіны…

— Цяжкі ты, Іване. Не ў меру яда — хвароба і бяда.

— Я і сам адчуваю, што цяжкі, — згадзіўся брыгадзір, нацягваючы трыко.

— Ты з мяне бяры прыклад: ем больш рыбкі я, таму ногі прыткія. А ты ж адвык хадзіць і бегаць. Усё на машыне, на матацыкле.

— На брыгаду паспець трэба, заглянуць на ферму, на поле… — дзе ж усюды ўправішся?

— Ты, Іване, дні тры пагаладай. Голад — лепшы кухар. Папі ў гэты час бярозавага кваску. Калі няма ў цябе, прыходзь да мне. Я падзялюся. А за гэтымі днямі не давай кішцы волю, бо праясі шчасце і долю. Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю: ад лёгкай ежы — сіла, ад тлустай — магіла.

— Дзякуй, дзядзька Мікола, квас бярозавы застаўся яшчэ. А вам я аддзячу чым-небудзь.

— Мне падзякі тваёй не трэба. Толькі словы мае помні. Добра помні! І пра закон гарбуза не забывай, а то жонка кіне…

— Буду помніць, дзядзька Мікола, да канца жыцця буду помніць.

Сонца выкацілася над ляском, падпаліла малінавым жарам блізкую аблачыну. Яшчэ больш залівіста заспявалі жаваранкі, вітаючы абуджэнне дня.

* * *

Маленькая ўтульная банкетная зала пры рэстаране, аздобленая прыгожымі выразанцамі з дрэва, нагадвала Андрэю адну з невялікіх забягалавак піўнога рэстарана ў Таліне, дзе аднойчы ён пабываў у турпаездцы. «Не хапае толькі піўной бочкі, падвешанай на жалезныя ланцугі над дзвярыма». Шырокі дубовы стол, здаецца, угнуўся пад натугай шэсцьдзесят двух локцяў, якія застылі ў чаканні шэф-повара. «Трыццаць дзевак, адзін я — наша дружная сям'я», — толькі падумаў Андрэй, як дзверы расчыніліся і ні то ўвайшла, ні то ўплыла, ні то ўкацілася кіраўніца курсаў, галоўны шэф-повар трэста сталовых.

— Дзень добры, яснавяльможныя спадарыні, дзень добры, шаноўны і выкшталцоны пан Андрэй!

Чырвоны румянец заліў твар хлопца, што засведчыла пра самамасаж шчок і чыстае сумленне: «Відаць, Іван Іванавіч расказаў пра мяне…»

— Завуць мяне Ніна Іванаўна. Можна яшчэ прасцей — Іванаўна. Я думаю, сюды прыйшлі ўсе, хто заплаціў за курсы. Адразу скажу: не хвалюйцеся, вашы грошы не прападуць дарэмна. Я навучу вас многаму, што сама ўмею. Праз месяц вы пазнаеце і адкрыеце дзівосныя сакрэты кулінарыі, а вашы мужы праз месяц глянуць на вас зусім іншымі вачыма. Як помніце, любоў мужчыны ляжыць не толькі праз сэрца, але і праз яго, — Ніна Іванаўна патыркала пальцам у свой магутны прэс, — ненаедны страўнік. Бо заўсёды жывот — злодзей: старога дабра не помніць. Ды й людзі кажуць: як зварыш, так і з'ясі. Ці ж мала ў нас гасцей бывае? А колькі свят розных! Адзін з'еш хоць вала — адна хвала, а як станем з людзьмі есць — будзем мець чэсць.

Чырвань памалу адхлынула ад шчок, і Андрэй, трохі асмялеўшы, падняў вочы на кіраўніцу курсаў. Гладка зачасаныя валасы заканчваліся на патыліцы тугім хвосцікам. Дзве ямачкі на шчоках пры ўсмешцы прыдавалі ёй асаблівую вабнасць. Вочы, мудрыя і добрыя, прамяніліся мацярынскай любоўю і спагадай. «Выдатныя кулінары злымі не бываюць». Цяжка было сказаць на першы прыкід, ці вышэйшая Ніна Іванаўна, ці шырэйшая. Здавалася, вышыня яе раўнялася шырыні. Пальцы — кароткія, трапяткія і ўвішныя. «Такім я і ўяўляў сапраўднага шэф-повара».

— І яшчэ два правілы запомніце: тое слаба хлябаецца, што разаграваецца. Таму трэба заўсёды разлічваць, на колькі чалавек варыцца страва. І помніце: ежа павінна гатавацца сёння на сёння, за рэдкім выключэннем на два дні. І другое: бывае, у народзе кажуць, што ўмела гатаваць, а не ўмела падаваць. Дык і гэтаму за час курсаў я навучу вас.

— Ніна Іванаўна, мяне завуць Ала, — устала з-за стала прыгожая танклявая дзяўчына з чорнай закручастай на канцах валасоў стрыжкай. — А булкі, тарты, напіткі будзем праходзіць?

Ніна Іванаўна супакойліва махнула рукой:

— Садзіся, садзіся, Алёнка. Будзе час — будзе і квас, не ўсё зараз.

Андрэй глядзеў на Ніну Іванаўну і яму ўяўлялася вялікая кулінарная энцыклапедыя з каляровымі здымкамі розных страў, з мудрымі парадамі, якія вывяраліся вякамі і лепшымі кулінарамі, з дасціпнымі прыказкамі і прымаўкамі пра ежу. Несумненна, Ніна Іванаўна было жывой энцыклапедыяй, недарэмна ж менавіта яе прызначылі кіраўніцай курсаў.

— А зараз я запрашаю ўсіх у цэх, дзе давядзецца нам праводзіць асноўны час, — Ніна Іванаўна адкрыла бакавыя дзверы і праз невялікі калідорчык правяла ўсіх у вялікую светлую кухню.

Ля адной сцяны радком стаялі газавыя і электрычныя пліты, духавыя і смажачныя шафы, а над імі зеўралі раструбы квадратных выцяжак. Другая сцяна больш чым напалову была застаўлена стэлажом, на паліцах якога знізу стаялі выдраеныя да бляску, розныя па велічыні катлы і каструлі, тазы і міскі, серабрыстыя хуткаваркі. Вышэй мясціліся чыгунныя патэльні і самыя сучасныя «тэфалеўскія» скавароды. Над імі вабілі вочы рознакаляровыя міксеры, электрычныя мясарубкі, сокавыціскалкі. Збоку стэлажа на доўгай драўлянай дошцы віселі пластмасавыя і драцяныя друшлякі, большыя і меншыя сітечкі, малаточкі для адбівання мяса, шумоўкі і чарпакі. За імі, як па ранжыры, выстраіліся нажы, простыя і фігурныя, віселі шырокія, як палашы з адсечанымі канцамі, секачы. Дубовыя дошкі-кружкі, лапатачкі-мяшалкі, узбівалкі, двухпалыя відэльцы розных памераў заканчвалі гэты рад. Ля акон стаялі прадаўгаватыя сталы для апрацоўкі мяса і іншых прадуктаў, а ля раздатачнай лініі туліліся марміты для падагрэву першых і другіх страў. Тры пузатыя электракатлы занялі самае важнае месца пасярэдзіне. На паліцах і падвесках было шмат і такога посуду, featuring рознага хітрага кухоннага прычындалля, якога Андрэй, відаць, як і іншыя, ніколі не бачыў.

— Вось гэта — месца нашай працы і вучобы. Тэорыя — у зальчыку. Наступны раз не забудзьце агульныя сшыткі і ручкі, — Ніна Іванаўна гаспадарскім позіркам акінула збянтэжаных дзяўчат і ўсміхнулася. — А тое, што прыгатуем, у банкетнай зале і пакаштуем.

* * *

Хто не заглядаў у Ноеў агарод, той не ведае сапраўднага багацця, якое родзіць невялікі лапік зямлі, мо сотак з пятнаццаць, не больш. А калі б хто

не ведаў гаспадара каўчэга, то, глянуўшы на грады, без сумніву адзначыў бы, што рупілася тут увішная і дбайная кабета.

Яшчэ позняй восенню Ной ашчаджаў са сваёй пенсіі дзясятку ці пятнаццатку вясковым выпівохам, каб завезлі на яго грады прычэп гною. І не свінога, а іменна каровінага, дробна разбіўшы яго. Сёе-тое кінуўшы пад яблыні, грушы і кусты, ён пераворваў знямоглую зямлю, забараноўваў яе: «Няхай вылежваецца, брыняе дажджавой і талай вадой, набіраецца моцы да вясны». Праўда, дзве вялікія грады перад самымі замаразкамі ён займаў пад моркву і часнок. Трымаючы ў галаве месцы мінулага ўраджаю, Ной помніў, як казаў яго знаёмы аграном, пра севазварот і таму мяняў грады, як карты ў калодзе. Моркву сеяў там, дзе пёрылася летам цыбуля. Беручы закарузлымі пальцамі шчопаць маленькага насення, ён сыпаў яго ў неглыбокую разорку, нізка схіліўшыся над зямлёй, сачыў, каб драбінкі кладзіся роўна, «не густа і не пуста». Тады і прарываць іх лягчэй. Шанцавала і пяцістам зубкам часнаку, якія з дзядзькавых пальцаў ныралі ў пухкую зямлю, каб вясною зялёнымі стрэлачкамі выскачыць на свет. У кутку агарода, пры садзе, тулілася града са шматгадовай цыбуляй-лізухай, падобнай на доўгія вузкія языкі. Яны першыя выпстрыквалі пасля маразоў, уздымалі сочнае зяленіва.

Зямлю вясною ён не пераворваў, лічыў, што і пустазелле перагніе, і гной наверх не адваліцца плугам. І ў канцы красавіка, калі зямля трохі праграваласся, ён садзіў купленую сяўковую цыбулю і сваю, яшчэ нязводную ад бацькоў, цыбулю-рэпку. Вялікую доўгую граду адводзіў пад чырвоныя буракі, а ля іх паабапал сеяў гарох і боб. Пару градаў Ной засаджваў фасоляй — музыкай жывата, як казаў сусед-шафёр. Дзе-небудзь з краю грады прыкопваў тры-чатыры старыя вялікія буракі і столькі ж моркваў для будучага насення.

Трэцяя частка пляцу ішла пад гарбузы і кабачкі. Цэлую сотку зямлі Ной пакідаў для агуркоў і засаджваў яе пасля свайго свята — вясновага Міколы, калі глеба добра праграваласся. Агуркі былі розныя: «Лібэла», «Крынічка», «Нежынскія», прысланыя з Украіны. А садзіў ён іх густа, каб яны спляліся, хаваючы лістамі цянёк і трымаючы вільгаць нават у засуху.

Бульбы Ной садзіў не вельмі многа: радкоў дзесяць—дванаццаць. Летам пару радкоў ён па корчыку выкопваў для паўсядзённай ежы, а астатняе восенню клалася ў загарадку пограба.

Як зялёную падкормку сабе, сеяў разы тры кроп — на засолку і развод новага. А яшчэ на прысаддзі сеяў граду пятрушкі. У пачатку лета зямля прымала ў свае разоркі насенне рэпы.

Як і спрадвеку, найбольш часу забірала змаганне з зеллем. Макрыца, пырнік, плашчуга і лебяда нязводна ішлі ў рост, зяленячы нават разоры. І Ной не запускаў грады, нястомна матычыў і драпашыў зямлю, падсякаў з каранямі зелле і выносіў яго на папар. З усім ён спраўляўся лёгка, быццам гуляючы. Толькі палоць моркву прыходзіла якая-небудзь з кабет.

Бульбу, калі з глебы ледзь-ледзь паказваліся першыя расткі, ён баранаваў уручную, адзін, прывязаўшы ляйчыну за рог бараны, лёгкай і не асабліва густой. Калі ж бульба пачынала кусціцца, выганяючы калівы на пядзі дзве ад зямлі, ён таксама браў самаробны плужок-акучнік і цягнуў яго па міжраддзі адзін, асцярожна ступаючы босымі нагамі на цёплую зямлю, памалу ідучы спінай наперад. Гэтую працэдуру ён паўтараў яшчэ два разы, збіваючы і загортваючы крыламі плужка дробнае зелле.

Часнок, калі стаяла сухмень, даўшы ў бочку пару рыдлёвак попелу, ён паліваў часта нанач.

Капусту Ной не садзіў, бо з ёю многа было валакіты. Позняй восенню калгас на машыне прывозіў яе да крамы, таму пару мяшкоў белагалавастай заўсёды можна было нядорага купіць.

Пограб, у які яго дзед, відаць, убухаў нямала сіл, цягаючы і ўкладваючы двухпудовыя камянякі, Ной тыдні два праветрываў. Развёўшы вапну, пэндзлем, праходзіўся па сценах, між якімі будуць зімаваць смачныя дары поля. Разбіваў прадаўгаватую скрынку для морквы, выносіў на двор для прасушкі, а праз дзён дзесяць зноў акуратна вяртаў ёй былую форму. З Нёмана самаробнай каляскай прывозіў вёдзер дзесяць дробнага рачнога пяску, вытрымліваў на сонцы і бярог сыпучую кучку на цэлафане ў кутку, накрыўшы дзяружкай да копкі морквы. Потым ён радамі ўкладзе чырвоную красуню ў скрынку і перасыпле сухім пяском. Так яна захаваецца аж да лета.

Асабліва ўважліва Ной праглядаў сцены і ніз пограба, каб між камянямі не пратачыла сабе ход шустрая мыш. Магла яна пранікнуць і спадыспаду, па краціным ходзе. Таму ў любое падазронае месца на дне ён заганяў камень, велічынёй з кулак.

У жніўні Ной выбіраў часнок і цыбулю. У часначын адразаў цыбуры на пядзю ад галоўкі і раскладваў на гарышчы. А цыбулю, асабліва калі летам былі частыя дажджы, аблупліваў да белізны і абразаў па самую галоўку. У кашах, раскладзеная па велічыні, яна выносілася на сонца і з тыдзень дабірала цяпло. Пасля ж уладкоўвалася ў сетчатыя мяшкі і стаяла на палку запечка.

Верасень быў самы ўхоплівы на працу. Выкапаўшы бульбу, колькі дзён трымаў яе на версе пограба, каб падсохла, і толькі тады апускаў у прахалодны лёх. Сюды ж адразу з поля клалася сакавітая рэпа. Вось пасля гэтага ўзнікаў ніштаваты пярэдых, які імчаў Ноя па ўзлесках і баравінах у пошуках позніх грыбоў.

У канцы верасня пакідалі зямлю буракі і морква — асноўныя прысмакі будучых вінегрэтаў. А пасля поле веставала ў неба дымам падпаленага бульбоўніка, што праца закончана і наступае новая пара для клопату аб наступным ураджаі.

* * *

Ной гарадзіў плот. Шулы былі моцныя. Па вясне ён дабраўся да заваленага ў разводдзе дуба і ў вадзе — ай як намучыўся! — адпілаваў чатыры больш-менш раўнаватыя галіны. На беразе абсек бакавыя патырчакі, паадпілоўваў восем кавалкаў у свой рост і на ровары памалу перавёз дадому. Калі дубовыя таўкачы трохі падсохлі, сякерай акуратна прайшоўся па іх і ўкапаў ад вуліцы. Жэрдкі былі яловыя, новыя, бо старыя, як і частакол, пайшлі ў печ. Нацягнуўшы над вярхамі шулаў шнур, Ной роўна прыбіваў сасновыя аблысеныя калы, час ад часу адыходзіўся на крокаў пяць-шэсць, каб зірнуць на сваю работу.

— Што ты выраўніваеш, як у арміі? Усёадно згараць пад весну, — сусед-шафёр асцярожна пасадзіў сваё мажное цела на шырокую лаўку. — Лепш бы дзве машыны дроў прывёз, а то адной не хапае на зіму.

— У холадзе любое мяса лепш захоўваецца. А калі не хопіць, убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, на саначках сухастою падкіну. Размінка будзе. Цела павінна варушыцца, не залежвацца, не застойвацца.

— От, сам сабе работу прыдумляеш. Хочацца табе снег па пахі мясіць…

— Давай і ты са мной паездзі зімою, а то затлусцееў, як Маньчын падсвінак: за складкамі касцей не прамацаць.

Толя не крыўдзіўся, але і не згаджаўся:

— У галадуху пакуль тоўсты ссохне, худы здохне.

— Э, браток, не бачыў ты галадухі. Не еў ты мякіну і мёрзлую бульбу. Я праз франты прайшоў, усяго пабачыў. Лепш, убядзіцельна прашу і крэпка

завяраю, не знаць таго, — Ной паклаў на лаўку малаток. — Ідзі во лепш, яблыкамі пачастуйся.

— Дзякуй, дзядзька Мікола! Зімой калі-небудзь. Вылежалы, крамяны, ён тады смачнейшы, без аскомы. Ды і на ферму трэба ехаць…

— Як знаеш… — Ной абухом сякеры пастукаў па жэрдцы, быццам правяраючы моц краплення, узяў чарговую частаколіну…

Ці ж яму, сухарляваму і жылістаму, прывыкаць да гэтай работы. Некалі ён на ровары з лесу па бервяну на хату навазіў. Абчасаў склюдам і сам злажыў гэты каўчэг. Не падарваўся, нават помачы ў нікога не папрасіў. Усё сам. Хоць і цяжка цяпер яму аднаму, але… Нашто жаніцца, калі можна пажывіцца? А тое, што яму пад восемдзесят… О, самы мацак! Кабеты ведаюць…

Ной зайшоў у сад, падняў ападак малінаўкі, ацёр аб крысо пільчака, смачна храбуснуў сакавітую зелень недаспелкі. «Карысць ад яблыкаў большая, чым ад сала».

Ох і далося яму ў знакі гэтае сала! Не было ў вёсцы лепшага майстра закалоць, асмаліць і разабраць парсюка. Позняй восенню, калі першыя халады аздаблялі чорнае ворыва пляцоў і галінкі дрэў шэранню, яго па чарзе прасілі заваліць гадавалае свінчо. І ён не адмаўляўся. Браў вяроўчыну, востра адточаны багнэт і раненька ў прыцемку шыбаваў на той ці іншы падворак, дзе гаспадары меркавалі пакаштаваць свежыну. Ласкава прывязаўшы пятлю за нагу ёмістага кумпяка, ён нечаканым рыўком завальваў здаравеннага гадаванца, перадаваў напятую вяроўку гаспадару, а сам навальваўся на грудзіну пісклявай ахвяры, заломваў пярэднюю нагу і біў багнэтам у сэрца. Потым адвінчваў колца газавага балона, раскруціўшы шланг, запальваў гарэлку, порстка смаліў перапэцканую шчаціну… Так было і тады, пяць гадоў назад, у той памятны перадзімак.

* * *

Ніна Іванаўна не спазнілася ні на секунду. Але за ёй, як ні дзіўна, укаціўся такі ж ростам, як і яна, ружовашчокі, мажнаваты мужчына. У светлым касцюме, са светла-ружовым гальштукам на белай сарочцы, ён чамусьці нагадваў брата кіраўніцы курсаў. Гладка зачэсаныя назад чарнявыя валасы, прыемнахітраваты погляд блакітных вачэй, маленькія вушы, прыціснутыя да скроняў, іранічная ўсмешка на пульхных губах… — усё гэта гаварыла пра тое, што ў гадоў дваццаць ён быў прывабным аб’ектам для дзяўчат. Праўда, калі б скінуць з яго кілаграмаў пяцьдзясят…

Андрэй разгарнуў сшытак, палажыў побач ручку.

— Прашу любіць і шанаваць: гэта — мой муж, Мікалай Іванавіч! — Ніна Іванаўна агледзела прысутных. — Калі б не ён, я, відаць, і не выбрала б гэтую прафесію. Даруйце, але я з вамі сёння не буду, бо еду ва ўпраўленне: к нам павінны прыехаць замежныя госці. Ну, а ты, Мікола, надта не заглядайся на нашых прыгажунь…

— Ну-ну, Ніна, ты ж ведаеш: ты ў мяне адна, як сонейка на небе…

— Ведаю, ведаю, — Ніна Іванаўна таропка развіталася і знікла за дзвярыма.

— Госці, госці… Госці — горш за зладзеяў. Усё паядуць, павыпіваюць і нас пакідаюць.

Адразу адчувалася, што Мікалай Іванавіч выступае не ўпершыню, нават без лёгкай сарамяжлівасці, упэўнена і з гумарам.

— Вы не запісвайце, калі трэба — я скажу. Як і Ніна Іванаўна, люблю і я кулінарыць. Мо і праўда, як кажуць людзі, лепшыя павары — мужчыны.

Зірніце, хто працуе на кухні ў лепшых рэстаранах, — мужчыны! Некалі заможныя вяльможы выпісвалі лепшых повараў з-за мяжы, з Францыі, Італіі, з іншых краін, і золатам плацілі за іхнюю працу. Хаця б тыя ж князі Радзівілы…

— Даруйце, што перабіваю, — Алёнка далікатна правяла рукой па стрыжцы.

— Нічога-нічога, гаварыце…

— Нашых мужоў на вяроўцы да пліты не зацягнеш. Мой, напрыклад, прыязджае позна: бізнес, фінансы, кліенты. Наеўшыся добра, упрэцца ў тэлевізар ці камп’ютар — і засне так.

— У нас — іншы час. Некаму і грошы трэба зарабляць, — Мікалай Іванавіч паправіў гальштук. — Яшчэ добра, калі муж — не прывярэда. Мая душка не перабірушка. Што жонка паставіць, тое і з’ем. Мяне на работу не хвалілі, але й на ежу не ганілі. Ды і сам я за сваю вытанчаную згатую не горш.

— Нашым бы так… Хай бы павучыліся з намі… — быццам ажылі дзяўчаты.

Мікалай Іванавіч усміхнуўся, але ад сваёй лініі не адступіў:

— І я бываю пераборлівы: як клёцкі ў малаку — па дзве валаку, а як у вадзе, то раз, два — і годзе! Але ж я пра гасцей… Некалі было прасцей: госць, не дзьміся, еш, што ў місе! Таму і казалі: «Ядуць госці, ядуць, як мяцёлачкай мятуць: на стале ні крошачкі, пад сталом ні костачкі». Сёння ж — часы другія, а госці — дарагія. Па грашах, вядома. А замежныя госці — тым больш. Дарэчы, хто з вас ведае, чаму японцы ядуць палачкамі?

Дзяўчаты маўчалі, маўчаў і Андрэй, чакаючы навуковага тлумачэння. Мікалай Іванавіч узяў са стала Алёны шарыкавую ручку, падняў уверх:

— Гэта не проста палачкі, а дзяржалачкі, да якіх трэба было тое-сёе прырабіць. Да адной — хлябалачку, а да другой — утыкалачку. Але, відаць, японцы не здагадаліся гэта зрабіць, таму і ядуць да гэтага часу пры дапамозе палачак-дзяржалачак.

Дзяўчаты зарагаталі. Смяяўся і Мікалай Іванавіч.

— А каб падвесці вас да асноўнай тэмы, паслухайце пра жартаўлівыя асаблівасці нацыянальных кухняў. Запісваць не трэба. Дык вось, украінская: у якасці начынкі для торта вазьміце дзве свіныя адбіўныя і сальныя скваркі. Руская: прыгатуйце што-небудзь, каб атрымалася закуска. Грузінская: таксама прыгатуйце што-небудзь, засыпце кінзой, заліце кінзмараулі, дабаўце сулгукі. Французская: так-сяк падсмажце мяса, заліце яго соусам, у якім вы парыліся тры-чатыры гадзіны, упрыгожце шалотам. Італьянская: збярыце ўсе астаткі ежы з халадзільніка, разагрэйце і пасыпце мацарэлай. Накласці на блін або падаць з макаронамі. Кітайская: збярыце нежывых мух і тараканаў, нарвіце травы ў двары, падсмажце на хуткім агні з гарой спецый і літрам соевага соусу. Японская: злавіце што-небудзь жывое ў моры, хутка разрэжце на кавалкі і падайце на стол, каб трапяталася, і абавязкова з васабі. Мексіканская: дабаўце перцу, а ўсё астатняе можаце не дабаўляць. Ліванская: намазаць кунжутным маслам, заліць лімонным сокам. Падаць праз дваццаць мінут, каб не ўсе зразумелі, што там было ў пачатку. Індыйская: змяшайце кары з перцам, перцам і перцам. Дабаўце да кары. Упрыгожце гарошкам. І апошняя, кухня Грэцыі: падайце на стол танныя прадукты, проста пасечаныя на кавалкі, нават не перамешаныя, і з гонарам паўтарайце: «Натур прадукт, натур прадукт!»

Дзяўчаты гучна смяяліся, некаторыя нешта запісвалі. Андрэй, суняўшы ўсмешку, прыўстаў і запытаў:

— Мікалай Іванавіч, а што ж беларуская кухня?

— Беларуская — бульба, бульба, бульба… Вараная, печаная, смажаная, тушаная… А ўсё астатняе — да яе ў прыдачу.

— Дарэмна не запісалі, — усміхнулася Алёнка, разгортваючы сшытак. — Можа, і для нашых мілых што-небудзь спатрэбілася б.

Мікалай Іванавіч адгарнуў свой тоўсты агульны сшытак:

— Як бачыце, нават жартам ніводная нацыянальная кухня не абыходзіцца без вострых прыпраў. Вось мы і падышлі да сённяшняй асноўнай тэмы. Прыправы з моманту іх адкрыцця займаюць асаблівае месца ў гісторыі харчавання. Спачатку чалавек выкарыстоўваў іх з простай мэтай — адбіць непрыемны пах і спецыфічны смак некаторых прадуктаў. Пазней з дапамогай прыпраў паляпшалі не толькі смак ежы, але і яе знешні выгляд, і нават колер. Еўропа, напрыклад, перажыла «прыпраў вар’яцтва» яшчэ ў дванаццатым стагоддзі. Паступова культура выкарыстання прыпраў расла. З вякамі прыадкрываліся тайны, калі лепш дабаўляць іх, каб атрымаць асаблівы водар. Найбольш даступнымі былі кмен, маяран, лаўровы ліст, чабор, аніс, каляндра і асабліва часнок. На Русі здаўна выкарыстоўвалі кроп, баршчэўнік, мяту, хрэн, цыбулю, часнок, аніс. Толькі ў пятнаццатым—шаснаццатым стагоддзях уведалі пятрушку, чорны перац, карыцу, гваздзіку, імбір, шафран, кардамон. Кухня тых часоў была вострай і пахучай. Прыправы дабаўлялі ў супы, мясную, з агародніны, рыбную ежу, у падліўкі, у мучныя выпечкі, у напіткі: у чай, мёд, квас, збіцень і морс.

На паўуздыху Алёнка ўклінілася ў прамову Мікалая Іванавіча:

— Гэта ж цэлая навука! А я думала…

Мікалай Іванавіч не даў ёй дагаварыць:

— Вось тут і трэба думаць, а сёе-тое і запісаць. Прывяду параўнанне. Як вы збіраецеся, уявім, на важнае спатканне? Памыліся, навялі шыкоўную прычоску, зрабілі макіяж, падмалявалі губкі, бровы, пырснулі французскіх духоў, адзелі завушніцы, на шыю — залаты ланцужок, на палец — пярсцёнак, і вас не пазнаць: прыгажуня, красуня, царэўна! Так і тут: ёсць прадукт і дабаўкі прыпраў. І ежа становіцца смачнай і прыемнай. Да канца дзевятнаццатага стагоддзя ў народзе вельмі ж любілі збіцень. Яго гатавалі з мёду, мукі, соку і хлеба, а да іх дабаўлялі імбір, кардамон, лаўровы ліст, мускатны арэх, мацярдушку. У квас клалі мяту, ліст чорных парэчак, хрэн, молатую карыцу. А ў мядах часцей выкарыстоўвалі хмель і кардамон. У гэтае ж, дзевятнаццатае стагоддзе, кухня пазнала сельдэрэй, кінзу, кервель, агурочную траву, партулак, эстрагон, цыкорый, размарын, лаванду, шалфей, маяран і іншыя прыправы. І ўсё ж трэба помніць, што прыправы не толькі даюць прадукту незвычайны смак і пах, але і могуць нашкодзіць, бо ўсё залежыць не ад колькасці прыпраў, а ад умелага выкарыстання іх. Так, напрыклад, у салаты, маянэзы, халодныя соусы прыправы кладуць за гадзіну да падачы на стол, каб эфірныя маслы раўнамерна растварыліся ў асноўным прадукце. А калі вы варыце, смажыце, тушыце, то прыправы лепш класці незадоўга да канца працэсу, а часам і ў гатовую страву, каб водар не ўлятучыўся разам з парай. А зараз запішыце хаця б асноўныя прыправы для тушаных мяса і рыбы, страў з птушкі і дзічыны. — Мікалай Іванавіч дастаў з сумачкі паўлітровую бутэльку мінеральнай, скруціў закрыўку і зрабіў глыток. Дзяўчаты разгарнулі сшыткі.

— Базілік, гарчыца, лаўровы ліст, маяран, ягады ядлоўцу, мускатны арэх, мята, чырвоны перац — не вельмі многа, перац чорны, чабор, часнок, шалфей... Для супоў, баршчоў, салатаў заўсёды варта дабавіць кроп, пятрушку, сельдэрэй, любісту, цыбулю, часнок. Не буду пералічваць усе прыправы, бо вы пройдзеце іх за кухарскую практыку. Праз хвілін дзесяць мы пяройдзем у кухню і я пакажу вам, як гатуюцца некаторыя мясныя стравы з пералічанымі прыправамі. Перад

перапынкам даю вам дзве парады. Можа, і спатрэбяцца. Першая: вегетарыянскі суп будзе больш пажыўным, калі ў яго палажыць кавалак мяса. І другая: калі вы баіцеся паправіцца, выпіце перад ежай трыццаць грамаў каньяку. Каньяк прытупляе адчуванне страху. І не толькі. Ён пашырае сувязі.

Дзяўчаты смяяліся: «Што праўда, то праўда: і сувязі, і знаёмствы, і блат».

Андрэй загарнуў сшытак, паклаў у сумку і пайшоў на кухню.

* * *

Жар ад грабавых і дубовых плашак ірдзеў між двух слупоў. Корбу з асвежаваным турам павольна круцілі ўчэпістыя далоні лоўчых. Кухар, выцершы рукі палатняным ашмоткам, узяў нож і прыпыніў лоўчых. Спрытна і хутка пачаў ён паласаваць кумпякі і лапаткі, праколваючы дзіркі ў тых месцах, дзе падагрэтае мяса магло не прасмажыцца. Закончыўшы, ён кіўнуў Данілку: «Пачынай!»

У карычневым кажушку, аблавусе і валёнках памочнік кухара ўзяў карэц, зачарпнуў з драўлянага вядра чырвонае віно, падступіўся збоку вогнішча і лінуў уздоўж хрыбта. І калі лоўчыя круцянулі корбу напалову круга, лінуў віно ўсярэдзіну пустога турынага жывата, не баючыся, што кроплі расплюхаюцца, цурком пацякуць у жар. Лінуў яшчэ некалькі разоў спераду і ззаду і адступіў, асцерагаючыся асмаліць вейкі, бо духмень ад жарын дыхнула ў твар горача і млосна.

Корба паволі пераварочвала турыную тушу, якая пачынала памалу сквірчэць. Кроплі сукравіцы і лою капалі на малінавыя вуглі, шыпелі і ўспыхвалі язычкамі агню. Кухар зноў кіўнуў, і Андрэйка паўтарыў абліванне. А хвілін праз дваццаць кухар сам узяў карэц і пачаў пялёхаць на мяса агурэчны расол. Пар ад смажанага мяса прыемна казытаў ноздры, гнаў на язык сліну.

На снезе пад дубамі віскаталі выжлы, цягаючы выкінутыя вантробы, адбіраючы адзін у аднаго смачнейшыя кавалкі. А за дубовым сталом весяліўся захмялелы Радзівіл з п'янай кампаніяй. Польскае «Сто лят!» ускідвала ўверх дзясяткі рук з поўнымі кубкамі і келіхамі, перарывалася ўспамінамі пра колішнія аблогі і паляванні.

Мяняліся на ручках корбы лоўчыя, а Данілка падкладаў на вуглі тонкія паленцы дроў, глядзеў, як яны, ахопленыя невыноснай гарачынёй, імгненна і амаль бяздымна ўспыхвалі, яшчэ больш падаграючы мяса. Кухар жменямі пачаў сыпаць на тушу тоўчаныя каляндру і гваздзіку, перац і мацярдушку. Пахкія, яны яшчэ больш казыталі нюх і, здаецца, падцягвалі кішкі ў галодным жываце. Але думаць пра ежу было рана: пакуль не нагуляюцца і не наб'юць мясам жываты да гарлякоў князь са світай, толькі тады чэлядзь з высокага дазволу зможа падысці да стала.

Кухар, прыкрываючыся рукавіцай ад спякоты, зноў падступіўся да тушы, пачаў глыбіць разрэзы на сцёгнах і спіне, прапорваць пахвіны. Як і першы раз, акаціў расолам. Цяпер ужо яго струменьчыкі рынуліся з набрынялага мяса ў вуголле. Яно зашыпела, чадна пыхнула ўверх парам і дымам. Данілка тут жа падкінуў на прытушаны жар трэсак і тонкіх паленцаў. Яны ўгарэліся, і калаўрот зноў паволі закруціўся. Каменныя сценкі на паўметра ўвышыню, што агароджвалі кастравішча, не давалі цяплу разыходзіцца ўбок, і ўся гарачыня вуглёў мкнулася ўверх, ахопліваючы велізарны кавалак мяса. Кухар сыпнуў яшчэ некалькі жменяў іншых прыпраў з другога мяшка і, відаць, задаволены, адступіўся.

Застолле, ашаломленае гарэлкай і віном, гарлапаніла песні і здравіцы. Воддаль, накрытыя коўдрамі, елі сена коні. Сабакі, прыкончыўшы вантробы, ляжалі на снезе, высалапіўшы ружовыя языкі, чакалі турыных касцей.

Радзівіл, вылезшы з-за шырокай лавы, хіснуўся ў бок кастра:

— Мечніка сюды:

Кухар стрымгалоў рынуўся да вазкоў, дзе ў чаканні бавіла час чэлядзь. Праз хвіліну высокі хлопец паўстаў перад князем.

— На той дуб — мішэнь! І кап’ё сюды…

Мечнік разгублена азірнуўся, не ведаючы, якую мішэнь падвесіць на дуб, але, убачыўшы ў кухарскім прычындаллі сіта для прыпраў, расцвіў:

— Адзін міг, князь!

Ён падышоў да дуба, усадзіў у расчэп на ўзроўні вачэй паляўнічы нож і падвесіў на яго сіта. Лепшай мішэні тут, на краі пушчы, нельга было прыдумаць. Ад вазоў спяшаліся лоўчыя, неслі коп’і.

З-за стала за князем вылезлі госці, гатовыя паказаць свой спрыт і ўменне.

— Першае кап’ё — папскаму нунцыю! — Радзівіл, адзначыўшы рысу кідка, паклаў адно кап’ё на снег, другое падаў італьянцу. Нунцый скінуў з плячэй блакітную накідку і аўчынавую безрукаўку, узяў кап’ё, паважыў у руцэ і, адступіўшы крокі на тры, рэзка разбегся, кінуў. Вастрыё прайшло трохі збоку ад сіта, не зачапіўшы дуб. Не паказваючы сваёй збянтэжанасці, італьянец усміхнуўся, развёў рукі: «Не мой дзень…» За ім адзін за адным кідалі коп’і славутыя магнаты і багатыя шляхціцы, але сіта, як заваражанае, вісела на дубе, быццам насміхалася круглым ротам над няўмекамі.

Застаўся адзін Радзівіл. Ён расшпіліў пунсовы аксамітны плашч, адшчоўкнуў на версе грудзіны брыльянтавую клямру, на якой ад сонца пусціў водбліскі каштоўны карбункул, кінуў плашч на падстаўленыя рукі мечніка. Яго магутнае цела, пудоў пад дзесяць, выпрамілася, спыніла паўп’яныя хістанні. Узяўшы кап’ё ў левую руку, правай Радзівіл перахрысціўся і ёй жа, ухапіўшыся за дрэўка кап’я, з паўразвароту, без разбегу шпурнуў яго ў бок дуба. Вастрыё прабіла валасяныя дзірачкі ў самым цэнтры сіта.

— О, Езус Хрыстус! Віват, віват! — паўсотні рук падхапілі цяжкае цела князя і падкінулі яго некалькі разоў у паветра.

Радзівіл, задаволены і расчырванелы, рады, што не даў маху, як там, на паляванні, накінуў плашч:

— К сталу, прашу вас. Гэй, кухар! Мяса гасцям!

Лоўчыя ў восем рук падхапілі калаўрот і панеслі ўсмажанага тура на прыбраныя дубовыя плахі стала. Асцярожна апусціўшы ношу пасярэдзіне, заклалі з двух бакоў пахвін дубовыя паленцы, каб, не дай бог, туша не скацілася. Зноў узляцелі ўверх напоўненыя кубкі, келіхі і чары: «Слава князю! Віват Радзівілу!»

Учарнелы тур, як здавалася Данілку, застыў на стале, як перад рыўком, гатовы сарвацца, рвануць у пушчу ад першага дотыку нажа. Але дзіцячае шкадаванне толькі распаляла яго фантазію, хоць розум даводзіў, што такога быць не можа. Так яно і было. Прагныя рукі вялікімі паляўнічымі кінжаламі адразалі кавалкі мяса, і, наколатае на відэльцы, неслі на ўчэпістыя зубы. Чмяканне і прыцмокванне ад смакаты перабівалася хлябкамі напояў, хвальбой кухарскага майстэрства. Радзівіл, адрэзаўшы ладную палойку вялікай паляндвіцы, лагодна жаваў мяса, сыта мружачы вейкі ў задуме: чым бы яшчэ забавіць гасцей?

Кухар з Данілкам, пагрузіўшы на сані торбы з прыправамі, стаялі ля вогнішча і глядзелі, як каляна датлявае прысак. Метры за тры ад каменнай сценкі вогнішча ляжалі высечаныя з лабаціны турыныя рогі. Іх не забудуць

лоўчыя, аддадуць майстрам, а тыя, аздобіўшы сярэбранай ці залатой акоўкай, вернуць Радзівілу: пахваліцца перад гасцямі ці затрубіць калі-небудзь на паляванні. Праз некалькі хвілін кухар як сцепануўся, штурхнуў памочніка ў плячо:

— Забяры сіта. Майстры залатаюць.

Данілка злётаў пад дуб, падняў прабітае сіта. А ля стала круціліся сабакі, хапаючы на ляту кінутыя рабрыны.

Нарэшце Радзівіл адваліўся ад стала, цяжка ўстаў:

— Сані сюды! Едзем да дзевак!

П’яна-сытая хеўра страпянулася, пачала вылазіць з-за шырокіх лаў.

— У лазню, да дзевак! — выкрыквалі асалавелыя застольнікі.

Калі вазкі ад’ехалі, кухар кіўнуў Данілку, паказваючы вачыма на стол, махнуў рукой лоўчым.

* * *

Так было і тады, пяць гадоў назад, у той памятны перадзімак.

Ной закалоў доўгага таўсматага парсюка. Добра, як і заўсёды, высмаліў, адмачыў кіпятком учарнелую шкуру, да белізны выскраб яе адточаным лязом. Парсюк, які памыўся першы і апошні раз за год, падпёрты з бакоў чатырма паленцамі, ляжаў на старых дзвярах лычам уверх, прыгожы і цёпленькі. Ной памыў рукі ў вядры, выцер аб чыстую анучку багнэт, абышоў разы тры вакол, цмокнуў языком.

— Хоць карціну малюй! Ці на выстаўку адпраўляй… Прыгажун!

Слабаваты марозік спрыяў добраму настрою і гаспадарскай радасці. Але вецер памяняўся, дзьмухнуў спачатку нясмела, пасля закруціў больш гвалтоўна, сыпнуў дробнай парошай. Ной пазваў суседа, і яны волакам зацягнулі дзверы з парсюком на ток у гумно. Тут, у зацішку, калі зусім развіднелася, ён разбіраў, як казала Наста, свайго кармільца. Вантробы выгарнуў у выварку, хуценька адрэзаў кумпякі і лапаткі, аддзяліў сала ад хрыбта, парэзаў яго на ладныя палойкі. Акуратна выразаў паляндвіцы. Калі забегла жонка, дасякаў косткі і рэбры.

— Коля, солі няма. Я агледзелася. А ў мяшку, пуста. Збегаю ў магазін.

— Бяжы… Не спяшайся вельмі. Хай сала трохі прыстыне.

Наста пабегла. А Мікола рашыў трохі прыпалохаць яе. Адзін канец вяроўкі прывязаў да бэлькі, другі прапусціў пад пахі і адзеў ватоўку. Астатак вяроўкі наматаў на шыю. Стаў чакаць. Надта ж хутка ля варотцаў зарыпеў снег. «Не можа быць, каб справілася ў магазін збегаць…» Але ступіў з калодкі ў паветра, павіс на вяроўцы. Для страху язык высалапіў.

— А бацюхны? Павесіўся! — спуджана пляснула далонямі валацужная Гэлька. Не ведаючы, ці бегчы за людзьмі, ці падымаць крык, яна ўтаропілася на парэзаныя дзялянкі сала. — Ай якое тоўстае: на далонь! І чаго было вешацца?

Гэлька зладзеявата аглянулася, ухапіла важкі кавалак сала ў прыпол і рынулася ўцякаць з гумна. Ной не чакаў такой подласці і раўнуў:

— А што ж ты робіш?

— Матка боская… — ледзь прашаптала Гэлька і без памяці абрынулася з салам у снег, якраз туды, дзе лычам уверх тырчала свіная галава.

Ной хуценька развязаўся, адкінуў у куток вяроўку і, як нічога і не бывала, пачаў адразаць свіную пячонку.

Халодны снег вярнуў памяць кабеце, бо сэрца вытрымала, не разарвалася. Забыўшыся на сала, яна папаўзла да суседскага двара, адразу на руках, пасля на каленках, а потым, натужна падняўшыся, угнута пабегла…

Ной падняў заснежаны кавалак, палажыў на дзверы. Хвілін праз пяць вярнулася яго жонка з соллю.

Так было і тады, чатыры гады назад, у той памятны перадзімак.

Яму тады падахвоціўся памагчы Антось. Мікола і сам бы справіўся, але Наста нешта занядужала і, выставіўшы чыстыя каструлі, выварку, нарыхтаваўшы кіпятку, зноў легла ў пасцель. А так, як вяроўку на задняй назе парсючыхі трэба было некаму патрымаць, ён згадзіўся.

Свінка была ладная, уежная. Але справіліся яны за гадзіны чатыры. Удвух хутка перанеслі ў сенцы сала, крутыя кумпякі і важкія лапаткі, унеслі ў варыўню выварку з вантробамі, паставілі ля печы начоўкі з грудзінай, каркавінай і паляндвіцамі. Наста быццам трохі акрыяла, як бачыш паставіла на пліту патэльню з мясам і скавараду з нарэзанай, абвалянай у муцэ пячонкай. Як вялося здаўна, на стале закрасавала запацелая паўлітэрка куплёнай. Калі сквіручая патэльня заняла на падстаўцы сярэдзіну цыраты, а чаркі напоўніліся пітвом, Антось прыўзняўся:

— Ну, дарагі народ, вып’ем, каб радзілі свінні і ў наступны год!

Мікола каўтнуў гарэлку адным глыкам, адчуў, як цяпло загарэлася ўсярэдзіне, падчапіў відэльцам вялікую скварку з мясной прораззю. Наста, як ні дзіўна, хуценька наліла па новай чарцы, паставіла на жалезны абадок скавараду з пячонкай:

— А цяпер давайце вып’ем за здароўе майго мужа. Калі муж мой будзе здаровы, то ўсе жанчыны ў вёсцы будуць здаровыя. А калі жанчыны будуць здаровыя, то будуць здаровыя і іх мужы. А калі іх мужы будуць здаровыя, то буду здаровая і я!

Сказала Наста і выпіла да дна. Мікола зірнуў на яе, на пятнаццаць гадоў маладзейшую, быццам бачыў першы раз, але змаўчаў, выпіў сваю чарку.

Выпілі па трэцяй — і бутэлька апусцела.

— Мікола, я дам грошы, скокні ў краму. А то малавата, ды і закусь такая прападзе.

— Грошы ў мяне і свае ёсць, — зірнуўшы на Антося, неахвотна падняўся Мікола. — Ну, ды ладна. Стаў, Наста, яшчэ адну патэльню з мясам.

— Я хутка, Міколка… Бяжы… — Наста пачала завіхацца ля пліты.

Ной накінуў ватоўку, адзеў шапку-вушанку і выслізгнуў за дзверы. «Якога ліха я папруся за дзяржаўнай у такую даль? У Толіка перахаплю самагонкі. І хутка, і не выстуджуся». Ён забег да шафёра: «Толік, выручай! Са свайго выгану аддам». — «Калі ласка! На тым свеце разбяромся, адзін аднаму вугельчыкаў пад кацёл падкінем у пекле».

Ной вярнуўся хвілін праз сем. Адкрыў кухню і здзівіўся: ні Насты, ні Антося за сталом не было. На агні ў патэльні сквірчэла мяса. Ён адхінуў занавеску на шкельцах дзвярэй у другую палову хаты і ледзь не абамлеў: на пасцелі са спушчанымі штанамі, у ботах на яго Насці ляжаў Антось. Кроў прыліла да скроняў Міколы. Азвярэлы, ён хапіў за драўляную ручку патэльню, уварваўся ў чыстую хату і з размаху пляснуў на голы Антосеў азадак гарачае мяса з тлушчам. Антось зароў ад болю, заверашчала Наста. Кіпень, відаць, і яе дастаў. Ной плюнуў і падаўся ў гумно. Так было ў той памятны перадзімак.

* * *

Сёння апошняя лекцыя сарвалася. Ці то выкладчык захварэў, ці то, як нехта сказаў, з’ехаў на нейкую важную прэзентацыю. Андрэй забег у факультэцкі буфет, выпіў шклянку кавы з булачкай і пяшком пайшоў на курсы. Забя-

гаць у інтэрнат, каб пакінуць сумку, не было сэнсу. А прайсці нетаропка па прыгожым праспекце, зазірнуць у «Падпісныя выданні», ды і проста — глянуць на людзей, — лепшага перадыху не знойдзеш. Па дарозе купіў газету з рэцэптамі і цікавымі парадамі — «Гастраном»: «Пачытаю перад кулінарнымі ўрокамі…»

У зальчык, дзе праходзілі заняткі, ён прыйшоў не першы: дзве курсанткі, відаць, блізкія суседкі, нешта ціха абмяркоўвалі. Прывітаўшыся, Андрэй сеў за крайні стол ад акна, паклаў газету, сумку паставіў каля ног. Першая старонка «Гастранома», як заўсёды, была поўнасцю аддадзена рэкламе. «Што на вітрыне, тое і ў магазіне». А на другой Андрэй выхапіў інфармацыю аб сустрэчы двух прэзідэнтаў суседніх дзяржаў: «...а на абед былі пададзены салат з лобсцера, філе марскога чорта пад анісавым соусам, мармуровая ялавічына пад соусам «каберне савіньён» і мус з фруктовым сарбетам». А ўнізе старонкі — зноў ці не рэклама? — ішло апісанне меню рэстарана «Залаты век»: «Тут тонкая еўрапейская кухня ўмела спалучаецца са славянскімі традыцыямі добра пад’есці. Стравы — на любы густ. Повары — высакакласныя спецыялісты, якія вучыліся ў лепшых школах Прыбалтыкі і Масквы, калі заказаць загадзя, могуць задаволіць любы капрыз кліента. Хоць фазана, упрыгожанага пер’ямі… Могуць прапанаваць фуа-гра, фандзю або фаршыраваную грыбамі далікатную фарэль, запечанага марскога чорта са шпінатам, цялячы стэйк пад вінаградным соусам, свініну з лісічкамі са сметанковай падлівай… А яшчэ — бургундскія вінаградныя смаўжы, запечаныя ў сметанковым масле, каралеўскія крэветкі. На вачах госця можна прыгатаваць фламбэ ці стварыць атмасферу выезду на прыроду: засмажыць сакавітае барбекю з усіх вядомых і нечаканых відаў мяса з прысмакам дыму ад кастра…»

Андрэй, пракаўтнуўшы сліну, згарнуў газету: у зальчык зайшла стракаташумная кампанія курсантак. Модна адзетыя, розныя па паставах, яны рассаджваліся за сталы, даставалі сшыткі. Андрэй улавіў на сабе цікава-радасны бліск карых вачэй Алёнкі, сарамяжліва пачырванеў: «Мо здалося?» Яна, у блакітнай кофтачцы, у джынсах, спрытна села за першы стол. Зайшлі апошнія дзяўчаты, а за імі зачыніла дзверы Ніна Іванаўна:

— Дзень добры, мае шаноўныя гаспадыні! І спадар Андрэй…

Хоць і прызвычаіўся, але чырвань зноў хлынула ў хлапечыя шчокі.

— Сённяшняя тэма — салаты. Гэта тое, што прыгатавана з сырой і варанай агароднiны, як дабаўка да мясных і рыбных страў. Яны смачныя і карысныя, як закуска, раніцай і вечарам. Прырода надзяліла дары агарода каштоўнымі карыснымі рэчывамі і багаццем фарбаў. Для салатаў ідуць памідоры, агуркі, усе віды капусты і салаты, радыска, бручка, буракі і морква, бульба, балгарскі перац, баклажаны і кабачкі, фасоля і зялёны гарошак. Усё залежыць ад фантазіі і ўмення гаспадыні. І, вядома, ад практыкі. Салаты гатуюцца з сырой і варанай агародніны. Сырыя робяцца непасрэдна перад ежай, бо калі яны пастаяць гадзіну-дзве, то згубяць усё: і пажыўную каштоўнасць, і смакавыя якасці. Летам, калі выспее пшаніца, перад жнівом нарэжце каласоў, звяжыце іх у пучкі і падвесьце дзе-небудзь, няхай яны сушацца. А вось тады, калі вы памылі, падкрэсліваю, добра памылі, асабліва агародніну, нават са шчоткай, палажыце ў ваду пучок пшаніцы да кампанентаў будучых салатаў. Пшаніца нейтралізуе любыя хімічныя прымесі. Агародніну, якая пойдзе на салаты, трэба варыць асобна. А лепш за ўсё запячы. Адваранае варта добра астудзіць, бо калі змяшаць цёплыя і халодныя кавалачкі салата, то ўсё, дзеля чаго мы стараліся, сапсуецца. Салат і вінегрэт з маянэзам будзе намнога смечнейшы, калі ў яго палажыць на хвілін пяць-дзесяць лімонную шкурачку.

— Ніна Іванаўна, а колькі хвілін вараць буракі? — прыўстала высокая хударлявая бландзінка.

— Усю агародніну вараць у падсоленай вадзе, акрамя буракоў і стручкоў гароху. Каб буракі не гублялі свой колер, трэба дабавіць у ваду пры варцы трошкі воцату ці лімоннай кіслаты. Варацца яны гадзіну і дзесяць хвілін стаяць у халоднай вадзе. І трэба помніць: чым больш стаіць адвараная агародніна ў вадзе, тым горш, бо губляецца самы важны вітамін — вітамін С.

Алёна, як заўсёды, падала свой голас:

— Скажыце, Ніна Іванаўна, а ў чым лепш захоўваць салаты?

— Пытанне важнае. Гатуюць салаты і захоўваюць іх толькі ў фарфоравым, эмаліраваным і гліняным посудзе.

— Ніна Іванаўна, — з-за краю стала прыўстала чырванашчокая кругленькая, як пампушка, маладзіца, — а як варыць курыныя яйкі, каб добра абіраліся?

— Яйка ўсмятку, калі закіпіць вада, варыцца дзве-дзве з паловай хвіліны, а ўкрутую — шэсць-восем хвілін. Апусціце іх у халодную ваду і тут жа кожнае разбіце з таўшчэйшага боку. Помню, у нас у вёсцы гэтае месца называлі пухой, а вастрэйшае — носікам. Разбілі — зноў апусціце ў ваду. Ваду праз хвілін пяць памяняйце на халаднейшую. Патрымайце хвілін дзесяць. Вось тады шкарлупіна лёгка адлужацца. Але лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць. Перш, чым прайсці на кухню, я вам раскажу, што здарылася ў мяне раніцай дома. Мой Мікалай захацеў раптам пельменяў. Я сама іх раблю. Але самаробныя закончыліся, і я ўчора заскочыла ў маркет, купіла пакет магазінных. Што ж, захацеў — еш! Вада закіпела, пельмені ўсплылі, тры хвіліны — і гатовыя! Як заўсёды, дабавіла на іх масла, а сама пайшла кветкі паліваць. І мой прыўкрасны ў ванне забавіўся, пакуль марафет навёў. Пэўна ж, пельмені астылі. Сеў, пачаў есці, а пасля кажа: «А чаго гэта пельмені халодныя?» — «Дык яны ж сібірскія!» — здагадалася я. — «Не веру», — не паляніўся, палез у вядро, дастаў упакоўку: «І праўда…» Еў і рагатаў. І я разам смяялася. Ну, дзяўчаты, пераадзявайцеся, чакаю вас на кухні.

* * *

У тую зіму, якраз перад Новым годам, павестка прывяла яго ў раённы суд. Як-ніяк Антось надоўга залёг у бальніцу, бо прапаленыя да касцей гарачым лоем кумпякі не надта зажывалі, а погалас аб здарэнні пайшоў па ўсіх блізкіх і далёкіх вёсках. І ўчастковаму прыйшлося скласці пратакол, перадаць справу ў суд.

Ной адзеў новы касцюм, куплены на апошнюю кропку яго жыцця, прычапіў тры ордэны і рад медалёў, а для большай важнасці дабавіў на штрыфлі свайго пільчака некалькі юбілейных значкоў, якія збіраў яшчэ яго сын, і ранішнім аўтобусам пашыбаваў у раённую сталіцу. Яго Наста, як здарылася гэтая прыгода, ціхенька сабрала свае ўборы ў старую валізку і назусім з’ехала да сына і нявесткі ў Маскву глядзець унукаў. Антось качаўся ў бальніцы, як пераказвалі, «ад пупа да кален абкручаны бінтамі». Так што сёння ён, Мікола, адзін у трох асобах: і сведка, і адказчык, і віноўны.

Суддзя, маладзенькае, на яго погляд, дзяўчо, гадоў пад дваццаць пяць, зірнула на кажух і кучомку, што ляжалі побач з «цялесным врадзіцелем», і, як здалося, прыязна ўсміхнулася:

— Сядайце сюды, бліжай, каб я чула вашы адказы.

Ной перасеў, утаропіўся ў маладога лейтэнанціка міліцыі, які складаў на яго пратакол. Каб ні ён, можа б і не было гэтай заварухі, разабраліся б

яны з Антосем потым як-небудзь па-вясковаму… Але… Як ужо ёсць. Назад не павернеш.

Калі пратакол быў зачытаны, выступілі страж парадку, адвакат і пракурор. Суддзя з лагодай — зноў ці не здалося? — зірнула на адказчыка:

— Ці ўсё так было, як напісана ў пратаколе? Можа вам ёсць што дабавіць?

— Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, усё было так, як напісана. Дабавіць няма чаго.

У той час, калі члены суда мінут дзесяць вырашалі ў суседнім пакоі яго лёс, дзядзька Мікола думаў пра заснежаныя яблыні і грушы. Трэба было б на днях абтаптаць снег вакол ствалоў, абрэзаць лішнія галіны на дрэвах, праверыць ядлоўцавую абвязку на маладых чарэшнях і слівах, каб не дабраліся да іх даўгавухія белякі.

Маладзенькая суддзя зачытвала прысуд і быццам насміхалася — а мо яму так уяўлялася? — над пракурорам і засядацелямі. Ён слухаў замудрыя юрыдычныя выслоўі і толькі ўлоўліваў асобныя словы: «… улічваючы пажылы ўзрост… гэты ўчынак зроблены ў стане афекта… прыгаварыць… да аднаго года ўмоўна…»

Ной утрапёна зірнуў на суддзю:

— Мяне што, цяпер і забяруць?

— Вы свабодныя… Можаце ехаць дадому. Пастанову суда мы перашлём па пошце.

Было гэта ў тую памятную зіму, пасля якой ён перастаў есці сала і мяса. Зусім, як адрэзаў.

Цяпер вакол раскашавала лета, буяла і шалела пад дажджамі і сонцам зелень.

Ной забіў апошні цвік у частаколіну, сабраў інструмент і задаволены, што да вечара ўправіўся, сеў на калодку, ацёр рукавом успацелую лабаціну.

Пад’ехаў на грузавой сусед: відаць, і ў яго працоўны дзень закончыўся.

— Што, дзядзька Мікола, дабілі?

— Дабіў, дабіў. Палюбуйся, як пад лінейку!

— Дык мо замочым? А то рассохнецца…

— Яно б не шкодзіла…

— Я толькі памыюся і пераскочу да вас у сад.

Толя зачыніў кабіну, сігануў у кузаў, скінуў на зямлю перавязанае вужышча, падхапіў яго і знік у двары.

Ной занёс інструмент на паграбок, спаласнуў рукі, твар і, не выціраючы, пайшоў да калодзежа. Халодная вада з вядра прыемна халадзіла гарляк, астуджвала нутро. Пасля схадзіў на грады, вырваў некалькі агуркоў, нашчыпаў цыбулі і пятрушкі, абліў іх астаткам вады, прынёс на садовы столік хлеб і соль.

Толя абышоў па пляцы свой хлеў і вынырнуў з-пад навіссі галін Ноевага саду, разлажыў на стале круглыя скрылі паляндвіцы, выняў з кішэні чатыры курыныя яйкі:

— Мой бацька, таксама шафёр, некалі гаварыў: «Чарка — як тая салярка з дабаўкай газу. Крыві трэба прагон час ад часу».

— І мой любіў паўтараць: «Абед без чаркі — і сыта, і ў жываце набіта, і ўдзячна, ды не вельмі смачна».

Ной наліў самагонку ў гранёныя стограмоўкі:

— Ну, давай, каб не рассохся і не хутка згніў!

— За новы плот! — не адстаў ад дзядзькі Міколы, кульнуў сваю чарку Толя.

Вечар, мякі і лагодны, няўзнак апусціўся на зямлю. Схлынула задушлівая спякота, выясніліся ў прагалах галін нябесныя агеньчыкі зорак. І толькі запоз-

нены бразгат вядра ў калодзежы, апошні рык толькі што падоенай каровы нагадваў ім, што спрацаваная, стомленая вёска памалу засынае пад мігатлівым крылом вечнасці, аддаляючыся ад сённяшніх людскіх клопатаў.

Другая чарка трохі задурыла галаву. Відаць, дзень без абеду не даў арганізму таго грунту, на які можна было смела ўліць і дзве шклянкі першаку, як некалі, не надта хмялеючы. Дзядзька Мікола налягаў на цыбулю з хлебам, раз-пораз умінаў, як конь, разлапістыя галінкі пятрушкі. Толя распраўляўся з падвяленымі скрылямі паляндвіцы, не ўгаворваў дзядзьку Міколу пакаштаваць самае далікатнае свіное мяса, бо ведаў, што той усё роўна адмовіцца.

— Дзядзька Мікола, а рыба — гэта ж таксама мяса…

— Э не, браток… Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, рыба — гэта нябесны прадукт. Яна — у падтрымку чалавечых касцей і жыцця. А мяса тое, якое мы ў хляве трымаем, для згубы, для атручвання арганізма і росту жывата. Хоць мой дзед і казаў: «Усё палезна, што ў рот палезла».

— А некалі ж і вы елі… — Толя храбуснуў агурок, абмакнуты ў соль.

— Дурны быў, таму і еў. А перастаў — як на гадоў дваццаць памаладзеў. Пэўна ж, падгледзеў ты, як ка мне кабеты ў прыцемку ходзяць? Па чарзе…

— Бачыў… Але ж грэх вялікі гэта, пралюбадзейства.

— Шансавуму інструменту змазка патрэбна, бо заржавее. А целу — найвышэйшы ціск і слодыч, бо закісне. Баба, браток, як грамаадвод: не ўвядзеш у яе свае токі, беды, стому — сам спапялееш. Ды і без мужоў яны… Ім таксама лякарства мужчынскае трэба. І ласка… Хоць грубая, але каб абняў, да цела дакрануўся, слова харошае сказаў. Усё ласку любіць. На тым прырода і жыццё аснована.

— Дзядзька Мікола, а вы ў Бога верыце? — Толя перастаў жаваць, утаропіўся ў худы Ноеў твар.

— З Богам усё проста. Калі ты верыш, што ён ёсць, — ён ёсць, а не верыш — значыць, няма! У кожнага свой Бог. Бачыў жа, як тыя, што некалі цэрквы руйнавалі, цяпер перад абразамі жагнаюцца, паклоны б’юць. Ты верыш, што яны от так, мамянтальна, перарадзіліся? Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, калі заўтра начальства ад Бога адвернецца, то і яны перастануць маліцца.

— Што праўда, то праўда.

— Усё: травы, звяры, птушкі, як і чалавек, нараджаецца, расце, цвіце, выспявае і памірае. Замыкаецца адзін круг — пачынаецца другі. А бяссмерце ў тым, якую ты памяць пасля сябе пакінуў.

Дзядзька Мікола глядзеў у неба, на бясконцы рой зорак Млечнага Шляху, вярцеў у руцэ каліва пятрушкі:

— Не веру я, як навука кажа, што сусвет не мае канца. Ніяк у маёй галаве не ўкладваецца такое. Ёсць нейкая сувязь між планетамі, ёсць нейкія законы, якіх мы пакуль не ведаем. Яны і кіруюць Зямлёй, вядуць яе па сваіх правілах. А мы, як пылінкі, трапечамся, лютуем і радуемся, высмоктваем з зямлі ўсё, на чым яна трымаецца, каб паскорыць канец. У мяне Бог — прырода. От у яе я веру.

* * *

Вясна абрынулася на зямлю раптоўна, гарачым сонцам за некалькі дзён растапіла зляжалы снег, ручаіны, як ашалелыя, уз’ярана несліся з пясчаных узгоркаў у прызамкавае возера, падалі між выдмаў у набрынялую Ушу. І рака, заціснутая вадою спадыспаду і зверху, не вытрымала, трэснула, уздыбіўшы груваслкія крыгі. За які тыдзень разводдзе ўтаймавалася, сплыло ў Нёман.

А сонца паліла, ажыўляючы мурагі аксамітавай травою, аздабляючы надрэчча пухнатымі коцікамі вербалозаў. І калі б неба было літасцівым, паслала на зямлю хаця б пару зацяжных залеў, уся б гэтая пекнасць і хараство яшчэ больш бы ўвабралася ў сілу, забуяла б, закрасавала лугамі і ўзлескамі кветак. Але дажджавыя хмары ці то засердавалі, ці то недзе зблудзілі, абмінаючы нясвіжскую зямлю. І тое, што так хораша рынулася ў рост, пачало памалу марнець, блякнуць, губляць сваю вабнасць і раскошу.

Травень таксама не прынёс збавення. Невыносная спёка струменіла мроіва паветра над памялелым возерам, там-сям кранаючы жаўцізной засмяглыя лісткі на разлапістых галінах прызамкавага парку, задушнай сухменню мучыла палі і лугі. Зрэдчас па шляху праязджаў здарожаны вершнік, быццам уцякаючы ў замак ад сонечнай мітульгі і нясцерпнага пекла. Пыл, узняты капытамі стомленага каня, доўга асядаў на гарачы пясок і пабурэлае ўсполле. Ад спёкі не ратавалі ахаладжаны квас і адвары траў. Прыслуга часта тоўпілася ля калодзежа, нагбом п'ючы з драўляных конавак сцюдзёную ваду. Акаванае дубовае вядро не паспявала ныраць у зацемак падземнай крыніцы, выносячы наверх пялёхкую прахалоду.

У Нясвіжскім замку пяты дзень грымеў баль. З вяндлярняў і скляпоў прыслуга насіла для застолля прыгатаваныя прысмакі, свае і заморскія віны і настойкі. Дзень і ноч дымілі печы княжай кухні: смажылі, тушылі, варылі, пяклі паляўнічыя і рыбацкія ўловы. Галоўны кухар не ведаў літасці, ганяючы сваіх памочнікаў у кладоўкі і лядоўні. Данілка, шустры і кемлівы хлапчук, лавіў кожны ўзмах рукі і ківок кухара і тут жа вопрамеццю нёсся ў падзамкавыя скляпенні. Стомлены, ён хацеў спаць, але баль доўжыўся і прыхваткам драмануць дзе-небудзь не было мажлівасці.

Князь Радзівіл, п'яна ікнуўшы, устаў, асалавела зірнуў на прыгажуню Марысю:

— Мы без жанчын — пні ў лесе. А з імі — магутныя і здольныя на любыя гераічныя дзеі. Хай славіцца род жаночы вечна!

— Віват, віват! — падтрымалі захмялелыя госці.

Пекная Марыся сарамяжліва пачырванела, але злёгку прыўзнялася і адбіла князю паклон. Яна толькі што вярнулася са сваіх пакояў, замяніўшы тэракотавае на цёмна-бардовае плацце з тафты з прарэзанымі рукавамі-буфамі, упрыгожанымі тоненькімі складачкамі, сцягнутымі пацеркамі і плеценымі палоскамі. Шлейф і карсет, вышыты бісерам і шоўкам, аздоблены залатымі лісцікамі, яшчэ больш падкрэслівалі статнасць яе вытанчанай постаці. Разгарачаная ад танцаў,順ншу і невыноснай спякоты, яна бліснула на Радзівіла лёгкай усмешкай:

— А ці помніць шаноўны князь, што абяцаў на санях правезці нас? А снегу няма…

Радзівіл страсянуў магутнай галавой, быццам адганяючы п'янае ачмурэнне:

— Я абяцаў? Снег і сані… Значыць будзе! Падчашы, ка мне!

Падчашы ўслужліва падляцеў, схіліўся да князя. Радзівіл паўхвіліны шаптаў яму нешта на вуха, пасля адпусціў.

Назаўтра раніцай некалькі лоўчых, з дзясятак гусараў пад наглядам гетмана конна рванулі ў Смаргонь. Шчодра заплаціўшы залатнікамі ў мядзведжай акадэміі, прывезлі чатырох трохгодак, ручных, многа чаму вучаных. Цяпер толькі засталося падагнаць вупраж да княжых санак. Але гэта было не самым цяжкім.

Мядзведзі для Радзівіла, празванага «Пане Каханку», былі больш любімымі, чым выжлы. Іх доўга вучылі з маленства, песцілі і добра кармілі. Але за гэтай пяшчотай заўсёды таілася і строгасць, бо дзікі звер, такі магутны, як мядзведзь, мог у любы момант не паслухацца чалавека, паказаць яму шалё-

ную сілу валасатых лапаў з кіпцюрамі і смяротную хватку клыкастай пашчы. І мядзведзі гэта адчувалі, хутка пераймалі людскія прысмешкі. Князь бачыў, як адзін з іх танцаваў і куляўся, а пасля свайго прадстаўлення збіраў з цікаўных разявакаў грошы ў капялюш. Другі ж хітры завалень мог перакрывіць паненку, што збіралася на спатканне, ператварыцца ў п’янага мужыка ці ў гарбатую бабку. Яны жылі ў жалезных клетках побач з княжай стайняй. Адкормленыя коні, пачуўшы звярыны рык, спалохана стрыглі вушамі, кідаючыся на драўляныя загарадкі. Не, гэта былі не бяздомныя бадзягі і рана ўзнятыя з бярлогі валацугі. Радзівілаўскія мядзведзі не агрызаліся, паслухмяна цягнулі сані з вясёлым Пане Каханку да багатага суседа ці на кірмаш. Яны, ручныя, ласыя на смачны пачастунак, калолі дровы, вялікімі цэбрамі цягалі на кухню ваду з калодзежа, насілі гасцям прыладкаваныя падносы з пуншам. Ніколі не забыць яму, прыроджанаму смехатвору, той паездкі з мядзведзямі на сейм у Варшаву. Мядзведжым галопам падляцелі яны да ратушы. Спуджаныя коні, устаўшы на дыбкі, рвалі пастромкі і ламалі экіпажы, калечылі сваіх вазніц. Эфект быў ашаламляльны. Пыхлівыя засядалы з крыкам і абурэннем павыскоквалі з дзвярэй, але Радзівіл уладарна павёў рукой: «Плачу за ўсё!» Што яму да караля з задрыпанай шляхты, да пакалечаных і пабітых? Хай радуюцца, што будуць лячыцца за яго кошт. А пачнуць выдурняцца, клясці і наракаць, помста будзе больш жорсткай, як тады, калі княжыя гусары перакрылі ўсе дарогі да Варшавы, скупляючы ўсё ядомае. Галоўная сталіца загаласіла. На трэці дзень князь загадаў падагнаць вазы з дарэмным правіянтам на галоўную вуліцу. Сам жа з балкона глядзеў, як кулакамі адваёўвалі паны і падпанкі, іхняя чэлядзь дармавыя пачастункі. Глядзеў і рагатаў: «О пся крэў! А трасцу вам!» Але гэта было ўчора, а заўтра…

Як звечарэла, з падзямельных сальніц прыслуга і паднявольныя сяляне пачалі вывалокваць бочкі з бялюткай соллю, грузіць іх на валакушы. Здаравенныя коні-ламавікі цягнулі валакушы на дарогу, што ішла да Альбы — лецішча Радзівілаў. Мужыкі выварочвалі бочкі, роўна разграбалі соль дошкамі.

Месяц здзіўлена глядзеў з неба, як між прысад, каля прыгожых альтанак і кветнікаў, ля каналаў і дзівосных скульптур, па карункавых мастках клалася снежная дарога. Колькі ж солі трэба было ўлажыць на вярсту, каб вярнуць уяўнасць толькі што мінулай зімы? Ніхто не лічыў. Толькі змардаваныя сяляне суха каўталі сліну, напалоханыя пагрозай катавання і страхам папярэджання ўкрасці жменю солі.

Раніцай дарога, бялюткая, іскрыстая, быццам кужальны ручнік, чакала радзівілаўскіх гасцей. І яны, добра выспаўшыся, у сініх накідках, падпяразаных чырвонымі паясамі, выйшлі з замка, усё яшчэ не верачы княжаму абяцанню. А Пане Каханку ў чырвоным кунтушы махнуў доўгім адкідным рукавом у бок брамы:

— Падаць сані!

Вяльможныя госці ахнулі: да брамы па саляной дарозе пад’ехалі сані, запрэжаныя парай мядзведзяў.

— Прашу садзіцца! Краса мая Марыся, сюды, побач са мной!

Марыся прыўзняла ніз блакітнага хітона, паказаўшы на міг вабныя ножкі, нясмела ступіла ў сані. За ёй палезлі іншыя госці. Другая пара мядзведзяў пад лейцамі звераглядаў спынілася побач. І іх сані хутка запоўніліся. І трэцяя пара мядзведзяў праз міг стаяла ля брамы…

— Ну, з богам! — галёкнуў князь і штурхнуў у плячо дрэсіроўшчыка. Той тыцнуў паплецінай у спіны мядзведзяў — сані паехалі.

Збоку шляху стаялі прыгонныя, махалі вярбовымі галінкамі і крычалі: «Слава князю!» І гэты жывы, мігатлівы ад галінак, крыклівы калідор нагадваў

пушчанскім нявольнікам паляўнічую аблогу, калі іх, малых, выпаралі, вытурылі з бярлогі, разлучылі з маці-мядзведзіцай. Яны раўлі, але сані цягнулі.

Альба даўно чакала мядзведжую фацэцію. Доўгі стол з тонкімі дубовымі ножкамі ледзь вытрымліваў глыбокія падносы з заліўнымі сцерляддзю і асятрамі, злоўленымі ў Дняпры і Прыпяці. Вялікія шкляныя жабы, напоўненыя півам, здаецца, лупацілі свае ярка маляваныя зрэнкі, сустракаючы гасцей. Вычварныя бутэлькі і гарлачы з дарагімі заморскімі вінамі звысака аглядалі засмяглыя келіхі. Тры высозныя шматслойныя пірагі з мядовымі вежамі, упрыгожаныя брусніцамі, суніцамі і малінай, угіналі сярэдзіну стала. Той, хто не бачыў, як выраслі гэтыя пшанічныя цуды, мог толькі здзіўляцца ўменню і майстэрству радзівілаўскіх пекараў. А яны, перш чым запусціць у нагрэтую духоўку будучую казку, цэлую ноч укладвалі між пульхнага цеста гусіную пячонку, адваранае мяса перапёлак, фазанаў і зайцоў, філе качак і курэй, нарэзаныя палоскамі грыбы і кубікі вэнджанага мяса дзічыны. Гэта было не простае мяса, наспех прыгатаванае пасля палявання. Вытрыманае ў расоле з гадзючай цыбуляй, палыном, баркуном і лістам чорных парэчак, яно вэндзілася ў дыме альховых і арэхавых галінак з дабаўкай дубовага прэлага лісця. Такія, у дзесяць слаёў, пірагі быццам раставалі ў роце і смачна запіваліся прахалодным журавінным морсам. Ці ж яму, Радзівілу, забыць той пірог з сюрпрызам — салаўінае малако. Тры дні выштукоўвалі яго княжыя ўмельцы. Узбілі бочку вяршкоў, дабавілі пуд марцыпанаў, два пуды крэму для прыгажосці. Атрымаўся торт на заглядзенне і заняў паўстала. Высокі, з крэмавымі домікамі, садамі з марцыпанаў, ён быццам прыехаў з самой прыроды. А пасярод з блакітнай глазуры красавалася возера з белымі лебядзямі. Аркестр грымнуў туш, і князь нажом падчапіў верх блакіту возера. Раптам адтуль, адчуўшы волю, выпырхнуў з дзясятак сапраўдных салаўёў. Перапалоханыя ад жаночага віску і крыкаў, яны насіліся па зале, гадзілі на вытанчаныя плацці і сарафаны гасцей, на пекныя краявіды торта, пакуль нехта не здагадаўся адкрыць шырокія вокны. А Радзівіл рагатаў, задаволены сваёй выдумкай…

Але сёння ў выязной фацэцыі не было падвоху, бо рабілася ўсё гэта дзеля адной — выкшталцонай Марысі.

Калі застолле трохі захмялела, слугі прынеслі на прадаўгаватых фарфоравых ладзейках гарачую крывянку, напоўненую пахучым печывам з грэчкай, скваркамі і падсмажанай цыбуляй.

Гладышы і бутэлкі мялелі, замяняліся новымі, галовы пітакоў кружыліся, а галасы станавіліся гучнейшымі. Нарэшце расчырванелы Радзівіл хістка падняўся:

— Дарагія госці, досыць! Едзем назад, у замак!

Цяпер ужо са смехам госці садзіліся ў сані. Гусары разганялі сялян, каб тыя не бралі з дарогі соль. А Данілка хітра глядзеў на крывую вярбу, у дупле якой ляжала палатняная торбачка з соллю, перамешанай з пяском. Гэта — ім, бацькам, калі вернецца ён дадому.

* * *

— Я сёння ў вас апошні раз. Ніна Іванаўна даверыла мне самае цяжкае — расказаць пра шашлыкі.

— О, гэта нашы мужы любяць… — весела загулі маладзіцы. — Ды і мы не адмаўляемся…

— Любіце вы, любяць вашы мужы і госці… Няма нічога лепшага, чым пасядзець на прыродзе на дубовай калодзе, ля кастра, паслухаць спевы пту-

шак і прапахнуць дымком. Ды і ўсе справы вырашаюцца лягчэй пасля такіх выездаў. Чарка віна, сакавіты шашлык — і душа адтайвае, шырэе, становіцца дабрэйшай, шчадрэйшай. А палёт думкі дасягае да зорнага неба… Любата!

— Мікалай Іванавіч, — Алёнка адгарнула сшытак, — а можа, гэты дзень на прыродзе правесці?

— Яно б няблага, але цяпер я дам вам тэорыю, а практыку вы пройдзеце пазней, без мяне. Дамовіліся?

— Шкада, ды няхай будзе так…

— Калі вы пачуеце, што нехта паедзе смажыць шашлык, — не верце: шашлык не смажыцца, а запякаецца. Менавіта ў гэтым адрозненне прыгатавання шашлыка ад іншых спосабаў апрацоўкі мяса. Усякі, хто спрабаваў зрабіць шашлык на адкрытым агні, толькі знеслаўляўся. Мяса ці напалову згарала, ці, захаваўшы знешні выгляд, заставалася сырым усярэдзіне. Жар вуглёў! Нічога іншага для радасці пікніка яшчэ не прыдумана. Можна запячы мяса ў фользе, у рукаве для пячэння, на скаварадзе, але так, як на шампурах на мангале, з дымком, лепш зрабіць нельга. Можа, гэта пайшло са старажытных часоў, ад варвараў — не важна, галоўнае — дайшло да нас. Усе мы трошкі варвары. Але гэта — між іншым. Яшчэ адна памылка — уяўленне аб смаку і далікатнасці толькі-што асвежаванага баранчыка, бычка ці падсвінака. Усё гэта апісана ў раманах, відаць, пісьменнікаў-вегетарыянцаў. Цёплае мяса ў першыя гадзіны пасля забою — нясмачнае, жорсткае і непахучае, незалежна нават ад «маладосці-старасці». Таму лепш даць яму, як кажуць, выспець на працягу хаця б васьмі гадзін. Вось тады можна тачыць нажы і несці дровы. Тут яшчэ хаваецца адзін падман. Калі вы ўбачыце на каляровай фатаграфіі шампур з апетытнымі кавалкамі мяса, цыбуляй, памідорамі ці грыбамі, не надта шчыльна сціснутых адзін да аднаго, не спяшайцеся паўтарыць гэтую памылку. Прафесіяналы-шашлычнікі ведаюць, што ўсё цесна нанізанае павінна быць пакрыта тонкімі скрылікамі сала, каб на яго трапіў тлушч. Гэта вельмі важны кампанент. Няпраўда і тое, што вымочванне мяса ў марынадзе — лепшы спосаб насычэння яго сокам. Магазінны шашлык вымочваюць у воцаце для таго, каб забіць непрыемны пах. Добрае мяса не патрабуе нічога, акрамя добрых вуглёў. Марынады, безумоўна, можна выкарыстоўваць, але толькі тыя, якія лёгка засвойваюцца. Напрыклад, гранатавы сок. Або кіслае малако ці сухое чырвонае віно. А для тлустага мяса некаторыя разбаўляюць воцат з простай вадой. Цыбулі не шкадуйце: чым яе больш, тым смачнейшы шашлык. Некаторыя гурманы для надзвычайнага паху дабаўляюць ажгон або індыйскі кмен. Пры жаданні можна пакласці свежую зеляніну. Пакіньце мяса з прыправамі не на гадзіну ці дзве, а на двое-трое сутак, каб духмяны сок ператварыў будучы шашлык у шэдэўр, пасля якога, як кажуць, пальчыкі абліжаш. Крымскія татары — вялікія майстры па шашлыках. Яны вымочваюць мяса толькі ў кіслым малацэ з цыбуляй і ажгонам. Грузіны, між іншым, аддаюць перавагу мясу з гавядзіны. Грузінскі шашлык называецца мцвадзі і запякаецца з цэлай выразкі. Другі варыянт — бастурма. Вось гэта якраз марынаваная выразка. Туркі і азербайджанцы для свайго кебаба выбіраюць кавалкі маладой бараніны з рабрынкамі і храсткамі. Марынадаў не прызнаюць, мяркуючы, што харчавацца трэба або свежай ягняцінай, або заставацца галодным. І ядуць усё з вялікай колькасцю зелені. Для традыцыйнага армянскага шашлыка па-карску кавалкі мяса бяруць грамаў па дзвесце і з іх зразаюць пласцінкі спечанай бараніны. У марынад кладуць рэпчатую цыбулю, прапушчаную праз мясарубку, здробнены лімон, каньяк, молатую гваздзіку, пахучыя травы, перац і пару лыжак віннага воцату. Абавязковае суправаджэнне шашлыка — сухое чырвонае віно або зялёны чай. Толькі яны раствараюць тлушч і мясны сок, не даючы яму

застыць на сценках страўніка і языку. Але я не буду развіваць гэтую тэму, бо ўсё адно мужыкі будуць піць гарэлку. Ці ж не так?

— Так-так, Мікалай Іванавіч. Гарэлку і каньяк, — дружна згадзіліся дзяўчаты. — І піва наверх.

— Дарэчы, заміж абрыдлага кетчупа падайце к гарачаму шашлыку што-небудзь натуральнае, а таму экзатычнае. Напрыклад, гранатавы соус наршараб або вішнёвае варэнне, перамешанае з базілікам і перцам. Або самае простае — кіслае малако з дабаўленым у яго чырвоным перцам, кіндзой і часнаком. Мангалы бываюць розныя. На прыродзе можна скласці яго з камянёў ці з чырвонай цэглы. У майго суседа па дачы ляжыць жалезны вобад з машыны. А ў асноўным цяпер усе возяць у машыне разборны, як чамаданчык, мангал. Шампуры павінны быць з нержавейкі. І не апошняе месца ў прыгатаванні шашлыка займаюць дровы. Ёлка і сасна надаюць мясу пах каніфолі. З бярозы робяць дзёгаць. Яе зрэдку бяруць, калі няма іншага матэрыялу. Чорны куродым ад бярозавых плашак не вельмі падымае апетыт. Асіна забівае не толькі жывыя арганізмы, але і сам агонь. Не дарэмна ж з яе робяць кружкі для бочак з капустай. З асіны вычэсваюць бярвенні для лазні, ладкуюць зруб для калодзежа. Гарыць яна маркотна і няроўна. І вуглі выходзяць такія ж невясёлыя. А самы лепшы матэрыял — пладовыя дрэвы. Абрыкос надае мясу пяшчотны пах і саладкаваты смак. Яблыня — прыўкрасныя дровы для вуглёў. Але яна не дае паху. Сліва выдатна гарыць і дае добрыя вуглі. Яна пахучая, але не такая, як вішня. Варта падкінуць у агонь два-тры вішнёвыя паленцы і мяса напоўніцца цудоўным водарам. Так што на дачы, у вёсцы не выкідвайце, не паліце проста так засохлыя садовыя дрэвы, беражыце іх на шашлыкі.

— Мікалай Іванавіч, а якія шашлыкі гатуеце вы з Нінай Іванаўнай? — перабіла ручаёк гаворкі Алёна.

— Мы разводзім півам сухую гарчыцу, каб атрымаўся марынад, як негустая смятана. Соль і перац — па смаку, цыбуля… Трымаем мяса не менш як суткі. Бывае, свіное мяса, а лепш яго браць з каркавіны, заліваю вадой з лімонным сокам, лёгка прасольваю і пярчу, дабаўляю цыбулю, трошкі мускатнага арэха. Выстойваецца ноч. Яшчэ адзін смачны марынад: таматны сок. Цыбуля, соль, перац — па густу, спецыі — па жаданні. Ад таматнага соку мяса марынуецца хутка. Сяды-тады шашлык раблю так: соль, перац і цыбулю сыплю на мяса і заліваю ўсё нятлустым кефірам. Мая палавіна любіць курыны шашлык. Усе кампаненты такія ж, толькі дабаўляе ў трохлітровік пакет маянэзу і залівае вадой. Кожныя тры гадзіны слоік трэба ўзбоўтваць. Выходзіць смаката! А вось сусед па дачы залівае мяса мінералкай. Я, праўда, не каштаваў, але, як ён кажа, за каршэнь не адцягнеш.

— Нагналі вы нам апетыту, Мікалай Іванавіч! — загарнула сшытак Алёна. — Лепш адзін раз з'есці, чым сто разоў чуць.

— Што ж, прыемна есці! Праз хвілін дзесяць вас падхопіць Ніна Іванаўна.

* * *

Пасля доўгай засухі задажджыла. Хмары нізка несліся над Нясвіжам, здаецца, чапляючыся кудзелістымі барадамі за вежы замка, рвалі свае чорныя космы, вывяргаючы на згаладалую і засмяглую зямлю патокі вады. Маланкі з грымотамі сышлі ў першы дзень, быццам расчышчаючы хмарам дарогу. Дождж то мацнеў, то схлынаў, але нябеснае сяйво ні на хвілю не мела пярэрвы.

Радзівіл аж шалеў ад нуды, не ведаючы, куды дзець сябе. На другі дзень спусціўся са сваёй спальні ў канюшню, хадзіў між стойлаў, гладзіў грывы лепшых коней Рэчы Паспалітай. Ці ж не яны, дагледжаныя і выпешчаныя, прывезлі яму са скачак сотні дукатаў? Яны, радзімыя… Хлеб, услужліва пададзены конюхам, бралі з княжых рук далікатна, кранаючы халоднымі пысамі пульхную далонь…

За дажджамі неўпрыкмет накоціць сумная восень, а за ёй з сіверам і снегам нахлыне зіма, завые ваўчынымі вятрамі, закругаверціць белымі змеямі мяцеліц… Ох, як далёка яшчэ да новага года!

Князю ўспомніўся мінулы год, які госці сустракалі раскошна і п’яна, бабахалі са стрэльбаў і гармат. Радзівіл умеў здзівіць просты люд незвычайнай фацэцыяй. А перад раз’ездам гасцей была бяспройгрышная латарэя. Са ста квіткоў дзевяноста значылі выйгрыш. Пане Каханку тады не паскупіўся: аддаў у выйгрыш два сялы, фальварак, трох лепшых коней, дзве стрэльбы са збройнай залы, сем карцін з галерэі і вядро дукатаў, з якога шчасліўчыкі бралі сабе прыгаршчы, ды і шмат іншага, дарагога і памятнага. Але колькі рогату было з тых, каму трапляў квіток з надпісам «дуля». А дулі няшчасным пад смех і свіст давалі ў нос самыя прыгожыя паненкі. Дулі, купленыя за свае залатнікі. Калі ж хто выцягваў малюнак пеўня і лез пад стол, шляхта пакеплівала над гэтым «кукарэку» асабліва доўга. А квіток з надпісам «розгі» сустракалі амаль са здзекам. Таму і латарэя раскуплялася не вельмі ахвотна. Але хапала яго, уладарнага княжага кіўка, каб ніхто не адмовіўся, ухіліўся ад выйгрышу, шчодрага ці бясслаўнага…

На трэці дзень залева супыніліся, звеялася мокрае сяйво, аціх вецер. Радзівіл сядзеў ля каміна, задумліва глядзеў на языкатыя пасмы агню. У дзверы пастукалі, перабіўшы вярэдлівыя думкі.

— Што?

— Княжа, прыйшоў ксёндз, хоча перапіць вас…

— Мяне? Ксёндз? — Радзівіл рэзка ўстаў. — Пітво — у сенную! Лепш быць упітым, чым забітым.

У замку, з боку выязной брамы, быў невялікі пакой, поўнасцю заслаланы сенам, а па ім пакрыты дываном. Пасярэдзіне стаяў стол, па вуглах сцен туліліся падушкі.

Пасля таго, як Радзівіл кінуў кліч па ўсёй Беларусі, Літве аб умове перапіць яго, знайшлося пару задрыпаных ахвотнікаў. Але ці ж маглі яны вытрымаць спрэчку з магутным сябрам Бахуса? Глыкнуўшы кубкаў пяць, звычайна піток мякка асядаў ля стала. Слугі волакам адцягвалі яго на падушку. А князь, выжлукціўшы яшчэ адзін кубак, расказваў пра славутага палкаводца Аляксандра Македонскага, які пасля вялікіх перамог ладзіў перапіцце між трохсот воінаў. Гэта былі не гладыятарскія баі, але зыход быў амаль такі ж: сто пяцьдзясят падалі задоўга да фіналу, шэсцьдзясят захворвалі і заставаліся калекамі, сорак чатыры паміралі перад фіналам, трыццаць дзевяць — пасля, шэсць з’язджалі з глузду. Заставаўся адзін — пераможца. І калі верыць князю, то гэта быў яго далёкі продак.

Бернардзін манастыра нагадваў два шары: цела, круглае і невысокае, на двух маленькіх нагах, трымала круглы шар галавы, якую поўнасцю займала лысіна. Як качка, ён ураскірэку зайшоў у сенную, скінуў плашч.

На стале ўзвышаўся ёмкі графін старкі, ля яго стаялі кубкі, побач ляжалі два галандскія селядцы і два акрайцы хлеба. Гэта — першая і апошняя закусь. Потым — толькі віно, з пограба, венгерскае.

Радзівіл спачатку з усмешкай углядаўся ў нечаканага саперніка, але пасля дзясятага кубка, калі ў вачах пачалі расплывацца абрысы круглай галавы, п’яна падумаў: «Гэты — можа…»

Слугі, упэўненыя ў перамозе князя, чакалі канца выпіўкі, зіркалі на святара. А той раз-пораз выціраў буйныя кроплі поту на галаве і, здаецца, не хмялеў.

Пасля дванаццатага кубка Радзівіл цяжка асунуўся на дыван, моцна зашчаміўшы ў руцэ пусты кубак. Так і застаўся ён ляжаць да раніцы, перапіты і мёртвы…

Данілка, калі пачуў гэтую вестку, рашыў уцякаць з замка. Похапкам укінуў у торбу бохан хлеба, загарнуў у льняную анучку востры нож з казінай ручкай, паклаў яго на самае дно.

Стража на пад'ёмным мосце ведала хлопца і ўсё ж спытала:

— Куды?

— У Альбу… Туды і назад…

Данілка мінуў паварот, кустамі вярнуўся да крывой вярбы, дастаў з дупла торбачку з соллю, укінуў у сваю, лёгка выдыхнуў: «Усё, к Нёману!»

Прызамкавыя лясы і пералескі ён трохі ведаў, бо даводзілася са світай і абозам ехаць сюдою ў час палявання. Таму ішоў лясной дарогай упэўнена, трымаючы кірунак на ўсход. Недзе там — Нёман. А ўверх па ім — роднае сяло. Толькі ён не пойдзе дахаты, а ноччу заявіцца да цёткі, на далёкі хутар. Там і перачакае, пакуль у замку аціхнуць хаўтуры. Ды і хто будзе шукаць яго, калі можна замяніць дзясяткам такіх жа? І ўсё ж… А раптам накоціцца пагоня?

Вечарам ён сышоў з лясной сцежкі, узбіўся на разлапісты дуб, дастаўшы нож, адрэзаў галіну, павесіў торбу на сук. Ноччу ісці было боязна, бо мала які звер мог пераступіць дарогу.

Ноч амаль не спаў, бо, прытуліўшы галаву да ствала, засынаў і раптам прахопліваўся, баючыся рынуцца ўніз. А раніцай, калі неба добра заружавела, злез з дуба і пайшоў далей. Узлесак закончыўся і за ім, як кінуць вокам, расцілаўся луг. Перавязаўшы боцікі паскам, перакінуў іх на плячо, закасаў калашыны палатняных штаноў і пашыбаваў па ўраселай траве на далёкія кусты: «Там, відаць, Нёман…» Праз гадзіну Данілка дабраўся да алешніку і ўбачыў раку. Яна, атуленая кустоўем, каламутна цякла ў далёкае мора. Яшчэ раз агледзеўся назад, на луг, і сполах прабег па яго целе: на ўскрайку лесу ехалі коннікі. Хуценька кінуў убок боты, сігануў пад бераг, капануў рукамі пясок пад куп'ём, запхнуў торбу ў зробленую нару, загроб пяском і загладзіў рукавом. Хуценька вырваў трыснёг, адарваў трубку даўжынёй з руку, выглянуў з-за куста. Вершнікі ехалі па яго слядах. Прымятая сцежка травы была добра відаць на лузе. Данілка асцярожна ўлез у ваду, праплыў метраў дваццаць уніз да раскідзістага лазовага куста, затаіўся ля яго. З берага не ўбачыш, але ўсё-адно трэба берагчыся.

Вершнікі даехалі да берага, спыніліся.

— Пераплыў ці, можа, утапіўся?

— Бачыш, боты кінуў…

— Забяры, пакажам у замку…

Данілка набраў у грудзі паветра, узяў у рот трасцінку, апусціўся пад ваду. Дыхаць праз рот цяжка, але ён цярпеў. І толькі тады, калі кроплі вады пачалі прасочвацца праз губы, асцярожна выглянуў. Галасоў не было чутна. Пасядзеўшы яшчэ трохі, прыўстаў вышай і праз лазняк убачыў, як вершнікі па тых жа слядах едуць к лесу. Ён вылез, адкапаў торбу, скінуў штаны і сарочку, выкруціў, павесіў сушыцца.

Нёман для яго быў родным і дарагім. Бацька круглы год лавіў рыбу, каб пракарміць вялікую сям'ю. Пасля разводдзя рыба перад нерастам добра жыравала на заліўных лугах. І яе, калі паводка ўтаймоўвалася, можна было выграбаць невялікімі лазовымі браднікамі з лагчынных канавак. Летам дзве-тры вуды ратавалі ад галадухі. А ў лясных азярынах і старыцах можна было

кінуць пару венцяраў, куды заплывалі карасі і ліны, запаўзалі клюшнястыя ракі. Зімой бацька ля мелкага берага прасякаў прадуху, і рыба перла ў палонку глынуць паветра. А плаваць і ныраць, як і ўсе хлапчукі, Данілка навучыўся ў гадоў пяць. Ды і рыбачыць умеў добра.

Нёман песціў голае цела, зваў у цёплыя воды. Данілка скруціў адзенне, узяў яго ў левую руку, узняў над вадой і лёгка паплыў на другі бок. Пераплыўшы, паклаў зрэбныя ўборы ў алешнікавы куст, трохі перасоп і вярнуўся назад. Торбу з хлебам і соллю ён трымаў над вадой двума рукамі, плывучы на спіне, таму і сагнала яго цячэнне трохі ўніз. Але гэта бядой не было, галоўнае — не замачыў соль. Прадзёршыся праз зараснікі аеру і чароту, выйшаў да першага пераплыву, адзеўся ў сухое і пашыбаваў у надрэчны лес. Што чакала яго наперадзе — аднаму Богу вядома.

* * *

Курсанткі сёння не ведалі спачыну, круціліся як заведзеныя. Стукалі нажы, дробнячы агародніну, упэўнена адбівалі кавалкі мяса малаточкі, гулі, глытаючы пару, выцяжкі. Дзяўчаты, папраўляючы касынкі, сёння стараліся асабліва: кожная гатавала сваю любімую страву. Андрэй бачыў, як завіхалася Алёна, чаравала над каляровай міскай. Сцягнутыя валасы ў хвосцік, белы невысокі каўпак прыдавалі ён выгляд змыслай прыгожай дзяўчынкі, якая стараецца, каб дагадзіць сваёй маме. Час ад часу і Алёна зыркала на яго, заціснутага ў куток да крайняга стала. Андрэй гатаваў філе рыбы, простае і хуткае. Ён раскруціў шэсць крабавых палачак, на кожную палажыў па два кружочкі салёнага агурка, на іх — па шчопаці цёртага галандскага сыру. Кожную палачку навяршыў на падсоленае і крыху падперчанае філе, загарнуў з двух бакоў, а каб не раскрывалася, закалоў краі рыбы трыма зубачысткамі. Кожны кавалак акунуць ва ўзбітае яйка, памачыць у муку — і на скавараду. Сем-восем хвілін з аднаго боку і столькі ж з другога. Рыба смажыцца хутка.

Ніна Іванаўна пераходзіла ад аднаго стала да другога, нешта падказвала, задаволена ўсміхалася. Відаць, бачыла, што гэта былі не тыя, баязліва-сарамяжлівыя курсанткі, а цяпер ужо вопытныя, упэўненыя ў сабе гаспадыні.

Праз гадзіны дзве доўгі стол у зальчыку быў раскошна застаўлены ўсім тым, што прыгатавалі дзяўчаты. Між талерак і салатніц узвышаліся пакеты з рознымі сокамі, пластмасавыя бутэлькі з мінералкай. Ніна Іванаўна, разгарачаная, чырванашчокая, у яркай крэмава-жоўтай накідцы, гаспадарліва агледзела стол:

— Ну, дарагія, прысаджвайцеся. Паспрабуем тое, што вы сатварылі, адзін аднаго пачастуем.

Андрэй пачакаў, пакуль усядуцца дзяўчаты і прымасціўся з краю стала. Неяк у гэтай спешцы і суматосе не заўважыў, што насупраць села Алёна, пасля кухні асабліва прыгожая і, як здалося, нейкая таямнічая.

Дзяўчаты дружна частаваліся стравамі, прыгатаванымі суседкамі, перадавалі ім свае. Нешта спрабавала Ніна Іванаўна, хваліла. Многія запісвалі ў сшыткі тое, чаго не ведалі, але што ім здалося смачным.

— А ці можна кавалачак? — Алёна нечакана звярнулася да Андрэя.

— Калі ласка! — ён прыўзняў талерку з філе, перадаў Алёне. Не заўважыў, як ззаду падышла Ніна Іванаўна:

— І я хачу пакаштаваць, што спёк шаноўны спадар.

Алёна першая праглынула кавалачак рыбы з начынкай і голасна ўсклікнула:

— Смаката!

Ніна Іванаўна, пакаштаваўшы, адобрыла печыва:

— Ну-ну, адкрый усім свой сакрэт.

Андрэй устаў, расказаў, як робіцца філе з крабавымі палачкамі. А сеўшы, убачыў на сваёй талерцы кавалак адбіўнога мяса. Вочы Алёны кіўнулі: «Паспрабуй і маё…»

Праз гадзіны тры парад любімых страў быў закончаны. Наедзеныя і задаволеныя, дзяўчаты пачалі разыходзіцца. Алёна, не саромячыся жартаўлівых позіркаў, падышла да Андрэя:

— Ці магу я папрасіць вас?

— Пэўна ж…

— Сумку сяброўцы трэба адвезці. А яна — цэлы пуд. Сюды на таксі прывезла.

— Просьба дзяўчыны — закон, — усміхнуўся Андрэй.

Сумка сапраўды была цяжкая. Яны неслі да тралейбуса ўдваіх. Пытаць, што там, было няёмка. Таму ішлі паволі і моўчкі. На прыпынку Андрэй перахапіў другую ручку, занёс у тралейбус.

Дом сяброўкі Алёны быў ля самага канечнага прыпынку. Людзей на вуліцы было мала, толькі маладыя парамі час ад часу перасякалі дарогу. Сонца закацілася за шматпавярховікі мікрараёна, паволі хілілася на вечар. «Тралейбусы да гадзіны ночы ездзяць. Паспею вярнуцца…»

Кватэра была на першым паверсе. Алёна дастала ключы, шчоўкнула замком:

— Смялей, смялей заходзь. Дома нікога няма.

Андрэй паставіў сумку ў прыхожай, збянтэжана стаяў ля вешалкі…

— Вялікі дзякуй у кішэню не пакладзеш. Таму, калі ты не супраць, я цябе пачастую.

— А гаспадары?

— Сяброўка адна. Яна да маці паехала.

— А ты, а муж твой?

— І майго дома няма, у Турцыю па тавар паехаў, — Алёна скінула туфлі. — Ды што мы стаім? Праходзь у залу.

Андрэй скінуў красоўкі, прайшоў у залу, асцярожна сеў на скураную канапу. Акно залы выходзіла на дзіцячы садзік. На клумбах перад тратуарам цвілі кветкі, кусціўся бэз.

Алёна прыставіла маленькі столік, збегала на кухню, прынесла пляшку каньяку, талерку з нарэзанымі скрылямі паляндвіцы, салат з памідораў. «І калі яна паспела прыгатаваць гэта?» — падумаў Андрэй, але не стаў распытваць.

— Ну, Андрэй, вып’ем за нас, — Алёна падняла прыгожы крыштальны келіх.

— І за Ніну Іванаўну, — дабавіў Андрэй.

— Дай бог ёй здароўя!

Каньяк быў моцны, але, відаць, тое, з’едзенае на курсах, не дало ашаламіцца, млява расслабіцца. Праўда, вочы Алёны заблішчалі яшчэ больш. Яна, добра не закусіўшы, зноў напоўніла келіхі:

— Давай, Андрэй, вып’ем за лета. За лета жыцця. Жыццё — як поры года. Няхай жа не хутка прыходзіць восень, а тым больш зіма.

Выпілі і не закусілі. Ці Алёніны словы наклікалі нейкі роздум, а мо жаль па тым, што лета некалі пройдзе, праміне і ніколі не паўторыцца. Будзе праз год новае лета, але іншае, не такое, як цяпер…

— Андрэй, пацалуй мяне….

Ён чакаў гэтага, але хлапечая сарамяжлівасць стрымлівала: як-ніяк, а замужняя…

Моцна прыгарнуўшы, ён цалаваў яе губы, шчокі, вочы. І яна, як ашалелая, абвіла яго шыю, не пярэчыла пальцам, якія перабіралі гузікі яе блакітнай блузкі, дабіраючыся да пругкіх грудзей.

Вечар накрыў горад, запаліў вокны шматпавярховікаў. Ля дзіцячага сада ўспыхнуў ліхтар, кінуўшы ў залу касыя палосы бляклага святла.

— Хачу цябе, хачу… — Алёна зняла з яго футболку, скінула свае джынсы. Быццам фея, стаяла яна ў беленькіх трусіках, як на астраўку яго жадання, забароненага і грэшнага.

Андрэй прагна абняў яе цела, і апошняя перашкода, як белая чайка, пераляцела на крэсла.

Ён адчуваў, як трымцела яна ад яго разгарачанай жарсці, стагнала ад слодычы і стрымлівала сябе, каб не закрычаць. А ён па-мужчынску грубавата мяў яе і песціў, варочаў і прыўздымаў на руках. Вецер за акном гайдаў кусты бэзу і цені галінак хісталіся на яе прыгожым целе. Быццам жывую грушу трымаў ён, уваходзячы і выходзячы з яе. Некалькі разоў яна быццам памірала і ажывала зноў. А ён, наструнены, апантаны ад дзявочага цела, здаецца, хацеў дастаць ёй да сэрца і нарэшце, як ад току, што прайшоў па нутру, уліўся ў яе, растварыўся ў ёй, увесь, да астатку…

Абое маўчалі. Ды і што гаварыць, калі двое жадалі, прыцягваліся, як два магніты.

Андрэй збегаў у ванну, астудзіўся пад прахалодным душам, вярнуўся да Алёны. Яна ляжала з заплюшчанымі вачыма, пэўна, працягваючы ў думках салодкую мрою. Сеў побач, пацалаваў грудзі і шыю. Алёна адмружыла вейкі, ускінула руку на яго плячо:

— Даруй мне за гэты вечар. Але прыроду не перасіліш. Я забыла, што такое мужчынскае цела. Хоць і замужам. Але мужу не да мяне: тавар — грошы — тавар. П’яныя кампаніі, бізнес, камерцыя… А яшчэ страх, што могуць забіць з-за грошай. Вось і кончыўся ён як мужчына… А я? Мне ж толькі дваццаць пяць. І што, што далей?

— Алёнка, маўчы, не трэба. І не шкадуй таго, што было.

Ён стаў цалаваць, адчуў губамі, як у вачах яе наплылі слязінкі. Яна адказала доўгім пацалункам. І зноў маладыя целы ўзняла гарачая хваля, кінула ў шалёны вір…

* * *

Лазня для Ноя была вядзьмарскім рытуалам. Пасля сняданку ў суботу ён нёс дровы ў вузкі прыпечнік, выграбаў з шырокай печкі попел, выносіў у вядры, ставіў пад страху паграбка, каб потым падсыпаць яго на грады ці пад кусты парэчак. Можа і да сённяшняга дня мыўся б Ной у старой бацькавай балеі, калі б гадоў пятнаццаць назад не прыехаў сын у адпачынак. Загатаваўшы дровы на зіму, ён неяк замаркоціўся без працы. Ды і лежыва на пясчанай выспе Нёмана надакучыла. Вось так аднойчы вечарам за сталом у садзе сын падахвоціў бацьку пабудаваць лазню. Праўда, Ной доўга адпіраўся, аднекваючыся блізкасцю возера і Нёмана, але сын заўпарціўся, стаяў на сваім: «Ты, бацька, не хочаш, я адзін зраблю. Бо вельмі ж парыцца люблю!» «Яка дрэва, такі й клін, які бацька, такі й сын». Яго, бацькаў, пазнаваў Ной, упёрты характар. Сказаў — не адступіцца! Тады Ной з’ездзіў у лясніцтва, выпісаў асінавых дроў, праставіў пару пляшак сваёй «жытнёўкі» лесніку, і дні праз тры асінавыя бярвенні ляжалі на прыгуменні. Удвух скоблямі акорылі дрэва, залілі не надта высокі фундамент і за які тыдзень за паграбам паўстаў прыгожы зруб. Кроквы зніклі пад шыферам, а калі забілі дошкамі

франтоны, Ной падскочыў у калгас, выпісаў цэглу. Сусед-шафёр на другі дзень прывёз яе з цагельні. На пограбе ў кутку, накрыты мяшкамі, маркоціўся запарнік літраў на дзвесце, звараны з нержавейкі. Яго загнаў Ною за трохлітровік самагонкі кульгавы Пятрук. «Вось цяпер ён спатрэбіцца, ляжа ў чарано печы…» Зверху і знізу запарніка былі ўвараны трубкі з разьбой. У ніжнюю ўкруціць вентыль, перакрыць ход вадзе — і лепшай ёмістасці для гарачай вады не прыдумаеш. Сын тады размешваў гліну з пяском у велізарным карыце з дошак, а Ной кельмай чараваў над печчу. Заднюю сценку, якая выходзіла ў парылку, выклалі з камянёў. Яны, аблітыя гарачай вадой, шыбануць гаючую пару пад сто градусаў. Калі над шыферам узняўся комін, столь падбілі сасновымі дошкамі. Падлогу там, дзе будзе ліцца вада, зрабілі з асінавых плашак. Праз дзень сын выпаліў печ, каб лепш прасохла, падоўжыў шланг ад калодзежа, у якім прыжыўся вадзяны насос «Ручаёк».

Ной, помніцца, тупаў каля лазні, майстраваў, як папрасіў сын, палок з трох прыступак у парылцы, выштукаваў дзве лавы ў мыечны куток і адну ў прылазнік. Сын абабіў вагонкай парылку. І калі да ад’езда заставаліся два дні, яны апрабавалі сваё асінавае збудаванне. «Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, але ў Нёмане мыцца лепш», — гаварыў тады бацька. — «А ты паспрабуй, ды не заракайся. Як на свет народзішся», — пярэчыў сын.

Запараныя ў кіпятку бярозавыя венікі, пах завараных, разлітых па падлозе ў парылцы зёлак нагадвалі Ною нешта вядзьмарскае, але даволі прыемнае. Спаласнуўшыся, яны нырнулі ў цёплы туман парылкі. Акаціўшы прыступкі цёплай вадой, сын улажыў бацьку на сярэдні палок: «Ну, бацька, трымайся!» — Ной толькі і выдыхнуў: «Убядзіцельна прашу….»

Хвілін пятнаццаць сынавы рукі лекавалі худыя бацькавы мышцы, расціралі, шчыпалі, прыплясквалі, адбівалі… прыемная хваля задавальнення пайшла па расслабленым целе, закацілася ў галаву: «А дужыя пальцы, як у мяне…» А сын венікам абмахваў ногі і рукі, пагладжваў канцамі ўгрэтых лістоў усё цела, сцябаў, нават добра хвастаў па сцёгнах, па сярэдзіне і лапатках, гарачым венікам ставіў кампрэс на крыжавіну, расцягваў і расціраў скуру… Ной быццам плыў у марыве туману, калі ў дзяцінстве пасвіў каровы, тануў у ранішняй павалоцы надрэчча, калі цалаваў першае каханне, рваўся праз гарачае дымавое пекла вайны… Было прыемна ад думкі, што выжыў, дажыў… «Бацька, даволі!» — сынаў голас вярнуў назад, у парылку. Удвух вынырнулі ў прылазнік, селі на лаву. Сын наліў адвару з лістоў чорных парэчак. Бацька засмягла выжлукціў кубак і выдыхнуў: «Крэпка завяраю… Як у рай трапіў!» Больш нічога не сказаў. Яшчэ два разы заходзілі яны ў парылку, лупцавалі сябе венікамі, потым акочвалі свае целы халоднай вадой. Вось тады Ной адчуў сябе памаладзелым: боль у паясніцы прайшоў, рукі і ногі наліліся юнацкай пругкасцю, знікла хрыпата ў горле…

Сын паехаў, а Ной з таго часу не мог жыць без лазні. Летам, пасля Сёмухі, ён шыбаваў у беразняк, рэзаў тонкія вісячыя галінкі, бярэмямі клаў на вяроўку, уціскаў і, як падняць, валок пад павець. Пару дзён трымаў іх там, а пасля вязаў у венікі, падвешваў пад кроквамі на гарышчы. Лісты бярозы, здаецца, лячылі скуру, рабілі яе гладкай і пругкай. Вадой ад замочанага веніка ён у лазні заўсёды мыў галаву. Крыху пазней Ной рэзаў дубовыя галінкі. Помніў, яшчэ ў дзяцінстве маці збірала спелыя жалуды, здымала з іх шапачкі і абалонь, малола і варыла каву. Падвешваў Ной з дзясятак ліпавых венікаў. Ішоў на прынёманскія нізіны і браў у бяздомных прыгажунь разлапістыя галіны. Не абыходзіў бокам і ядлоўцавыя зараснікі на ўскрайку лесу. Хвастанні пахучых іголак выганялі з крыжавіны боль і радзікулітную верадзь. Венікаў восем наразаў з лясной верабіны. Але найбольш мяцёлак вязаў з крапівы,

бо ведаў, што яна добра памагае крыві. Адразу, як адцвітаў, шастаў нажом палын. Ім некалі бабуля лячыла ўсе ўнутраныя хваробы. Акрамя венікаў, Ной сушыў рамонак і лісты глогу, сунічніку і парэчак. Каб доўга не валэндацца, абразаў лясную ажыну і маліну калівамі, падвешваў на пограбе. Чыкрыжыў нажоўкай, прарэджваючы, галіны яблынь і вішняў, сушыў пад паветкай. Усё гэта пойдзе на адвары, каб пасля лазні пачысціць не толькі цела, але і нутро. Гарэлку і нават піва ў суботу Ной не піў: «Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, пасля лазні алкаголь піць — самому сябе біць!»

* * *

— Помню, калі мы пажаніліся, муж спытаў мяне: «А ці ўмееш ты, любая, варыць боршч?» — «Пэўна ж, умею», — адказала я. — «А што трэба, каб ён быў смачны?» — спытаў мой Мікола. — «Трэба мець добрую свякроў і галоднага мужа», — пажартавала я. Гэтыя словы мой Мікалай Іванавіч і сёння ўспамінае з усмешкай.

Ніна Іванаўна прыўзняла са стала таўшчэразную кнігу: «Толькі што выйшла яна… Яшчэ свежай фарбай пахне. Для вас яна карысная заключнай часткай: тут сотня, калі не больш, рэцэптаў, рэцэптаў сучасных, на аснове традыцый даўняй беларускай кухні».

— Ніна Іванаўна, а дзе яе можна купіць? — як заўсёды, першай перабіла аповед дасціпная Алёна.

— Тыраж не вельмі, але, як казаў мой Мікола, у продажы яна ёсць, — Ніна Іванаўна паклала кнігу на стол. — А сёння, мае дарагія, у нас адна з цікавейшых тэм: супы, баршчы, расольнікі і да таго падобнае. Пералічу некалькі правілаў, якія вы павінны помніць. Першае: для супоў патрэбна высокая свежасць усіх прадуктаў і іх старанная апрацоўка. Мяса, рыбу, агародніну трэба добра вычысціць, прамыць і высушыць. Толькі тады яны могуць заліваццa вадой. Другое: для кожнага віда супа трэба захоўваць форму нарэзкі. У адзін суп цыбуля кладзецца цэлая, а ў другі наразаюць яе. Тое ж і з морквай. У адзін кладуць яе, не наразаючы, у другі — кубікамі, у трэці — саломкай. Ад гэтага ў многім залежыць смак прыгатаванага.

Андрэй слухаў і ўспамінаў, як аднойчы Міша варыў суп на кухні ў інтэрнаце. Было гэта яшчэ да іх працы на мясакамбінаце. Хлопцы, трохі згаладалыя перад стыпендыяй, пакеплівалі з яго, жартавалі. А ён, малайчына, запэўніў: «Такога супу ў свеце не было. Пакаштуеце — самі прызнаеце». Наліў вады ў самую вялікую каструлю, што даўно пуставала ў іхнім пакоі. Калі закіпела, дробна парэзаў нечы задубелы кавалачак мяса, укінуў у ваду. Праз гадзіну ўсыпаў астатак грэчкі і рысу — лыжак з пяць. Праз хвілін дваццаць адшукаў у нейкім пакеце прыгаршчы вермішэлі, паламаў і ўсыпаў у кіпень. Знайшоў сем вялых бульбін, абабраў, пакрышыў і дабавіў у суп. Засмажыў кавалачак ёлкага сала, якое знайшлося ў цэлафане між акна, пакрышыў на скавараду тры вялікія цыбуліны, давёў іх да карычневатасці і выключыў скавараду. Хлопцы пазбіраліся на кухні, сачылі за варкай. Прыйшлі нават з суседніх пакояў, бо пах, што выйшаў на калідор, узняў прыроджаную цікавасць: а хто ж там што гатуе? А Міша бухнуў у каструлю лыжку солі, добра размяшаў, выскраб астатак учарашняй прысохлай кансервы, паспрабаваў адвар: «Ну і смаката будзе!» Потым скокнуў да дзяўчат-аднакурсніц, прынёс шчопаць нейкіх прыпраў, укінуў у варыва. Са скаварады выграб у каструлю падрумяненае сала з цыбуляй. Збегаў у пакой, прынёс кавалак хлеба, дробна пакрышыў у суп. Хлопцы млелі, чакаючы пачатку пробы. Праз хвіліны дзесяць Міша

выключыў агонь, ручніком узяў за вушкі каструлю і ўрачыста панёс у пакой. Хлопцы селі за стол. Міша чарпаком наліў тры міскі, бо больш не было, наліў з гушчай і поліўкай. Першая тройка, каму пашанцавала, дружна ўзялася за лыжкі. Праз хвіліны тры хвалебныя воклічы ўслаўлялі новага кухара: «Ну, Міша, ты — цуд!», «Такога супу, і праўда, ніхто ў свеце не варыў», «Лыжка гнецца, нос смяецца, душа радуецца!» Андрэй трапіў у другую тройку. Ці ад таго, што галодны, ці мо ад незвычайных прадуктаў супу, але ён еў са смакам, нават без хлеба. Такога супу ні потым, ні цяпер ён не каштаваў. Усё добра выварылася, перамяшалася, таму і здавалася такім смачным. Падселі да стала і два «наглядальнікі» з суседняга пакоя. Высербаўшы, хвалілі суп да нябёс. Толькі Міша, чырвоны і задаволены, стаяў збоку: яму супу не хапіла. «Кухар заўсёды сыты духам», — апраўдваўся ён…

— Трэцяе правіла: закладка прадуктаў павінна весціся ў вызначаным парадку, так, каб ніводны кампанент не пераварыўся і каб увесь суп не кіпеў вельмі доўга. А для гэтага трэба добра ведаць і помніць час варкі кожнага прадукта. Яшчэ адна памятка: саліць суп заўсёды трэба ў канцы, але не вельмі позна, тады, калі асноўныя прадукты толькі што зварыліся, але не пераварыліся, не перапрэлі і могуць увабраць соль раўнамерна. І яшчэ помніце, за супам трэба пастаянна наглядаць, не даваць яму перакіпець, часта каштаваць, своечасова выпраўляючы памылкі, сачыць за зменай смаку адвару, за развaрам мяса, рыбы і агародніны.

— Ніна Іванаўна, а як жа варыць у супах мяса? — на паўзе ўставіла сваё пытанне Алёна.

— Пытанне важнае. Каб мяса было сакавітым, а не жорсткім і нясмачным, яго трэба закладваць у круты кіпяток. Толькі тады бялковая плёнка не дасць мясу выварыцца і захавае яго смак. І наадварот: калі вы жадаеце атрымаць добры адвар, моцны булён, то мяса апускайце ў халодную ваду і варыце яго на ўмераным агні, пры спакойным кіпенні. А пакуль не спяшайцеся, мы за тыдзень пройдзем усе віды супоў: і малочныя, і мясныя, і з агародніны, і нават хлебны. А зараз пераадзявайцеся і памалу перабірайцеся на кухню.

Андрэй потайкам глядзеў на Алёну і думаў: «Цяжкая сумка сапраўды была для сяброўкі ці повадам для яго?»

* * *

— Ну, браточак, не падвядзі! — Ной шырокай даланёй паляпаў па штаніне і ступіў у прыцемак свайго саду, сцярожка падаўся да ўзмежкавай разоры.

Перад Вялікаднем ён калоў ёй адкормленую, пудоў пад дзесяць, свінку. Два разы пасмаліўшы яе, добра выскраб нажом лыч і ногі, вастрыём адбяліў жывот, бакавіны і спіну. Ларыса завіхалася побач, шустра насіла гарачую ваду, анучкай змочвала чорны згар свіной шкуры. Ной зрэдзь падымаў галаву, бачыў яе кірпаты носік, паўнаватыя губы і, здаецца, смяшлівыя вочы. Але зноў хіліўся над адбеленай тушай і, нарэшце, пачаў спрытна разбіраць яе.

— Свінчо адзін раз у жыцці мыецца, — адразаючы грудзіну, буркатаў Ной. — Кубак, кубак давай і слоік, а то крывянкі ў цябе не будзе!

Ларыса мігам падала кубак, падставіла слоік:

— Во, лі, лі, Колічак! Калі б ты еў скаромнае, то я цябе б не толькі крывянкай пачаставала б, а і смачнейшым…

«Што яна мае на ўвазе — не каўбасы ж і паляндвіцу? Нешта іншае…» — разважаў Ной, дасякаючы свіны хрыбет, дробячы на меншыя кавалкі рабрыны.

Ларыса спрытна насіла палойкі сала ў дашчаную бакавушку веранды, імчалася з місамі і тазікамі ў сені. Ной дапамог ёй перанесці выварку з вант-

робамі ў веранду, выразаў пячонку, аддзяліў ад яе жоўць і выкінуў на агарод: варонам. Пасля адшчыкнуў кончык хваста, зрэзаў чатырнаццаць маленькіх саскоў на жываце, шпурнуў іх у хляўчук: каб добра раслі новыя падсвінакі.

— Колічак, мый рукі ды заходзь у хату, — мітусілася каля яго Ларыса.

— От гэтую работу я люблю, — задаволена ўсміхаўся Ной, ручы мылам наліпы лою і крыві, палошчучы рукі ў цёплай вадзе.

А ў хаце, калі Ларыса даставала тушанку і бабку, ён загледзеўся на яе ладную постаць: за напятай блузкай і паркалёвай сукенкай вабілі вочы круглякі жаночай спакусы. «Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, не, не каўбасы яна мела на ўвазе…» — думаў Ной, запіваючы смачную бабку прахалодным малаком.

На развітанне працягнула загорнуты ў цэлафан ладны кавалак свежыны:

— Сам не ясі, дык хоць сваіх гасцей пачастуеш, — яе вірлівыя вочы ўсміхаліся, неадольна прыцягвалі да сябе.

— Для сяброў нічога смачнейшага няма, чым падсоленае сала з мясной пpораззю, — Ной таксама ўсміхнуўся.

— А для цябе? — Ларысін язычок лізнуў пульхную ніжнюю губку.

— Пажывём — убачым. Мо ж не апошні раз сустракаемся… — Ной паклаў у сумку заробленае сала, зверху кінуў вострыя нажы і пайшоў, баючыся аглянуцца. Толькі за весніцамі ўздыхнуў з палёгкай: «Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, нешта яна задумала…»

Другі раз яна запрасіла яго ў пачатку чэрвеня скасіць сена. Каб трава не перастаяла, ён гэтым жа днём адкляпаў і навастрыў касу, схадзіў з Ларысай на луг, каб убачыць надзел. Заўтра яшчэ да сонца пашыбаваў касіць. Сакавітая трава з разлівам кветак пад вострай касой клалася важка, ператвараючыся ў зялёна-жоўтыя хвалі-валкі. Яны роўна плылі збоку. А каса як брыла, памалу з’ядаючы выдзелены кавалак лугу. Час ад часу Ной мянташыў касу, піў прыхопленую ваду, рукавом аціраючы пот на лбе. Сонца ўгравала мацней, высушыла расу. Трава пачала вянуць, падсушвацца пад лёгкім вецярком. Бязросыя калівы цяпер даваліся касе цяжэй, але ён махаў і махаў, хоць рука ўжо адчувала стому. Крыху балела спіна. Як выратаванне, к полудню прыйшла Ларыса з важкай карзінкай у руках.

— А Колічак ты мой! — паставіўшы ў цянёк куста карзінку, яна пляснула рукамі. — Кідай касу, садзіся, будзем абедаць. Ты і так большую палову скасіў.

Ной не пярэчыў. Касмылём травы ацёр касу, паставіў яе на галіны куста алешніку, узяў біклажку, лінуў ваду на даланю, на твар, аж прахалодныя кроплі пакаціліся за расхрыстаную сарочку, пацяклі па грудзіне.

Ларыса адгарнула ручнік, падала з карзіны каструльку з гарачымі шурпамі, запраўленымі цыбуляй. Калі Ной даеў іх, дастала міску застылай саладухі, наліла ў конаўку бурачнага квасу. «Сапраўдная ўмеліца, — думаў Ной, запіваючы саладуху халодным квасам. — Не сала дае духу, а саладуха». — Цішком глядзеў ён на Ларысу, у думках уяўляючы яе зграбнае цела.

— Колічак, ці пад’еў хоць? — Ларыса пачала збіраць посуд.

— Яшчэ як! Смаку не абабрацца!

— То паляжы, адпачні…

— На тым свеце наляжуся. Трэба дакасіць, — Ной устаў, узяў касу, пачаў мянташыць.

Ларыса ўхапіла граблі, пайшла варочаць пракосы.

Ной дабіў траву, калі сонца пачало хіліцца на захад, губляючы сваю гарачыню. Выцершы касу, пайшоў за бліжні вербалоз, раздзеўся і, голы, добра выкупаўся, змыўшы стому і пот у Нёмане. Прага жыцця зноў вярнулся да яго,

калі ўспомніў прыпухлыя губы Ларысы. Успомніў свайго дзеда, які за год да смерці казаў: «Нічога не хацеў бы, толькі каб тыдзень перад канчынай пабыць пеўнем».

Ларыса граблямі падварушвала траву. І калі вярнуўся Ной, удзячліва зірнула на яго:

— Прыходзь, Колічак, як сцямнее, да мяне. Нечым смачным пачастую.

— Прыйду, калі знайду, — узяў касу, біклажку і нетаропка пайшоў у бок вёскі.

Усё гэта ўспомнілася, калі ішоў разорай да чаканай хаты. Гаспадыня — дваццаць гадоў удава. Мужа, калі везлі смалу са смалярні, у кузаве машыны раструшчыла бочка. Ад’ехала ці пераламалася дошка і цяжэразная бочка, калі машына натужна газавала пад гару, рынулася на цела, насмерць прыперла да задняга борта. Дзяцей Ларыса выгадавала адна. Дачка выйшла замуж за ваеннага, з’ехала ў Расію. Сын закончыў у Варшаве ўніверсітэт, застаўся там. А ёй — векаваць адной. Малайчына, карову і свіней трымае, хата і пляц у парадку.

Ной ішоў загуменнямі. Вось і хляўчук яе. Як віж, адкрыў веснічкі, слізгануў у двор. Сенцы былі прыадчыненыя. Ён бразгнуў клямкай, адчыніў дзверы хаты.

— А я чакала… Пайду лягу… А ты вазьмі конаўку на стале, вунь чыгун з цёплай вадой і тазік… Падмыйся і прыходзь…

Ной таропка скінуў боты і шкарпэткі, зняў штаны і трусы, кінуў на іх сарочку, зачарпнуў кружку вады з чыгуна, лінуў… Лінуў і ледзь не зароў: вада была гарачаватая. «От стары дурань! Не здагадаўся палец усадзіць…» Выцершыся сяк-так, ступіў за парог другой палавіны хаты…

— Я тут… — на ложку бялела Ларысіна цела.

Ной лёг побач, засмягла абшчаперыў яе стан, пачаў цалаваць губы, грудзі, гладзіў-прыцягваў яе палавінкі да сябе. Але жарсць маўчала, «браточак» не падымаўся…

— Колічак, родны, ну ідзі ка мне, увайдзі… Хачу цябе!

— Не магу… Вадой апёкся… — рэзка ўстаў, пайшоў адзявацца.

— Эх ты, Колічак…

Абуўшыся, пачуў, як яна ціха заліваецца смехам.

«Падстроіла, вядзьмарка, — нічога не сказаўшы, грукнуў дзвярыма і, як пабіты, той жа дарогай паплёўся дадому. — Ну пачакай! Прыйдзе коза да воза!»

Праз тыдзень сена скасіў і калгас, высушыў, зацюкаваў. Недалёка ад вёскі склаў два стагі: вясной яны спатрэбяцца.

Дні праз два, калі зайшло сонца, Ной выйшаў у сад, зірнуў на неба. Хмаркі зацягнулі ўсё — ні зорак, ні месяца. «Пара! Цяпер, а не ў чацвер». Ён накінуў плашч і рушыў да бліжняга стога. «Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, не можа быць, каб не прыйшла па сена…»

Сеў за стогам з другога боку. З гадзіну слухаў перагукванне драчоў і цвыркатанне конікаў. Там, ля копанкі, качынымі галасамі аж раздзіраліся жабы. Не ўчуў, як нехта ціха падышоў да стога, распасцёр посцілку. Толькі калі зашапацела сена, схамянуўся, наструніўся: «А што я казаў…» Сцярожка ступіў крок, другі, вызірнуў. Ларысіна сукенка, белая, у гарошак, накладвала сена хутка і ўмела. «Ці ж падыме яна столькі? Але пруткая, здаровая… Пэўна, падыме…» Быццам пачуўшы Ноевы словы, Ларыса пачала ўвязваць посцілку. Ной ціха ступіў некалькі крокаў, ззаду абхапіў яе за стан: «Што пасмееш, тое і пажмеш». Знячэўку Ларыса анямела, быццам абмерла ў яго руках. Ной паваліў яе на посцілку, перагнуў…

— А брыгадзірка ты мой, рабі што хочаш, толькі не заяўляй… — грудзі дыхалі часта-часта.

Ён здзівіўся, што пад сукенкай нічога не было — голае цела. Вось цяпер ён адчуў, якое яно гарачае, і сам пачаў наліваццa гарачаю сілай. Калі ўвайшоў у яе, яна абхапіла рукамі посцілку, падалася назад, быццам сустракаючы нечаканую плоць. А Ной, стоячы, навальваўся на яе круглыя сцёгны, быццам ехаў пад цёмным небам на магутнай кабыле.

— Так-так, брыгадзірка, так… Толькі не заяўляй… — шаптала Ларыса, падаючы цела то назад, то ўперад.

Ной адчуў, як знутры ўздымаецца гарачая хваля, як тая вада з чыгуна, і выліў сябе ў яе цела. Усяго, да астатку.

— Як добра, брыгадзірка! — асмялела шаптала яна. — Толькі не заяўляй…

Ной адкаснуўся ад яе цела, сігануў за стог, растварыўся ў цемры.

* * *

Ніна Іванаўна, як заўсёды, перад тэорыяй пачала з жарту:

— Сустрэліся два сябры. Адзін гаворыць другому: «Слухай, давай зойдзем куды-небудзь і перакусім. А то я з учарашняга дня галодны хаджу». — «Як? Ты ж гаварыў, што ўчора ў цябе свініна ў цесце была». — «Іменна так. Таму я, у адрозненне ад цесця, застаўся галодны».

Калі дзяўчаты насмяяліся, Ніна Іванаўна пасур’ёзнела:

— Каб добра спячы, запомніце: трэба добра прагрэць масла, алей ці тлушч, нават каб яны трохі пакіпелі. А тады ўжо класці на скавараду ці ў казан мяса, рыбу, бульбу — словам усё, што вы хочаце прыгатаваць. А каб прадукт быў мякчэйшы і смачнейшы, лепш за ўсё яго ўтушыць. І тут ёсць свае вузельчыкі на памяць. Перш тое, што вы збіраецеся тушыць, трэба абсмажыць. Посуд павінен быць таўстасценным, лепш за ўсё — гусятніца. Сок, астаткі тлушчу і кіпятку — адна трэцяя ад цвёрдай масы. У час тушэння старайцеся крышку не падымаць і глядзець, а тым больш астуджваць страву.

— Ніна Іванаўна, а колькі часу, напрыклад, трэба тушыць мяса? — не прамінула задаць пытанне Алёна.

— Адкажу вам так: чым горшая сыравіна, тым драбней яна павінна наразацца, падсмажвацца і даўжэй тушыцца. А гэта — ад паўтары да трох гадзін. У канцы тушэння варта дабавіць для лепшага смаку вяршкі або смятану, сок з агародніны або садавіны, трошкі вінаграднага віна. Калі вада выкіпела, даліваецца круты кіпяток. Для загушчэння падлівы можна развесці ў халоднай вадзе лыжкі дзве мукі. І напаследак дабаўляецца соль, гарчыца, таматная паста ці кетчуп, кіслая капуста, салёныя агуркі і прыправы: часнок, кроп, цыбуля, пятрушка, сельдэрэй, лаўравы ліст, чырвоны ці чорны перац. Усё гэта трэба помніць і вывяраць на практыцы.

— Ніна Іванаўна, — з-за стала прыўстала высокая маладзіца, — а якія яшчэ ёсць спосабы прыгатавання, самыя сучасныя?

— Выдатнае вынаходніцтва нашага часу — фольга. Яна — лёгкая, кампактная, неакісляемая, яе не трэба мыць. Фольга мае такія якасці, якіх няма ў посуду. У ёй можна запякаць, быццам у вясковай печы або на кастры, ці над вуголлямі. Запечанае ў фользе не патрабуе тлушчу ці масла, таму яго прыраўніваюць да дыетычнага харчавання. І ўсё гэта — у гарадской кватэры, у чысціні. З’явілася ў продажы і такая навінка, як рукаў для запякання. У яго, як у мяшэчак, закладаеш мяса, парэзаную бульбу, моркву, цыбулю, солiш, дабаўляеш прыправы, алей і крыху вады, завязваеш з двух канцоў і кладзеш у духоўку. Праз гадзіну ўсё гатова. Я люблю ў рукаве запякаць бульбу з купа-

тамі — курынымі каўбаскамі. І яшчэ адна памочніца — мікрахвалевая печка. Але пра яе будзе асобная гаворка, не сёння.

— А скажыце, — зноў не ўцярпела Алёна, — ці ёсць у вас што-небудзь любімае для сям'і?

— Муж і дзеці мае любяць адбіўныя. Раблю я іх са свініны або з курынай грудзінкі. Адбіваю, салю і пярчу, мачаю ва ўзбітае яйка, у муку і падсмажваю хвілін пяць, тады кладу ў каструльку. На кожны рад адбіўных выціскаю часнок, падліваю трошкі вады і датушваю на пліце. Мае ядуць з рысам, грэчкай і пюрэ. Дарэчы, каб пюрэ было смачнейшым, у яго трэба дабавіць гарачае малако і ўзбіты яечны бялок.

— Ніна Іванаўна, а дранікі?

— А хто ж іх не любіць? Вядома, і мы. Я раблю іх з фаршам, свіным ці курына-мясным. Але калі адвараныя грыбы дробна парэзаць, падсмажыць з цыбуляй і даць у дранікі, то ніякі госць не адмовіцца. А каб цёртая бульба для дранікаў не цямнела, у яе трэба ўліць гарачае малако. Бачыце, колькі сакрэтаў ёсць для смачнага прыгатавання. А яшчэ: чым лепш ежу разжуеш, тым больш пражывеш. Праўда, мая суседка, бывае, жартуе: да абеду хочацца есці, пасля абеду — спаць, і ўвесь час адчуванне, што мала плацяць. Ці не так, спадар Андрэй?

— Не, Ніна Іванаўна. Я не скарджуся, бо магу павесіць такую аб'яву: «Памагу пахудзець. Абеды і вячэры бяру на сябе. Студэнт Пятроў».

Дзяўчаты засмяяліся.

— Без жарту — няма жыцця, — Ніна Іванаўна загарнула свой журнал. — Архітэктар закрывае свае памылкі фасадам, кухар — соусам, а доктар — зямлёй. Таму прашу пераапрануцца, на кухні нас чакаюць фантазіі соусаў і падлівак.

* * *

Ной крадком пераступіў разору, прайшоў ля цыбулі. Прадаўгаватая града суседскіх агуркоў цешыла вока жоўтым цветам перад завяззю. Ной выбраў густы лапушысты радок, дастаў з-за пазухі доўгі агурок і падаткнуў яго пад зяленіва лістоў. Палажыў так, каб палова выпірала на міжраддзе. Аглянуўшыся, той жа сцежкай вярнуўся на свой пляц, падняў матыку і ўзяўся далей абсыпаць буракі. Сёння была нядзеля, і Толя пасля шафёрскай шасцідзёнкі, пэўна ж, люляў у сне адзіны выхадны. Яго Ірына праз якую гадзіну толькі вернецца з ранішняй дойкі. Учора Ной пасля абеду з'ездзіў у раённы цэнтр, купіў сёе-тое з прадуктаў, ды і не стрымаўся, захапіў два доўгія парніковыя агуркі для халадніку. Цана на іх у параўнанні з зімовай трохі апала, але і яны, хоць і прэсныя ў параўнанні са сваімі, у каструлі не пашкодзяць. А тое, што адзін прыйшлося ахвяраваць для розыгрышу, — не бяда. Пацешыўшыся, сусед потым дакумекае, хто вырасціў агурок, верне назад. Чакаць доўга не давялося. Бразнулі дзверы ў верандзе, і Толя ў майцы выплыў на двор, смачна пацягнуўся, выйшаў на прыгумень:

— Добрай раніцы, дзядзька Мікола! — сусед пазяхнуў. — А вы ўсё над буракамі шчыруеце?

— Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, хто есць бурачок, той не дурачок.

— Дзядзька Мікола, а што ж басанож, а не ў ботах?

— Ты ведаеш, Толя, ад чаго зубы выпадаюць? Ад гумовых ботаў. Ногі прэюць у вільгаці, а ім трэба сухата. Зямлю лепш голымі нагамі адчуваць. Ды і здаравей яно. А ты хоць бы для прыліку за драпашку ўзяўся…

— Я, дзядзька Мікола, наглядчык. Мая Ірына з дзецьмі і аполе, і асыпле. А я ўраджай памагу зносіць.

— Твая Ірына хоць бы гурок вырвала, а то зжаўцее на сонцы.

— Дык не завязаліся ж яшчэ…

— А ты вочы расплюшчы ад сну. Я адгэтуль адзін бачу, — Ной матыкай паказаў у бок грады.

Толя прайшоў між радкоў і ахнуў:

— Во, тваю маць! І праўда… Калі ён паспеў?

— Пакуль ты спаў, ён і вырас.

— О, Ірына прыехала, — Толя адступіў на колькі крокаў ад грады. — Жонка, кідай ровар, ідзі, паглядзі, які агурок вырас!

Ірына паставіла веласіпед ля хлява, недаверліва падышла да агурэчніку:

— А божухна! І праўда… Калі ён выскачыў? Я ж пазаўчора палола і не бачыла.

Ной усміхаўся, чакаў, што будзе далей.

— Чаго ты ўтаропіўся? Рві, я халаднік звару.

Толя нагнуўся, пацягнуў агурок, недаўменна глянуў на агурэчнік:

— Не можа быць… Хвосціка няма. А сам па сабе агурок не бывае…

Ной рагатаў, аж слёзы выступілі на вачах.

— Ну, дзед! А я думаю, што за ранні агурок?

Смяялася і Ірына, здагадаўшыся, хто пажартаваў з іх

— Бяры, Толя, бяры, і ў мяне такі ж вырас, — Ной атрос ад зямлі матыку і, задаволены, пайшоў у сад, прысеў на калодку ля стала. Колькі разоў ён вырабляў розныя кепікі. Добра, калі ўсё заканчвалася добра. А было ж і іншае…

У дзяцінстве два старэйшыя браты ўзялі яго з сабой у арэхі. Даўні здзічэлы хутар густа зарос ляшчыннікам, крапівой і санцылеяй. Старэйшы брат, самы высокі, лёгка гнуў арэшыны, цырабіў гронкі арэхаў, поўніў свой мяшок. Сярэдні брат спрытна падскокваў і таксама лоўка гнуў доўгія разлапы галін. А яму, меншаму, не ўдавалася нахіліць таўшчэйшыя дугі арэшын, дзе было асабліва многа касцяных шарыкаў. А праз гадзіны тры, калі сонца добра прыгрэла, яму надакучылі і арэхі, і пякучая крапіва. Ён прысеў на фундамент былой хаты, крыху перадыхнуў і ўбачыў, як нізка гнецца старэйшы брат, лужачы арэхі. Ціха ступаючы, падкраўся, сунуў яму руку ў падзаддзе і прахрыпеў: «Хру-хру-хру…» Пятрусь сарваўся, як апечаны, рвануў праз зарасці да лугавіны… І ні разу нават не аглянуўся. А ён з сярэднім братам ледзь давалаклі дахаты два поўныя мяшкі арэхаў. Пасля зімой на печы калолі іх і дапытваліся ў Петруся, ад якога дзіка ён уцёк з хутара. Брат маўчаў, а мо і здагадваўся…

А вось адзін жарт закончыўся для яго сумна. Служыў ён тады шафёрам пры штабе. Вазіў палкоўніка. Круціць руль — не цэмент варочаць. Таму прыштабная салдацкая абслуга часцей сядзела ў асобным пакойчыку і толькі па выкліках хутка ляцела выконваць загад. Адзін раз ён убачыў, як сяржант перад ім пашыбаваў у «царскае пяшэчнае завядзенне». Зайшоўшы ў туалет, пачуў моцныя гукі. Быў упэўнены, што гэта — «музыка» сяржанта. І тузануў жа яго д’ябал за язык: «Рычишь ты хорошо, но как ты работаешь?» І тут з другой кабінкі выйшаў генерал, начальнік штаба. Учырванелы, ён зірнуў на ўтрупянелага салдата і нічога не сказаў. Праз дзень яго перавялі ў будаўнічы батальён на Далёкі Усход. Адтуль і пайшоў Ной на вайну.

Помнілі ў вёсцы і пра бярозавы сок. Ной тады нанасіў яго дзве бочкі. А калі бярозы выпусцілі клейкае лісце і жаўтлявыя каташкі, вястуючы аб заканчэнні піўнога сезона, ён пераключыўся на рыбалку. А тут, спазніўшыся, да Лёпкавай Мані прыехаў зяць, як казалі, кандыдат нейкіх навук. Мужыкі жартам накіравалі яго да Ноя: ён падкажа, як здабыць бярозавы сок. Ной пачаставаў яго яшчэ няўкіслым напоем і на поўным сур’ёзе навучыў: «А ты спілуй

бярэзіну, парэж на кавалкі, укінь пару пален у кацёл, залі вадой і кіпяці. Будзе сок не горшы за мой». Колькі ж потым было смеху, калі вучоны ўзяўся чутае ператвараць у сапраўднае! Нават Маня прыбягала сварыцца: «Стары дуралом, навучыў гарадскога...» Ной, ведаючы круты характар вясковай звадніцы і пляткаркі, пасля гаварыў пра яе мужыкам: «Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, Маня як гляне — сырадой завяне!»

І яшчэ раз Ной сустрэўся з кандыдатам навук, як той хваліўся, сельскагаспадарчых.

Ехаў ён аднойчы вясной са сталіцы. У электрычцы ў асноўным сядзелі жанчыны: цяпло паклікала на дачныя агароды. Ехалі яны і дзяліліся між сабой сакрэтамі пасадак і вялікіх ураджаяў. Ной і прасядзеў бы ціха да раённага вакзала, калі б у гаворку гаспадынь не ўклініўся нейкі вучоны, яшчэ маладжавы, невысокі і гаваркі. Ён даказваў нешта па-навуковаму, раіў гэта рабіць так, тое — гэтак. Нешта пад'юдзіла Ноя ўмяшацца, не толькі запярэчыць навуцы, але і прынізіць пахвальбу:

— От вы — вялікі вучоны... А ці ведаеце, колькі ў казы саскоў?

— Два.

— А ці бывае чатыры?

— Ніколі не чуў...

— А ў каровы?

— Чатыры.

— А ці бывае шэсць?

— І гэтага не чуў...

— А колькі ж саскоў у свінні?

З суседніх сядзенняў павярнуліся іншыя пасажыры, з цікавасцю пазіралі, як дзед заганяе вучонага. І той здаўся:

— Ну, гэтага я не магу сказаць...

І Ной яго дабіў:

— А ў каго халоднае малако — у казы ці каровы?

Кандыдат няўпэўнена вышаптаў:

— Відаць, у казы...

Кругом выбухнуў смех, а навуковец на наступным прыпынку ці выйшаў, ці перайшоў у іншы вагон. А адна дасціпная дачніца ўчапілася ў Ноя:

— Адкуль жа вы едзеце?

Ной не разгубіўся: жартаваць — дык да канца:

— Вяртаюся з рэспубліканскага конкурсу пастухоў і дояраў. Выступаў за калгас.

— Я пра такі і не чула...

— Цяпер многа конкурсаў напрыдумлялі. А гэты — адзін з самых цяжкіх. Хто хутчэй падоіць карову, спляце бізун у шэсць столак і вып'е тры літры смятаны. Самае цяжкае — смятана. Але я ўправіўся, абагнаў намнога маладзейшых. Цяпер старшыня калгаса бычком ці парсючком узнагародзіць.

Жанчыны верылі і не верылі. Але ж не стане такі дзед хлусціць, ды і ўсякае цяпер на свеце бывае.

Самая маладая кабета спытала:

— А мо якія сакрэты ёсць у вас у гаспадарцы?

— Асаблівых няма, але пару вам адкрыю. Вось адзін з іх. Колькі разоў у дзень куры нясуцца? Адзін. А я, як курыца знеслася, саджу яе пад карыта. Гадзіну пасядзіць яна ў цемры і падумае, што пераначавала. І другі раз зняссецца. Яшчэ адзін сакрэт: калі я саджу бульбу, то кожную разору пасыпаю соллю. Ніякі чарвяк не точыць клубні і пасля копкі бульбу, як зварыш, саліць не трэба: яна, як і сала, солі набірае ўмеру.

Ной падняўся з калодкі: «Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, а рукі трэба памыць».

* * *

Аўтобус лёгка каціў па шашы. Сонечная раніца блікавала па вокнах, не давала драмануць на мяккіх высокіх сядзеннях, клікала на прыроду. Яны вырваліся ад гарадскога тлуму, ад дымчатай павалокі, ад мітусні вуліц і магазінаў. Усё — курсы закончаны! Яны — лепшыя з лепшых кулінараў! Нават пасведчанні ёсць. Толькі Андрэй, нелегальны курсант, не атрымаў маленькі дыплом. Ён і не перажываў: галоўнае — не ў паперцы, а ў галаве і сэрцы. Будзе натхненне і ўменне — ён аздобіць і каменне.

Пасля заканчэння курсаў дзяўчаты дамовіліся выехаць на прыроду. Ніна Іванаўна адмовілася адразу: банкет для замежнай дэлегацыі. Муж адной з курсантак — ці не дырэктар завода? — даў прыгожы аўтобус, які цяпер глытаў кіламетры трасы. Ехалі на радзіму Андрэя, туды, дзе прыгожы Нёман уплятаўся ў аксамітныя косы лугоў. Дзяўчаты шчабяталі аб нечым між сабой, некаторыя слухалі музыку з флэш-плэераў. Праз гадзіну аўтобус павярнуў у раённы гарадок.

Андрэй, які сядзеў спераду каля шафёра, падказваў павароты, паспяваючы аглядваць знаёмыя вуліцы. Калі мінулі Дом культуры, ён узяў мікрафон:

— Шаноўныя дзяўчаты! Пяцьсот гадоў назад на ўездзе ў гэтае мястэчка стаялі тры высокія стаўбцы. Адсюль і пайшла назва — Стоўбцы. Зараз гэта раённы цэнтр. Праз кіламетр у вёсцы Акінчыцы будзе хатка-музей Якуба Коласа. Тут жыў і працаваў лесніком у князя Радзівіла бацька паэта — Міхал. Многія, відаць, не ведаюць, што ў той час простых сялян на такую службу не бралі. Дык як жа ён трапіў туды? А было так. Родны брат Міхала Яўхім даглядаў коней у канюшні ў Нясвіжскім замку. Аднойчы летам французскі кухар палез купацца ў прызамкавае возера. Трохі адплыў і, не адчуўшы дна пад нагамі, пачаў тапіцца. Яўхім якраз праходзіў побач, убачыў і кінуўся ў ваду, выцягнуў бедалагу. Радзівіл, уведаўшы, пазваў Яўхіма да сябе: «Прасі, што хочаш!» — «Княжа, — сказаў Яўхім, — мне нічога не трэба. Вазьмі майго брата ў леснікі». Так Міхал трапіў на службу да Радзівіла. Прашу вас, зірніце направа: вось тая хатка, дзе нарадзіўся будучы пясняр.

Дзяўчаты глядзелі на коласаўскую сядзібу — хатку, хлеў, калодзеж-жураВель, які быццам сцярог звысака гэтае памятнае месца.

Праехалі па лясной шашы кіламетраў з восем і Андрэй зноў уключыў мікрафон:

— Справа, метраў за пяцьсот, стаіць хутар Смольня. Там — філіял дзяржаўнага музея і хатка, дзе ў 1912 годзе сустрэліся ўпершыню два выдатныя паэты — Янка Купала і Якуб Колас. Купала цягніком даехаў да Стоўбцаў, не стаў наймаць балагола і пяшком прыйшоў на хутар. А назва Смольні пайшла ад смалярні, якая была недалёка, дзе ў катлах кіпелі смольныя карчы, гнаўся шкіпінар.

— Андрэй, а хто такі балагол? — з другога рада выгукнула Алёна.

— Перавозчык грузаў і людзей на фурманцы.

Праехалі яшчэ з кіламетр, перасеклі вёску і пясчанай дарогай аўтобус з’ехаў да Нёмана, спыніўся ля маладога ляска.

— Лепшага месца не знойдзеш, — Андрэй падхапіў наплечную сумку. — Выходзім…

Дзяўчаты разбіралі пакеты, сумкі, выскоквалі на дарогу.

— Лепш прыпыніцца там, — паказаў Андрэй, — трава, вербы і Нёман перад вачыма.

Шумны натоўп накіраваўся ў лагчынку, а Андрэй узяў за ручку складзены мангал і вядро з шашлыкамі, панёс да берага. І раптам з-за куста вылез Ной, расхрыстаны і злосны:

— Нанесла нялёгкая! Занадзіў учора вечарам, а сёння толькі закінуў. Усё — ніводная не клюне…

Андрэй пазнаў рыбака, пачаў супакойваць:

— Дзядзька Мікола, не крыўдуйце. Мы ж адзін раз з горада вырваліся, а вы ж тут кожны дзень… Яшчэ наловіце. Кулінарныя курсы хочам замачыць…

— Кажаш, кулінарныя?

— Так, кулінарныя. Два месяцы вучыліся гатаваць, а сёння прыехалі сюды адзначыць.

Ной пачаў скручваць вуды. Дзяўчаты разаслалі на траву цэлафанавую паласу, пачалі раскладваць пластмасавыя талеркі, відэльцы і лыжкі. Андрэй паставіў мангал, палажыў у яго сухіх галінак, падпаліў. Агонь пыхнуў адразу, заскакаў па жалезных сценках.

Ной узяў бачок і раптам убачыў дзве сырыя курыцы:

Алёна падышла, паставіла пакет:

— А іх мы парэжам і падсмажым на шампурах, бо шашлыкоў не хопіць.

— А можна я запяку іх у гліне, для вас?

— Можна, калі асцярожна…

— Тады я скокну дахаты і тут жа вярнуся.

— Будзем чакаць.

Праз хвілін дваццаць Ной прынёс вязанку дроў, паўвядра гліны, кавалак бляхі і сёе-тое з прыпраў. Дзяўчаты з цікавасцю глядзелі на дзівакаватага дзеда. Ніхто з іх не еў курэй, запечаных у гліне. А Ной чарпануў у Нёмане трохі вады, перамяшаў гліну, спаласнуў рукі:

— А куры…

— Мытыя, мытыя… — Алёна падала папяровую салфетку.

Ной выцер рукі і, быццам маг, пачаў чараваць над курамі. Пасаліўшы і трохі папярчыўшы, клаў прыправы ў тушкі курэй. Ні то сабе, ні то дзяўчатам, якія глядзелі на гэтае дзейства, Ной прыгаворваў:

— Пятрушка — будзеш лятаць, як птушка… Кроп — каб арганізм крэп… Цыбуля — ад ста хвароб лячуля… Еш часнык — будзеш звонкі, як смык, і прастуда не ўскочыць на язык… Еш хрэн пякучы — будзеш доўга жывучы… — Паклаўшы ўсяго патроху, ён выняў з кішэні нож, ручка якога была зроблена з рога, кавалак тонкай вяровачкі. Абматаўшы ёю курыныя тушкі так, каб сышліся парэзы на жыватах, узяў ліпкую гліну і пачаў абмазваць іх. — Трэба зрабіць калабок, каб гліна была таўшчынёй з палец.

Абмазаўшы адну, пляснуў яе на бляху, пасля туды ж легла і другая. Схадзіў да ракі, зноў спаласнуў рукі, аднёс бляху чуць далей ад застолля, на гліняных абмазанцах расклаў агонь. Калі сухое шыпулле і галінкі добра ўгарэліся, на кастрышча паклаў палову дроў:

— Праз паўгадзіны перавернем…

Андрэй палкай перамешваў вуглі, клаў на мангал доўгія шампуры з мясам. Дзяўчаты, ставячы закускі, заканчвалі ўпрыгожваць цэлафанавы абрус.

Праз паўгадзіны Ной перавярнуў калабкі, гліна на якіх высахла і задубела, згарнуў вуглі, адрадзіў касцёр. Дровы, сухія, сасновыя, запалалі з трэскам.

— Усіх прашу садзіцца за стол! — на правах гаспадыні запрасіла Алёна. — Ды і шашлыкі на падыходзе. Дзядзька Мікола, просім з намі прысесці.

Калі дзяўчаты прымасціліся ля ўяўнага стала, Ной прытуліўся збоку, падаслаўшы ватоўку. Падышоў і Андрэй, прынёс з дзясятак шампуроў з шашлыкамі.

— Прашу наліць! — Алёна, булькнуўшы ў пластамасавую шклянку гарэлкі, падала яе дзядзьку Міколу. — Давайце падымем чаркі за нашыя курсы, без якіх мы не былі б самымі лепшымі жонкамі ў свеце. За дарагую Ніну Іванаўну!

Ной выпіў, адшчыкнуў скрылёк сыру, стаў зажоўваць. Дзяўчаты разгаманіліся, пачалі хваліць шашлыкі. Андрэй узяў хлеб, шампур з мясам, аднёс шафёру.

— Дзядзька Мікола, нож у вас нейкі старадаўні…

Ной пракаўтнуў сыр:

— Мой даўні прадзед быў кухцікам у князя Радзівіла. Гады тры, не менш. А калі збег ад яго, то прыхапіў з сабой торбачку солі і гэты нож. Ручка ў яго — з рога дзікага казла. Ён і птушку некалі навучыў запякаць у гліне. Мне яшчэ дзед расказваў і паказваў.

Адна, другая чарка прайшлася па дзяўчатах, яшчэ больш узняўшы гаману. Ной схадзіў да Нёмана, набраў вядро вады і шугануў яе на курыныя калабкі. Хвілін пяць счакаўшы, палкай перакаціў іх у вядро, прынёс да стала. Дзяўчаты заслалі паперу. Ной спрытна нажом распалавініў зацвярдзелую гліну і яна лёгка адвалілася ад сакавітых курэй. Алёна перахапіла ў дзеда нож, пачала рэзаць запечаныя тушкі на кавалкі. Маладзіцы спрабавалі і пальчыкі аблізвалі:

— Ну дзед! Ну кулінар! Смаку не абабрацца! Дзядзька Мікола, скажыце тост які.

— Дарагія дзяўчаты! Убядзіцельна прашу і крэпка завяраю, адны жонкі добра пякуць, а другія добра дапякаюць. Няхай жа доўжыцца ваш век у шчасці. Любіце і цаніце жыццё. За вас!

Андрэй выпіў, прыкусіў і адкрыта зірнуў на Алёну: «Якая яна прыгожая! Такой ночы ніколі не будзе…»

Плыў з вечнасці ў вечнасць Нёман. Перыстыя аблокі лёгка калыхаліся, сыходзілі недзе туды, на захад. Усё цвіло, буяла і жыло.





## Ніна МАЕЎСКАЯ

* * *

Белыя ліўні... Ах, белыя ліўні...
Вокны заткалі мае кісяёй.
Шэптам, таемна напомніць змаглі вы,
Што я ў душы затаіла сваёй.

Белыя ліўні... Быў час той шчаслівы.
А так балюча азваўся тугой...
Як вы шапталіся, белыя ліўні!
Не, не вярнуць аніколі таго

Цёпламу чэрвеню, спеламу жніўню.
Гэтае шчасце было так даўно...
Белыя ліўні, гаючыя ліўні,
Як жа вы мыеце сёння акно!

Шэпчуцца ліўні... Ці неба так плача?
Сэрцам, зняверaным, як разгадаць?
Вы ці на шчасце мне зноў, ці на ўдачу,
А ці прыйшлі вы каго благаслаўляць?

Шэпт, як маленне — хвалюючa-дзіўны...
Хочацца шчасна ўвесь свет абдымаць!
Белыя ліўні, чысцюткія ліўні...
Што яшчэ можна пад небам жадаць!

---

***Маеўская Ніна Васільеўна*** *нарадзілася 4 снежня 1938 года ў горадзе Любань Мінскай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1963), Мінскую вышэйшую партыйную школу (1980). Працавала ў газетах і часопісах, у выдавецтве «Юнацтва».*

*Аўтар паэтычных кніг «Падаюць даспелыя ранеты» (2001), «Мая ўлюбёная краіна» (2004), а таксама зборнікаў аповесцей і апавяданняў «Агата» (1970), «Надзеевіч» (1983), «Такая позняя вясна» (1984), «Холад доннай вады» (1989), «Трывожна шумяць ясакары» (1993), «Арніка» (1993) і інш.*

Мкнецца да сонца строй дрэваў вячыстых,
Птушак узнёсла звіняць галасы.
Свет, абнаўлёны, прасветлена-чысты,
Поўны крыштальнай, чароўнай красы.

* * *

Ах, сонейка гаючае, ратуй
Маленькую зялёную хваінку,
Што мкнецца ўвысь, каб з небам гаварыць.
Стаіць яна ў бары цяністым тут.
На гліцы завушнічкамі расінкі.
Прашу ёй промнік ранні падарыць.

Ах, сонейка ты яснае, пачуй —
Сама расла, як гэтая хваінка,
Сярод чужых, затоеных людзей.
Тваім цяплом цяпер сябе лячу,
Сушу на вейках дрогкія слязінкі,
То дай святла і для маіх надзей!

* * *

Доўгія, доўгія ночы бяссонныя...
Я забыцца ў суцішлівым сне не магу.
Вашыя вочы — такія бяздонныя —
Неадступна глядзяць праз начную смугу.

Чымсьці адчайна яны растрывожаны,
Быццам штосьці мне важнае хочуць сказаць.
Нашы шляхі назаўжды раздарожаны,
І пачуцці адчайна-зацята маўчаць.

Стрэнуцца, можа, у ночы бяссонныя
Светла позіркі дзесь на нябесных шляхах.
Зробяцца зоры, як вочы, — зялёныя,
Страпянецца спрасоння ўстрывожаны птах.

* * *

Зрабіліся ценькімі ўжо раўчукамі вялікія рэкі.
А што будзе з намі? — спытаць бы сустрэчнага мне чалавека.
— Скажыце мне, што будзе з намі і з нашай маўклівай Зямлёю,
Калі мы бяздушна, па-варварску будзем глуміцца над ёю?
— Ды што можа здарыцца з ёй, векавечнай, Зямля — не загіне! —
Упэўнена скажа той, хто не блукаў па бязводнай пустыні.

Пацвердзіць і іншы, — не йшоў, не ступаў ён апаленым лесам,
Ці болю не зведаў свае пахаванае вёскі палескай.
...Зямны чалавек. Яго цяжка здзівіць і нялёгка расчуліць.
Адно папрашу: беражы ты Зямлю, як Святую Матулю.

* * *

Вініш — дарэмна сэрца я палю...
Я праўду непадробную люблю.
І за яе — гатова ўсё аддаць.
Ні здрадзе, ні хлусні не патураць.

Гаворыш — праўда ў кожнага свая.
Чаму ж чужою жыць павінна я?
Выходзіць так — сумленнем гандляваць,
Пра годнасць і пра шчырасць забываць?

Даруй, ды не магу я гэтак жыць.
За праўду варта галаву злажыць.
— Бывае ж узаемнаю віна.
Дзве праўды ёсць...
— Ды ісціна — адна.

* * *

Не маю намеру кагосьці наўмысна зняверыць
І густы свае ўсім навязваць, і волю.
Ды словы, як пацеры, шэпча асадка паперы,
Нібыта замову ад страты і болю.
А смутак мой даўні на вочы кладзецца туманам,
І тоне ў ім сіняя далеч і сонца.
Пачула, што быццам сама я жыўлюся падманам
І іншым галовы тлумлю тут бясконца.
Ну, як вам, прагматыкам, як вам прасцей растлумачыць, —
Не хлебам адзіным... Ці гэта забыта?
Дастукацца мне да вас цяжка. Бранёю — няйначай —
У кожнага сэрца надзейна пакрыта.
Калі на зямлі нашай болей не стане паэтаў,
Растане і знікне іх тонкая, чуйная аўра, —
Не, смутак смугой не агорне навечна планету,
Змірыліся ж з тым, што няма дыназаўраў.
Яшчэ застанецца трава тут нам звыкла зялёнай.
Ды толькі смарагдавай болей не будзе.
Ісціме жыццё па адвечных нібыта законах.
А як жа сябе пачуваць будуць людзі?
Забудуцца, голавы ўгнуўшы, што гром перад бурай
Грыміць не ваеннай гарматай страшэнна.
Людскія пачуцці ён па-над будзённасцю хмурнай
Высока ўздымае, бы моцным крэшчэнда.

Хто ведаць тут будзе, што шэпчуць бары і дубровы,
Што венчана неба вясёлкай з зямлёю
І ў свеце няма мілагучней за родную мову?
А песня пра што жаўрука над раллёю?
Да болю хто ўспрыме і роспач людскую, і мукі,
Хто ўславіць таемнасць і веліч прыроды
І перакладзе ўсе зямныя й нябесныя згукі
На высакародную мову народа?

* * *

Вось і восень прыйшла нечакана.
Усю ноч лістапад церусіў.
Холад здаўся часовым падманам,
Ды туман далягляд засмуціў.

Легкадумная, я не паспела,
Не спяшала купляць парасон,
А яна — гаспадарыла смела,
Дождж шаптаў, навяваючы сон.

Суцяшэнне... Яно мне навошта?
І з якое нагоды спакой?
Прынясі, міжгародняя пошта,
Тэлеграму: «Люблю! Я — з табой!»

Як тады, калі зманліва лета
Раскідала мне веер дарог,
І была я любоўю сагрэта,
І асенніх не знала трывог.

* * *

Увітае бязродным вінаградам
Лецішча, як казачны шацёр.
Утульнасці яго былі мы рады.
Іншым тут здавалася жыццё.
Ды зноў дажджы, уперамешку з градам:
Спешна восень тушыць свой касцёр...

Вільготна набрынялі неба высі,
Што туманам ападуць далоў.
І шэрхне, аблятае жаўталісце
Сцішаных, задумлівых садоў.
Ды сокам пераспелым наліліся
Гронкі, шызыя ад халадоў.

Уранні птушка снедаць завітае,
Сумная — зноў блізіцца зіма.

А ён, чужак, пары свае не знае,
Спраў яму да гэтага няма.
І летнік наш — нібыта распісная
Сушыцца на сонцы хахлама.

Трывожымся і думаем штогод мы:
Ці перанясе ён маразы?
Зімы, непрадказальнае, прыходы
Нам знаёмы, нібыта азы.
Ад холаду тут згіне што заўгодна —
Шкода несвядомае лазы.

Яна імкнецца чэпкаю націнай —
Голькі не баяцца вышыні,
Каб летніка спусцелую хаціну
Тут ад непагоды бараніць.
А нашая зямля яму гасцінна
Грэе, абдымае карані.





Уладзімір ЛІПСКІ

# МУЖЫК*

*Дакументальная аповесць*

## ПАЛЕТАК ЗЯЛЁНАГА ЮНАЦТВА

## III. Кар'ерная лесвіца

*Если ты направился к цели*
*и станешь дорогою останавливаться,*
*чтобы швырять камнями во*
*всякую лающую на тебя собаку,*
*то никогда не дойдешь до цели.*

Фёдар Дастаеўскі

### 1. Буслянка на новай зямлі

Яшчэ з інстытута Аляксей Сцяпанавіч помніць студэнцкі анекдот. Даручылі будучым ветэрынарам злучыць быка з каровай. Праз якую гадзіну дакладваюць кіраўніку практыкі: «Карову павалілі!.. Быка на яе ніяк не можам зацягнуць...»

Калі Аляксей пасля арміі перайшоў галоўным заатэхнікам у калгас «Маладая гвардыя», там у пашане быў высокапрадукцыйны бык Лоўкі. Нейкай замежнай пароды. Казалі, яго карова-маці давала па сем тысяч літраў малака ў год.

Бык быком, але ж у «Маладой гвардыі», як і паўсюдна, пачало развівацца штучнае асемяненне. І вось новы, малады ды нежанаты галоўны заатэхнік Аляксей Скакун збірае ўсіх жывёлаводаў на сур'ёзную размову: як павысіць удоі, як палепшыць якасць племяннога статку, як дасягнуць высокіх прываг у адкормачнікаў?

Заатэхнік Скакун задае пытанне:

— Хто з вас раскажа, як правільна праводзіць штучнае асемяненне кароў?

— Як?.. Вельмі проста, — падхопліваецца ветэрынар-практык. — Бяром гарошынку, сунем карове куды трэба. А далей, калі хочаце знаць, пускаем быка і ён гоніць тую гарошынку куды трэба...

— Ды твой бык свету белага не бачыць... Спіць на карове, — азвалася старая даярка.

— Карова равець і бык равець, і ніхто не разбярэць, хто каго хацець, — зацягнуўся папяросай-самакруткай пастух Яўхім, пусціў вакол сябе воблака сівога дыму, і чырвоны куток скалануўся перуновым рогатам.

---

* Працяг. Пачатак у № 1, 2, 2011 г.

Смяяўся і галоўны заатэхнік Скакун. Але ж яму ўсё-такі ўдалося «выруліць» гаворку на сур'ёзны лад. Атрымаўся заклапочаны роздум: як вывесці вытворчасць малака і мяса з убыткаў, дзе шукаць рэзервы, як аб'явіць вайну злодзеям, халтуршчыкам, лайдакам, з якімі прапановамі выйсці да кіраўніцтва калгаса?

Пра ўсё гэта думаў Аляксей, вяртаючыся на матацыкле дамоў. Яго заклапочанасць і сумненні прыкмецілі бацькі.

— Што, сынок, клопату больш займеў з чужымі людзьмі? — дапытвалася маці.

— Не, мама, людзі ўсюды аднолькавыя.

— А ці доўга будзеш віхляць паміж Дастоевам і Магільным? — асцярожна спытаў бацька, і сын адчуў, што гэта найбольш хвалюе і яго. Трэба не быць абузай для бацькоў.

Яшчэ адчуў Аляксей — трэба тэрмінова жаніцца. Валянціна, як і абяцала, дачакалася яго з арміі. Яму ўжо — 24 гады. Пара адзяваць хамут, надышоў час падымаць сямейны якар.

За першыя тры месяцы працы ў новым калгасе Скакун стаўся запатрабаваным спецыялістам. Людзі слухаліся, хінуліся да яго. Але, адчуваў, паміж мужыкамі, бабамі і ім існаваў нейкі бар'ер, пэўны недавер. І ён зразумеў, што да той пары, пакуль халасцякуе, да яго і будуць ставіцца, проста як да разумнага малойца, як да крыху няспелага селяніна.

Вось і на сённяшняй нарадзе на ферме. Хіба ён не адчуваў, што старыя, мудрыя вяскоўцы знарок павярнулі размову пра навуковае асемяненне да штучнай гарошынкі, якую бык «гоніць куды трэба»? Яны быццам нагадвалі сваімі жартамі, што ты, малады заатэхнік, сам яшчэ куранё, а хочаш вучыць нас, як здабываць курыныя яйкі.

Трэба жаніцца!

Вяселлі на вёсцы звычайна спраўлялі тады, калі ўсё ўпарадкавана ў лузе, у полі. Трава скошана і застагавана, жыта, пшаніца зжаты і абмалочаны, бульба выкапана. Пара думаць пра новую сям'ю, пра спадчыннікаў. І яшчэ адной звычкі трымаўся селянін. Шукаў сабе жонку не за далёкімі марамі, а ў сваім сяле, у блізкім наваколлі. І самае галоўнае, выбіраў яе не на скоках, не на гулях, а ў гаспадарках вясковых, у дворышчах, дзе жылі сумленныя, не фальшывыя людзі.

Гэтай традыцыі прытрымліваўся і Аляксей Скакун, які павольна, але грунтоўна ўздымаўся па прыступках мужыцкай навукі. Ён міжвольна выконваў пажаданне свайго шаноўнага дзеда Васіля. Той аднойчы зазірнуў на печ у хаце сына Сцяпана і аж ахнуў:

— Ай-ёй, колькі вас, гарбузікаў, тут сабралася! Сваіх чацвёра, Ткачуковых дзве дзяўчынкі. Мо каторая з іх наша будзе?..

Як у ваду глядзеў дзед Васіль. Выхаваныя суседнімі агародамі, сагрэтыя на адной печы, злучаныя адной вуліцай, адной школай Аляксей Скакун і Валянціна Ткачук вырашылі стварыць новую дастоеўскую сям'ю. Выпрабаванне сваіх пачуццяў Аляксей і Валянціна гартавалі ці не з самага дзяцінства.

Адбылася гэта падзея 29 жніўня 1970 года.

І было так.

Дзень народзінаў Валі вырашылі сустракаць да раніцы. У прыродзе валадарыў ліпень. Стаяла спякота. Цяплынь захоўвалася і познім вечарам, і нават ноччу. З неба лагодна ўсміхаўся закаханым мядовы месяц. Ён рагамі чапляўся за калматыя хмары, як бы наязджаў на іх, а пасля зноў выскаляўся на зорным небе і лашчыў усіх, хто не спаў.

Аляксею і Валянціне той ноччу не спалася. Пры сведку-месяцы яны дамаўляліся стаць мужам і жонкай. Пра гэта падслухоўвала ноч, гэта чулі і бачылі аццяжараныя пладамі іхнія яблыні ды ахутаныя цішынёй хаты ў Бэрвах.

Як толькі ўзяўся ў сілу досвітак, маладыя прыйшлі да Валіных бацькоў. Яны толькі што падняліся, збіраліся даглядаць жыўнасць, якая прачнулася ў хляве.

Аляксей парушыў загадкавае маўчанне:

— Даруйце... — сказаў і запнуўся, не ведаў, як звярнуцца да суседзяў Ткачукоў.

Іх добра ведалі ў Дастоеве, паважалі высакародна. Гаспадар Іван рабіў загадчыкам сельскага атэлье, вопытнейшы кравец. Сваёй няпростай прафесіі абучыў брата Сцяпана і сястру Настассю. Шмат хто з дастоеўцаў фарсіў у іхніх мадэлях адзення. А яго жонка Ганна працавала ў мясцовым калгасе касірам. Выдавала маладому заатэхніку Скакуну першую зарплату ў «Чырвонай звяздзе».

— Даруйце, — паўтарыў Аляксей. — Я хачу вас, Іван Максімавіч, і вас, Ганна Пятроўна, прасіць, каб дазволілі Валянціне стаць маёй жонкай...

Гэта просьба не была асаблівай навіной для Ткачукоў. Яны ведалі, што Аляксею яшчэ з дзяцінства падабалася Валя. Да іх даўно прыліпла вясковая прыгаворка: «Цілі-цілі цеста — жаніх і нявеста». Аляксей ужо прапаноўваў ёй выйсці за яго замуж і на апошнім курсе інстытута, і перад службай у арміі. Цяпер, адчулі Ткачукі, Скакуноў хлопец быў рашучым, як ніколі. Што ж, на гэта мае ўсе падставы: узрост сталы, працуе ў суседнім калгасе заатэхнікам, умее шляпу насіць і ніву касіць, бацькі яго нікому вока не запарушылі.

Маці і бацька, не згаворваючыся, запытальна зірнулі на Валю, і тая імгненна адказала ім:

— Праўда... Мы дамовіліся... Я згодная...

— І мае бацькі не пярэчаць, — пацвердзіў Аляксей.

— Што ж, дзеткі, такая доля ваша — быць разам, — ціха сказала маці.

— Бярыцеся, каб толькі людзей не сарамацілі...

— Што вы, Ганна Пятроўна, вы ж ведаеце, Скакуны ўмеюць слова трымаць.

— Запомні, Валюха, — азваўся бацька, — там Бог раюе, дзе жонка мужыка шануе.

І гэта сталася бацькоўскім благаславеннем маладым.

Быццам на крылах самай хуткай птушкі паляцелі яны ў сельсавет. Стаяў ліпеньскі цёплы ранак, які абяцаў спякотны дзень.

Сельсавет быў яшчэ на замку. І Аляксей з Валянцінай панесліся ў хату да старшыні. Разбудзілі яго і папрасілі, каб распісаў іх.

— Мае дарагія, лічыце, вы падалі заяву. А шлюбнае пасведчанне выдам праз два тыдні, — ахаладзіў маладых старшыня сельсавета. — Пажывіце, падумайце, прыкіньце, што да чаго, як той казаў. Паразмышляйце, ці гатовы ісці туды, куды кіруе доля ваша...

Праз два тыдні якраз і наступіў той дзень — 29 жніўня 1970 года. Аляксей Скакун і Валянціна Ткачук атрымалі шлюбнае пасведчанне. Іх бацькі наладзілі запоіны, якія доўжыліся два дні.

Гулі, здавалася, ішлі адначасова ў дзвюх хатах — у Скакуноў і ў Ткачукоў. Добра, што яны стаялі амаль побач і былі злучаны між сабой агульнай каліткай. Кароткай сцяжынкай госці шнуравалі туды-сюды. Спявалі адны і тыя ж песні, пераносілі, калі ўзнікала патрэба, з хаты ў хату закуску і выпіўку.

Запоіны сталіся як бы трэніроўкай, рэпетыцыяй да вяселля. Вызначылі сватоў, сведкаў, дамовіліся, каго запрашаць на само вяселле. Яго вырашылі справіць на свята Вялікага Кастрычніка. Па тым часе гэта была дата, пад знакам якой кожны савецкі чалавек вымяраў сваё шчасце.

Цяпер ужо, пасля сарака гадоў сумеснага жыцця, Аляксей Сцяпанавіч і Валянціна Іванаўна мала што помняць са свайго вяселля. Шмат вады сплыло па іх рэчцы жыцця. Але ж тое-сёе асела ў памяці.

Валянціна Іванаўна з асалодай і густам знасіла лакіравыя бардовыя чаравічкі, якія падарыў ёй Аляксей. Здаецца, сам гогалеўскі Вакула падмог яму набыць іх у сталіцы. Спадабаўся і свякроўчын шалік. А найбольш запомніліся яе, Веры Пракопаўны, словы:

— Нас, дзяцей, было ў бацькоў васьмёра. Сваіх са Сцяпанам займелі чацвёра. Жадаю, дзеці, каб не ленаваліся рабіць нам унукаў, бо каму ж тады зямлю араць?..

Пляменнік Алёшы Сашка, сын сястры Марыі, помніць, як заняў на вяселлі месца жаніха. І той павінен быў выкупіць сваё седала. Так у малога з’явіўся першы заробак, «жывыя» грошы. Цяпер ён, прафесійны шафёр, мае добры рубель, але шкадуе, што патраціў вясельны, дзядзькаў рублік. Можна было б здаць у музей.

Малодшы брат Аляксея Васіль прыбыў на вяселле ў форме прапаршчыка. Служыў у Мінску. Прывёз на свята ракетніцу і паўсотню ракет. Над Дастоевам узляцелі ў неба вясёлкавыя снапы зорак. Салютам адзначылі дастоеўцы з’яўленне новай сям’і.

Усё сваё багацце маладыя змясцілі на матацыкл «Іж-Планета». За рулём — Аляксей, на адзіным сядзенні — любімая і жаданая жонка Валянціна. У невялікіх клунках — самыя неабходныя рэчы.

Прыехалі ў вёску Снітава, цэнтр калгаса «Маладая гвардыя». Там, на рагу дзвюх вуліц, стаяў цагляны домік на дзве сям’і. У адной палавіне жыў галоўны інжынер гаспадаркі Пётр Шапялюк, у другой пасяліліся Скакуны.

Валянціна Іванаўна ўладкавалася ў мясцовай школе. Вяла ўрокі матэматыкі ў старэйшых класах і вучылася завочна.

Аляксей Сцяпанавіч спаўна аддаўся сваёй працы. Дняваў і начаваў на ферме, дзе вяскоўцы здабывалі малако і мяса для краіны. Лётаў на «Іжы» па палетках, дзе нарыхтоўваліся кармы для жывёлы.

Завялі і сваю гаспадарку. Набылі курэй, качак і двух свінчукоў. Аднаго гадавалі сабе, другога — на продаж. Вырашылі збіраць грошы і будавацца.

Свой дом, свой кут, пачалі ўзводзіць у калгаснай вёсцы Магільнае. Яна была каля самога райцэнтра і неўзабаве стала вуліцай Маладагвардзейскай у горадзе Іванаве.

Сямейную буслянку Скакуны «звівалі» няспешна, з любоўю. Самім хацелася ўмураваць у сцены цагліны, самім замяшаць цэмент, самім спланаваць пакоі, вымераць вокны і дзверы. Ва ўтульным маёнтку яны жадалі адчуць сябе поўнымі гаспадарамі: на сваім сметніку і певень смелы, у сваёй хаце і качарга маці.

У новым доме, на новай зямлі Аляксей і Валянціна хацелі мець сваіх буслянятак, сваіх спадчыннікаў. Трэба апраўдаць надзею бацькоў. Трэба спраўдзіць іх вясельныя пажаданні:

— Ад Скакуноў дорым бульбу ў падоле, каб было дзяцей паболей.

— Ад Ткачукоў даем мех гліны, каб праз год паклікалі на радзіны...

## 2. Загартоўка бяссоннем

Хто хоча — той можа.

Аляксей Скакун хацеў працаваць, і ў яго ўсё атрымлівалася. Не валілася з рук, а ліпла да рук, узрушвала розум, акрыляла душу.

Вялікая гэта справа — хацець.

Адвеку мужык пацеў, енчыў у працы, а хацеў яе. Хацеў, каб да баразёнкі ўзараць зямельку, каб да травінкі скасіць сенажаць, каб да зярнятка абмалаціць колас.

Хацеў, каб у кладоўцы мука напоўніла бочкі, каб у кубельцы ляжала сала, каб сцягняк закопчаны вісеў, каб гуркі, грыбы засоленыя ў дзежках стаялі.

Каб усё гэта багацце мелася, трэба хацець яго. Тут мусіш быць і акуратным, і добрым, і ашчадным, і рухавым. Аляксей усяму гэтаму вучыўся змалку.

— Аднойчы мама адсутнічала, — успамінае сястра Марыя. — Пайшла я даіць карову. Дык, не паверыце, Лёша наглядаў і нагадваў: «Глядзі ж, усё малако выдаі. Не разлі, як будзеш несці». Гэта ён, меншы, вучыў мяне, старэйшую.

Калгаснае ўспрымаць як сваё, асабістае, прыватнае. Гэтага трэба таксама захацець. А яшчэ зразумець, што ты можаш быць карысным не толькі для свайго агарода, сваёй пуні, свайго склепа. Ты патрэбен людзям, мужыкам, сялянам, адвечным рабам зямлі, якія хочуць стаць яе гаспадарамі.

Аляксей Скакун ужо належаў да пакалення тых новых мужыкоў, якія мелі глыбозныя сялянскія карані, якія атрымалі вышэйшую адукацыю, якія хацелі зразумець, чаму калгас даводзіць людзей да жабрацтва, чаму калектыўная гаспадарка — заўжды з працягнутай рукой да дзяржавы.

Чаму?

Дзед Васіль казаў некалі: «Каб цыгану той розум наперадзе, што ў мужыка ззаду, то ўвесь бы свет падмануў». Дык чаму ж мужык, урэшце, не пакарыстаецца сваім розумам?

Не хоча ці не ўмее?

Не можа скарыць ляноту ці не жадае жыць багата?

Заатэхнік Аляксей Скакун падлаўліваў даярак за бессаромным учынкам: у грэлку налівалі сабе малака, а ў даёнку дабаўлялі вады.

— Як жа вам не сорамна, цётка Маня? — сарамаціў зладзейку. — Вы хочаце, каб ваша дачка-студэнтка піла такое магазіннае малако?

— Я болей не буду, Сцяпанавіч, — апраўдвалася даярка, а па вачах было бачна, што хлусіць.

Едзе з фермы на павозцы даглядчык Васіль. Скакун сустракае яго, цікавіцца:

— Як справы?

— Вы што, Аляксей Сцяпанавіч, думаеце, я ўкраў нешта? Можаце глядзець?

— Ну, раз просіш, дастань тое, што пад сенам, на якім сядзіш.

Васіль чырванее, злазіць з воза і неахвотна дастае з-пад седала мех мукі.

— Малайчына, — хваліць яго заатэхнік Скакун. — Сваім парсюкам вязеш пачастунак, а калгасныя хай падыхаюць?

— Я думаў, гэты мех лішні...

Хлусня найболей непакоіла Аляксея Скакуна. На хлусні замешаны зладзейства, злачынства, здрада. Хлусам, лайдакам і злодзеям галоўны заатэхнік аб'явіў вайну. Набыў новы фотаапарат «ФЭД» са ўспышкай. З ім завітваў на фермы ў самы нязручны, нежаданы для іх момант. Фоткі «герояў дня» вывешваў у пакоях адпачынку жывёлаводаў, у калгаснай канторы.

Скакуна з фотаапаратам і на матацыкле можна было сустрэць дзе заўгодна і ў любы час сутак. Фота лепшых людзей, якім давяраў, у сумленнасць якіх верыў, вёз адразу ў раённую газету.

Так увесь раён даведаўся пра даярку Праскоўю Галаўчук. Сталая маладагвардзейка ўручную па тым часе ўжо надойвала па 1126 кілаграмаў малака ад кожнай, замацаванай за ёй каровы. Такім жа чынам Скакун публічна аддзячыў даярак Марыю Пакала, Алену Гулюк, механізатараў Васіля Маслака, Івана Піліпневіча.

Пра шафёра Міхаіла Лукіча Шапялюка напісаў асобны артыкул, аздобіў яго здымкамі. З архіўнай газетнай старонкі, з далёкага 1973 года, пазірае на нас

вясёлы чалавек. Усмешка — на ўсе трыццаць два зубы-часначыны. Вызірнуў на міг з кабіны, акінуў фатографа Скакуна асветленым тварам. Здаецца, вось-вось завядзе жніўную мелодыю: «Чаму ж нам ня пець, калі ў нашым полі парадачак ідзець!..» Аляксей Скакун піша, што Мікалай Лукіч праявіў ініцыятыву, нарасціў барты машыны і цяпер кожны яго рэйс ад камбайна да зернятока ацяжараны на паўтоны. Эканоміцца паліва, камбайны не прастойваюць.

Амаль штотыдзень у раённай газеце друкаваліся фотанататкі Аляксея Скакуна. Яны як бы просценькія па сваім змесце, але цяпер ужо частка яго біяграфіі. Пакінем для памяці хаця б іх назвы: «Шчаслівы лёс» (пра лепшую даярку Вольгу Кіявец), «Сябры» (пра пастухоў Анатоля Паўлюкаўца і Мікалая Масюка), «Першыя поспехі» (пра здачу дзяржаве за першы квартал 1973 года 252 тоны малака і 105 тон мяса), «Ударны фронт» (пра майстра-птушкавода Таццяну Дарагакупец), «Ёсць рубеж пяцігодкі» (пра поспехі калгаса «Маладая гвардыя»)...

У аднаго з герояў такіх нататак мы з Аляксеем Сцяпанавічам пабывалі.

Некалі ў раёнцы «Чырвоная звязда», а дакладней — 14 сакавіка 1972 года, Скакун змясціў здымак галоўнага бухгалтара калгаса «Маладая гвардыя» Васіля Міхеевіча Міхнаўца і пісаў пра яго: «Гэта адзін з вопытнейшых работнікаў бухгалтэрыі. Дабіўся ўзорнага ўліку, умела наладзіў эканамічную работу. Міністэрства сельскай гаспадаркі адзначыла яго грашовай прэміяй. Ён узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Паспяхова спалучае працу з вучобай у сельскагаспадарчай акадэміі».

І вось мы на падворку пенсіянера Міхнаўца. Сядзім на лавачцы, у цяньку. Недалёка ад нас паходжваюць сытыя куры. Яблыні абвешаны гірляндамі чырвона-зялёных спакуслівых пладоў. Гаспадар і яго жонка Кацярына Лаўрэнцьеўна не хаваюць сваёй замілаванасці, цешацца, што да іх завітаў сам Скакун з Астрамечава. А Васіль Міхеевіч, як і ўсе бухгалтары, не вельмі шматслоўны, стрыманы ў гаворцы, але маю просьбу ўважыў, сказаў тое, што насіў у сэрцы ўсе гэтыя гады пра Скакуна:

— О, ён жа ў нас тады быў малады, гарны.

— Ага, толькі вось з валасамі не разумею што робіцца. Ці то раней фарбаваўся ў чорны колер, ці то цяпер — у белы? — пажартаваў Аляксей Сцяпанавіч.

Але ўсмешка госця не збіла з панталыку Васіля Міхеевіча, і ён выдаў свой экспромт.

— Во гэты Скакун нічога і ніколі не баяўся. Аднаго разу ўзяўся мяне падвезці на матацыкле. А людзечкі, як панёс па сцяжынцы каля чыгункі, як ускочылі мы на вузенькі мосцік, у мяне ледзь сэрца не абарвалася. Болей не садзіўся на яго «Планету». А ён застаўся такім жа рызыкантам на ўсё жыццё. Гэта чалавек-цуд! Як быў у нас, дык любы абавязак яму па плячы. То паедзе ў Пінск, мех каўбасы цягне жывёлаводам. Ездзіў на Украіну, закупляў там скаціну. Глядзіш, статак стаў больш удойным, план па мясе выканалі. У яго руках усякая работа кіпела. Выбралі сакратаром камсамольскай арганізацыі, дык хоць узносы пачалі збіраць, сходы праводзіць. Моладзь стаханаўцамі пажадала стаць, а нашага заатэхніка ледзь не забралі на працу ў райкам камсамола. Хапіла мудрасці адмовіцца, — Васіль Міхеевіч і Аляксей Сцяпанавіч па-сяброўску абняліся.

Былы галоўны бухгалтар калгаса Міхнавец сказаў для мяне, як кажуць, для друку:

— Запішыце: калі б на сяле былі мужыкі ўсе такія, як Аляксей Сцяпанавіч, то мы сапраўды абагналі б усю Еўропу і нават Амерыку. Мы б жылі зусім у іншай краіне!..

Быў перыяд, калі галоўнага заатэхніка Аляксея Сцяпанавіча запрасілі ў рэдакцыю раённай газеты і прапанавалі стаць яе няштатным карэспандэнтам. Яму выдавалі камандзіроўкі ў іншыя калгасы раёна, ён ахвотна бываў там, знаёміўся з лепшым вопытам жывёлаводаў, хлебаробаў. Усё ішло на карысць яго асабістай працы ў «Маладой гвардыі».

Ён хацеў услаўляць верных служак зямлі, якія кормяць і пояць усіх астатніх людзей. І ў яго гэта атрымлівалася.

Ён хацеў, каб самі сельскія мужыкі і бабы, хлопцы і маладзіцы ўбачылі, што яны і прыгожыя, і натхнёныя, і мудрыя. І з дапамогай свайго «ФЭДа» ўмеў гэта рабіць.

А ўсё, што ты аддаў, і ёсць тваё. Дабро вяртаецца дабром, прызнаннем, пашанай.

Праз два гады працы ў калгасе «Маладая гвардыя» ў іванаўскай раённай газеце «Чырвоная звязда» з’явіліся хвалебныя словы і пра самога Аляксея Скакуна. У дзень друку, 5 мая 1972 года, раёнка дала артыкул В. Громава «Наш няштатны». Ён пачынаўся фотаздымкам, зробленым М. Крывецкім, на якім прыпынена імгненне, калі Аляксей Скакун, акрылены і ўзнёслы, трымае на ўзводзе свой фотаапарат.

Давайце і мы няспешна прачытаем той артыкул. Захаваем у ім аўтарскі і стыль, і арфаграфію, бо гэта ўжо гісторыя. Прачытаем ды парадуемся за нашага героя-мужыка, які нястомна ўздымаўся на свой Алімп.

«Невялічкі пакойчык. Палатном завешанае акно. Фотаэлементы.

— Ты тут і працуеш, Аляксей?

— Тут. Як бачыце, свая фоталабараторыя, — усміхнуўся хлопец у адказ.

Успомніліся здымкі, зробленыя гэтым чалавекам, што былі змешчаны на старонках газеты. Бачыў я іх упершыню, аўтара не ведаў. Таму запытаўся ў хлопцаў:

— Хто ён? Адкуль?

— Аляксей Скакун. Заатэхнікам працуе ў калгасе «Маладая гвардыя».

Заатэхнік. Безумоўна работы і адказнасці многа. Але Аляксей знаходзіць час, каб актыўна супрацоўнічаць у газеце.

— У мяне матацыкл. Людзей ведаю. Фотаапарат амаль заўсёды пры сабе нашу, — гаварыў Аляксей.

Ну а астатняе амаль вядома чытачам газеты. Здымкі і матэрыялы, зробленыя нашым няштатным карэспандэнтам Аляксеем Скакуном, прыцягваюць увагу непасрэднасцю, майстэрствам, арыгінальнасцю.

— Першыя здымкі, пытаеце? — Яшчэ ў школе было. Захапіла мяне гэтая справа. Зафатаграфуеш бывала каго-небудзь з аднакласнікаў, ну а яны з нецярпеннем чакаюць, пытаюцца: «Атрымалася што-небудзь, Алёша?» А атрымлівалася не заўсёды. То вытрымку няправільна паставіш, то рэзкасць не так навядзеш. Фотаапарат быў тады для мяне загадкай...

З часам мяняецца многае. Зараз заатэхнік калгаса «Маладая гвардыя» Аляксей Скакун паспяхова спраўляецца з любым заданнем рэдакцыі.

Правільна выбраная кампазіцыя — гэта толькі частка работы.

— Здымкі для газеты атрымліваюцца не заўсёды. Адны больш удалыя, другія не, — гаворыць Аляксей.

Аднак трэба сказаць, што амаль усе здымкі, якія даслаў у рэдакцыю Аляксей Скакун, былі змешчаны на старонках газеты.

— Бывае іншы раз заседзішся да паўночы. І сам гэтага не заўважаеш. Цікава проста.

Першы здымак, першы матэрыял дасланы ў рэдакцыю. Хвалюешся, чакаеш.

— Я вучыўся яшчэ ў інстытуце. Паслаў у рэдакцыю аднойчы фотаэцюд. Неўзабаве здымак з'явіўся на старонках газеты. Гэта ўзрадавала, акрыліла, — успамінае Скакун. — Пачаў дасылаць больш. І не толькі фотаэцюды, але і іншыя здымкі. Подпісы сам рабіў. А аднойчы, калі не надрукавалі здымак, у рэдакцыю завітаў, газетчыкі далі параду, заданні атрымаў. Так і завязалася дружба.

Зараз Аляксей Скакун адзін з актыўных аўтараў нашай газеты. Новых поспехаў табе, Аляксей, на творчай ніве».

Ніва ў Аляксея Сцяпанавіча была сапраўды маладагвардзейскай: і маладой, і гвардзейскай, і творчай, і ўраджайнай. Апроч сваіх заатэхнічных абавязкаў, з якімі спраўна ладзіў, ён да таго ж яшчэ і камсамольскі важак. Пасля ўзначаліў партыйную арганізацыю калгаса. Служыў раённай газеце. Будаваў хату. Быў падручным у сваёй любай Валі па гаспадарцы. А яна рыхтавалася ўзнагародзіць яго сямейным спадчыннікам.

Вялікае проста не даецца, асабліва, калі робіш на зямлі. Сама птушка ў рукі не ўскочыць. Аляксею гэтыя ісціны не вывучаць, не запамінаць. Яны жылі ў яго душы. І як бы само сабой завітала да яго прызнанне сялян і начальства. З верасня 1973 года галоўнага заатэхніка Скакуна прызначылі намеснікам старшыні калгаса «Маладая гвардыя».

Праз сорак гадоў мы завіталі з Аляксеем Сцяпанавічам у паселішча і абшары сучаснага СВК «Снітава-Агра», паслядоўніка калгаса «Маладая гвардыя». Каля адной хаты прыпыніліся. Гаспадыня, мажная і чырванашчокая жанчына, вяла каня за аброць. Пытаю ў яе:

— Ці помніце Скакуна? У калгасе вашым некалі працаваў...

— О, мой харошы, ён любіў парадак. І правільна! Не будзе дысцыпліны, не будзе парадку, не будзе і вынікаў. Дай жа і ў сям'і так, калі неслухі, не паважаюць бацькоў, дык і вырастуць нелюдзямі...

— А вы маглі б праз сорак гадоў пазнаць вашага кіраўніка Скакуна?

— Хто яго ведае, — сказала жанчына і пачала пільна ўзірацца ў каранастага, сівагаловага госця. — Божачкі, няўжо гэта ён?..

— Ён, ён, — усміхнуўся Аляксей Сцяпанавіч.

— А я ж Ганна Дабрадзей. Рабіла свінаркай... Ай-ей...

Вулічная, нечаканая сустрэча падбадзёрыла Скакуна: яго помняць! З такім настроем ён павёў мяне ў праўленне сельскагаспадарчага кааператыва. Паказаў свой даўнейшы кабінет. Прыпыніліся каля музейных вітрын. Убачыў сваю фотакартку, прыметна ўсцешыўся: помняць!

У кабінеце старшыні сустрэліся з Анатолем Аляксеевіча Гліннікам. Чарнявы, паўнаваты, але моцна збіты, спартыўны кіраўнік «Снітава-Агра» бліснуў ва ўсмешцы залатым зубам:

— О, якія людзі да нас! Я тады пацаном быў, як вы працавалі тут, у «Маладой гвардыі». А бацька мой пры вас быў кладаўшчыком.

— Помню, мы з ім, бывала, і па чарцы рабілі, — прызнаўся Аляксей Сцяпанавіч.

— Ага, ён аматар выпіць...

Два старшыні хутка знаходзяць тэму для агульнай гаворкі. У ход пайшлі словы: «цэнтнеры, балы зямлі, збалансаваныя кармы, арганіка, кампосты...» А я ў гэты час вывучаў кабінет. Стол, некалькі тэлефонаў, правадных і сотавых, камп'ютар, кававарка. На сцяне вывешана выказванне Цыцэрона: «Ошибаются те, которые во время благополучия думают, что навсегда избавились от невзгод».

У кабінет завітаў былы брыгадзір, эканаміст Уладзімір Мацвеевіч Кравец. Адразу кінуўся да Скакуна ў абдымкі:

— Якімі вятрамі, Сцяпанавіч?

— Ды вось, думаю, дай зазірну ў сваю маладосць.

— Добра, што завітаў!.. Бачыш, тут ад старога калгаса мала чаго засталося. Пабудовы новыя. Тэхнікі сучаснай хапае. Трэба змагацца толькі за тое, каб дысцыпліна была ва ўсім. — Уладзімір Мацвеевіч пільна зірнуў на Скакуна, прызнаўся: — Я, братка, і цяпер дзіўлюся, ці спаў ты калі-небудзь, як працаваў у нас? Невядома калі адпачываў...

— Я тады ў школу хадзіў, мо ў які пяты клас, — падтрымаў гаворку Гліннік, — Ага, дык чуў, як казалі, што Скакун хаваўся ў капусце, лавіў злодзеяў фотаапаратам. От баяліся ўсе гэтай «цацкі»...

Кабінет старшыні напаўняецца задзірыстым смехам. У ход пайшлі жарты, анекдоты, смяшынкі.

— Помню аднаго гуляку разбіралі ў райкаме, — прыгадаў Аляксей Сцяпанавіч. — Ёнвініцца і кажа сакратару: «Прымаю вашы словы да канца». А той як гаркне пры ўсіх: «Лепей бы — да сэрца!..»

Душой успрымаў Аляксей Скакун сваю працу ў «Маладой гвардыі». Вось чаму праз сорак гадоў яго сардэчна прымалі тут, у Снітаве.

### 3. У імя дачкі і сына

Роўна праз дзевяць месяцаў пасля вяселля, як і абяцалі, Аляксей і Валянціна прад’явілі бацькам сваю дачушку, а ім — унучачку Эму.

Імя прыдумала Валянціна Іванаўна. Была такая дамоўленасць у сям’і: калі нараджаецца дачка, імя ёй надае маці, а калі сын, то імя яму шукае бацька.

Па тым часе паслугамі гараскопаў карысталіся хіба што цыганкі. Гэта ж не тое, што цяпер, прадказальнікаў тых, што святлафораў у вялікім горадзе. Толькі пазірай, завядуць куды хочаш. Валянціне проста падабалася імя Эма. У ім чулася ёй нейкая адметная ласкавасць і пяшчота. Да таго ж яна ведала адну вельмі добрую Эмілію, гаспадыню кватэры, родзічку, у якой прыпынялася, калі прыязджала ў Мінск на экзаменацыйныя сесіі.

Валянціна Іванаўна ў выбары імя дачкі не памылілася. Сучасныя гараскопы сцвярджаюць, што энергетыка і карма Эмы прамая, напружаная. У ёй адчуваецца некаторая замкнутасць і строгасць, але гэта толькі маска. Звычайна Эма вылучаецца надзейнай унутранай сілай волі, самастойнасцю. Яна працалюбка і настойлівая ў сваіх справах, а прадуманасць і стрыманасць — гэта ад таго, што часцей давярае свайму розуму, чым эмоцыям. Валявы характар і ўменне працаваць з людзьмі, прарочаць гараскопы, дазволяць ёй зрабіць жаданую кар’еру на кіруючай пасадзе. Так і збылося ў жыцці Эміліі Аляксееўны. Яна цяпер узначальвае ў Брэсце фірму «Кантынент», гэткі сучасны камбінат прыгажосці, у якім звыш сарака чалавек — масажысты, касметолагі, цырульнікі, кансультанты.

Але вернемся да вытокаў Эмінага жыцця, у ліпень 1971 года, калі яна ўпершыню ўбачыла неба над горадам Іванава, дзе нарадзілася, над вёскай Дастоева, дзе правяла першыя месяцы жыцця, над вёскай Снітава, дзе сем’я мела казённы дом і дзе працавалі яе бацькі.

Атрымалася так, што ў раддом Валянціну вазіў Аляксееў брат Васіль. Якраз прыехаў з Мінска ў Дастоева праведаць бацькоў. Там жа, праз хату была ў сваёй мамы і Валянціна. З дня на дзень гатова абрадзіцца. А калі наступіў той жаданы міг, муж у камандзіроўцы ў Брэсце, здаваў жывёл на мясакамбінат. Васіль на сваім «Масквічы» і завёз парадзіху ў Іванава.

Дачка! Аляксей Скакун — бацька!

З такімі «клічнікамі» вярнуўся галоўны заатэхнік «Маладой гвардыі» са службовай паездкі.

Нараджэнне дзіцяці надало мужу і жонцы Скакунам новы статус. Іх жыццё скіроўвалася ў бок спадчынніцы, яе лёсу, будучыні. Яны адчулі адказнасць за яе. Яны мусілі, абавязаны былі выгадаваць і аддаць у грамадства падобнага сабе чалавека. Каб за яго не чырванець, каб ён быў удзячны ім за сваё з'яўленне на свет. Гэтыя простыя, яшчэ дамастроеўскія ісціны, яны ўспрынялі па-свойму.

— Аляксея стала не пазнаць, — згадвае Валянціна Іванаўна. — Дзе б ён ні быў — на ферме, у полі, у канторы ці ў райцэнтры — у пэўны час вяртаўся дамоў. Разам купалі Эмачку. Ён беражліва, асцярожна трымаў галоўку, а я хуценька мыла нашу дачушку...

Мацяркі Аляксея і Валянціны наведвалі іх у Сітаве. Дапамагалі, падказвалі, падбадзёрвалі: «З дзеткамі гора толькі да заціркі, а там пойдзе само сабой». А яшчэ верылі: «Дзетак не родзяць, а робяць. Пацей, Аляксей, калі займеў дзяцей».

Сказана ў рыфму, у множным ліку. А Скакуны і напраўду вырашылі займець яшчэ аднаго дзіцёнка-будзёнка. Праз два гады і восем месяцаў іх сям'я папоўнілася сынам Андрэем. На гэты раз сам Аляксей даставіў Валянціну ў раддом. Усім хваліўся:

— О, што значыць, сам завёз куды трэба, дык і сын атрымаўся!

Імя сыну надаў бацька. Андрэем звалі яго самага вернага і надзейнага сябра. Той самы Андрэй Бурак, з якім пасвілі ў дзяцінстве кароў, з якім бегалі ў грыбы, сталярнічалі, і якому выпадкова Аляксей цэпам паставіў «аўтограф» на лбе. Іх сяброўства — не разлі вадой. Гэта еднасць замацавалася ў імені сына Аляксея Скакуна.

Андрэй нарадзіўся ў сакавіку, як і бацька. Імя ў грэчаскай мове азначае — мужны. Сапраўды, яго жыццёвая энергетыка моцная. Яна, як і ў бацькі, падтрымліваецца нястомнай працай і цярпеннем. Усё гэта выпеставана з дзяцінства.

Скакуны выхоўвалі дзяцей перш за ўсё сваімі паводзінамі, адносінамі адзін да аднаго і да сваёй працы. Дзеці ўсё гэта бачылі, адчувалі і бралі ўрокі для сябе.

Была ў іх яшчэ незвычайная нянька — бабуля Ганна. Брат яе Пётр рабіў пастухом у калгасе і параіў Аляксею Сцяпанавічу ўзяць сястру ў іх сям'ю. Ганна ад прыроды ўдалася добрай, паслухмянай, майстрыхай. Але долю чамусьці атрымала трагічную. У дзяцінстве нечага вельмі спалохалася, і анямела на ўсё жыццё. Гаварыла некалькі слоў: «Пеця», «маляты» (дзіця), «піпа» (вада). А калі падрасла, пагналі з суседкай пасвіць кароў. Наляцела нечаканая навальніца. Пастушкі схаваліся пад кустом. Туды секанула маланка. Напарніцу забіла, а Ганна аглухла.

Бабуля Ганна, як курка-квактуха, неадступна хадзіла за дзецьмі, вадзіла іх за сабой. А калі клала каго спаць, сама садзілася побач і гладзіла рукой галоўку, мармытала нешта падобнае на калыханку. Яе пяшчотай выхоўвалася ў Эмы і Андрэя паслухмянасць, спагадлівасць. Яны і сталіся першымі старонкамі іх жыццёвага буквара.

Як жа самі, цяпер ужо дарослыя дзеці Скакуновы, ацэньваюць урокі маленства, што помніцца з бацькоўскай навукі?

Эма Аляксееўна, дырэктар фірмы «Кантынент»:

— Бацька строга нас выхоўваў. Даюць калгаснікам дзялкі буракоў, і ён бярэ для нас. Мы з Андрэем і палолі іх, і чысцілі, і бацвінне абразалі, і на машыны грузілі. Гарбаціліся на тых бураках, як усе. У школе на ўроках працы выбрала,

па рэкамендацыі бацькі, прафесію даяркі. Летам цэлы месяц працавала на ферме. І кароў апаратам даіла, і гной з-пад іх прыбірала, і на пашу ганяла... Летам удзень нам забаранялася глядзець тэлевізар. У вёсцы ж дазваляюць сабе адпачынак каля тэлевізара толькі вечарам, як усё па гаспадарцы зроблена. Такіх правілаў павінны былі прытрымлівацца і мы з Андрэем. Дык, бывала, пыласос трымаем напагатове, а самі глядзім кіно. Як толькі бацькаў «газік» супыніцца каля нашай хаты, мы вырубаем тэлевізар і гудзім пыласосам... Аднаго разу позна вярнулася з дыскатэкі, паспаць бы, а бацька раніцай будзіць: «Табе што, няма чаго рабіць?» Павыкідваў з шафы ўсё адзенне: «Збяры, акуратна пскладвай!..» Вучыў нас фатаграфаваць, вадзіў у лес. Па выхадных вазіў у гарадскі парк, абавязкова заходзілі ў цір. Бацька вельмі метка страляў, вучыў і нас гэтаму спрыту...

Цікава слухаць успаміны Эмы Аляксееўны. Яна чамусьці мне падалася напачатку вельмі строгай, дзелавой, недаступнай пані, але яе развагі і ўспаміны, мілагучная мова і ўчэпістая памяць ушчэнт разбурылі мой недавер да дырэктара фірмы. Усё болей я пазнаваў у ёй дачку самога Скакуна.

— Наша бабуля Ганна, маміна мама, рабіла касірам у калгасе, — прадаўжае свой аповед Эма Аляксееўна, — Дык я аднойчы папрасіла яе: «Бабулька, дай нашаму тату паболей грошай, каб ён толькі рана не хадзіў на работу, каб позна не прыходзіў, каб з намі часцей бываў...»

— А ці браўся бацька калі-небудзь за папружку?

— Ніколі! Мама, хаця і настаўніца, магла сабе дазволіць такі метад выхавання. Але яе папружка небалючая. І заўсёды справядлівая. Тата ніколі пры нас не павысіў голас на маму. І нас выхоўвалі словам.

— Ён, кажуць, ніколі не хадзіў у зароблены, законны адпачынак. Дык што, і вы летавалі толькі дома?

— Чаму ж, адзін раз я была нават у Артэку. Але перад тым, як уручыць мне пуцёўку, бацька паставіў умову: «Здымі завушніцы». Не мог дараваць, што мы з мамай, тайна ад яго зрабілі злачынства — прабілі вушы для завушніц. Пасля дараваў мне і гэта. Дабраком удаўся наш бацька...

У Андрэя Аляксеевіча, старшыні сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства «Амеліна», свая ацэнка бацькі і яго навукі:

— Выхоўваў так. Прывёз мяне на канюшню ў восем раніцы і кінуў: «Дапамагай, рабі, што скажуць». Я, пяцікласнік, і сена варочаў, і зграбаў, і падсобнікам служыў у даглядчыкаў цялят. Зарабіў тады грошай на веласіпед. Іншым летам на зерняткоку зарабіў на магнітафон «Беларусь-301». У старэйшых класах ужо быў памочнікам камбайнёра. Купіў сабе мапед. Працай узбагачайся — во які бацькаў метад. Скажа і пайшоў, мы рэдка яго бачылі. Чужых людзей, бывала, часцей сустрэнеш, чым роднага бацьку...

Званю ў Лышчыцы, дзе цяпер жыве сям'я Скакуновага сына Андрэя Аляксеевіча. Першыя дні восені, дзесяць гадзін вечара. Падымае трубку Танька, трэцякласніца:

— Алё, татка, гэта ты?

— Не, дзяўчынка, я з Мінска, хацеў бы пачуць твайго тату.

— А яго дома яшчэ няма.

— Калі будзе?

— Калі я ўжо спаць лягу, — прызналася Танька, у голасе яе адчуўся смутак і жаль.

Можа, і Таццяна Скакун, унучка Аляксея Сцяпанавіча, калі-небудзь падобраму паскардзіцца каму-небудзь, што ў дзяцінстве рэдка бачыла свайго бацьку, старшыню калгаса. Што ж, такая парода Скакуноў: працаваць — дык на поўную моц, дыхаць — дык на поўныя грудзі, смяяцца — дык ад душы.

Любіць дзяцей не на паказ, а неўпрыкмет пераліваць у іх свой духоўны капітал.

Калі Аляксей і Валянціна ўздымалі на ногі сваіх дзяцей, у краіне панаваў махровы атэізм. А мне здаецца, нават у той няпросты час яны ўмелі ціха маліцца за дачку і сына. Яны жадалі і хацелі, каб іх спадчыннікі прыстойна прадоўжылі род Скакуноў — Ткачукоў. Ім удалося выхаваць дзяцей, вартых высокай павагі.

## 4. Узнясенне «Дружбы»

У Піфагора ёсць такая мудрасць: «Не закрывай вочы, калі хочаш спаць, пакуль не разбярэш усе свае ўчынкі за прайшоўшы дзень».

Карацей, паспавядайся перад сабой за пражыты дзень. Аляксей Скакун так і рабіў. Больш таго, ён не мог заснуць датуль, пакуль не прадумае-абдумае, а куды павядуць ногі заўтра, якімі клопатамі агорнецца галава ў новым дні, з кім мусіць сустрэцца, што зрабіць. Дапамагаў блакноцік-штодзённік, кароткія пазнакі ў якім мог разабраць толькі сам Аляксей.

Вось у такім дбайным рытме жыцця і заспеў намесніка старшыні калгаса «Маладая гвардыя» Скакуна нечаканы званок з Іванаўскага райкама партыі:

— Вас, Аляксей Сцяпанавіч, выклікае для гутаркі першы сакратар Аляксей Мікалаевіч Кот.

— Калі трэба быць? — спытаў Скакун, хаця карцела даведацца, навошта ён спатрэбіўся кіраўніку раёна, але сціпласць і партыйная этыка прытушылі яго цікаўнасць.

Роўна ў вызначаны час, а гэта быў ужо надвячорак, Аляксей Сцяпанавіч пераступіў парог шыкоўнага кабінета. Першы сакратар ветліва паздароўкаўся з ім. Запрасіў прысесці ў крэсла насупраць сябе.

— Мы тут параіліся, прыкінулі і вырашылі, — партыйны лідар перахапіў крыху насцярожаны позірк Скакуна і перастаў мучыць яго, адразу выдаў прапанову. — Адным словам, Аляксей Сцяпанавіч, хочам, каб вы ўзначалілі калгас «Дружба».

Скакун шукаў словы, каб нешта сказаць, а іх, патрэбных, усё не знаходзілася. Маўчанне зацягвалася. Ініцыятыву трымаў сакратар, і ён прадоўжыў размову:

— Ведаю, ёсць над чым падумаць, таму і не праспешваю з адказам. Калгас, у які мы вас сватаем, — не манна нябесная. Там трэба па-новаму пералапаціць усё: і кадры, і зямлю, і свядомасць людзей. Работы, як кажуць, непачаты край. Каму як не вам, маладому ды апантанаму, узяцца за гэту справу.

— Неяк усё нечакана выходзіць, — азваўся Скакун. — Былі іншыя планы...

— Ведаю, мы рыхтавалі вас на «Маладую гвардыю», але ж там Кузьмянок моцна трымаецца за старшынёўскае крэсла. Баюся, каб вы, Аляксей Сцяпанавіч, не засядзеліся з ім у намесніках.

— Яно так, але калгас «Дружба» — гэта жывая пятля на шыю, — сказаў што думаў Скакун, і дадаў: — Трэба паразмысліць, Аляксей Мікалаевіч.

— Падумайце. Чакаю вас заўтра ў сябе пасля работы...

Праз шмат гадоў партыйны пенсіянер Кот скажа мне пра знакамітага Скакуна:

— Мне спадабаўся ён, калі я сватаў яго на «Дружбу». Тры вечары ўломваў, а ён усё ўпарціўся. Калі чалавек не адразу пагаджаецца, значыць, ён думае. Такі спецыяліст і патрэбен быў у адстаючы калгас. Я не памыліўся ў сваім выбары.

Тыя тры вечаровыя гутаркі ў райкаме партыі сталі рэвалюцыйнымі ў душы Аляксея Сцяпанавіча. Яго думкі-скакуны не адзін раз пранесліся па ўжо пройдзенай дарозе жыцця, ляцелі ў заўтрашні дзень і ў далёкую будучыню. Што рабіць? Толькі збудаваў дом, пачалі абжываць яго. Дзеці маленькія, ім трэба ўвага. І тут, у «Маладой гвардыі», адчуваў, можна з часам надзець на сябе хамут старшыні калгаса. Навошта зрывацца з наседжанага месца?

А з іншага боку, думаў Скакун, райкамаўцы могуць закусіць губу і ад іх не дачакаешся новых прапаноў. «Трэба пагаджацца», — вырашыў Аляксей Сцяпанавіч. Пра сваю згоду ён паведаміў першаму сакратару Кату, калі сустрэліся з ім за трэцім разам.

— Вось і слаўна! — узрадаваўся Аляксей Мікалаевіч. — Будзем рэкамендаваць вас. Ад райкама і райвыканкама атрымаеце поўную падтрымку. Трэба «Дружбу» вывесці ў людзі!

Скакун выйшаў з райкама, асядлаў матацыкл. Машына пад ім неяк задзірыста фыркнула і з месца рванулася на вялікай хуткасці. Вясновы вецер абхапіў ездака сваімі калючымі абдымкамі. А ў галаву Аляксея паляцелі шалёныя думкі пра новую кар’еру, пра ўсё тое, што чакала яго наперадзе. Віхор думак прыгнаў у памяць верш паэта Міколы Федзюковіча, які быў надрукаваны якраз жа ў тыя дні у раёнцы «Чырвоная звязда»:

Валянціна! Як на звонкіх
гуслях —
голас твой гучыць за тры
вярсты...
Аб тваіх заўжды
вясновых вуснах
мрояць мускулістыя
вятры.
Зоры над палямі, бы
арэхі.
Млечны шлях — бы хто
пазалаціў...
Я каб мог, усе ля Пінска
рэкі
з песняй Валянціны
заручыў!
Васількова-бэзавае неба,
Лустай хлеба спее
маладзік...
Мне пабыць сам-насам
сёння трэба, —
дзе ў юнацтве з песняю
хадзіў...

«Мая Валянціна, родны мой чалавек, як жа ты ўспрымеш маё рашэнне?» — думаў пра гэта ўсю дарогу ад Іванава да Снітава.

А Валянціна Іванаўна як бы чакала такога пытання, як бы даўно была гатова да любых пераездаў, супакоіла мужа:

— Мы з табой, Аляксей, як нітка з іголкай. Кажуць, быць жонкай марака і старшыні калгаса — адно і тое ж. Я з табою хоць куды. А яшчэ, ты ж ведаеш, умею выпраўляць на працу, умею чакаць дамоў, колькі б гадзін не доўжыўся твой рабочы дзень.

Быў той рэдкі выпадак, калі Аляксею Сцяпанавічу хацелася гаварыць кампліменты, і ён прызнаўся:

— Дзякуй, Валянціна, за падтрымку. Мне пашанцавала. Ты ў мяне сапраўдная жонка, верны і цярплівы сябар.

Першы рабочы дзень Аляксея Скакуна ў «Дружбе» супаў з яго днём нараджэння. Было гэта 1 сакавіка 1975 года. Новаму, пятнаццатаму старшыні калгаса ў Сачыўках, споўнілася дваццаць дзевяць гадоў. У гэты дзень ён прымаў справы ад старшыні Варашылава, пры якім гаспадарка апусцілася на апошняе месца ў раёне, стала лузерам па ўсіх паказчыках вытворчасці.

Дасціпныя вяскоўцы з гэтай нагоды «спяклі» новы жарт:

— Сам «маршал» Варашылаў не разварушыў мужыкоў. Прыскакаў Скакун — па калгасах гарцун.

З'едлівы напамін пра тое, што малады ды спрытны дастоевец паспеў папрацаваць ужо і ў «Чырвонай звяздзе» і ў «Маладой гвардыі». Цяпер пераскочыў у «Дружбу». Не ўсе ведалі, што Аляксей Сцяпанавіч яшчэ ў дзяцінстве марыў стаць Ходасам, не старамодным, амаль непісьменным старшынёй калгаса, а сучасным, адукаваным лідарам мужыкоў, іх заступнікам і абаронцам. Яшчэ не ведалі сяляне Сачывак, Сычэва, Беразлянаў, Кулякаў, Крывіцы, што іх новы старшыня Скакун ніколі саматугам не ўздымаўся па кар'ернай лесвіцы, нікога не прасіў, каб падштурхоўвалі на новыя прыступкі. Яго шчырая праца была навідавоку. І толькі яна, толькі самаадданасць зямлі і калгаснікам, само сабой узвышалі маладога кіраўніка.

Землі, на якіх працаваў Скакун і на якія прыехаў працаваць, суседнічаюць. А зямля, як вядома, чуткамі поўніцца. Вось і пра вяскоўцаў з калгаса «Дружба» хадзілі ўстойлівыя чуткі, што яны маюць толькі дзве прафесіі — злодзеі і самагоншчыкі. У гэта новы старшыня і верыў, і не верыў.

У першыя дні свайго старшынёўства Аляксей Сцяпанавіч аб'ехаў, абышоў усе наяўныя палеткі, пабываў ва ўсіх калгасных забудовах, сустракаўся з людзьмі і выслухоўваў іх. Яго рашэнне было адназначным: людзям трэба даць работу, іх трэба зацікавіць заробкам, яны павінны паверыць, што гаспадары тут не начальнікі, а самі вяскоўцы, радаводныя карані якіх глыбока сядзяць у гэтых землях.

Скакун ухапіўся за дзве праблемы: ператрус севазвароту і будаўніцтва.

Сваім валявым рашэннем старшыня вылучыў сто дваццаць гектараў лепшых зямель пад гародніну. Амаль палову з іх адвялі пад цыбулю, далі волю раннім гуркам, капусце. Стварылі спецыялізаваныя звенні, даручылі кіраваць імі вопытнаму практыку Мікалаю Аляксеевічу Федзюковічу. Збудавалі пятнаццаць парнікоў для вытворчасці расады памідораў і капусты.

І праз пэўны час з беднай некалі «Дружбы» паехалі машыны з мясцовай гароднінай у Мінск, Баранавічы, Кобрын, Брэст, Пінск. Паплылі грошы ў калгасную касу. І на іх Скакун вырашыў збудаваць свой кансервавы завод, дзе выпускалі 22 віды прадукцыі.

Будоўля стала любімай справай старшыні. На новых аб'ектах ён быў і прарабам, і архітэктарам, і забеспячэнцам, і проста мулярам. Хацелася як мага хутчэй узбагаціць вёскі патрэбнымі аб'ектамі.

Праз тры гады Аляксей Скакун смела пісаў у раёнку свой артыкул «Эканоміка мацнее». У ім ён паведамляў усім іванаўцам, «што ў калгасе «Дружба» здадзены ў эксплуатацыю комплекс на 400 кароў, адкормачнік на 300 галоў статку, заканчваецца будаўніцтва яшчэ аднаго кароўніка, магазіна ў вёсцы Беразляны, сушылкі для цыбулі, павеці для камбайнаў, аўтазаправачнай станцыі...»

Адно гэта — перамога!

Ды ўзнясенне «Дружбы» на раённую арбіту адбылося і па іншых прычынах. Усіх работнікаў ферм забяспечылі палівам, газавымі плітамі, з імі праводзілі заняткі па вывучэнні асноў эканомікі, ветэрынарных і заатэхнічных правілаў утрымання жывёлы. Кароў удосталь забяспечылі кармамі.

Павысіліся ўдоі малака, больш умалотным стаў кожны гектар нівы. І вось ужо на раённых нарадах загучаў калгас «Дружба» і яго старшыня Аляксей Сцяпанавіч Скакун. Гаспадарцы ўручылі пераходны Чырвоны сцяг Брэсцкага абкама партыі і аблвыканкама, а старшыні — Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета БССР. Гэта была вышэйшая ўзнагарода Беларусі па тым часе.

— Я працавала тады настаўніцай, — прыгадвае Клаўдзія Рыгораўна Свіціч. — Дык не паверыце, Скакун уздыбіў усе Сачыўкі. Цэнтр калгаса не пазнаць. Тут збудавалі гандлёвы цэнтр, клуб, школу, кантору, жылыя дамы. Божа мой, усё будавалі і будавалі. Мой муж тады рабіў парторгам, дык яны са Скакуном мо па тры гадзіны толькі спалі. Маладыя былі, весела жылі. Новы год разам у канторы сустракалі. Скакун умеў згуртаваць вакол сябе інтэлігенцыю...

Размову падхоплівае ветэран Сачывак Марк Аляксандравіч Мельнікаў, былы загадчык медпункта:

— Скакун і пад нашу ўстанову заклаў новы фундамент. Таленавіты кіраўнік. Ён пакінуў тут памяць пра сябе на вякі. Па-справядліваму рабіў. Госпадзі Божа мой, каб ён у нас да сіх пор пабыў, то ў нас былі б залатыя горы. Прабіўны! Моцны целам і духам. Начамі не спаў, каб толькі хто цюк саломы не ўкраў...

— О, са злодзеямі ў яго была бязлітасная вайна, — усміхаецца і закурвае Міхаіл Аляксеевіч Церашкевіч, вечны калгасны вадзіцель. — Бывала праз яго сына Андрэйку злодзеі выпытвалі: «Калі твой бацька спіць?» А малы адказваў: «Мой тата, калі спіць, то ў ботах...» Яго сапраўды можна было сустрэць у любы час сутак дзе хочаш...

Расказваюць, Скакун меў такую звычку. Аб’яўляў, што едзе ў камандзіроўку, а сам залазіў на сцірту саломы з фотаапаратам. І вечарам, калі смельчакі падыходзілі з пасцілкамі, іх сустракаў старшыня і «расстрэльваў» фотаўспышкай. Атрымліваўся эфект выбуху бомбы.

Але ж было, што і сам Скакун трапляўся на «вудачку» мудрых вяскоўцаў. Па суседстве з ім жыў трактарыст Мікола. Вось аднойчы вечарам ён пад’ехаў на трактары да хаты і крычыць жонцы, каб Скакун пачуў:

— Люда!.. Не зачыняй вароты, я сёння паеду цюкі красці...

Пракрычаў так дый пайшоў спаць. А Скакун паехаў Міколу падпільноўваць, лавіць. Дома не начаваў. Во як было!

Былы брыгадзір з вёскі Крывіца Мікалай Сямёнавіч Валашчук, да якога мы доўга прабіваліся ляснымі сцежкамі, пра старшыню Скакуна захоўвае свае ўспаміны:

— Слоў не хапае гаварыць пра этага чалавека. Ён такі прабіўны, як трава на асфальце. Паехаў аднойчы з жонкай у санаторый «Бярэсце». Няма Скакуна, усе слабінку адчулі. Аж тут званок з «Бярэсця» ад старшыні: «Рыхтуйцеся, з Мінска ідуць нам вагоны з пліткай, цэглай». Ага, каб не прагульвалі будаўнікі. Во як кіраваў! Ён, як прыехаў да нас, у драўлянай канторы ўзяў сабе маленечкі кабінет на першым паверсе. Кажуць, там раней вартаўнік сядзеў. А ўсё, каб быць бліжэй да людзей, хто ідзе да яго на прыём. Усе мы дзіваваліся, калі Скакун спаў. Хадзіла такая чутка. Яго сын Андрэйка пытаецца у мамы: «Тата сёння начаваў дома?» Валянціна адказвала: «А ты паглядзі, сынок, ці памятая падушка на яго пасцелі». Рэдка дзеці бачылі бацьку, а выраслі прыстойнымі людзьмі...

Я быў сведкам, як праз трыццаць гадоў сустракалі Аляксея Сцяпанавіча Скакуна ў шыкоўным клубе ў Сачыўках. Цяпер у вёсцы не калгас «Дружба», а СВК «Бакунава». Ёсць недалёка ўрочышча з такой назвай. У клубе — бітком людзей, як пчол у вуллі. На сцэну выйшаў цяперашні старшыня Іван Лукіч Гарбачык:

— Таварышы, мы сёння пачалі ўборку. Нас прыехаў натхніць з Астрамечава сам Аляксей Сцяпанавіч Скакун. Ды не адзін, а са сваім знакамітым на ўсю Брэсцкую вобласць народным вакальным ансамблем «Лявоны». Вітаем іх!

Як жа ўзарвалася зала, як жа душэўна віталі тут былога старшыню! Асабліва ганарыліся ветэраны, якім пашчасціла працаваць з Аляксеем Сцяпанавічам. А ён сарамліва падняўся на сцэну, трымаючы ў руках свой фірменны сувенір — драўлянага, варанога каня.

— Скакун на скакуне да вас завітаў, — сказаў, змоўк, відаць, ад радасці сустрэчы яму не хапала слоў. — Я меў шчасце пяць гадоў жыць з вамі. Вы працавітыя і добрыя людзі. Шчасця, здароўя, багацця вам і вашым дзецям!

Дзявяты вал апладысментаў скалыхнуў утульны клуб, які будаваў некалі Скакун. Ён стаяў перад людзьмі, усхваляваны, узрушаны і светла ўсміхаўся. Мне падалося, у той міг да яго вачэй падкрадваліся слёзы душэўнай задаволенасці.

Выручылі Аляксея Сцяпанавіча «Лявоны». Яны змянілі яго на сцэне. Азваліся скрыпка, гармонік, бубен. Загучалі маладыя, напеўныя галасы астрамечаўскіх самародкаў, выпеставаных самім Скакуном.

## 5. Заманлівая ралля

Аляксей Скакун любіў познім вечарам, калі дзеці ўлягуцца спаць, сесці ў мяккае крэсла і пагартаць газеты. Найперш прабягаў вачыма па загалоўках. Прыпыняўся на тых артыкулах, у якіх асвятляліся падзеі ў свеце і Беларусі. А найбольш, безумоўна, цікавіў хлебаробскі вопыт. Чытво заканчваў раённай газетай «Чырвоная звязда». Часам аклікаў жонку:

— О, Валя, паглядзі і пра нашу «Дружбу» пішуць.

Валянціна перахоплівала з рук мужа раёнку, пільна ўзіралася ва ўсе радкі і расчаравана гаварыла:

— Дзе ж тут пра нас?.. Нешта не знаходжу...

— А во чытай: «Нядрэнна працуюць гаспадаркі раёна «Зара камунізму», «Шлях да камунізму», «Шлях Леніна», «Светлы шлях» і іншыя». Іншыя — гэта ж мы, калгас «Дружба», — тлумачыў Аляксей, і яго ўсмешлівыя вочы як бы суцяшалі жонку: «Нічога, дажывём, і пра нас скажуць на поўны голас».

І праўда, ужо на трэцім годзе Скакуновага старшынёўства «Дружба» ўзнялася на другі, трэці радок у раённых зводках па малаку, мясу, сярэднясутачнай прывазе жывёлы, па якасці прадукцыі. Аляксея Сцяпанавіча прасілі даць інтэрв'ю, напісаць артыкул. Ён гэта рабіў «адной левай», бо што шукаць словы і лічбы, калі яны заўсёды з ім, у галаве і на кончыку языка. Малады старшыня трымаў у памяці ўсю бухгалтэрыю і статыстыку, пастаянна насіў з сабой усе праблемы і клопаты гаспадаркі. З імі, як кажуць, дняваў і начаваў.

Зрухі ў працы былі відавочныя. Людзі паверылі і яму, і ў саміх сябе. І гэта радавала Скакуна, але не да такой ступені, каб пачаць «бранзавець». Сам сябе як бы падсцёбваў крапівой-пякучкай: «Думай, Аляксей, думай, атаман, каб мужыка не ўвесці ў зман».

Пражытыя гады і сялянскі вопыт вымагалі абдумваць кожны крок па зямлі, прымушалі зазіраць у далёкі заўтрашні дзень.

Скакуноў роздум найперш сягаў да практыкі продкаў з лапатай і плужком. Стагоддзямі мужыковай навукай заставаліся павер'і,назіранні, прадказанні. Некаторыя з іх яму вельмі падабаліся, і ён іх помніў.

«Ранняя птушка дзюбку прачышчае, а позняя — вочкі працірае». Гэту мудрасць засвоіў вельмі рана, яшчэ на досвітку свайго жыцця. Навучыўся

прачынацца разам з курамі, якія сакаталі пра знесенае яйка, разам з каровай-карміцелькай, якая рыкала, прасіла выдаіць малако, разам з жаўрукамі, якія спявалі гімн узышоўшаму сонцу. Яму, ранняй птушцы, першаму перападалі маміны пачастункі — блінцы, кубачак сырадаю, свежае яйка. Рана зразумеў Аляксей, што селяніну позна спаць — з зямлёй не сябраваць, вочкі праціраць, калі ўсе на нагах, — несусветны сорам.

Ад дзеда Васіля чуў розныя павучанкі: «Прыйшоў Алісей — авёс пасей. Сей лён на Станіслава, вырасце, як лава. Да Міколы не сей грэчкі ніколі. Калі на Пятра пойдзе дождж, будзе жыта, як хвошч. Як дождж на Юр'я, то будзе хлеб і ў дурня. Калі запяе ўдод — сей боб...»

«Добра, разважаў старшыня калгаса Аляксей Скакун, калі селянін быў такі дасведчаны ўсявед, то чаму ўсё жыццё бедаваў, чаму вясною ён сам і яго дзеці пухнулі з голаду, чаму не хапала хлеба ад дажынак да новага ўмалоту?»

Адказы на гэтыя пытанні Аляксей Сцяпанавіч шукаў у сваім калгасе, які станавіўся яго доследнай, выпрабавальнай станцыяй. Часам сердаваў, нерваваўся, што яго ініцыятыву скоўвалі бязмежныя партыйныя дырэктывы, загады і ўказанні.

А побач, на пінскай зямлі, адчайна дзейнічаў, ставіў смелыя эксперыменты двойчы Герой Сацыялістычнай Працы старшыня калгаса «Аснежыцкі» Уладзімір Антонавіч Ралько. У Скакуна, відаць, як і ў многіх яго калег, узнікалі законныя пытанні: як гэтаму сялянскаму мудрацу ўдалося захаваць сваю самабытнасць і смеласць, як здолеў у адным, асобна ўзятым калгасе, пабудаваць камунізм, як гартаваў свай характар у час паўсюднага партыйнага нізкапаклонства і дыктату?

Як ён выстаяў у тую эпоху, калі народную сялянскую практыку з яе павер'ямі ў прыроду і найвышэйшую сілу, абазвалі забабонамі? Новай, эфектыўнай сялянскай навукі яшчэ не мелася. Праўда, жыў і баіў казкі пра высокія ўраджаі, даваў парады на ўвесь Савецкі Саюз малаадукаваны акадэмік Лысенка. А яшчэ заводзіліся ў кожнай мясцовасці свае бажкі, якія выдавалі рэцэпты, як і калі селяніну сеяць, касіць, убіраць ураджай. У Беларусі такім навуковым прадказальнікам служыў сакратар ЦК КПБ па сельскай гаспадарцы Віктар Сцяпанавіч Шавялуха. Сярод сяльгаснікаў хадзіла з'едлівая прымаўка: «Будзе дождж ці будзе суха, пачакаем, што загадае Шавялуха».

Аднойчы Аляксей Сцяпанавіч быў уключаны ў склад абласной дэлегацыі, якая наведала калгас «Аснежыцкі». Там прайшоў семінар па абмене вопытам, адбылася няспешная экскурсія па аб'ектах перадавой гаспадаркі Беларусі. Не бяруся абвясціць, што Скакун убачыў і адчуў там, што пазначыў у свой блакнот, але ў яго дамашніх архівах я знайшоў чатыры паласы-выразкі з раённай газеты, у якіх апісваецца талент хлебароба Ралько, у іх падаюцца ўрокі «Аснежыцкага». Падкрэсленыя радкі ў тых артыкулах, зробленыя рукой старшыні калгаса «Дружба», абнадзеілі мой экскурс у мінулае. Яны падказалі, што ўзяў тады на заметку, што ўсхвалявала і над чым задумваўся ў тыя гады Аляксей Сцяпанавіч Скакун.

Чытаем падкрэсленае: «Пачаў Ралько з зерневай праблемы, ведаючы, што аснова ўсяго — хлеб. Гектар даваў па 6-7 цэнтнераў збожжа. Трэба павялічваць ураджайную сілу зямлі!..»

Разлік быў просты: ад кожнай каровы штогод можна атрымаць у сярэднім па 15 тон гною, лішкі такога высакаякаснага ўгнаення можна папрасіць у кожным падвор'і. Вывазка гною вясной і восенню стала па важнасці такой самай, як уборачная і пасяўная кампаніі. Ралько вывеў для сябе простую формулу: «Больш жывёлы — больш угнаенняў, больш угнаенняў — вышэйшы ўраджай, вышэйшы ураджай — больш жывёлы».

Праз пятнаццаць гадоў калгас «Аснежыцкі» стаў нязменным лідарам па ўсіх паказчыках. Тут збіралі з гектара па 55 цэнтнераў збожжавых, 556 цэнтнераў цукровых букакоў, надойвалі ад кожнай з 1520 кароў па 4700 кілаграмаў малака.

«Дружбе» пра такія лічбы можна было толькі марыць. Але ўпарты і задзірысты старшыня Скакун не толькі марыў, але і дзейнічаў. Яго разлікі сягалі ў сферу навукі. Вырашыў: трэба вывучаць, абследаваць кожны палетак асобна, як доктар аглядае сваіх пацыентаў індывідуальна. Трэба ведаць гісторыю поля, што расло на ёй у мінулыя гады, колькі там засталося азоту, фосфару, калію, якога ўгнаення просяць расліны.

Добра жывецца старшыні Ралько ў «Аснежыцкім». На яго ўжо працуюць электронна-вылічальныя машыны, ён выруліў калгас на шырокую дарогу. Яму зайздросцяць, на яго раўняюцца. А ён, Скакун, у «Дружбе» ўсё ганяецца за злодзеямі, возіць самагоншчыкаў у міліцыю, разрываецца на ўсю пупавіну, каб нешта збудаваць, каб раздабыць у калгасны статак чорна-пярэстых пародзістых кароў. У яго выпрацоўваўся характар кіраўніка, але катастрафічна не хапала грошай, асабліва — часу. Не ставала «пораху», каб глыбока засесці за кніжкі. Адчуваў, інстытуцкіх ведаў малавата, трэба іх папаўняць найперш той навукова абгрунтаванай практыкай, якую даваў аснежыцкі акадэмік зямлі Уладзімір Антонавіч Ралько.

Калі Лёша Скакун пасвіў у маленстве кароў, гадзінніка не было, дык час вымяраў кулакамі. Адно вока заплюшчыць, другім пазірае на сонца і мерае, колькі кулакоў ад яго да зямлі. Тры кулакі, значыць, тры гадзіны засталося да захаду.

Сваю навуку аб зямлі пакінулі яму дзед Васіль, бацька Сцяпан, маці Вера. Асабліва запомнілася дзедава байка пра тое, чаму жыта мала родзіць:

— Слухай, унук, ды на вус матай. Як Бог першы раз сваёй рукой засеяў жыта, то такое яно было харошае, зярняты, як боб, каласы, як струкі гароху, — ад зямлі да саменькага верху. А расло на салому высокае, аж у трубу вілося. Але як чорт прыдумаў з жыта гарэлку гнаць, то дзясятай долі такое не родзіць...

Так то яно так, дзед, але ж цяпер гарэлку гоніць і дзяржава, і амаль кожны селянін умее ўчыніць брагу. Дзе там чорту з імі цягацца. Але сеяць жыта мусім, і яго павінна хапіць на ўсе чалавечыя патрэбы, каб не супынілася жыццё на зямлі.

У такія хвіліны роздуму Скакун заўсёды прыгадваў сваіх першых настаўнікаў — старшыню калгаса «Чырвоная звязда» Васіля Несцеравіча Гурыновіча і старшыню калгаса «Маладая гвардыя» Паўла Данілавіча Кузмянка. Першы з іх, былы настаўнік, дырэктар школы, прыняў яго пасля інстытута галоўным заатэхнікам. Другі, панюхаўшы пораху ваеннага ліхалецця, прыехаў з Усходняй Беларусі, з саміх Аўцюкоў (дзе цяпер праходзяць фестывалі народнага гумару), каб падняць на ногі новы калгас на Іванаўскай зямлі. Пад яго кіраўніцтвам Аляксей Скакун узняўся да намесніка старшыні.

Абодва яго настаўнікі лічыліся вопытнымі сялянамі, але кіравалі калектыўнымі гаспадаркамі найбольш па інтуіцыі ды па загадах зверху. Выканаў план абавязковых дзяржаўных паставак — добры гаспадар, перавыканаў — атрымлівай пераходны Чырвоны сцяг, а то і ордэн.

Аляксей Скакун — старшыня калгаса ўжо новага гарту. Ён абавязаны быў рэалізаваць веды, набытыя ў інстытуце. Ён мусіў ісці далей, уздымацца вышэй, бачыць глыбей. Ён, і такія як ён, вымушаны былі навучыць мужыка з розумам працаваць на зямлі.

Аляксей Сцяпанавіч гэта цвёрда ўсвядоміў за пяць гадоў старшынёўства ў «Дружбе». Яго артыкулы ў газетах, выступленні на раённых нарадах былі заўсёды прыкметнымі, аналітычнымі, роздумнымі. Ралля, узаранае поле, сталі для яго самай узнёслай рамантыкай. Пах зямлі, раса пад нагамі, наліты сілай колас, дожджык і сонца над палеткамі станавіліся для яго найвышэйшымі каштоўнасцямі.

Скакун і сам тады яшчэ не ўсведамляў, што ў ім нараджаецца вучоны калгаснік, ні ў каляровых, ні ў чорна-белых снах яму нават і не снілася, што праз дваццаць гадоў ён стане членам-карэспандэнтам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Шлях да гэтага прызнання быў няпростым, праца — потнай і бяссоннай, вытрымка — жалезнай, а вера — надзейнай. Да любых выпрабаванняў Аляксей Сцяпанавіч меў гатоўнасць, бо ў характары выпрацаваў тры асноўныя якасці: хацеў, мог і ўмеў працаваць на зямлі.

## 6. Раённыя будні

Лёс чалавека вызначаецца і прадказаннямі гараскопаў, варажбітак, і выпадковасцямі, нечаканасцямі жыцця. Можа, найчасцей паварот лёсу бывае ад раптоўных і нават кур’ёзных праяў.

Ну, скажыце, чым жа не сюжэт для аповесці пра мужыка Скакуна? Яго паслалі старшынёй у самы адсталы калгас «Дружба». Лічы, «залапілі» дзірку чалавекам. Ён там мог бы і скіснуць, і згарэць, упасці і не падняцца. І не спатрэбіўся б ужо болей нікому і ніколі, як лапцю вакса, як лысаму расчоска.

Але лёс аказаўся спагадлівым да Скакуна. Праз пяць гадоў яго, старшыню некалі «хвастатага» калгаса, прызначылі начальнікам сельскагаспадарчага ўпраўлення Іванаўскага райвыканкама. Сам першы сакратар РК КПБ Васіль Іванавіч Борыс прыязджаў у Сачыўкі сватаць Аляксея Сцяпанавіча на новую пасаду.

Гэта адбылося ў лістападзе 1979 года. А праз месяц, 27 снежня, на пятнаццатай сесіі райсавета дастойны дастоевец Аляксей Сцяпанавіч Скакун быў выбраны намеснікам старшыні і членам выканкама раённага Савета народных дэпутатаў. Сесія прызнала паўнамоцнымі выбары Скакуна дэпутатам райсавета па Опальскай выбарчай акрузе № 70.

Як успрыняў сам Скакун такі паварот лёсу?

Не сакрэт жа, кожны чалавек па сваёй натуры крыху славалюбны. Прыемна атрымліваць пахвалу, прызнанне. І Аляксей Сцяпанавіч прыняў павышэнне па службе хаця і стрымана, без лішніх эмоцый, але з усведамленнем кар’ернага росту.

Засела ў душы і трывога. Дагэтуль пад яго кіраваннем былі чатыры вёскі, а цяпер — сто чатыры, аб’яднаныя ў дваццаць два калгасы і саўгасы. Ён павінен несці адказнасць за ўраджай на 87 тысячах гектараў ворыва, за фермы, кармы, статак і людзей, якія абслугоўваюць сельскагаспадарчы сектар. Ён абавязаны валодаць інфармацыяй і сітуацыяй, лічбамі і фактамі, своечасова ўносіць прапановы, скіраваныя на рост сельскай прадукцыі.

Непакоілі і сумненні: а ці варта было зрывацца з «Дружбы», якую ён, лічы, вывеў у людзі, у перадавікі? Ці добра, што сям’ю трэба зноў перавозіць, жонцы мяняць месца работы, месца вучобы дзяцей?

Але адбылося тое, што адбылося. І Аляксей Сцяпанавіч, як кажуць, закасаўшы рукавы, узяўся за новую справу. Пачаліся будні раённага маштабу, якія доўжыліся два з паловай гады.

Пра тыя будні ў майго героя засталіся адны ўспаміны: штодзень, як кажуць, па вушы ў паперах. То трэба аналізаваць зводкі з калгасаў, то пісаць прамовы, то арганізоўваць семінары, то праводзіць вучобу, перападрыхтоўку кадраў.

У мясцовым архіве я тое-сёе адшукаў з тагачасных папер. Яны даюць уяўленне пра сферу дзейнасці начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі Скакуна.

Вось ён удзельнічае ў раённым злёце пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва. Я ж уяўляю, як яны, сяльгаснікі, дбайна і прынцыпова падбіралі па ўсім раёне тых пераможцаў, як рыхтавалі іх у дарогу, і як звозілі ў Іванава. Асаблівы клопат — напісанне даклада для старшыні выканкама і прамоў для выступоўцаў.

Тады ж была строгая завядзёнка: на кожнай раённай сходцы найперш выбіралі ганаровы прэзідыум у складзе Палітбюро ЦК КПСС на чале з таварышам Леанідам Ільічом Брэжневым. Пад бурныя апладысменты пасылалі ў Маскву свой працоўны рапарт. Нібы там хто чытаў тыя паперы. Але ж іх трэба было пісаць, ламаючы галаву, адточваючы кожнае слова.

Пісалі раённыя начальнікі і прамовы для пераможцаў спаборніцтва. Калі не пісалі, то тэксты кантралявалі дакладна. І вось хадзіў тады такі жарт. Ён мог адбыцца і ў Іванаўскім, і ў любым іншым раёне. Скакуну той жарт вельмі даспадобы.

Далі слова даярцы. Яна выйшла з паперкай за трыбуну, пачала чытаць. Ды раптам змоўкла. У зале павісла трывожная цішыня. З прэзідыума начальнік сяльгасупраўлення шэптам падказвае: «З абзаца пачынай!.. З абзаца чытай далей!..» Даярка маўчыць. Абстаноўка накаляецца. І раптам вясковая працаўніца адрываецца ад паперы і кажа: «Ды няма тут ніякага абзаца. От, самі напісалі, дык самі і чытайце, а я вам скажу во што...» І пайшла шчыраваць, як умела.

За такія «штучкі» на афіцыйнай нарадзе службовец, які адказваў за прамоўцу, мог зарабіць партыйную вымову, а ў горшым выпадку — мог быць звольненым з пасады. Ды гэта яшчэ кветачкі. Начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі мог «пагарэць» за невыкананне калгасамі сацыялістычных абавязацельстваў, за нядбайны расход дзяржаўных грошай, за тысячу іншых прарэх у сельскай калектыўнай гаспадарцы.

Свае выступленні Аляксей Сцяпанавіч стараўся пісаць сам, хаця памочнікаў ва ўпраўленні было, як ягад на чарнічніку. Ён лічыўся начальнікам далікатным, дэмакратычным, але ж патрабавальным і строгім. Я гэта зразумеў, калі прачытаў яго артыкул у «Чырвонай звяздзе» за 29 кастрычніка 1981 года. Ён, начальнік упраўлення раёна, галоўны куратар над калгасамі расстаўляе кропкі над «і». Думаю, не зусім яму прыемна крытыкаваць свой, дастоеўскі калгас «Чырвоная звязда», але ён гэта робіць з тактоўнымі агаворкамі «на жаль», «аднак», «шкада». Канечне, яму вельмі крыўдна, што родная гаспадарка, у якой ён праходзіў першыя ўрокі гаспадарання, здае пазіцыі. Тут не дадаюць каровам патрэбных кілаграмаў кармавых адзінак у суткі. Тут вельмі дрэнна выконваецца план па прыросце ўдойных кароў, па матачным пагалоўі свіней, не завершана падрыхтоўка ферм да зімоўкі.

Начальнік Скакун выдае калгасам свае рэкамендацыі, як палепшыць працу. Але зноў жа робіць гэта асцярожна, не пераходзіць на дыктат, а як бы падказвае, раіць, як лепш арганізаваць работу. «Задача кіраўнікоў і спецыялістаў сельскай гаспадаркі, механізатараў, усіх земляробаў, — піша Аляксей Сцяпанавіч, — укараніць такую тэхналогію вытворчасці і нарыхтовак сельгаскультур, каб не страціць ніводнага кілаграма прадукцыі...»

Гэткі Скакун-начальнік на паперы, а ў буднях было і такое. Во што прыгадаў былы першы сакратар Іванаўскага райкама партыі Уладзімір Мікалаевіч Гетманчук.

— Аднойчы звоніць мне Скакун а палове шостай раніцы і просіць, каб я тэрмінова прыехаў у Снітава, цэнтр калгаса «Маладая гвардыя». Звоніць начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі ў такую рань, значыць, нешта здарылася. Я паспеў ужо з ім пазнаёміцца. Моцны, жывы мужык, вочы заўсёды зіхацяць, адкрыты, добры і надзейны. Гаворыць хутка, пры гэтым змахвае, папраўляе правай рукой чорную чупрыну. Сутнасць размовы выкладае коратка. Калі ён пазваніў і папрасіў прыехаць, — трэба ехаць. Праз нейкі час — я ў Снітаве. І што бачу: Скакун бярэцца за грудкі са старшынёй калгаса Гецькам. Што такое? Аказваецца, Скакун угледзеў, што тут адну сцірту сена заклалі не па тэхналогіі. Яна пачала псавацца. Прападзе корм. І начальнік сельгасупраўлення патрабуе тэрмінова перакласці сена, а Гецька не пагаджаецца, гатоў паслаць свайго былога калегу па калгасе туды, куды Макар цялят не ганяў. Ах, так! І Скакун выклікаў мяне...

Уладзімір Мікалаевіч шчыра смяецца, прыгадваючы той выпадак і дадае:

— Тады мы ўвалілі Гецьку па самую плешку. А з Аляксеем Сцяпанавічам сябруем і цяпер. Ён такі, калі аднойчы паверыў, даверыўся табе, то ўжо на ўсё астатняе жыццё. Цэніць сяброўства!

Пра гэта мне расказаў і наш слынны касманаўт, двойчы Герой Савецкага Саюза Пётр Ільіч Клімук:

— У адзін з першых маіх прыездаў да землякоў, я наведаў Іванаўскі раён. Былі грандыёзныя мітынгі, мора людзей. А я запомніў чарнявага, энергічнага, як ён сам сябе называў, калгасніка Скакуна. Ён як бы апякаў мяне, маю сям’ю, рабіў гэта тактоўна, умела. Прасіў дазволу фатаграфаваць нас. З таго часу мы моцна з’яднаны. Нас нават называюць зорнымі сябрамі. Любім жарты...

Пётр Ільіч прыгадвае, як ён насмяшыў іванаўцаў, калі на іх пытанне, што ён бачыў з космасу, прызнаўся, што прыкмеціў, як яго землякі бараной лавілі рыбу ў Ясельдзе. Аляксей Сцяпанавіч у сваю чаргу любіць баіць, як ён у Цэнтры падрыхтоўкі касманаўтаў скакаў з дзесяціметровай вышкі ў басейн і дзякуючы свайму калгаснаму спрыту выплыў адтуль.

Яны — зорныя кожны ў сваёй прафесіі. Можа, таму і сяброўства моцнае, якому больш за трыццаць гадоў.

Праца ў райвыканкаме ўзбагаціла Аляксея Сцяпанавіча ва ўсіх адносінах. Ён займеў новы вопыт кіраўніка, глыбей пазнаў кадры раёна, вобласці, з большай смеласцю ішоў насустрач усім праблемам. І адчуваў, набывае веды і практыку па іх вырашэнні.

Адной з праблем Скакун пачаў займацца найбольш пільна. У яго кабінетным сейфе завялася папка з сакрэтным грыфам «Бульба». У яе начальнік упраўлення пачаў складваць паперы з разлікамі, накідамі, роздумам пра каштоўныя для беларусаў караняплоды. Справа ў тым, што на іванаўскіх землях добра пачувала сябе гэта культура, яе ўраджай быў рэкордным у рэспубліцы. І раён Іванаўскі вызначылі нібыта палігонам для правядзення вопытаў і атрымання высокіх ураджаяў бульбы.

Скіроўваць увесь гэты практычны і навуковы працэс даручылі Аляксею Сцяпанавічу Скакуну. А разумны дастоевец прыкінуў, што яго высілкі ў гэтым накірунку могуць з цягам часу матэрылізавацца ў навуковую працу. Так у яго з’явілася таямнічая бульбяная папка і сакрэтнае жаданне — стаць калі-небудзь кандыдатам навук.

Чаму Скакун у тайне трымаў сваю мару, сядзеў з ёй як бы пад купінай? А таму, што вышэйшае начальства не надта любіла ніжэйшых разумнікаў.

А яшчэ і таму, каб ніхто не ўпікнуў, што ён, карыстаючыся службовым становішчам, рэалізуе свае асабістыя амбіцыі.

Для здзяйснення стратэгічных задумак Аляксею Сцяпанавічу патрэбны былі вольнасць, самастойнасць і прастора для дзеянняў. Пра гэта, ён пачаў часта задумвацца ў кабінеце, заваленым паперамі, у машыне, дзе тэлефонная рацыя суткамі чырванела ад званкоў.

## 7. Заява на перадавую

Аднойчы Аляксей Скакун гасцяваў у свайго сябра. Застолле поўнілася ўспамінамі, жартамі, вясёлай гаманой. За акном ужо моцна павечарэла. Гаспадары давай упрошваць Аляксея застацца ў іх на начлег. А ён, як бы дзе позна ні затрымліваўся, заўсёды стараўся вярнуцца дамоў, да сваёй Валянціны.

Бачыць Аляксей, — нявыкрутка, вельмі ўпрошваюць яго заначаваць. А ехаць трэба. І ён знайшоў, як кажуць, хітры ход, патлумачыў:

— Я б мо і застаўся ў вас, мае харошыя, але ж мушу ехаць дамоў. Учора замачыў бялізну, сёння трэба абавязкова яе прасцірнуць...

Развіталіся ў добрым гуморы, а назаўтра звоніць узʼюшаны сябар:

— Аляксей! Што ты нарабіў!.. Жонка наязджае на мяне, праходу не дае. Кажа: «Бач, якія мужы бываюць, як жонак аберагаюць». Лёша, скажы ёй, што ты пажартаваў...

Гэты амаль анекдатычны выпадак яшчэ раз пацвярджае, што Аляксей Сцяпанавіч надзелены прыродным дарам, своеасаблівай інтуіцыяй прымаць правільныя рашэнні, канцэнтраваць свае паводзіны, арыентавацца ў розных сітуацыях. Так было і тады, калі ён надумаўся кардынальна памяняць рытм і накірунак сваёй працы.

Усё пачалося з артыкула ў газеце «Правда» за 13 лютага 1982 года. Самае прэстыжнае партыйнае выданне надрукавала пісьмо старшыні калгаса «Ленінскі шлях» са Случчыны Мікалая Ільіча Васілевіча. Яно называлася «Тут я больш патрэбны». Жыццёвы шлях гэтага старшыні вельмі нагадваў Скакуноў лёс. Родам з сялянскай сямʼі. Прысягнуў служэнню зямлі. Вучыўся ў тэхнікуме і сельгасакадэміі. Працаваў брыгадзірам у саўгасе, аграномам у калгасе, дырэктарам саўгаса, як і Скакун, — начальнікам раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі. А пасля папрасіўся зноў у калгас, на пасаду старшыні.

У «Правде» ён звяртаўся да ўсіх, каму неабыякавы лёс роднай краіны, хто хоча і можа кіраваць сельскімі калектыўнымі гаспадаркамі, заклікаў узяцца за гэту справу закасаўшы рукавы і даказаць, што нашы аграрнікі не горш за замежных могуць працаваць, любіць зямлю і тых людзей, хто на ёй працуе.

Пісьмо Васілевіча са Случчыны ўсхвалявала Аляксея Сцяпанавіча Скакуна. Ён ужо даўно падумваў, як бы гэта прыгожа збегчы з чыноўніцкай пасады, як зноў вярнуцца ў вір непасрэднага калгаснага жыцця, у якім ён адчуваў сябе, нібы рыба ў вадзе. І гэты шчаслівы выпадак, здаецца, наступіў. Сама «Правда», орган ЦК КПСС, праз беларускага старшыню калгаса ўзняла тое ж пытанне, якое даўно хвалявала Скакуна.

— Прыходзіць да мяне Аляксей Сцяпанавіч з газетай і просіцца: «Адпусціце ў калгас. Даверце якую-небудзь буйную гаспадарку. Хачу праверыць сябе...», — прыгадвае тагачасны першы сакратар Іванаўскага райкама партыі Уладзімір Мікалаевіч Гетманчук. — Я задумаўся. Шкада адпускаць вопытнага апаратчыка. Калі чэсна, у мяне на Скакуна былі іншыя планы. Праз нейкі час яму свяціла крэсла старшыні райвыканкама. Я лічыў, што праз некалькі гадоў ён павінен замяніць мяне...

З Уладзімірам Гетманчуком мы калісьці разам працавалі ў камсамоле. У яго жыцці пасля было нямала высокіх партыйных, кіраўнічых пасад, але ён заўсёды заставаўся простым, даступным, абаяльным таварышам. І цяпер я верыў у шчырасць яго прызнання:

— Планы на Скакуна я меў свае, але не да канца ўлічыў яго настырнасць. Я тады папрасіў Аляксея Сцяпанавіча яшчэ раз усё ўзважыць, прыкінуць, што да чаго. І вырашылі вярнуцца да гэтай размовы праз месяц, калі я прыеду з адпачынку.

Уладзімір Мікалаевіч па-добраму ўсміхаецца і кажа:

— Праз колькі дзён звоніць мне Сакалоў Яфрэм Яўсеевіч, першы сакратар Брэсцкага абкама партыі, і даводзіць сваё рашэнне: «Твой Скакун быў у мяне з заявай. Забяром яго ў цябе...» Ну, думаю, і моцны мой мужык Скакун, проста як у Някрасава:

Мужик, что бык: втемяшится
В башку какая блажь,
Колом ее оттудава
Не выбьешь: упирается,
Всяк на своем стоит!..

З Уладзімірам Гетманчуком мы гаварылі пра Скакуна ўвесь надвячорак. І гэта была прыемная гамонка. Уладзімір Мікалаевіч прызнаўся, што яны і цяпер моцна сябруюць:

— Любая сустрэча з Аляксеем Сцяпанавічам — гэта свята. Ён умее цаніць сябра. Асабістае ў яго заўсёды на другім плане. Вясёлы і аптымістычны — вось які ён пры любым надвор'і. А такім чалавек бывае, калі ў яго няма аніякіх даўгоў і калі сумленне чыстае...

Тую заяву Скакуна, з якой ён хадзіў да Гетманчука, з якой ездзіў у Брэст да Сакалова, якая стала паваротнай у яго лёсе, я ўсё-такі знайшоў. Хацелася, безумоўна, убачыць чарнавы, рукапісны варыянт. Па ім можна было б прасачыць ход думак заяўцеля, яго хваляванне пры напісанні, закрэсліванне і выпраўленне слоў. Але паверым, што той важны дакумент даваўся Аляксею Сцяпанавічу нялёгка. Прачытаем яго ў арыгінале, без купюр, захаваўшы мову і стыль напісання:

«БЮРО БРЕСТСКОГО ОБКОМА КП БЕЛОРУССИИ
Начальника управления сельского
хозяйства Ивановского райисполкома
СКАКУНА АЛЕКСЕЯ СТЕПАНОВИЧА

ЗАЯВЛЕНИЕ

В газете «Правда» 13 февраля 1982 года было напечатано письмо председателя кохоза «Ленинский путь» Слуцкого района Минской области Н. Василевича «Здесь я нужнее». Это выступление, а также комментарий к нему секретаря ЦК КПБ Н. И. Дементея глубоко меня взволновали, так как в них я нашел ответ на многие беспокоившие меня вопросы.

Я работаю в сельскохозяйственном производстве 13 лет. После окончания сельскохозяйственного института был направлен зоотехником колхоза «Молодая гвардия» Ивановского района. Через три года был избран секретарем парткома этого же хозяйства и заместителем председателя, а еще через два года рекомендован председателем колхоза «Дружба» того же района. В этой должности я проработал пять лет и, как мне кажется, сумел осуществить многое из своих замыслов в плане требований ЦК КПСС и ЦК КПБ по развитию с/х производства.

За пятилетку в колхозе значительно повысилась урожайность возделываемых культур, продуктивность животноводства, на центральной усадьбе вырос целый поселок современных домов. Моя работа приносила колхозникам и мне глубокое удовлетворение, за что я был награжден орденом Трудового Красного Знамени и Почетной Грамотой Верховного Совета БССР.

В 1979 году бюро райкома партии рекомендовало меня начальником районнаго управления сельского хозяйства. Находясь на этой должности отдаю все свои силы, знания и опыт. С одной стороны у меня нет причин быть недовольным результатами работы. Район два года подряд выходил победителем во Всесоюзном социалистическом соревновании и награждался переходящим Красным знаменем ЦК КПСС, Совета Министров СССР, ВЦСПС и ЦК ВЛКСМ.

Однако ознакомившись с требованиями ЦК КПСС и необходимостью направить лучших специалистов из партийных и сельскохозяйственных органов для укрепления колхозов и совхозов прошу исходя из этого и опыта моей работы рекомендовать меня руководителем одного из крупных хозяйств области. Буду работать так, чтобы полностью использовать все резервы для наращивания темпов производства продукции сельского хозяйства и укрепления экономики хозяйства.

Начальник управления сельского
хозяйства Ивановского района
А. Скакун
22.02.82 г.»

Заява, як бачым, напісана напярэдадні дня нараджэння. Так атрымліваецца ў жыцці Аляксея Сцяпанавіча Скакуна, што 1 сакавіка і даты вакол яго з’яўляюцца лёсавызначальнымі. У сакавіку ён стаў старшынёй калгаса «Дружба». Праз шэсць гадоў, зноў жа ў сакавіку, атрымаў ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга.

У сакавіку 1982 года Скакун ехаў у Брэсцкі раён, каб прыняць у кіраўніцтва калгас-камбінат «Памяць Ільіча».

У прыроду адчайна стукалася яе вялікасць Вясна. Палеткі вызваляліся з-пад снежнай футры. Маладзенькая рунь зазіралася ў блакітнае неба, прагла сонца і вышыні.

Лес атрасаў з сябе счарнеласць, святлеў і, здаецца, на вачах дужэў, харашэў, напаўняўся галасамі сваіх насельнікаў.

На крылах вясны вярталіся ў родныя землі гракі, шпакі, буслы, журавы, жаўрукі. Зязюлі голас падавалі, надвор’е добрае прадказвалі, новыя гады людзям адлічвалі. Шэрыя вароны моцна каркалі, шустра майстравалі свае гнёзды. А сяляне даўней у гэты час выцягвалі на двор сохі, бароны. Цяпер спяшаліся закончыць рамонт трактароў, плугоў, сеялак.

Наступаў дзень святога Аляксея. Ручаі з новай сілай забруіліся. Шчупак хвастом лёд разбіваў. Рыба пайшла на нераст, карова — на верас, пчаляр — да вулляў, араты — у поле.

Такой парой Аляксей Сцяпанавіч Скакун ехаў на новае месца работы. Пад вясновыя трэлі спявала і трывожылася яго душа. Сэрца выстуквала ўсхваляваную марзянку: «Як жа ўсё будзе?.. Напрасіўся, а ці спраўлюся?.. Ці апраўдаю давер?.. Божа, памілуй, натхні і благаславі!..»

Машына набліжалася да новай прыстані жыцця — Астрамечава.

***Працяг будзе.***

## Таіса СЯМЁНАВА



### ГРАМНІЧНАЯ СВЕЧКА

Дрыготкі агеньчык грамнічнае свечкі
Трымціць, а воск сцякае слязамі.
Чыясьці душа адляцела у вечнасць,
Стамілася быць з неразумнымі намі.
Нячулыя, мы не сказалі ёй «дзякуй»
За хвалі цяпла, што струменіла шчодра.
І мусім цяпер мы ад горычы плакаць,
Сваю кленучы недарэчную гордасць.
Сягнула душа і згубілася ў зорах.
Ніхто там спакою яе не парушыць.
Васковыя слёзы пякучым дакорам
Апальваюць нашы счарсцвелыя душы.

### БЯРОЗА Ў БАЦЬКОЎСКІМ ДВАРЫ

Старая бяроза ў куточку двара
Над пуняю голле схіліла.
Як маці калісь сырадоем з вядра,
Вясной мяне сокам паіла.
З далёкай дарогі я ў стоме прыйду
Ці з блізкай — у зморлівай скрусе,
Шчакою да цёплай кары прыпаду —
Да татавых плеч прытулюся.
І недзе падзенуцца сум і нуда,
Упрочкі адыдуць трывогі…
Тут сэрца маё застанецца ў ладах
Са светам, бярозай і Богам.

---

***Сямёнава Таіса Сямёнаўна*** *нарадзілася 16 мая 1954 года ў вёсцы Забагонне Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1979).*

*Працавала ў рэдакцыі воранаўскай раённай газеты «Ленинское знамя», у лідскай раённай газеце «Уперад». Цяпер — у раённай газеце «Астравецкая праўда».*

*Друкавалася ў рэспубліканскай перыёдыцы.*

## СУНІЦЫ

Удыхаючы водар лясны,
Па сунічных блукаю палянах,
Бы па згадках даўнейшай вясны,
Што запомніла нас, закаханых.

Спелай ягадай поўніцца збан,
Нібы сэрца — па кропельках — шчасцем.
Гэта ж трэба было паспрачацца,
Што каханне — салодкі падман…

Так і выйшла: падманам сплыло
Той далёкай вясны летуценне
І прагоркла з суніцаў варэнне.
І пацьмянела слоікаў шкло…

## МАТУЛІНА ГЕРАНЬ

Мне матуля казала,
Выпраўляючы ў свет:
«Будзе скрухі нямала,
Ды баяцца не след.

Ты трымайся, дзіцятка,
І з дарогі не збоч…»
Сумна вокнамі хатка
Узіраецца ў ноч.

І да роднага дома
Мне здалёк не дайсці,
І сцяжынкі знаёмай
У траве не знайсці.

Зноў да самага ранку
Вочы лашчаць у сне
Куст вяргінь каля ганка
Ды герань на акне.

## МАЛАЯ РАДЗІМА

Яшчэ лета не згасла —
Сонца шчодра і лашчыць, і грэе.
Састарэлыя хаты
У вянках зыркіх кветак стаяць.
Ды на голлі садоў
Зноў маркота асенняя спее
І рыхтуецца вёска
Да чарговай вясны дажываць.

Колькі вёснаў яшчэ
Ёй, старэнькай, чакаць давядзецца,
Колькі песціць надзей,
Абяцанак дарэмных пачуць…
На радзіме малой
Сэрца моцна ад болю заб'ецца,
Што не выбрала часу
На бацькоўскі дзядзінец зірнуць.

Ты даруеш мне, вёска,
Што ў свеце абсяжным прапала,
Як дакор мне пашлеш
Непазбытнай тугі пачуццё.
Тут дзяцінства маё
Басанож па пясочку ступала
І здавалася вуліца
Доўгай, нібыта жыццё…

## ЗІМОВЫ ВЕЧАР

Залёг наўсцяж густых снягоў цалік —
Такі іскрысты, непаўторна новы…
Бы серп, да лета кінуты на цвік,
Павіс у небе рог маладзіковы.
Зімовы вечар мякка атуліў
Празрыста-сінім змрокам наваколле.
Ўбіраю сэрцам ціхі пераліў
Сняжынак, зор і неабсяжнасць поля.
Ад хараства узвысіцца душа,
Патоне ў хвалях мрояў-сантыментаў…
Але счакаю: хай зіма спярша
Насыпле мне у жменю дыяментаў.





## Вера МІХНО

* * *

Усміхніся мне, лёс,
ясным сонейкам,
небам блакітным,
Бо ты хмурыўся доўга —
табе я праўдзіва кажу.
Усміхніся мне, лёс,
не грымасай, —
усмешкай адкрытай,
Каб у сэрцы гучаў
пераліўчаты звон капяжу!

Усміхніся натхненнем ты мне,
усміхніся каханнем,
Усміхніся жыццём —
плённай працай табе адкажу.
Хай, насуперак часу,
вясна ад усмешак настане,
Каб у сэрцы гучаў
пераліўчаты звон капяжу!

* * *

О! Колькі ёсць аблiччаў у любві:
Самааданасць, самаадрачэнне,
Пачуццяў шквал, шаленства, кліч крыві
І фанатызм сляпога пакланення…

---

*__Міхно Вера Фёдараўна__ нарадзілася 13 снежня 1955 года ў вёсцы Чэрцы Лепельскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут (1979). Працавала ў дзіцячай паліклініцы горада Барысава. Цяпер — урач Мінскай цэнтральнай раённай паліклінікі.*

*Друкавалася ў часопісах «Маладосць», «Вожык», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у калектыўных зборніках «Гаючая квецень» (2004), «Подыхам адзіным» (2009).*

Аднак, зірнуўшы скрозь другую прызму,
Убачыце яе зваротны бок:
Любоў яшчэ і згустак эгаізму,
Вяршыня сквапнасці, уласніка замок…

Ніколі і ні з кім не падзялю
Таго, каго люблю!

* * *

У беганіне, спешцы і турботах
Няма нікому справы да нікога…
Гняце найболей жорстка адзінота
Якраз сярод натоўпу гарадскога.

* * *

Каханне — мроі аб вясне.
Твае абдымкі, пацалункі,
Як быццам тонкія карункі,
Аздобяць ласкаю мяне.

Прызнанне соладка пачуць:
Гучыць, як пошчак салавейкі,
І на прымружаныя вейкі
Слязінкі шчасця набягуць.

Грудзям дыхання нестае…
Я прарасці хачу на ўзлеску
Блакітнай першаю пралескай,
Каб вочы радаваць твае!

* * *

Як шанцуе замнога
І пагрозы ніякай,
Дык звярнуцца да Бога
Забываю з падзякай.

А з нягоды і болю
Апантана малюся.
…Можа, выпрашу долю,
Ад бяды адхрышчуся…





Таццяна ГАРЭЛІКАВА

# АПАВЯДАННІ

## ВОСЬ ТАК, ГАСПАДАРСТВА

…Назаўтра раніцай яна зноў паехала ў вёску. Збіралася похапкам: у сумку ўкінула што сабе апрануць, што сыну Лёніку… Паснедалі. Таксама спехам. І адчувала яна сябе неяк няўтульна і нават трывожна. Яшчэ ўчора нічога такога не было — зусім не тое сёння… Учора збіралася наведаць бацькаву хату, дык забылася пра ўсё кепскае, пра сябе, пра ўсялякія нягоды — лагода была на душы: майскія святы, чатыры выхадныя наперадзе…

Цяпер, без мужа, яна з сынам наведвалася ў вёску кожныя выхадныя. А што тут ехаць — гадзіна на электрычцы. Праўда, адчувалася ўсё яшчэ звычка дабірацца туды на машыне, толькі на машыне, і Вася, муж, за рулём. Утульна было тады, адчувала сябе шчаслівa. Ды тое — мінулася… Вася — у турме… І яна адна з сынам Лёнікам, падлеткам…

Сёння ёй, так бы мовіць, нетрывала і нават трывожна. Учора збіралася ў вёску з радасцю. Але во зараз… Ускаламучана душа.

Яны даехалі на метро да вакзала, апынуліся ў вірлівай людской плыні. Ішлі па доўгім тунэлі, і Лёнік подбегам за ёю, хоць бы дзе не згубіўся ў гэтай людской мітусні, толькі і глядзі…

Падняліся па эскалатары ў залу для пасажыраў, на табло ўжо значылася іхняя электрычка, і яны пайшлі адразу па тунэлі-лесвіцы ўніз, на перон. Цягнік іхні ўжо стаяў, парасчынены ўжо тамбуры, і гэта добра, не трэба будзе таптацца, чакаць тут, на пероне.

Зайшлі ў напалову пусты вагон. Там-сям сядзіць на лаўцы чалавек ці два. Месцаў свабодных колькі хочаш. Толькі яна надта і не выбірала: Лёнік любіць каля акна, вось яно, вольнае месца. Зірнула на гадзіннік: сем хвілін да адпраўлення. Яшчэ будуць заходзіць у вагон людзі.

Яны, і праўда, заходзілі… І вось ужо цэлы вагон людзей. За якую хвіліну, як кранецца электрычка, селі да іх у купэ двое — мужчына і жанчына, яе пры-

---

*__Гарэлікава Таццяна Іванаўна__ нарадзілася 28 лістапада 1947 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Закончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1970) і Мінскую Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПБ (1985). Працавала на Міншчыне бібліятэкарам, арганізатарам пазакласнай і пазашкольнай работы, дырэктарам сярэдняй школы, у раёна, намеснікам загадчыка аддзела, сакратаром Мінскага райкама КПБ, у рэдакцыі часопіса «Полымя».*

*Выдала кнігі прозы «Дзе лес шуміць» (1978), «Пры святле расстанняў» (1985).*

кладна гадоў, а можа, ім па трыццаць пяць яшчэ і няма… Яна паглядзела на іх. Ён невысокі, худзенькі, у лёгкай куртачцы, а яна мажная, у целе. Але відаць жа, шчаслівыя. Разумеюць адно аднаго з паўслова, з пагляду.

Алена стоена ўздыхнула. Вядома ж, успомніла свайго мужа. Ускалыхнулася ў ёй усё. І вусны падцяла…

Уздрыгнула і кранулася, і панеслася электрычка.

А яна, Алена, ужо быццам і забылася пра прычыну ранішняй мітрэнгі — думалася пра мужа… О, яе Вася! Вася яе… Ён цягне ўсё дадому, ён умее зарабляць. Ён — гаспадар! Здатны і прыбіць, і прывінціць, і рукамі што хочаш выштукуе… Люба-дарага ўсё ў кватэры… І ў вёсцы ў хаце ўсё пафарбаваў, да ладу давёў. Што пашэнціла ўжо ёй, то пашэнціла з мужам. Ні хвілінкі без справы не сядзіць. І ні пра якую чарку і згадкі няма…

Ёй і цяпер, у вагоне, было прыемна думаць пра яго. Ёй нават здалося, што ён зараз побач, такі родны, такі свой. З ім так спакойна і шчасліва, — гэта Бог даў!..

Вярнуў яе ў рэальнасць, адарваў ад успамінаў Лёнік:

— Мама, дай шакаладку!

Яна ўзяла з сумкі маленькую плітку, падала сыну, быццам прачынаючыся ад нейкага сну. Уздыхнула.

Доўгія два гады не будзе побач Васі. Як ёй пераджыць гэтыя два гады? А яму як там цяпер? Гэта ж — турма… Заходзілася сэрца.

Ён прыносіў дамоў грошы. Будаўнік, ён умеў зарабляць. Яна надта не ўнікала, дзе ён браў іх, тыя грошы. Але, здаралася, што Вася вяртаўся з працы дадому позна і клаў іншы раз перад ёй на стол нечаканыя грошы — о, як гэта было прыемна!.. Яна, стоеная, лічыла іх — і была вельмі шчаслівая… Во які ў яе муж! Яна ведала, што Вася яшчэ прынясе, гэта не апошні раз, — і наперад прадчувалася шчасце, калі, стаіўшы дыханне, будзе лічыць іх, тыя грошы. І ён прыносіў яшчэ і яшчэ… Апроч заробку. Адзін раз больш, другі — менш. Во і сабралася. І ў іх ёсць за душой нейкі долар… Калі па праўдзе, дык і трывога ўспыхвала ў яе, у жонкі: дзе ён іх бярэ, тыя грошы? А ён супакойваў яе: «Я не краду. Мы бяром лішняе. Тое, што пад нагамі, што нікому ўжо ў нас не патрэбна. О, каб ты, дарагая, знала, колькі чаго ў нас валяецца пад нагамі! Дый так… Гаспадара няма! Няма на нашай будоўлі гаспадара… Глядзіш на ўсё — рукі апускаюцца. А заробкі нашы! Вы ж дайце людзям зарабіць. Ніхто не думае. Во і пільнуеш, дзе што можна падабраць ды добра збыць…»

І яна тут, у электрычцы, раптам падумала: ён не злодзей. Вось так! Які ён злодзей? Ён — гаспадар. Падбіраў. Вы, начальнікі, самі яго і зрабілі такім. Рыба з галавы гніе… А людзям жыць трэба.

Іх траіх, Васю з сябрукамі, і ўзялі. Далі ім каму колькі, Васю — два гады. Гэта было як гром з яснага неба. Так гэта хутка адбылося. Не апамятацца… Яна ад спалоху, ад перажыванняў ледзь не звар'яцела. О, жах! Яе муж — у турме… Не знала, куды кінуцца, за што ўхапіцца — адно ў галаве: Вася. Яе Вася ў турме. Хто б падумаў. Што цяпер і як цяпер будзе?..

Вось ужо два месяцы і мінула. А яна ўсё ніяк не ачомаецца. Цяжка.

Аднойчы ў суботу яна прачнулася, як ніколі рана, яшчэ ў дамах цёмныя вокны былі. Лёнік спаў. Яна хадзіла ў цішыні па кватэры. Як непрыкаяная. Піла каву. Сядзела ў крэсле. Было неяк невыносна… Як ніколі дагэтуль. Ужо й добра развіднела, а яна ўсё мэнчылася. Падумала: хай бы хто патэлефанаваў зараз ёй, сказаў: «Не перажывай. Усяляк у жыцці бывае». Хай бы хто зараз сказаў ёй такія словы… Было ўжо каля дзесяці гадзін раніцы. Лёнік спіць яшчэ. Яна падышла да тэлефона, набрала нумар Васевага сябра, Віктара, — яны ж сем'ямі часта сустракаліся, чаму ёй ім цяпер не пазваніць?

Выхадны — яны павінны быць дома. Віктар усё пра Васю знае. Ён, Віктар, і падняў трубку.

— А-а… Прывітанне, — сціх на момант. Быццам разгубіўся. — А мы, ты знаеш, на ўзводзе! — загаварыў весела. — Заманулася Веры новая куртка — ну, пойдзем па магазінах. Яна ж такая: калі ёй што заманецца — кроў з носа… Ты не знаеш маю Веру? Так што ў нас… Як гэта кажуць? Во — шопінг! Пойдзем грошы транжырыць, — рагатнуў. — Ужо апрануліся, стаім у дзвярах.

— Ясна, — стрымана сказала яна.

— Ну, давай! — тут жа развітаўся Віктар.

І Вера не ўзяла з яго рук трубку…

Усё ў Алене тады сцялася, абарвалася. Патухла. Яна села ў крэсла, даланёю прыкрыла вочы. Нейкі час сядзела нерухома. Потым глыбока ўздыхнула і паднялася з крэсла. Пайшла ў пакой да Лёніка. Ён ужо прачнуўся. Быў у маечцы і трусіках, босенькі, уключыў камп’ютар. Яна села на канапу і моўчкі глядзела на Лёніка.

— Што, мама?

— А я так, сынок…

Пасля тае суботы яна зрабілася асцярожнай і маўклівай. Каму ты што тут скажаш? Хто цябе пачуе?

І пачала з сынам кожныя выхадныя наязджаць у вёску. Можа, цяпер толькі і зразумела, што значыць для яе гэта бацькава хата. Тут — супакаенне. Тут — трываласць. Да свайго едзе. З маленства — сваё! Яна і цяпер тут нібыта дзіця. Амаль бесклапотнай робіцца. Усе хмары, здаецца, сплываюць. Іх і няма ўжо, мамы і таты, хварэлі дужа, рана, канечне, пайшлі, ды што зробіш… Але ўсё іншы раз здаецца, што іхнія галасы раптам пачуе… Гаспадыня яна тут. Сваё! О, гэта вялікае шчасце — адчуваць сябе гаспадыняю.

Ды яшчэ надавалі нейкай трываласці грошы. Тыя долары, што прыдбаў Вася. Не адна тысяча. Трохі забралі — канфіскавалі, але не дурні яны з Васем — крыху неяк і засталося, у вёсцы былі схаваныя. І гэтыя долары грэюць цяпер душу. Яна іх прывезла ў Мінск. Падумала: трэба берагчы гэтыя грошы. З імі больш спакойна... Грошы цяпер — усё. Яны ўсё зробяць. Добрых дзядзькоў няма. І з неба нічога не зваліцца. Што сам маеш — тое і тваё... А не — дык смакчы лапу. У гэтым такім нетрывалым свеце. Вунь неяк прыйшла ўвечары з працы, а Лёнік сядзіць у крэсле, нераспрануты, у куртцы, у чаравіках — носам хлюпае... Хлопчыкі, кажа, з двара, за нішто пабілі: не захацеў з імі курыць у пад’ездзе... Дзеці яшчэ, а так дружна паляць…

Людзей поўны вагон ужо, не тое, што сесці, стаць няма дзе — ведама ж, выхадныя, людзі зрушыліся. Хто ў вёску, хто на дачу — май, зямля рады просіць.

Вось і яна едзе. Да свайго едзе, а нейкае бязладдзе сёння на душы, трывога. Не знаеш, пра што думаць.

Учора ж была там — і ўсё так добра было там учора, у бацькавай хаце. Пакуль... Учора...

Стаяў поўдзень. Было так сонечна і зелена ўжо наўкола, і цёпла. Ужо трава паверх клубніц пайшла, дык яна стаяла да паўдня, рвала тую траву. Адратавала клубніцы. Аж спіна... Не выпрастацца... Мыла ў двары ў тазіку ногі. Так ціха, сонечна і лагодна ў двары. Памыцца, паабедаць — дзе той Лёнік на веласіпедзе гойсае? Перадыхнуць трохі...

Бразнула брамка — яна падумала, што гэта сын... Падняла вочы. Заходзіць у двор з малой дзяўчынкай незнаёмая жанчына. Высокая, чарнявая, у джынсавым касцюме.

— Добры дзень! — гучна, хоць і не дужа смела, здалёк прывіталася. Было відаць — хвалюецца. — Ці гэта хата Хлябцэвіча?

— Добры дзень, — выпрастаўшыся, насцярожана павіталася Алена. Стоячы нагамі ў тазіку з вадой, дадала, уважліва гледзячы на незнаёмую. — Так, гэта хата Хлябцэвіча.

— А дзе ж сам гаспадар? — падышла бліжэй з дзяўчынкаю за руку, спынілася жанчына. У дзяўчынкі вялікі белы бант на галаве. Абедзве аціхлыя. Пазіраюць.

— Гаспадар? Гэта хто?

— Аляксей Хлябцэвіч.

— А, бацька. Бацька два гады, як памёр.

— Памёр? — ускінулася жанчына і стуліла бровы. — Два гады... Што ж мне тады? А вы хто яму будзеце?

— Я ягоная дачка.

— Дык і я ж... — раптам сказала незнаёмая. — І я ж ягоная дачка.

У Алены быў, відаць, вельмі здзіўлены твар, бо жанчына неяк хапатліва зноў паўтарыла:

— Я таксама яго дачка. Я прыехала да свайго бацькі.

Алена была здзіўленая і знямелая. Якая дачка? Яна ж, Алена, адна ў бацькі ўсё жыццё.

— Я пазашлюбная. Мы не бачыліся. Але ён пісаў нам з мамай лісты. А было, і грошы прысылаў.

— Ах, вось яно што... — прамовіла Алена. Вынула, расхваляваная, ногі з тазіка з вадой. Але не выцерла іх ручніком, што ляжаў на траве побач. Мокрыя сунула ў шлёпанцы. Не ведала, што і думаць.

— Ну... Заходзьце, — сказала. — Праходзьце ў хату.

Што ёй казаць? У бацькі, аказваецца, ёсць пазашлюбнае дзіця. Ніхто і не знаў пра гэта. Ні мама, ні яна, Алена.

Яны зайшлі ўтрох у хату, Лёнік недзе яшчэ на вуліцы. Алена пасадзіла незнаёмых на кухні, уся недаўменная і нейкая нават разгубленая.

І незнаёмая жанчына не магла схаваць свае ўсхваляванасці. Загаварыла:

— Рашылася — паеду. Мы тут і жывём недалёка — нейкіх семдзесят кіламетраў. Сын у мяне, васямнаццаць гадоў, ажаніўся, у хаце ўсім цесна стала, ой, і сварымся, і ўсяго хапае. Узяў на шэсць гадоў старэйшую за сябе. Хаця невядома, ці ён ажаніўся з ёю, ці яна яго на сабе ажаніла. Але наравістая, усё насуперак мне і кажа, і робіць. І сын услед за ёю на дыбкі — начная зязюля дзённую перакукавала... А-а... Жывіце, як знаеце... Дачку во за руку ды паехала шукаць сабе долю. Самае галоўнае — Лідачка мая, — пагладзіла дзяўчынку, што ціха сядзела пры ёй, па спінцы. — Самае галоўнае — Лідачка... Шкада дзіцёнка. Яна ж усё чуе і бачыць — на вачах жа ўсё. І яна нервуецца. Ці ж ёй гэтыя сваркі трэба? Навошта ёй, малой, гэта? І цяпер, як што не так — яна адразу ў слёзы. А яна ж добра малюе, так прыгожа. І я рашыла: можа, дзе прыткнуся каля свайго бацькі, гэта ж побач з Мінскам. Лідачку вазіць на вучобу ў сталіцу буду, хай развівае сваё гэта ўмельства. Трэба ж дбаць пра сваё дзіця. Яна разумная дзяўчынка, — ласкава паглядзела на яе. — Выдатніца. А малюе ўжо... Так прыгожа... Мы ўсё жыццё ў вёсцы жылі. З мужам я развялася — трактарыст, п'янчуга… Адчаілася во паехаць. Думаю, хто ж мне паспрыяе, як не бацька. А ён, бачыш, ужо... Я так і не бачыла яго ніколі.

Алена маўчала. Усё было так нечакана, яна і не ведала, што казаць на гэта. Нарэшце, вымавіла:

— Ну, пабудзьце. Як вас зваць?

— Кацярына, — заўсміхалася жанчына.

Алена пачала насіць з калідорчыка, ставіць на стол абед. А Кацярына ўсё гаварыла і гаварыла — пра сям'ю сваю, пра сына з нявесткаю. Як паслухаць, дык там і праўда — невыносна.

Забег у хату Лёнік.

— Мама, я каля канавы каляровага матылька бачыў! — і тут жа, згледзеўшы незнаёмых людзей, сціх.

— Добра, сынок. Зараз будзем абедаць.

Сядзелі ўчатырох за сталом, елі, нязвыклыя адзін аднаму і нейкія нават насцярожаныя.

Потым, калі падняліся з-за стала, Кацярына, акінуўшы вокам кухню, адчыніла дзверы ў пакой, пастаяла, паглядзела і сказала:

— А тут можна жыць. Мы б тут жылі. Вы ж, як я зразумела, з горада сюды наязджаеце — па выхадных?

— Ну, так, з Мінска. Па выхадных, — сказала, захваляваўшыся, Алена.

Яна вунь як захвалявалася! Кацярына збіраецца тут, у бацькавай хаце, жыць. Пайшла, узбуджаная, у калідорчык, пачала мыць талеркі.

Мыла посуд — неяк быццам усляпую, і талерак тых, здаецца, не бачыла, проста звыкла брала іх рукамі.

Як яна, Кацярына, будзе тут жыць? Тут жа я. Няма як дзвюм гаспадыням... Зад аб зад церціся...

Яна зайшла зноў на кухню, ужо спакойная і цвёрдая.

— Ну, пабудзьце, — сказала да Кацярыны, але не гледзячы на яе. — Мы то сёння ў Мінск паедзем. А вы... Там, у пакоі, ложак, канапа. Бялізну пакладу.

Кацярына сядзела з дачкою каля стала, заўсміхалася. Паправіла Лідачцы бант на галаве.

— Пераначуйце, — зноў роўна, аж неяк недаступна сказала Алена. — Мы заўтра вернемся сюды. Там, што ў халадзільніку ёсць, ешце.

— А чаго так? Яшчэ ж тры выхадныя.

— Ну... Так, — незгаворліва сказала Алена. — Паедзем мы. Зараз будзе электрычка.

Ёй захацелася пабыць адной. Дома. Набрацца нейкага духу — ды заўтра з Кацярынай гэтай і развітацца. Вось так!

Яны з Лёнікам спехам пераапрануліся, і, узяўшы ў руку сумку, яна, гледзячы долу, сказала:

— Ну, мы паехалі.

— Ага... Будзем чакаць вас заўтра, — сказала, усміхаючыся, Кацярына.

Ішла Алена з сынам да электрычкі — і яе ўжо душыла нейкая злосць. Хто яна тут, гэтая Кацярына? Нічога ейнага тут няма. Я яе заўтра выпраўлю. Хай едзе туды, адкуль прыехала. Кожнаму сваё. Ты так жывеш, а я — так. Як у каго атрымліваецца. Сабрацца да заўтрашняга з духам, ды — выправіць яе. Вось так! Няма як тут удзвюх.

Так думала яна ўчора. І сёння раніцай тыя ж думкі. Нічога не змянілася…

Вось падняліся муж з жонкаю, што сядзелі ў купэ насупраць, скіравалі ў тамбур. На наступнай станцыі і ёй, Алене, выходзіць.

Ішла з сынам ад электрычкі і сцежкі перад сабой, здаецца, не бачыла. Такі кавардак у душы.

Астапава дачка вунь насустрач ідзе. Павіталіся яшчэ здалёк.

— Ну, што, хутка муж вернецца? — усміхаючыся, на хаду, здаецца, не сказала — праспявала тая Алене. — Ужо грошай табе, Леначка, прывязе-е — і ўсміхаецца.

Усё ў Алене прыціхла, насцярожылася.

— А, грошы тыя... — вымавіла. Нешта ж трэба казаць. Знаюць тут, у вёсцы, пра яе мужа адно: у заробках, за мяжу паехаў. Каму ты скажаш праўду — хто цябе зразумее?

Пра гэтыя заробкі ўсім знаёмым казала. І ўжо адчула: адгароджваецца ад людзей. Ці людзі ад яе адгароджваюцца? Цяжка гэта. Так цяжка. Вунь Рыгораўна, з сорак пятай кватэры, калі Васю вялі міліцыянты, якраз з ліфта выходзіла — то зразумела ж яна нешта... Цяпер павітаецца стрымана і — галаву ўбок... Не проста ж гэта: павялі міліцыянты — і не відаць во чалавека...

І цяпер каго знаёмага не сустрэнеш — абрываецца сэрца: зараз пра мужа пытацца будуць. А што казаць?

Пайшла Астапава дачка. А яна, Алена, цяжка-цяжка ўздыхнула. Сёння перапоўненая хваляваннем. Не супакоіцца... Зноў у думках перакінулася ад адной болькі да другой — да Кацярыны. Ці не насланнё гэта? Усё на адну галаву. Скрывілася, аж вочы павільгатнелі...

Вось і свая хата. Зайшлі з Лёнікам у двор. У двары было пуста, затое дзверы ў калідорчык былі расчынены. Алена пераступіла парог — Кацярына стаяла ў калідорчыку каля пліты. Апранутая ў стары Аленін спартыўны касцюм.

— Ну, вось, — заўсміхалася Алене. — Прыехалі! Я й думаю: зараз павінна быць электрычка. Ранічкай паслала Лідачку на станцыю — тут жа пабач! — ідзі паглядзі расклад.

Алена, не надта размаўляючы з ёю, буркнуўшы прывітанне, зайшла ў хату. Распакавалася, пераапранулася.

А Кацярына ўжо на кухні, ужо выкульвае на талерку з каструлі гарачую з парай бульбу. Патэльню з яечняю і каўбасою на стол паставіла. Малако ў кубкі паналівала — кажа, схадзіла ў суседзяў купіла. Па талерцы парэзаныя кружкамі свежыя агуркі.

— Ешце... З дарогі ж... — усміхаючыся, кажа.

Селі, амаль моўчкі перакусілі. Лёнік тут жа пабег у двор. А Лідачка ўсё пры маме.

— Пойдзем зараз у агарод? — не сціхала Кацярына (во, быццам яна ўжо тут гаспадыня). — Я там трохі з раніцы пакапала. Выйшла досвіткам, бачу, дзірванее ўсё ў агародзе — дык я ўзяла рыдлёўку ды добры лапік. Зараз мы ўдзвюх — і дакапаем.

Яны пайшлі ў агарод. Мінулі калодзеж, спыніліся. Чарнела ўскапаная зямля.

— Трохі ты пакапаеш, а потым зноў я, — не сціхала Кацярына.

Ну, капаць, канечне, трэба. Алена моўчкі ўзяла рыдлёўку. Раней усё гэта рабіў Вася — а цяпер во... Неяк прыладзіцца з гэтай рыдлёўкаю...

А Кацярына распараджалася. Паклікала Лёніка, падвяла да малінніку.

— Глядзі... Бачыш, пруточкі без лісцікаў, без пупышак, сухія? Іх павыламвай, толькі асцярожна. Зможаш?

— Ы-ыгы, — мыкнуў насцярожаны Лёнік. Паглядзеў на маму.

— Ну, паспрабуй, — сказала Алена.

Ладу на душы не было ніякага.

Капаць было цяжка, і Алена хутка-такі стамілася. Уткнула ў зямлю рыдлёўку, пайшла да калодзежа, села на пянёк. Пасярод агародчыка гарэў касцёр з рознага хламу — леташняй травы, бульбоўніку. Лідачка, паслухмянае дзіця, збірае вунь смецце ўсялякае, у агонь кідае. Дым...

— Ты пасядзі, а я зараз дакапаю, — кажа Кацярына.

І тут жа ўзяла рыдлёўку — капала яна спрытна, хутка, пераварочваючы зямлю і рассякаючы карэнні травы.

Яна ўжо тут, бачыш, гаспадарыць. Дужа бярэцца... Ну, не, дарагая. Пойдзеш ты адсюль, як і прыйшла. Вось зараз дакапае, падыдзе — і я ёй скажу.

А ў самой на душы пагана...

Кацярына неўзабаве, і праўда, дакапала зямлю, во падышла і, апускаючыся на суседні пянёк, раптам спытала:

— А дзе ж твой муж?

Алена аж уздрыгнула. Сцялася.

І — востра зіркнула на Кацярыну. І, адчуваючы, што быццам у палонку з ледзяной вадой збіраецца скокнуць, раптам прызналася:

— У турме.

І зноў так востра і неяк так безабаронна зірнула на Кацярыну.

— Чаго ж так? — папытала Кацярына ціха і з дабрынёю.

— Злодзеем зрабілі. Два гады далі. Які ён злодзей? Браў тое, што пад нагамі валялася. На будоўлі. Я не лічу яго злодзеем. Яны самі яго такім зрабілі. Хай навядуць парадак! Заробак дадуць! Тады й пра работу будзе думацца, а не пра тое, дзе што не так ляжыць, — сказала, быццам дулю некаму паказала. Невядома каму. І пільна глядзела на Кацярыну.

— Ну, што ж, — вымавіла Кацярына спагадліва і раздумліва. — Трэба і гэта перажыць. Усяляк у жыцці бывае. Трэба, сястра, перажыць, — заключыла і глядзела на яе добрым зычлівым позіркам.

Кацярына была, бадай, першай, каму Алена сказала пра Васю праўду. І быццам аслабанілася ад нечага. Нікому ж не прызнавалася гэтыя два месяцы, што ён у турме. Усім — і на працы, і ў пад’ездзе, і тут, у вёсцы, — усім невядома чаму адно казала: у заробкі паехаў... І такая гэта была напруга... А тут — праўду сказала. І быццам камень з душы. Некаму ж трэба сказаць і праўду. У сабе ўсё насіць — захлынешся. Каму ты скажаш, як не свайму? Хто, як не свой, зразумее і паспагадае? Свой да свайго хінецца... Во сказала праўду Кацярыне — і ўжо не адна яна быццам са сваім горам. Ужо быццам і ёй гэта сонейка грэе... Яна быццам зноў пачынае жыць…

І яна расказвала пра Васю — які ён гаспадарлівы, дбайны, уважлівы, — хваліла... Быццам абараняла мужа ад нядобрых пра яго думак. Быццам пераканаць Кацярыну хацела ў нечым. І пра сябе ўсё казала — такі клубок перажыванняў выкуліла.

Кацярына слухала, і здавалася Алене, што яна разумее яе. І ёй, Алене, было смялей і смялей.

Пад поўдзень ужо. Не, нават за поўдзень — вунь сонца як высока. Нават прыпякае. Кацярына сядзела на пяньку. Лідачка каля яе, нешта шчабеча. А Лёнік вылез ужо з малінніку, пабег з агарода. Алена заварушылася, нейкая лагодная, пачала мыцца, рукі, твар, ногі, — вада ў тазіках, што з раніцы напалівала Кацярына, добра злецілася, так во прыемна...

— Падай мне ручнічок, — сказала да Лідачкі. — Вунь на плоце вісіць.

Дзяўчынка аж падскокнула, ахвотна гэта зрабіла.

Алена выціралася... Думалася...

І ёй, Кацярыне, таксама не соладка. Такі муж быў — усяго там, відаць, было. А цяпер — нявестка. Міру ў хаце няма. Калатнеча штодзень. Нацярпелася яна. Калі во пайшла з дому...

Дапамагчы б ёй... Не чужая яна. Але як? Аддаць гэту бацькаву хату? Алене аж млосна ад такой думкі зрабілася. Не, гэта немагчыма! Каб жывы быў бацька — ён бы паспрыяў, нешта б прыдумаў.

Аж неяк ніякавата перад Кацярынай. Быццам нават сорамна чагось... Што ж зробіш? Ну, не можа яна аддаць ёй гэту бацькаву хату... І ўдзвюх тут... Не атрымаецца ўдзвюх...

— А мы зараз на Мінск паедзем, — раптам сказала яна, не зусім разумеючы яшчэ сябе. Зірнула на гадзіннік на руцэ. — Недзе ў гэты час павінна быць электрычка.

— Зноў на Мінск? — неяк разгублена перапытала Кацярына. — Тады хоць з’ешце чаго.

— Дома паабедаем. Вы ешце, не саромцеся.

І во ўжо яна пачала клікаць Лёніка, і пайшлі з сынам у хату, пераапранаюцца.

Аж неяк разгублена на душы.

— Мы заўтра вернемся, — сказала аціхлай і ўжо быццам насцярожанай Кацярыне, калі тая таксама зайшла ў хату. І не магла чамусьці глядзець на яе, і казаць не ведала што. А што ты будзеш казаць, калі на душы незразумець што... Калі трэба адмаўляць чалавеку. Ды каму — сястры... Яна да цябе з дабром, а ты за пазухай камень трымаеш.

Ой, Божухна! Ужо быццам неяк і сорамна перад ёю... Сястра ж яна... Хутчэй пайсці з двара...

І неўзабаве яны былі на станцыі. На высокім бетонным пероне стаяла шмат людзей. Стаялі па адным і купкамі. Столькі белага колеру — майкі, штаны... І гоман, смех... Яна яшчэ, пакуль не было электрычкі, паспела купіць у касе білеты. Пайшла па пероне, вітаючыся з аднавяскоўцамі, але ні з кім не спыняючыся і не размаўляючы. Міналі незнаёмых людзей — тут шмат ужо незнаёмых: пакуплялі пад дачы хаты, а хто і пабудаваўся, сталіца ж побач... Вось і электрычка. Зайшлі ў вагон. Селі каля акна — радасць Лёніку. А яна была ўся ў роздуме. Разгубленая была. Усе думкі вакол Кацярыны... Сястра яна. Гэта таксама — сваё... Трэба, каб і свой нехта быў... І раптам падумала — так, быццам даўно гэта знала: грошы! Яна аддасць ёй тыя грошы, тыя долары, што прыдбаў Вася... Заўтра прывязе. Вось так яна зробіць... А яна, Алена, заадно пазбавіцца гэтых грошай… Столькі гора з-за іх… Хай ідзе Кацярына напытвае сабе хату. Тут прадаюць. Дарага, канечне, але тых долараў, што ёсць у яе, Алены, хопіць... Што тыя грошы? Грошы — гэта яшчэ не ўсё... Ёсць яшчэ нешта... Грошы былі і будуць... Вернецца Вася... Заробяць... Ну, разумнейшымі будуць... Жыццё вучыць... Хай...

Здаецца, пасвятлела наўкола. І лягчэй зрабілася і глядзець, і дыхаць... Мільгалі за акном вагона вясеннія краявіды. Дзе што ні схопіш вокам — вясна! Гэту пераўжыць, і потым яшчэ адну. А там вернецца дадому Вася.

## УВЕЧАРЫ

Яна прачнулася з нейкаю незразумелаю трывогаю, і потым усё ранне, што б ні рабіла, куды б ні хадзіла, ніяк не магла супакоіцца: увесь час уздыхала, усё ў яе валілася з рук. Нарэшце, сама на сябе раззлавалася — ну, што гэта я так? Ён жа не маленькі…

Але ж усё адно, як яна ні супакойвала сябе, увесь дзень была нейкая наструненая, узбуджаная: куды ні хадзіла, што ні рабіла — ніяк не забывалася пра сына, з трывогаю думаючы пра яго, пра яго…

Увечары, даволі-такі прытомленая за дзень, ужо быццам і аціхлая душою, яна пякла на кухні блінцы. Тыя, якія Віталік любіў з дзяцінства. А любіў ён блінцы з рознай начынкаю. Сёння будуць з мясам.

Яна стаяла, круцілася каля пліты, сцятая, але ўсё яшчэ неяк па-маладому, быццам і не на пенсіі яшчэ… А ўжо ж другі гадок… І прывыкла ўжо днямі дома таптацца…

Во ўсё чамусьці думаецца пра Віталева дзяцінства, пра той далёкі ўжо час…

Ён рос без бацькі. Бацька яго кінуў, як было яму недзе шэсць гадкоў. З'ехаў у Мінск і ніколі больш да яго не прыязджаў, — у сталіцу з'ехаў. Тады ў краіне, помніцца, такі вялікі пералом пачынаўся… Усё рушылася, завод наш спыняўся,

па тры дні рабілі на тыдні, — і ён, мой Кандрацюк, — ён начальнікам у цэху быў, адукацыю ж меў, не тое, што я, простая кантралёрка, а Кандрацюк мой крутамозгі такі, і ва ўсім у жыцці бачыў тое, што іншыя не бачылі… І гаворыць, бывала, неяк па-свойму, адмыслова, усё нейкімі новымі слоўкамі, не ўсё і зразумееш з яго хітрыкаў-мудрыкаў… Відаць, яго час прыйшоў, бо ён аж рукі паціраў — «Цяпер такое можна!», ды й паехаў у сталіцу па вялікія грошы. І бач, знайшоў жа ў тым Мінску нейкія хады-выхады, прыжыўся там, багатым зрабіўся — што ўжо яму гэты абласны горад? І сынам ён аніколі больш не цікавіўся, і толькі аліменты слаў — як на той час, дык добрая была падтрымка…

А бач ты, столькі часу мінула, а ўсё помніцца, быццам учора было… Так во сэрцу шчымліва… Доўга, ой, доўга насіла яго, Алега, у душы, усё чакала, што ці патэлефануе, ці прыедзе… І не пазваніў ні разу, і не прыехаў… Заюшыўся, значыць, ён заўжды дужа заюшваўся ў рабоце, яна ж знала яго… Неўтаймоўны… Ва ўсім. І жанчыны ж вакол былі…

І яна пеклавалася з малым Віталем адна. Як толькі вытрывала, і на працу ж трэба было хадзіць… А Віталь быў надта хваравітым дзіцем — і дасталося ёй у тыя гады, ой, дасталося… Па дактарах ды па дактарах…

Не сказаць, каб яна ўвесь час адна была — з'явіўся ў яе мужчына. Усе ж у цэху зналі, што Кандрацюк паехаў, а яна ж яшчэ маладая была, казалі ўсе, прыгожая. Коля яго звалі. Харошы чалавек. Працавалі разам. Ён зборшчыкам быў у цэху. Разведзены. Усё казаў: «Выходзь за мяне». Яна і не тое, што «не», і не тое, што «так»… Яна думала пра Алега. Яна ўсё яшчэ была з ім… І такое хваравітае дзіця гэта… Як тут пра сябе думаць, калі дзіцятка такое… Пеклавалася. Пра ўсё астатняе забыўшыся…

Адна выхадзіла неяк сына. Дзякуй богу, усе свае хваробы перарос, і цяпер во — такі здаровы ды паглядны мужчына.

Вось толькі… Ён сышоў ад свае жонкі. Ужо другі тыдзень жыве ў яе, у маці. Пакінуў жонку з дачкою. Светачцы тры гадкі, дзіцятка кволенькае, і яно цяпер невядома дзе, невядома ў каго, у якойсці жончынай радні — казаў у нейкай далёкай вёсачцы… Бо сама жонка яго дужа любіць гарэлку…

Ах, Віталь, Віталь… Сын ты мой, сын… Што мне табе казаць? Баліць у мяне сэрца… Хай Галя яго, ну, так скажам, — прапашчая, гарэлка яе давяла, але ж дачка ёсць дачка… І што яму, Віталю, казаць?..

Во задумалася — і блінец на патэльні падгарэў. Але напячэ яна сёння блінцоў, калі на душы такая бязладзіца… Гарыць душа…

Сын прыйшоў дадому якраз у свой час — ён заўсёды нідзе пасля працы надта ж не затрымліваецца. І яна ўзрадавалася: блінцы тут яму, цёпленькія, яго любімыя… Невядома, як там яму было апошнім часам, у жонкі, — п'е ж яна атруту гэтую, дык якая з яе гаспадыня?.. Што яна там яму, п'яная, гатавала, чым карміла? І галодны, нябось, быў. Гэта ў наш час. Хай хоць дома паласуецца. Адчуе, што ён — дома, што ў роднае мамкі.

Віталь прыйшоў дамоў, адразу ўбачыла, што ён без настрою. «Сынок ты мой сынок, ці ж я вінаватая, што ў цябе такое гора? — думала яна. — Я ж з усёю душою да вас была. І цяпер я з табою — не выходзіць з галавы думка пра Светачку… І цяпер мне шкада, дужа шкада, — і талковы, і адукаваны, інжынер, і відны сабой — але ж во так не пашэнціла з сям'ёю».

Зачыніўся вунь у пакоі і сядзіць там. Ужо каторы раз яна кліча:

— Ідзі, сынок, да стала.

— Прыйду, — адно слова буркае. Быццам адчапіцца ад яе хоча.

Яна тапталася на кухні, па вітальні — ужо і не адчайвалася адчыняць да яго ў пакой дзверы, а блінцы астывалі, гэта ж не такія смачныя будуць, а ён, бачыш… Дужа ўнурыўся ў сябе…

Нарэшце, ён выйшаў з пакоя. І яна аж ускінулася.

— Мый рукі ды за стол. Пакуль гарачанькае.

Ён і сапраўды пайшоў у ванны пакой, зачыніў за сабой дзверы, быў там доўга. Што ён там так доўга робіць? Ужо даўно можна было б тыя рукі памыць. І маці ўсё тапталася туды-сюды, усё хвалявалася — каб жа ён добра і смачна павячэраў… І ўзвару цёпленькага во кубак наліла…

Нарэшце Віталь прыйшоў на кухню, сеў за стол… Без кашулі і майкі, з голай грудзінаю, у адных джынсах пад папружкаю. Узяўся за блінец, патрошку браў, маўклівы, відэльцам. Адзін неяк адужаў. І ўсё — адсунуў талерку ад сябе. Падняўся з-за стала. Імкліва пайшоў. І ўзвар не выпіў. Маўклівы. Заклапочаны і незадаволены.

Ну, чаму ж так? Усё ж гэта вячэра. Мужчына ж… Што гэта яму адзін блінец. Во і не пад'еў, зачыніўся ў пакоі. Аж са стала прыбіраць не хочацца.

Званок у дзверы быў гучны, доўгі, пранізлівы, быццам на пажар клічуць. Хто гэта так патрабавальна звоніць? Ажно Віталь выйшаў з пакоя. Маці і сын пераглянуліся. І тут жа зноў — працяглы званок.

Маці падышла да дзвярэй. І, перш, чым адчыніць, у «вочка» зазірнула. У калідоры стаяла Галя. Ускудлачаная.

— Жонка твая, — сказала маці сыну, калі той таксама падышоў да дзвярэй.

Ён злосна ўсхапіўся, ажна закалаціўся.

— Не адчыняй! Чуеш, не адчыняй! — і сцяты, пайшоў ад дзвярэй прэч.

— Сынок… — бездапаможна прамовіла маці, быццам перапытваючы ў яго, што рабіць.

«Можа, каб адчыніў… Хай бы… Але ж сын…»

— Віталя, адчыні! — пачулася з калідора. — Адчыні мне!

— Чуеш, сынок? Яна просіць, каб адчынілі.

Віталь, узбуджаны, падскочыў да дзвярэй і гаркнуў:

— Ідзі прэч! Не прыходзь! Усё скончана! Усё! Прэч! — і пайшоў у свой пакой.

А Галя званіла і званіла. І пры гэтым нешта ўсё казала праз дзверы. Аж у вушах калом і гэты звон, і яе голас.

Чуваць было, у калідор выйшла са сваёй кватэры суседка, цікаўная Люся. Галя пачала штосьці голасна даводзіць той… «Во, ужо і суседка будзе ўсё ведаць, каб потым языком мянташыць па ўсім пад'ездзе. Ну, каму гэта добра, каб пра цябе, пра тваю сям'ю пагалоска ішла?..»

— Можа, адчыні ты ёй, а, сынок? — зайшла маці ў пакой да сына. Той сядзеў на канапе, склаўшы на грудзіне рукі.

— Не! — адказаў коратка і злосна.

І маці паслухмяна адступілася ад яго і не падышла нават да ўваходных дзвярэй.

Галя званіла яшчэ хвілін дзесяць, пранізліва, з невялікімі перапынкамі, — ужо і суседка пайшла ў сваю кватэру. А яна ўсё стаяла пад дзвярыма, чакаючы, калі ж яе ўпусцяць у кватэру. Але Віталь так і не адчыніў ёй. І маці не дазволіў.

Маці ж расхвалявалася. Хоць з-за дзвярэй ужо і не чутно нічога было, яна не магла супакоіцца. Тупала-тупала па кухні ды і пайшла ў пакой да сына. Ён ляжаў з газетаю на канапе.

— А можа, хай бы яна зайшла, а, сынок? Можа, яна адумалася, за розум узялася?

— Я ж сказаў! — злосна адхінуўся Віталь ад газеты. — Што яшчэ? Што ты хочаш?

— Сынок, я толькі дабра табе хачу. Гэта ж сям'я… Светачка… Ты сам рос без бацькі.

— Ну, і што? Вырас!

— А як рос? Ці добра табе было, калі ўсе, хто хацеў, крыўдзілі? Забыўся?

— Што тут да чаго? — сказаў ён усё гэтак жа злосна і зноў уткнуўся ў газету. Засланіўся ёю ад маці.

Яна пайшла ад яго. Села на кухні на табурэцік, задуменна пазірала ў акно. Ужо шарэла на вуліцы. Дождж па вокнах хвастае. Вулічныя ліхтары ўключылі. У вокнах дамоў, што насупраць, паўсюль амаль жаўцее святло… І яна во пайшла, святло ўключыла. Ды зноў села.

Яна доўга сядзела на кухні. Цішыня была ў кватэры. Усё думала пра Светачку, пачала ўспамінаць сынава дзяцінства, як было кепска яму без бацькі… Малы, ён любіў, каб яна з ім размаўляла. Каб шмат, пра рознае… Так проста і казаў: «Паразмаўляй са мной. Пра што хочаш». Але любіў яе слухаць. Бывала, сядзяць удваіх у пакоі — і ўвесь вечар гавораць. Шчыра і доўга. Пра што яны толькі не гаварылі…

І слухаўся яе сынок. Яна, здаецца, ніколі яго не адлупцавала. Не было за што. Між імі заўсёды было паразуменне. Чаму ж цяпер яе слухаць не хоча?

…І з усімі сваімі нягодамі ён бег да мамы. Ці калі пакрыўдзіў хто — а крыўдзілі, асабліва на вуліцы, шмат, бо ён рос нейкі безабаронны, ні з кім ніколі не хацеў біцца. Ці калі неўразуменне якое — мама параіць, як быць. Ён бег да яе. І яна гаварыла з ім, і ён заўжды пасля размовы ўсцешваўся. Чаму ж цяпер ён такі? Недаступны… Ніякае яе слова не ўспрымае. Слухаць яе не хоча… Сынок ты мой, сынок… Каго ж ты будзеш слухацца?.. Яно й дарosламу трэба добрае, разумнае слова. Хто ж лепш параіць, як не мама?

А я ж цябе ўсё жыццё вучыла толькі дабру, толькі спагадзе… І дзе яно ўсё, тое маё, чаму вучыла, дзелася? Гэта каб кінуць сваю родную дачку, сваю крывіначку… Адзіную. Сынок ты мой, сынок… Гэта ж не чужое дзіцятка. Тут чужога шкада, а то сваё. Хай бы хоць грошы нейкія даваў.

Не, я табе ўсё скажу. Ты мяне паслухай. Як маленькі слухаў. Я табе праўду скажу… Бо хто, як не я?

Паднялася з табурэціка, нейкая строгая, прыгладзіла валасы на галаве ды пайшла з кухні ў пакой да сына. Ён моўчкі ляжаў на канапе. Падступілася да яго.

— Ты, бачу, не любіш. Але буду казаць. Можа, яна адумалася. І так жа бывае. Быў чалавек такі, ды потым перайначыўся, іншым стаў, — разважліва сказала яна. — Дачка ў цябе. Як гэта — кінуць дачку?

— Сціхні ты, чуеш, сціхні!

Яна замоўкла. Уздыхнула. Але потым зноў загаварыла:

— Не, мой сынок… Ты — бацька. Ты павінен. Да сябе Светачку забяры, калі ўжо так. Я ж яе дагледжу. Хай з родным бацькам будзе, а не недзе ў белым свеце. Невядома, якая там яна, тая радня.

— Сціхні! Што ты мне ўсё!.. — і раптам падхапіўся з канапы і нечакана раз'юшана закрычаў: — Усё! Хопіць! Адно другога не тычыць! Ясна табе? Хопіць мне!

І пайшоў на кухню. Яна пастаяла ў пакоі, памарудзіла трохі і таксама, асцярожная, пайшла на кухню.

Ён наліваў у кубак узвар з каструлі.

— Шкада ж Светачку. Так яе шкада.

— Ты мне хто? — паставіў ён поўны кубак на стол. — Ты мне маці ці чужая цётка?

— Сынок, што ты вярзеш?

— Я — вярзу? Ах, так…

Ён раптам вельмі хуценька, адчайна нават, закусіўшы губу, імкліва зняў са штаноў папружку, сцяў яе ў руцэ, размахнуўся — і аперазаў ёю маці ніжэй спіны. І раз, і два, і яшчэ, і яшчэ, і зноў.

— А-а-а!.. — галасна залямантавала яна, адмахваючыся ад яго.

А ён сцёбаў і сцёбаў — сцяўшы губы, вырачыўшы вочы, злосны.

Яна крутнулася з кухні — і выбегла ў вітальню, у пакой заскочыла. Захадзіла, закрыўшы твар рукамі, па пакоі. Захлынаючыся крыўдай. Хай бы ён таўхнуў яе, хай бы рукою ўдарыў, нават па твары пляснуў, яно б не так… А то папружкаю... Як малое неразумнае дзіця. Ён мяне, як малое неразумнае дзіця… Не, гэтага не пераносыць. Такая крыўда! Вялікая, як свет, крыўда… Залілася слязьмі. «Я пайду! Я пайду ад яго! Хай адзін пажыве! Калі яму ніхто не трэба…» Ён, сын, родны сын, — і сцёбаў яе папружкаю. Такая горкая, такая вялікая крыўда. Такога яшчэ не было… Не, яна пойдзе адсюль! Яна не будзе адгэтуль з ім побач жыць. Яна паедзе да пляменніцы, да Ларысы. Гэта на другі край горада. Ларыса прыме яе. Зараз паедзе! Каб пайсці. Ні слова яму…

Віталь па-ранейшаму быў на кухні. Пры зачыненых дзвярах. Маці похапкам пачала апранацца. Каб пайсці. Ні слова яму…

І пайшла. Зачыніла за сабой дзверы. Ён і не бачыў, як яна выйшла. Не помнячы сябе, націснула кнопку ліфта. Прыехаў, адчыніўся ліфт. Зайшла. І — уніз. Вось ён, нарэшце, першы паверх. Выйшла з пад'езда. Цёмна ўжо. Жоўтыя ліхтары. І бліскучы ад дажджу асфальт. Сцёбае дождж. Вецер халодны і туманна. Вакол ні чалавека… Позна ўжо. Але ходзяць аўтобусы. На прыпынак.. Даедзе… І захліствала крыўда — такая вялікая, як свет, крыўда. Такой не было ніколі. За ўсё жыццё. Нават калі Кандрацюк паехаў ад яе — у нечым яна і разумела яго, неўтаймоўнага… Слёзы душылі… Свету белага перад сабой не бачыла. Ён яе, маці сваю, папружкаю. Яна ўсё, здаецца, магла б перажыць — толькі не гэта… Не так балюча, як — абразліва. Ён з ёю, як з недалэнгай якою… Быццам яна дурное яму казала. Крыўда і крыўда… Яна накочвалася на яе хвалямі, абвалаквала яе ўсю, і яна ішла і свету белага не бачыла. Ішла на прыпынак… Такая безабаронная… Туманна… Паехаць да пляменніцы Ларысы, расказаць ёй… Пажыць у Ларысы…

І раптам нешта моцнае ўдарыла яе, такое моцнае — і, падаючы, яна падумала: гэта Віталік яе дагнаў, ударыў. І яшчэ ў свядомасці мільганула: быў бы з ёю побач Алег, яе Кандрацюк — і Віталік інакшы быў бы… Не дагнаў бы і не ўдарыў…

Цела яе да раніцы ляжала на ўзбочыне, недалёка ад прыпынку.

Вадзіцель з месца здарэння знік.





## Генрых ТАРАСЕВІЧ

* * *

Дваццаць год мінула з той пары,
Як няма цябе, мая матуля…
Праляцелі дні імклівай куляй,
Толькі сэрца ўсё адно гарыць.

З дня таго, як я прыйшоў на свет,
Ты вяла мяне сваёй дарогай.
Твой наказ — без Бога й да парога
Не хадзі — мной чуты запавет.

Заклік твой — жыві сынок ярчэй,
Мужным будзь, твары дабро заўсёды
Для людзей і Боскае прыроды,
Не адводзь ад слабага вачэй.

Мама, найбліжэйшы чалавек,
Ты мой свет, мой лёс, мая спагада.
Даражэй за ўсё твая парада,
Вобраз твой — у памяці навек!

* * *

Мы прыйшлі да яе ўчатырох —
Да высокай прывабнай жанчыны.

---

***Тарасевіч Генрых Францавіч*** *нарадзіўся 23 лістапада 1960 года ў вёсцы Новы Двор Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў агранамічны факультэт Літоўскай сельскагаспадарчай акадэміі (1983) і аспірантуру пры Беларускім навукова-даследчым інстытуце глебазнаўства і аграхіміі (1986), кандыдат сельскагаспадарчых навук.*

*Працаваў у Інстытуце глебазнаўства і аграхіміі, у Акадэміі аграрных навук, у Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання. Цяпер — саветнік-кансультант Сакратарыята Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.*

*З вершамі выступаў у рэспубліканскім перыядычным друку.*

І, як толькі мінулі парог,
Прад вачыма паўсталі карціны:*

Копы сена, струмень ручая.
Жыта ў полі і хата на ўскраі…
Беларусь, о старонка мая,
Без цябе я жыцця не ўяўляю.

Без цябе не пражыць мне ні дня,
Беларусь, ты і я — шлях адзіны!
Тут прытулак знайшла дабрыня
Толькі з ведамай Богу прычыны.

Мой азёрны валошкавы край,
Ты з маленства ў душы — стагалосы!
Быць з табой, ці хоць нават ускрай —
Не жадаю мець іншага лёсу.

…Так цяклі мае думкі наўпрост
У кватэры прыгожай жанчыны,
Дзе пралёг яе памяці мост
Між жыццём і мастацтвам мужчыны.

* * *

Да зямлі, на выхадныя,
Міма шыльды «Новы Двор»
(Не паедзь, дык сэрца ные)
«Жыгулёўскі» мчыць матор.

І ад літар успаміны,
Што на шыльдзе зіхацяць,
Льюцца поўнай ручаінай —
Іх без жалю не прыняць.

Недзе там, каля граніцы
Беларусі і Літвы,
Ёсць куток святой зямліцы —
Маладосці астравы.

Тыя ж самыя  палеткі,
Тыя ж самыя лясы.
Той жа водар дорыць кветкі,
Тых жа птушак галасы.

Новы Двор — калыска лёсу
І юнацтва берагі.
Гора, шчасце, роспач, роздум,
Маці вобраз дарагі.

---

*Арыгінальныя карціны заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, прафесара І. Н. Стасевіча (1929—1998).

Там я стаў адданы Богу,
Моц адчуў Яго святла.
І адтуль знайшоў дарогу
Да Хрыста, падальш ад зла.

* * *

Шэрыя палеткі
Восеньскай парою.
Адцвілі ўжо кветкі,
Дзень пагас зарою.

Лісцейка спадае,
Кружыцца маўкліва.
Вырай адлятае,
Лес шуміць журліва.

Выш нябёс крыляе
Клінам жураўліным.
Смутна іх яднае
Спорны дождж з чужынай.

…Восень сее роздум
Аб жыцці, і вечным,
І выключна розным
Шчасці чалавечым.





## Анатоль АЎРУЦІН

* * *

Я напраўду такі... Па жыцці я напраўду такі.
Гэта можа пацвердзіць сасна, што стаіць ля ракі.

Гэта можа пацвердзіць калодзеж, і можа — вятрак,
Хоць адзін перасох, а другому не выжыць ніяк.

А сябруюць са мной аднакрылая сойка і стрыж,
Ім ужо не ўзляцець над пахілымі дахамі ўвыш.

Шчэ дзівацкая Юлька, што танчыць і вучыць урок.
І няроўны мой крок, ах, які ж ён няроўны, мой крок!..

Дабрыду ўсё адно... І сябры застануцца са мной.
Буду ў днях спахмурнелых няшчасця — няшчасцям відной.

Паспрабуй зразумець, наступаючы ўноч на глыжы:
Гэта хто там брыдзе? Гэта хто там брыдзе па мяжы?

---

*__Аўруцін Анатоль Юр’евіч__ нарадзіўся 3 ліпеня 1948 года ў Мінску. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1972). Працаваў у часопісах «Служба быту Беларусі», «Салон», «Личная жизнь», «Немига литературная», «Нёман», у газеце «Советская Белоруссия». Цяпер — сакратар Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, галоўны рэдактар часопіса «Новая Немига литературная».*

*Піша на рускай мове. Аўтар паэтычных кніг «Снегопад в июле» (1979), «Поворотный круг» (1983), «...От мира сего» (1991), «По другую сторону дыханья» (1998), «Золоченая бездна» (2002), «Поверуй... Вспомни... Усомнись» (2003), «Неживая вода» (2005), «Наедине с молчанием» (2007), «Август в декабре» (2009) і інш. У перакладзе на беларускую мову выйшла кніга выбраных вершаў «Духаспляценне» (2006).*

*Лаўрэат літаратурных прэмій імя Сімяона Полацкага (2003), Мікалая Мінскага (2005), Антона Чэхава (2008), імя «Маладой Гвардыі» (Украіна, 2006). Член-карэспандэнт Пятроўскай Акадэміі навук і мастацтваў (Санкт-Пецярбург) і Акадэміі паэзіі (Масква).*

* * *

*Свеча горела...*
Барыс Пастарнак

Ізноў прыгорнецца прамень,
Нібы з сінечы.
Гляджу на свечкі я агмень —
І ў Залюстрэчча,

Дзе столькі промнай сінявы
Ў начным прасторы:
І свечкі подых агнявы,
І цень на шторы.

Так і зліваюцца заўжды
Жывое з вечным...
Бягуць нязмушана гады,
Лучыняць свечкі.

Ды раптам зможа патушыць
Іх цьма зямная —
І ў Залюстрэччы замаўчыць
Струна нямая.

А значыць, таінства прайшло,
Свет зноўку плоскі.
Жыццё — люстэркавае шкло,
Нагар на воску...

* * *

Май. Выхадны. Навальніца ў душы.
Дзесь прытаілася слова-нябога.
Першы раскат растварыўся ў цішы,
І ў паднябессі не чутна другога.

Крыўда такая на ўсё і на ўсіх:
На сутарэнні і на паднябессе.
Ёю напоўнены кожны уздых,
Кожны куплет мной не складзенай песні.

Гэткі прастор там — падлога ды столь...
Гэткія мукі — ўсё кнігі й радочкі...
Толькі ў душы — ці то крык, ці то боль,
І ні пры чым тут гады і гадочкі.

Штосьці святое навек адышло,
І не папросіш: «На хвілю вярніся».
А беспалётнае гэта крыло
Ўсё-ткі імкнецца ў таемныя высі.

Быццам бы хоча сябе парадніць
З тою страхой, што гніе ля дарогі
І над якой — толькі зорная ніць...
Зорная ніць. Ну, а болей — нічога...

* * *

Два цягнікі таму назад
Перон быў яблычна-клубнічны,
Вішнёвы, грушава-чарнічны,
Хоць ты смакуй усё падрад.

Два цягнікі таму назад
Накідка атуляла плечы
І абяцаў такія стрэчы
Плацкартна-змучаны пагляд!

Два цягнікі таму назад
Бабулі ў пояс пакланіўся.
Цягнік няспешна аддаліўся,
І цень яго ахутаў сад.

Два цягнікі таму назад
Жыццё здавалася мне вечным.
Дзень прамінуў. Пачаўся вечар.
Перон той вернецца наўрад...

Два цягнікі таму назад...

* * *

Чакае шчэ вяршыня лета,
З высокіх крон імжыць зеніт,
Ды, марай жнівеньскай сагрэта,
Сасонка тоненька звініць.

Там пад карой бунтуюць сокі
І шышкі падаюць на цвердзь.
Ды прыйдзе час —
ён недалёкі, —
І зноў закруціць кругаверць...

* * *

Маладзік. Другога Мандэльштама.
Горкі прысмак Спаса-на-Любві.
Помню, ты прыслала тэлеграму:
«Мандэльштамам жнівень назаві».

І назваў. А ліпень? Чым ён горшы?
Ну, не ліпень — зорны Салагуб.
Я пайду сцяжынкаю прагорклай
Да салёнай ранішнасці губ.

І, крывой зазубрынай світання
Падчапіўшы з возера зару,
Зразумею: летнія прызнанні
Я нікому ўжо не падару.

Бо ў душэўнай споведзі вясновай
Застанецца толькі «аз ваздам»,
А не блік начы маладзіковай
У дзівосны месяц Мандэльштам.

* * *

Пяты дзень ад народзінаў жніўня,
Заўтра шосты адзначыцца дзень...
Птушка ўскрыкне і знікне над нівай,
А пасля ў травастой упадзе.

Нешта грукне пад даўняю ліпай,
Зноў абудзіцца лодкаю плёс...
І здаецца: са скрыпам-усхліпам
Па цячэнні панесла мой лёс.

Над Айчынаю, Богам забытай,
Толькі сонечны промень жыве,
Толькі воблака спіць пад ракітай
Ды плывец адзінокі плыве...

* * *

Парваў блакнот... Пайшоў... Душой панік.
Шпурнуў пяро... Няхай ляціць з Галгофы.
Ды трапіцца пад рукі чарнавік,
А ў ім — такія ж просценькія строфы.

«Спаліць яго!» — і спальваеш крадком,
Аж па сцяне ад блікаў скачуць цені.
А каб застацца хоць адным радком,
Том «Мёртвых душ» падайце... І не меней...

* * *

Жнівень.
Школа ўжо не за гарой.
Яблыкі, бы сонечнае лета,

Ты грызеш і моршчышся пры гэтым.
Пераспелі. Смак ужо не той.

Ранкам пакідаем кут лясны.
Зноў сняданак спешна прыгатуем,
І цвікамі восень прымацуем
Да дзвярэй,
І з'едзем
Да вясны.

* * *

Ад'язджаю... Лебедзь на дарогу
Ледзьве чутна хвалю ўскалыхне.
Вусны самі шэпчуць: «Слава Богу!..» —
Бы Ўсявышні слухае мяне.

Пакланюся ў пояс... Прыцем белы
Ледзь прытушыць выстылы агонь,
Ды лісток, дрыготкі і ўспацелы,
На маю апусціцца далонь.

* * *

Нямую ісціну дарог
Здаўна спасцігнуць прагнуць колы,
Ды маладзік — міжзорны бог —
Сваё святло ліе наўкола.

А ў перамерзлай цішыні
І голас чуецца астыла...
Так і ляцяць, імчацца дні
Пад гэтым небам шызакрылым...

Глядзіш, і восень — царства дум...
Ды ўсё ж прымрояцца ў аблогу
І лес, і ціхі гойны сум,
І гэты голас праз дарогу...

* * *

Вечарэе... Зноў памеркла неба
І тужліва віснуць правады.
Зноўку ў птушак вечная патрэба
Адлятаць няведама куды.

Лес наўкол скудлачаны і голы,
Ледзь агніць наводшыбе ліхтар.
На іголкі хвоя накалола
Чараду знясіленую хмар.

У імгле лунаюць птушак блікі,
Іх прароцтва вечнасць не кране —
Што ўся гэта хмурая вялікасць
Не табе пакінута, не мне...

## У ТРЫЦЦАЦЬ ГАДОЎ...

Не верыцца:
Так шкло звінела тонка!..
Я слухаў, як пачуццям ва ўнісон
Ты гаварыла:
«Не хачу дзіцёнка,
Бо, хоць і крышку, нас раздзеліць ён...»

Мне трыццаць год.
Разбіліся ўсе мары.
Куру... Не спіцца...
Запаўночны час.
Спіць у калысцы
Хлопчык кучаравы,
І толькі ён яшчэ злучае нас.

## ЛЯМПАЧКА

Як цяжка асвятляць і сузіраць
Адно што стол, нататнік ды чарніла
І на ўсю моц гарэць-агніць-пылаць,
Калі другія тлеюць напаўсілы.

Выхопліваць абрысы з цемнаты,
Іх на сцяне выценьваць аж да рання.
А раптам, — гаварыць сабе, — не ты,
То хто ж тады? — наіўнае пытанне.

Мо лёс такі — гарэць для ўсіх агнём,
Не заўважаць напружнага ўзвіхрэння
І адчуваць, што слабне з кожным днём
Вальфрамавая нітачка гарэння.

Свяціць-агніць да самага відна,
Пасля перагарэць начы на схіле,
Каб хтось прамовіў: «Вось табе і на!
А быццам бы нядаўна і ўкруцілі...»

## * * *

Свой зямны спаткаўшы жыццябой,
Ціха растварыўшыся ў тумане,
Дарагая, стрэнемся з табой
Дзесьці там, па іншы бок дыхання.

І пачуем зноўку галасы
Тых людзей, што мы не дакахалі.
Зноўку ружа ўквеціць валасы
Пад свячэнне грушавай вуалі.

І, чужую даўкую віну
Па жыцці пранёсшы без пытання,
Зразумеем ісціны цану
Толькі там, па іншы бок дыхання.

І ў сваёй прывычнай мітусні
Не адпрэчым розныя сумнівы,
Калі мы, як зорныя агні,
Паляцелі ў Лету мітусліва

І калі прыродную красу
Аддалі мы д’яблу без вагання...
Толькі ж дыхаць хочацца ваўсю
Дзесьці там, па іншы бок дыхання...

***Пераклад з рускай Міколы Шабовіча.***



Святлана ЦЫБАКОВА

# ПРЫРОДА — ЧАЛАВЕК — КУЛЬТУРА, альбо Касмічнае ўсведамленне ў творчасці Анатоля Бароўскага

*Мой радавод вёў летапіс свой плугам,*
*і, як радком чырвоным, баразной*
*мядзяны конь ішоў адвечным кругам*
*пад Князем-Сонцам, Поўняю-Княжной.*

Анатоль Сыс. «Лён»

Творчасць Анатоля Бароўскага вызначаецца філасофска-лірычным гучаннем аўтарскай думкі і аднолькава з гэтым яе псіхалагічнай скіраванасцю, сканцэнтраванасцю на тым, што было непасрэдна *пераЖыта*, *крышталізавалася* ў духоўную спрактыкаванасць і мудрасць, стаўшы асновай для стварэння мастацка-аўтапсіхалагічнага *«дыярыушу»* жыцця і выпрабаванняў чалавека ў вельмі складанай і супярэчлівай сацыяльнай рэчаіснасці. Пісьменнік адлюстраваў непаўторную і таямнічую прыгажосць роднага Палесся, паказаў яе сувязь з загадкава-мудрай, «сатканай з дабрыні і пяшчоты» душой «палешука-ліцвіна».

Творы Анатоля Бароўскага пранізвае своеасаблівы прырода-філасофскі паэтызм. І таму значнае месца ў іх займаюць анімістычныя матывы, адухоўленыя вобразы дрэў, кветак, звяроў, птушак. Пісьменнік перадаў вельмі характэрнае для свайго душэўнага складу пачуццё еднасці Космасу, сувязі і роднасці ўсяго існага: «Вы не можаце асобна існаваць. Так, як і ты без мяне. А я без цябе. Мы ўсе ўзаемазвязаны і злучаны ў адно цэлае. Як узаемазвязаны Зямля, Паветра і Вада…» [1, с. 145]. Менавіта здольнасць разумець душы жывых істот з'яўляецца разам з мудрасцю адной з галоўных каштоўнасцей у аксіялогіі мастацкага свету твораў Анатоля Бароўскага.

У адносінах да прыроды наогул раскрываецца сутнасць чалавека. У аповесці «Вужык», напрыклад, па здольнасці разумець душы лясных жыхароў аўтапсіхалагічны персанаж ацэньвае маральныя якасці людзей, іх *унутраны* ўзровень. Вясковы знахар дзед Міхась, які «адчуваў, як ніхто, душу і сэрца не толькі чалавека, а і ўсяго жывога на зямлі», паўстае перад ім «нейкім іншым чалавекам», чараўніком.

У аповесці *адлюстраваны* анімалістычныя прадстаўленні, якія бяруць пачатак у глыбокай старажытнасці і з'яўляюцца адным з выяўленняў першапачаткова ўласцівай чалавеку веры ў душу. Вуж Дабрусь у творы — гэта і сябар, і абаронца аўтагероя, яго татэм. «Лясны паўзун», як і «іншы чалавек» дзед Міхась, — уладальнік нейкай вялікай мудрасці («мудры-мудры») і таемных ведаў («ведаў усё-ўсё на свеце») [2, с. 114]. Праз шмат гадоў ён пранікае ў сны, папярэджвае, нагадвае аб мінулым, каб не разарвалася духоўная повязь з дзяцінствам, з малой радзімай.

Вера ў душу, якую маюць усе жывыя істоты, з'яўляецца адной з найбольш характэрных асаблівасцей мастацкага мыслення Анатоля Бароўскага. Адухоўленыя анімалістычныя персанажы прысутнічаюць амаль у кожным яго творы (верабей Чыр («Азірніся ў каханні»), барсук Паласацік, вавёрка Рыжуха («Княжабор»), сабака Чэрчыль («Пякельны рай»), Вужык Дабрусь («Вужык»), Мышук-Белавух («Спакуса»). Здольнасць да глыбокага пранікнення ў звярыную душу дазваляе пісьменніку максімальна дакладна і выразна перадаць індывідуальнасць яе ўладальніка. Так,

верабей Чыр з аповесці «Азірніся ў каханні» і мышаня Белавух з рамана-фантасмагорыі «Спакуса» паказаны як сапраўдныя сябры тых, хто праявіў да іх пяшчоту і спагаду. Маленькія істоты надзелены здольнасцю слушна распазнаваць чалавечыя характары, адчуваць душэўны настрой і жаданні людзей, суперажываць ім:

*«Валер гаварыў і гаварыў, стараўся стварыць са сваіх слоў даверлівую мелодыю ўзаемаадносін, каб Чыр прывык да яго дабрыні. Хлопец нечакана палюбіў гэтага шэрага анёла. Ён ткаў і ткаў слоўныя карункі, узгадняў думкі з Чырам, раіўся, пытаўся. І настаў дзень, калі прыйшло поўнае яднанне — верабей заляцеў у пакой і сеў хлопцу на калена.*

*Арлоў не чакаў ад яго такой смеласці. І таму баяўся паварушыцца, каб неасцярожным рухам не спудзіць свайго сябра. Але Чыр зразумеў яго збянтэжанасць, пераскочыў з калена на плячо — да самага вуха, задаволена абвясціў:*

*— Чыр-чыр, чыр-чык-чырык!»* [3, с. 36—37].

*«Мы с мышонком подружились. Он оказался удивительно смелым созданием, общительным, умным и даже наглым слегка. Забирался на стол с красками и наблюдал уже оттуда, как вожу кистью по полотну. Когда я отдыхал на диване, он садился мне на плечи и дремал вместе со мной…*

*Он был способен и на деликатность — старался не мешать мне, не лез под ноги и руки, когда я работал. Стоял как сурок — на задних лапках, рядом с глиняными влюбленными, и ожидал, когда я соизволю обратить на него внимание…*

*— Я свободен! — посылаю вслух ему сообщение. — Где ты, Белоух?*

*И через мгновение он уже мчится ко мне, садится на колени, ожидая, когда начну гладить его мягкую шерстку, его белое удивительное ухо. Он еле слышно попискивал от удовольствия, раскинув в стороны лапки. Это маленькое существо обладало удивительной способностью — забирало мою усталость, возвращало силы»* [4, с. 70—71].

Пісьменнік засяроджвае ўвагу на адлюстраванні найбольш цікавых і прыкметных рыс выгляду, нораву, манеры паводзін звярка-сябра, ствараючы вельмі адухоўлены, дынамічны і запамінальны анімалістычны партрэт.

У аповесці «Княжабор», прысвечанай пераважна экалагічнай праблематыцы, вобразы «братьев наших меньших», а таксама матыў сяброўства чалавека і звера маюць глыбокі маральна-этычны сэнс. Паміж звярамі і людзьмі існуе непарушная крэўная сувязь, паколькі яны з'яўляюцца стварэннямі Божымі, адухоўленымі насельнікамі адзінага зямнога Дому.

Думка аб зле адчужэння чалавека ад прыроды, ад першапачатковай лучнасці з ёй выказана ў прытчы, расказанай старым мудрым дзедам Ладуцькам лесніку Міхалапу: *«…некалі, шмат гадоў назад, звяры і людзі жылі разам, адно аднаму памагалі і адно аднаго ведалі, разумелі… Дык от знайшоўся нейкі зласлівец, нячыстая душа ці як яго лепш ці горш назваць, ды і пасварыў чалавека са зверам. Хто каго зрабіў вінаватым, сказаць не магу, але ж нездарма са злосці мы гаворым: «Не чалавек, а звер…» Няўжо так моцна ўзлаваліся звяры, што сталі такімі лютымі? І няўжо праз нас?»* [3, с. 151].

Сімвалам чалавечай бессардэчнасці ў аповесці з'яўляецца стрэльба, бо дзе яна, «там і смерць, там і кроў, і згуба». Аўтар *выступае* супраць бездухоўна-спажывецкіх адносін да прыроды, раскрывае злачынную сутнасць браканьерства. Пакуты прыроды ад насілля двухногіх гвалтаўнікоў са «смяротнай маланкай» за спінай *перадазены* праз пачуцці барсука Паласаціка. Аповесць невыпадкова пачынаецца з адлюстравання фізічнага і душэўнага болю, намаганняў «ціхмянага ляснага звера» знайсці сховішча, выратавацца ад тых, хто бязлітасна забіў яго бацьку і маці.

У ідэйным свеце твора чалавек і звер — сябры, якія павінны жыць у згодзе і ўзаемаразуменні. Таму носьбітам аўтарскага маральна-эстэтычнага ідэалу ў аповесці з'яўляецца «гаспадар лесу і сябра звяроў» Косцік Міхалап. *Дабрадзеем* уяўляецца ён Паласаціку. Лёс героя неразрыўна звязаны з лесам, з родным Княжаборам. Міхалап ведае і разумее ўсіх яго жыхароў, адносіцца да іх як да

*роўных* людзям істот. Рызыкуючы жыццём, ён уступае ў барацьбу з ворагамі Княжабору, забойцамі сваіх лясных сяброў і братоў.

Светаадчуванне Міхалапа мае ў значнай ступені містыка-пантэістычны характар. Лес для яго — гэта запаветнае месца, храм, дзе жыве Бог і душы продкаў, якія пераўтварыліся ў дрэвы. І таму неабходна, *«каб чалавек з чыстым сэрцам і светлай душой прыходзіў у лес», «каб брудныя ногі выціраў перад уваходам у лясное царства», «і адносіўся да лесу як да самога сябе»* [3, с. 155]. Аўтар перадае Міхалапу адну з галоўных сваіх думак аб тым, што «залатое правіла маралі» распаўсюджваецца і на сферу адносін людзей да прыроды.

Сучасны глабальны экалагічны крызіс Анатоль Бароўскі асэнсоўвае ў біблейска-апакаліптычным напрамку, як Боскае пакаранне за парушэнне мудрых запаветаў. З найбольшай эмацыянальнай сілай аўтарская трывога за будучыню выказана ў *апошняй* главе аповесці пад характэрнай назвай «Праклён неба», асаблівасці мастацкага зместу якой вызначаюцца спалучэннем містыкі і элементаў дакументальна-публіцыстычнага, гістарычнага і трагедыйнага жанраў.

У сцэнах і вобразах адлюстраванай на старонках гэтай главы фантасмагарычнай драмы Вялікага Суда, вяршыцелямі якога з'яўляюцца не толькі ўсемагутныя нябесныя сілы, але і дрэвы, якія ажылі, а таксама звяры, знайшлі ўвасабленне матывы справядлівай адплаты за парушэнне запавету дазволенага, кары за грахі. Зварот пісьменніка да старажытнага жанру пропаведзі — казані — дазволіў найбольш дакладна выказаць свой погляд на некаторыя негатыўныя тэндэнцыі развіцця сучаснай цывілізацыі і нават прывесці канкрэтныя факты разбуральнага ўздзеяння людзей на навакольнае прыроднае асяроддзе. Праз «зварот-адкрыццё» — «откровение» — і «заклік-напамін» у прамовах «лясных братоў» Косціка Міхалапа — Яркі і Вятчынкі — у творы сцвярджаецца вельмі актуальная і ў наш час ідэя павышэння ўзроўню экалагічнай культуры грамадства, выхавання ў людзей спачувальных і разумных адносін да жывой прыроды.

У адлюстраванні судных падзей і дыялогаў паміж продкамі і нашчадкамі праявіўся ўплыў на духоўную свядомасць аўтара біблейскай эсхаталагічнай містыкі, адсылкі да якой прысутнічаюць у «звароце-адкрыцці» «сына беларускай зямлі» і «сябра ваўка і птушкі» «Прарока-Бога-Суддзі» Вятчынкі. Глыбінны патаемнасімвалічны сэнс, звязаны з фігурамі незвычайных шматвочых апакаліптычных жывёлін, раскрываецца ў яго ўзаемадзеянні з сімволікай княжаборскіх звяроў, якія «ўсё бачаць і чуюць» і з'яўляюцца ўдзельнікамі Вялікага Суда.

Тым самым у аповесці яшчэ раз сцвярджаецца думка аб роўных правах звера і чалавека як стварэнняў Божых на жыццё: *«Дык вось што чытаў Вятчынка з Бібліі. Яны, продкі, разумелі мову звяроў — з імі паразумеліся даўно. А чаму ж мы не разумеем іх, чаму адракліся? Ці яны нас? Я свайго Паласаціка сэрцам адчуваю, а сказаць яму нічога не магу — не ўмею. Вочы ў яго разумныя, здагадацца можна толькі пра яго боль і мучэнні. Вочы — жывыя люстэркі душы. Можа, ён па вачах і мяне разумее? Вятчынка ж казаў, што і на крылах птушак ёсць вочы. Правільна, яны ўсё бачаць і чуюць...»* [3, с. 344].

Глыбокім і моцным адчуваннем еднасці чалавека і прыроды, разуменнем іх узаемазалежнасці прасякнуты творы з кнігі Анатоля Бароўскага «Пякельны рай», у якіх перададзена ўсведамленне цэласнасці і ўсеагульнай адухоўленасці Космасу. Прырода, як і чалавек, вельмі негатыўна рэагуе на зло, на зневажальныя ці *утылітарна*-спажывецкія адносіны да яе. *Прычыненыя* ёй людзьмі пакуты не застануцца бясследнымі: *«Я пачуў боль каласоў, іх крык і просьбу аб дапамозе. Кроплі дажджу перад падзеннем ператвараліся ў градзіны-ільдзінкі. Нас яны не даставалі — над галовамі шыпелі і раствараліся, як падалі на гарачую патэльню. Град пляжыў траву і жыта — каласы падалі на мокрую зямлю...*

*У мяне разрывалася сэрца ад таго крыку. То мо і не крык быў зусім, а нават стогн. Як параненая птушка не разумела, што адбылося, калі ў яе зласлівец перабіў каменем крыло і яна не магла ўзляцець у неба.*

*«...Буран чалавеку помсціў за тое зло, што ён зрабіў, — павысушваў балоты. А ў адносінах да законаў зямлі — то злачынства».*

*«...То ж ніхто іншы, а сам чалавек сваімі дзеяннямі наклікаў на сябе такую бяду. І ён павінен расплаціцца за свае памылкі. Каб зразумець, што рабіць так нельга. Бо адно зло спараджае новае. Яшчэ большае»* [1, с. 116].

Касмічнае ўсведамленне складае аснову аўтарскай канцэпцыі свету і чалавека ў творы пад незвычайнай і загадкавай назвай «Ахутавана». Падзеі ў ім адбываюцца на мяжы містыкі і рэчаіснасці, звычайнага і дзівоснага, явы, сноў і мрояў, паміж зямным і нябесным. У пэўным сэнсе гэта своеасаблівая прытча аб небходнасці духоўна-інтэлектуальнага самаўдасканалення як спосабу пераадолення сваёй прыроднай абмежаванасці і ўваходжання ў культурную сферу існавання чалавецтва. Галоўны герой імкнецца да пазнання таямніц душы і Сусвету, да раскрыцця ў *сабе* і ў іншых творчых здольнасцей і магчымасцей. Ён адчувае сваю глыбінную сувязь з Прыродай, а таксама з часткай неабсяжнай касмічнай і культурнай прасторы радзімай-*Ліцвініяй*. Яе вобраз невыпадкова *зліты* ў творы з вобразам узнёсла-прыгожай і мудрай Каханай героя, якая аднолькава з'яўляецца і адным з паэтычных увасабленняў яго вандроўнай душы-«ахутаваны».

Антон Клімовіч імкнецца не парушыць *«запавет дазволенага», «закон раўнавагі і суладнасці жыцця чалавека»*, бо ведае, што *«няма нічога тайнага, што не зрабілася б яўным, ні патаемнага, што не зрабілася б вядомым і не праявілася б...»* [1, с. 205].

Касмічнае ўсведамленне, перададзенае ў творы, звязана з асэнсаваннем значэння дабра і мудрасці. У разуменні пісьменніка «найвышэйшая мудрасць і ўменне — ствараць Дабро і перамагаць зло», быць неадлучным ад зямнога існавання, Радзімы і ў той жа час адчуваць сваю прыналежнасць «да ўсіх народаў, да ўсяго Свету».

Стаўленне да прыроды і культуры як да ўзаемадапаўняльных пачаткаў гарманічнага існавання асобы адлюстравана ў аповесці «Пякельны рай», дзе галоўным з'яўляецца той жа самы аўтапсіхалагічны персанаж — «шляхціч, паляшук і летуценнік» Антон Клімовіч. Яго далейшы духоўны шлях і выпрабаванні паказаны ў рамане-фантасмагорыі «Спакуса», у якім пісьменнік разам са зваротам да біблейскай светапогляднай канцэпцыі захаваў таксама і ўласцівае яму шмат у чым узнёсла-паэтычнае, і аднолькава з гэтым глыбока філасафічнае, усведамленне сваёй прыналежнасці да Космасу:

*«Я — паутинка во Вселенной, я — как отзвук прошлого, как напоминание о чем-то неосуществленном и неродившемся, и потому не знаю, куда еще могут меня умчать фантазии и мечты, как отнесется ко мне Космос и к какому берегу вынесет меня мой корабль под звездными парусами...»* [4, с. 51].

Калі Косцік Міхалап — гэта, па сутнасці, «прыродны чалавек», светаўспрыманне якога знаходзіцца пад значным уплывам анімістычных вераванняў і ўяўленняў, то ў памкненнях, пошуках і ўчынках Антона Клімовіча ёсць шмат таго, што яднае іх з дзейнасцю «культурнага героя» (тэрмін міфалогіі), медыятара, які звязаны з іншым, сакральна-культурным вымярэннем (у тэксце фантасмагарычных твораў «Ахутавана» і «Пякельны рай» гэта Касмічная Рада) і ўдзельнічае ў трансляцыі волі «Прадвечнага Валадара»: *«Задача Касмічнай Рады не адно стагоддзе была скіравана на тое, каб навучыць чалавека разумнага адчуваць сваю годнасць, навучыць вяртацца да першапачатковых вытокаў яго існавання і існасці. Каб ён, ліцвін, у душы займеў гонар называць сябе грамадзянінам сваёй вольнай і незалежнай радзімы... Таго хацеў у першую чаргу Прадвечны Валадар»* [1, с. 180].

Асаблівасці станаўлення асобы ў негарманічным соцыуме з яго «жорсткімі і звярынымі законамі» перададзены ў сімволіцы вобразаў-матываў «пякельнага раю» і «райскага пекла». У аўтарскай канцэпцыі далучэнне да культуры як да *сакралізаванай* часткі касмічнай прасторы — гэта спосаб супрацьстаяння сацыяльнаму

злу, праз якое раскрываецца трагізм адвечнай антыноміі прыроднага і культурнага, свабоды і законаў неабходнасці. «*Пякельнаму Раю*» і «*Райскаму Пеклу*» супрацьпастаўлена пазачасавае вымярэнне агульначалавечых і нацыянальных культурных каштоўнасцей, Боскай мудрасці, запаветаў найвышэйшага розуму.

У кампазіцыі аповесці «Пякельны рай» асобнае месца займае *метарэальная* прастора, якая *ўтворана* на скрыжаванні прыроднай і культурнай сфер. Гэта *«Галоўная Хата»,* ці *«Унікальнае Сховішча Сусветных Скарбаў»,* дзе *«сабраны культурныя каштоўнасці з усяго свету», «кожная чалавечая душа зарэгістравана, і пра яе можна даведацца са Святой Кнігі»* [1, с. 275]. Трапляючы ў яе, галоўны герой далучаецца да патаемных ведаў і надзвычайнай мудрасці, набывае статус касмічнага медыятара. *«На яго былі ўскладзены абавязкі пасрэдніка, таго, хто злучыць чалавечыя душы з мудрасцю Божай, не навучыць, а толькі падкажа, якой дарогай ісці да Дома Валадара...»* [1, с. 288].

Структура аповесці невыпадкова змяшчае ў *сабе* вобразы і сімволіку эзатэрычнага характару, матывы старажытных містэрый і звязаных з імі сакральных абрадаў:

*«Таго, хто гаварыў да яго, ён не бачыў, але яскрава адчуваў Яго прысутнасць, святое свячэнне было над ім, зыходзіў на яго валадарны дух і спакой. У ім зноў адкрывалася невядомае дагэтуль пачуццё светласці і далучэння да нябесных вяршынь, злучэння з імі нябачнымі ніцямі.*

*...Нейкі момант ён не адчуваў сябе. Яго цела згубіла вагу — ногі не датыкаліся да зямлі. Свячэнне над галавой рабілася ўсё большым і большым, каляровымі кругамі яно разыходзілася і згасала, а з нябачнага цэнтра нараджаліся ўсё новыя і новыя... Яны пульсавалі. У такт ім у яго целе сэрца штурхала па венах ачышчаную кроў, і мозг рабіўся іншым, абноўленым, мільярды клетачак ажылі і ацэньвалі навакольнае жыццё з новым падыходам, з іншымі крытэрыямі...»* [1, с. 288—289].

Прырода і культура ў творчасці Анатоля Бароўскага з’яўляюцца раўнацэннымі звёнамі духоўнага вопыту спасціжэння еднасці Космасу. Праз перажыванне свайго зліцця з прыродай Антон Клімовіч як «культурны герой» глыбей адчувае неабходную для творчай самарэалізацыі ўласную вітальнасць, усведамляе яе меру і *межы*.

У бясконцых жыццёвых выпрабаваннях, у нястомных духоўных пошуках, ён набывае мудрасць, вучыцца бачыць, распазнаваць яе ў іншых людзях, а таксама і ў самой прыродзе. Словы «мудрасць» і «мудры» вельмі часта сустракаюцца на старонках твораў пісьменніка. Мудрасць, як правіла, суадносіцца з духоўнасцю, развітымі маральнымі пачуццямі, з дабрачыннасцю, жыццёвай спрактыкаванасцю, веданнем і адчуваннем меры, з верай у сувязь усяго існага, зямнога і нябеснага, яўнага і нябачнага.

Так, у рамане-фантасмагорыі «Спакуса» мудрасць — адна з галоўных якасцей жанчыны «сялянскай Атлантыды» бабулі Настазі-Анастасіі, з вобразам якой звязаны дарагія для Антона Клімовіча ўспаміны. Мудрымі названыя тыя, «хто чуе і разумее прыроду» — старажытныя «чараўнікі-дрэвалекі», «прыроджаны ляснік і Божы чалавек» дзядзька Іосіф-Язэп, які разумеў, што «спрачацца з прыродай і з Богам — значыць, рухацца па кірунку да пекла».

Уладальнікам сапраўднай мудрасці паўстае таксама самаахвярны шукальнік ісціны настаўнік і вучоны Хурс, які ў сваёй адарванасці ад зямной мітусні нагадвае прышэльца з «іншай цывілізацыі і часу». Са звароту да гэтага вобраза пісьменнік і пачынае твор аб выпрабаваннях асобы ў сітуацыі спакушэння яе дэманічнай сілай, аб распазнанні праз вопыт перажытага мудрасці сапраўднай і ілжывай, зямной і нябеснай.

Носьбітам злой мудрасці ў рамане-фантасмагорыі з’яўляецца біблейскі Змей-спакушальнік, вораг Бога і ісціны, браты і сёстры якога, небяспечныя рэптыліі, са старажытных часоў распаўсюдзіліся па ўсім свеце, і, як, напрыклад, балотная

гадаўка з аповесці «Вужык» не могуць спакойна пераносіць існаванне тых, хто хоць у нечым ушчамляе іх спрадвечны гонар і спрактыкаванасць.

З пункта гледжання патаемнай узаемасувязі ўсяго існага, самалюбная гадзюка, чый «позірк наводзіў на хлапчука хлуду і страх», — антытатэм аўтапсіхалагічнага героя і вораг яго «разумнага, самаахвярнага сябрука» вужынага Цара Дабруся.

У аўтарскай канцэпцыі свету і чалавека, такім чынам, мудрасць — гэта адно з праяўленняў касмічнага ўсведамлення. Насуперак таму, хто вельмі жадаў, каб людзі *грашылі,* і таму абяцаў ім праз парушэнне запавету дазволенага стаць багамі, пісьменнік заклікае суайчыннікаў пераадолець «адмоўную энергію недаверу» і быць «дзецьмі Сусвету і Космасу», «дзецьмі Бога».

У сваіх творах ён сцвярджае ідэю служэння Дабру і Радзіме:

*«Мы будзем такімі, якімі і стварыў нас Бог, будзем мець свае песні, сваю культуру.*

*...Мы адродзімся. Станем мудрымі. І — моцнымі. Тады ніводзін сатана самымі салодкімі словамі не ўвядзе больш ніколі ў зман і пачварны сон. Бо мы навучымся адрозніваць словабалабольства ад Слова Праўды і Шчырасці...»* [1, с. 239].

**Літаратура:**

1. Бароўскі, А. Пякельны рай: аповесці / Анатоль Бароўскі. — Мінск: Маст. літ., 2002. — 326 с.

2. Бароўскі, А. Вужык / Анатоль Бароўскі // Полымя. — 2004. — № 10. — С. 72—118.

3. Бароўскі, А. Азірніся ў каханні: Аповесці / Бароўскі Анатоль. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 349 с.

4. Боровский, А. Искушение: роман-фантасмагория / Анатоль Боровский. — Минск: Асобны, 2007. — 304 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 11 кастрычніка 2010 года.

**Святлана Цыбакова**

**«Прырода — чалавек — культура, альбо Касмічнае ўсведамленне ў творчасці Анатоля Бароўскага»**

**Рэзюмэ**

У артыкуле на аснове творчасці Анатоля Бароўскага даследуецца еднасць чалавека з прыродай і іх узаемаадносіны, а таксама чалавечая мудрасць, як адна з праяў касмічнага ўсведамлення.

**Sviatlana Tsybakova**

**«Nature — man — culture or the Cosmic perception in the work of Anatol Barouski»**

**The Summary**

The unity of a man with nature and their mutual relations and human wisdom as one of the manifistation of the cosmic perception is the subject of the research made by the author of the article on the base of Anatol Barouski's work.

# РАДЗІМАЗНАЎСТВА

***20 лютага 2011 года ў Мётчанскай сярэдняй школе з этнаграфічным ухілам Барысаўскага раёна, дзе створаны тры краязнаўчыя музеі, адбыўся школьны ўрок, прысвечаны краязнаўству. У правядзенні ўрока прынялі ўдзел лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Мікола Мятліцкі і Уладзімір Саламаха, а таксама настаўнікі школы і вучні 7—11 класаў.***

***Пра сваю кнігу «Радзімазнаўства» і пра краязнаўства ў цэлым расказаў вучням вядомы краязнаўца, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.***

— Да краязнаўства акрамя школьных настаўнікаў у значнай ступені мяне падштурхнуў журналісцкі занятак. Па адукацыі я журналіст і вельмі шмат сустракаюся з людзьмі. З юнага ўзросту пісаў у газету. Мне спадабалася, што ў вашым пакоі, які прысвечаны этна-музычнай, фальклорнай рабоце прадстаўлены калектыў «Берагіня», што там прысутнічаюць здымкі ранейшых жыхароў гэтых мясцін. Канечне ж, тыя людзі станавіліся крыніцай для запісаў і для ведаў пра тыя ці іншыя падзеі ў вашым краі.

Вельмі вялікую ролю ў краязнаўстве адыгрывае веданне таго, што ўжо зроблена папярэднікамі. Бо зварот да ранейшых газет і часопісаў — гэта магчымасць не вынаходзіць веласіпед, магчымасць карыстацца пэўнай інфармацыяй, безумоўна, са спасылкамі на аўтараў.

Пагартаўшы некаторыя з пятнаццаці тамоў Мікалая Ісакавіча Вінакурава, я ўразіўся, колькі там закладзена інфармацыі. Аказваецца, многія свае знаходкі ён агучыў на старонках перыядычнага друку. І, безумоўна, гэта было выкарыстана пры стварэнні гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць» Барысаўскага раёна.

Краязнаўства — не толькі напісанне фундаментальных кніг, або артыкулаў для перыядычнага друку, але і тая работа, што праводзіцца ў вашай школе: збор музейных матэрыялаў, экспанатаў, фактаў пра свой край. Некалі ў Беларусі была ідэя стварэння даведніка, прысвечанага краязнаўцам, у тым ліку і сучасным, якіх могуць ведаць толькі ў пэўным рэгіёне нашай краіны. Ідэя выдання такога даведніка была звязана з тым, каб расказаць усяму навуковаму свету, у першую чаргу гісторыкам, а таксама ў прыватнасці гісторыкам навукі, пра тое, якімі пытаннямі займаюцца тыя ці іншыя краязнаўцы. Напрыклад, добра было б, каб пра Мікалая Вінакурава ведалі ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі.

У навуковых праектах, вельмі грунтоўных з навуковага пункта гледжання, звязаных з археалогіяй, этнаграфіяй, фальклорам, увогуле з гісторыяй нашай Радзімы, вялікую ролю адыгрывае валоданне тым матэрыялам, які ўжо назбіраны папярэднікамі. У гэтым плане хацелася б, каб гэты літаратурна-краязнаўчы пакой і пакой, дзе прадстаўлена гісторыя вашай школы і этна-фальклорных заняткаў вашага краю, развіваліся, насілі комплексны характар. Бо гэта важна не толькі для захавання гісторыі школы, а ўвогуле для грамадскага і асветніцкага жыцця. Вельмі ўражвае фактычны колькасны збор кніг з аўтографамі пісьменнікаў. А гэтыя аўтографы — самі па сабе ўжо гісторыя. Цэлы стэнд прысвечаны Рыгору Барадуліну, якому сёння ўжо 75 гадоў — гэта гісторыя. А ведаючы, што ён адзін

з нямногіх пісьменнікаў — майстар экспромта, майстар адразу, спантанна падпісваць свае кніжкі, скажу, што гэта можа стаць прадметам для даследаванняў. Хтосьці павінен на такія рэчы звяртаць увагу, апісваць іх і рабіць пэўным фрагментам літаратурнай гісторыі Беларусі. У краязнаўства могуць укладвацца самыя розныя факты, звязаныя не толькі з літаратурай, але і з геаграфіяй, археалогіяй, мастацтвам. Яны насычаюць краязнаўства, робяць яго шырэйшым.



*Алесь Мікалаевіч Карлюкевіч.*

Адзінкі з нас могуць стаць філолагамі ці літаратуразнаўцамі, вучонымі ў галіне гісторыі. Але тым не менш, складнікамі нашага жыцця так ці іначай стануць асветніцкія праявы. Сёння многія захоплены самымі рознымі тэхнічнымі праектамі. Без тэхнікі, машын, камп'ютараў немагчыма ўявіць сучаснае жыццё. Але калі задумацца: мы больш адукаваныя тэхнічна, ці ўсё ж гуманітарны складнік у нас большы? Я лічу, што гуманітарная адукаванасць вельмі істотная, бо мы карыстаемся ў сваёй галоўнай справе не пэўнымі формуламі, тэарэмамі, тэхнічнымі схемамі, а літаратурным словам, і ў першую чаргу — мастацкім. Ды і інфармацыйны складнік носіць гуманітарную адметнасць. Без гэтага мы не можам абысціся. Дарэчы, тэхнічна адукаванаму чалавеку, калі ён адмоўна ставіцца да гэтай тэндэнцыі, можа быць даволі складана ў жыцці ўвогуле, як мне падаецца. Вось што я хацеў сказаць пра вагу і ролю краязнаўства ў грамадскім асветніцкім жыцці.

Калі гаварыць пра кнігу «Радзімазнаўства» і працягваць тэму, як яна стваралася, то скажу наступнае. Кніга рабілася так, як мне ў свой час параіў Яраслаў Сільвестравіч Пархута. Яна складаецца з дзвюх частак: «Мясціны» і «Асобы». Мясціны — нашы беларускія мястэчкі, гарады. У першую частку ўвайшлі матэрыялы, звязаныя з тымі ці іншымі паселішчамі. Асобы — тыя людзі, якія ў сваёй большасці нарадзіліся на тэрыторыі Беларусі і засведчылі сябе ў самых розных галінах навукі, тэхнікі, культуры і ўвогуле ў гісторыі нашай краіны ці ў гісторыі іншых краін свету.

Ілюстрацыямі да кнігі служаць старыя паштоўкі XIX—XX стагоддзяў. Чаму менавіта паштоўкі? У мяне ёсць такое хобі апісваць старыя паштоўкі. Яно з'явілася невыпадкова, а стала вынікам журналісцкай працы. У свой час я працаваў у «Советской Белоруссии». Там вядзецца рубрыка «В поисках утраченного», дзе многія аўтары выступалі з каментарыямі да той ці іншай часткі калекцыі старых паштовак Уладзіміра Аляксеевіча Ліхадзедава. Ён увогуле сабраў калекцыю прыблізна з дваццаці тысяч паштовак канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Усе яны прысвечаны Беларусі. Невялікая калекцыя старых паштовак ёсць і ў мяне. І я адшукваю пэўныя факты, якія б характарызавалі іх змест.

У другой частцы кнігі, як я сказаў, сабраны расповеды пра нашых землякоў і ўражанні ад падарожжаў. Аднойчы я ўзяў адпачынак і паехаў у Іванаўскі раён, дзе правёў некаторы час. Раён гэты проста ўнікальны! У многіх на слыху мястэчка Моталь, дзе праводзіцца фестываль «Мотальскія прысмакі», існуе некалькі грамадскіх музеяў. У Мотале вырабляюць адмысловыя кажухі, вядомыя ці не на ўвесь свет. Вандруючы па Брэстчыне, правёў некалькі дзён у Драгічынскім раёне. Таксама вельмі цікавы край, сустрэчы з людзьмі якога сталі нагодай для напісання некаторых матэрыялаў. У кнізе ёсць і нарысы, якія пісаліся гадамі. Вельмі цікавыя лёсы траплялся на маім шляху.

Так склалася ў жыцці, што я скончыў школу ў Пухавічах, вучыўся пасля ў Львове, жыў ва Узбекістане, Туркменістане, на Кубе. Што я шукаў, напрыклад, у Туркменістане? Я шукаў там беларусаў. У Рускім драматычным тэатры працаваў тады наш зямляк Георгій Нестар. У Ашхабадзе жылі пісьменнікі Васіль Ткачоў, Мікалай Калінковіч, жылі і працавалі туркмены мастак Ізат Клычаў і пісьменнік Ашыр Назараў, якія ваявалі на Віцебшчыне. Там я знайшоў пісьменніка Аннакулі Манеткуліева, які меў вельмі цікавую повязь з Беларуссю. У 1943 годзе франтавы журналіст Аннакулі Манеткуліеў, які працаваў у газеце «Красноармейская правда», напісаў паэму на туркменскай мове «Канстанцін Заслонаў» і адправіў яе на радзіму ў Ашхабад, дзе яна пасля была выдадзена асобнай кнігай. Гэты факт мяне не мог не зацікавіць, і, на шчасце, я знайшоў аўтара і сустрэўся з ім. Пасля нейкі час мы перапісваліся.

Яшчэ адзін цікавы лёс, які мной яшчэ цалкам не апісаны — лёс Аляксандра Пятровіча Пацалуеўскага. Нарадзіўся ён у канцы XIX стагоддзя ў Віцебскай губерні, скончыў Лазараўскі інстытут усходніх моў. У 1922 годзе Аляксандр Пятровіч трапляе ў Ташкент, дзе становіцца выкладчыкам чыгуначнай школы. Пасля лёс яго закідвае ў Ашхабад, дзе пачынае вывучаць туркменскую мову, ды на такім узроўні, што стварае новую сучасную граматыку туркменскай мовы. На жаль, ён загінуў падчас землятрусу ў 1948 годзе. Мне ўдалося знайсці яго вучняў. Аляксандр Пацалуеўскі і па сённяшні дзень у вялікай пашане ў Туркменістане.

Калі нечым цікавішся не адзін дзень, то заўсёды з’яўляюцца нейкія выпадковасці, якія дапамагаюць развівацца твайму занятку. У мяне такое здарылася з даследаваннем лёсу Івана Васільевіча Багданава, які ваяваў у Беларусі. Працуючы журналістам у Ашхабадзе, я часта наведваў Дзяржаўны музей гісторыі культуры Туркменістана. Там працаваў Іван Багданаў, у якога, як высветлілася пасля нашага знаёмства, сястра жыве ў маіх родных Пухавічах.

**Вайцаховіч Наталля, 11 клас:**

***— Алесь Мікалаевіч, а што ж у вашым разуменні ўяўляе сабой краязнаўства?***

— Краязнаўства — той занятак, які звязаны з вывучэннем свайго роднага краю, сваёй роднай старонкі. Знаць свой край, адкрываць усе магчымыя звесткі, якія звязаны з гісторыяй роднага населенага пункта, роднай школы, даведацца, якія тут былі ці ёсць знакамітыя ўраджэнцы — вось што азначае краязнаўства. Хтосьці паехаў працаваць у горад і стаў вучоным, хтосьці пайшоў служыць у войска і ўдзельнічаў у той ці іншай вайне… Гэта ўсё звязана з вывучэннем нашай роднай старонкі з самых розных пунктаў гледжання. Даведацца пра тое, які ёсць фальклорны матэрыял, і на яго базе стварыць унікальны калектыў, што працуе ў вашай школе. Альбо даведацца, хто з вашых папярэднікаў ці настаўнікаў вёў запісы па гісторыі паселішча і ваколіц, па гісторыі сваёй школы, якія пакінуў рукапісы, што можна вывучаць, даследаваць, знаходзіць цікавую інфармацыю і выкарыстоўваць яе на ўроках гісторыі. Тыя ці іншыя звесткі заўсёды звязаны з пэўнымі параграфамі падручнікаў па гісторыі.

**Васкабойнік Кацярына, 9 клас:**

***— А з якога часу вы цікавіцеся краязнаўствам? З чаго ўсё пачалося?***

— Я памятаю са свайго дзяцінства ў мястэчку Пухавічы, як настаўнік гісторыі Васіль Маркавіч Лапка заўсёды прыносіў на ўрокі пэўныя дадатковыя матэрыялы. Мы вучылі гісторыю ў іншых умовах. Быў вельмі тонкі падручнік па гісторыі Беларусі, разлічаны адразу на некалькі класаў. На тэму ўрока, напрыклад, па калектывізацыі і стварэнні калгасаў Васіль Маркавіч прыносіў старыя фотаздымкі вёскі, брукаванай дарогі, што была ў ёй. Расказваў, што ў нас было два калгасы. У расповедзе гучалі знаёмыя прозвішчы, гаварылася пра тое, што

адбывалася раней на гэтай тэрыторыі. Старыя фотаздымкі дапамагалі прыцягнуць увагу вучняў да тэмы ўрока.

Мы штораніцы ішлі з розных куткоў Пухавіч ці суседніх вёсак у школу. Ішлі і бачылі старую дарогу, па якой ехалі на працу трактарысты. Нам цікава было даведацца, што раней трактары былі іншыя. Настаўнік паказваў нам здымкі трактароў Петраградскага, Харкаўскага і Чэлябінскага заводаў, якія выраблялiся ў сярэдзіне 1920-х гадоў. З'яўленне трактара было вялікай падзеяй для вёскі і калгаса. Такія расповеды вельмі ўражвалі, і ўжо інакш успрымаўся матэрыял са школьнага падручніка.

Пасля мы прыходзілі на ўрок беларускай літаратуры, які вёў вельмі цікавы настаўнік Рыгор Аляксандравіч Гардзей. Ён быў родам з Палесся. Настаўнік расказваў пра тое, што ў нашых мясцінах адпачываў народны паэт Беларусі Якуб Колас. Рыгор Аляксандравіч не толькі цытаваў яго творы, але і расказваў, напісанне якіх вершаў навеяна наведваннем тых ці іншых мясцін. Ужо той факт, што пра вашу вёску Мётча напісаў верш народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, гаворыць пра тое, што вёска застанецца ў памяці, пакуль будзе існаваць друкаванае слова. Бо гэты верш ужо не раз надрукаваны ў кнігах Рыгора Іванавіча. Нават калі ў вёсцы будзе зніжацца колькасць жыхароў, Мётча ўсё роўна застанецца пэўным фрагментам літаратурнай гісторыі нашай краіны.

Тое ж датычыцца і фальклорных запісаў. Калі Рыгор Гардзей прыходзіў на ўрок, тэмай якога была вусная народная творчасць, то ён прыводзіў прыклады, якія былі запісаны менавіта ў нашым рэгіёне. Ці ёсць у Мётчы якія-небудзь асаблівыя словы? Ведаю, напрыклад, што лаўку, якая стаіць ля ўвахода ў хату, называюць слончык. Фальклорная мовазнаўчая адмеціна, якой штодзённа карыстаюцца жыхары пэўнага рэгіёна, становіцца вельмі важнай. І гэта таксама часцінка краязнаўчай работы.

**Сікорскі Аляксандр, 10 клас:**

***— Адкуль вы чэрпаеце інфармацыю для сваіх краязнаўчых прац?***

— Для краязнаўства вельмі важным з'яўляецца збор інфармацыі. Важна ведаць, адкуль яе чэрпаць. Кніга «Радзімазнаўства» расказвае пра ўсю Беларусь, пра тыя адметнасці, якія мне ўдалося знайсці ў розных кутках нашай краіны. Безумоўна, гэта вельмі складаная кніжка ў тым плане, што давялося шмат паездзіць, выкарыстоўваць самыя розныя крыніцы, шукаць сустрэчы з самымі рознымі людзмі. Якімі ж крыніцамі карыстацца і як збіраць інфармацыю для краязнаўчага ўжытку? Дарэчы, можна ж не толькі пісаць, а проста прынесці матэрыялы ў музей, калі хтосьці па нейкіх прычынах не можа запісаць.

Распавяду наступную гісторыю. Цікавы журналіст Яраслаў Сільвестравіч Пархута, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у апошнія гады жыцця напісаў некалькі кніг, звязаных з гісторыяй Беларусі. Ён расказаў пра самую высокую кропку Беларусі — гару Дзяржынскага — а таксама пра тое, што ёсць на ўсходзе, захадзе, поўначы і поўдні нашай краіны. У «Народнай газеце» ёсць раздзел «Сем цудаў Беларусі», дзе на адной газетнай старонцы расказваецца пра адзін з рэгіёнаў нашай Бацькаўшчыны. Журналісты і аўтары газеты вызначаюць «цуды Беларусі». Дык вось Яраслаў Пархута хадзіў па Беларусі і шукаў нейкія адмысловыя факты. Напрыклад, дзе ў нас упершыню была знойдзена нафта, дзе адбываліся якія-небудзь важныя гістарычныя падзеі. Пачынаючы сваю літаратурна-краязнаўчую працу, я спытаў у яго пра галоўныя крыніцы інфармацыі. У адказ ён кажа: «Кніжак я ўсіх не прачытаю, у архівы ісці не дазваляе стан здароўя, таму свае крыніцы я шукаю сярод людзей». У простай побытавай размове ён выклаў сваю формулу. Людзі — галоўная крыніца ў краязнаўстве. І ў гэтым яго важная адметнасць.

*Падрыхтаваў Рагнед Малахоўскі.*

**Глеб МАКАРЧЫК**

# АДЧУВАННЕ РАДЗІМЫ

Энцыклапедыі ўсё ведаюць... Энцыклапедыі гатовы ўсё патлумачыць... Прынамсі, «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» дае такое азначэнне паняццю краязнаўства: **«КРАЯЗНАЎСТВА** — усебаковае вывучэнне асобнага рэгіёна ці населенага пункта мясцовым насельніцтвам, а таксама спецыялістамі навуковых устаноў. Даследуе прыроду, эканоміку, дэмаграфію, гісторыю, мову, культуру. Комплекснае краязнаўства разглядае ўсе звесткі ва ўзаемасувязі. Галіновае — паглыблена вывучае асобныя яго кірункі: гістарычны, геаграфічны, этнаграфічны, літаратурны, тапанімічны, мемарыяльны, ахову помнікаў і інш. У залежнасці ад асаблівасцей канкрэтнага рэгіёна пэўны кірунак можа быць прыярытэтным».

Тэрмін жа «Радзімазнаўства» чамусці ў «ЭнГіБел» адсутнічае. Таму асмелюся даць гэтаму паняццю ўласнае азначэнне: **«РАДЗІМАЗНАЎСТВА —** тое што і *Краязнаўства,* толькі ў больш шырокім разуменні. Гэта ўсебаковае вывучэнне ўсёй краіны, якое вядзецца энтузіястамі, незалежна ад месца іх пражывання, а таксама спецыялізаванай навуковай установай. У ім няма прыярытэтных накірункаў, бо ўсе аднолькава важныя».

Магчыма, сярод навукоўцаў знойдуцца тыя, хто па-іншаму патлумачыць гэтае паняцце. Ды ад гэтага сутнасць не зменіцца. У любым выпадку пры вытлумачэнні паняцця «Радзімазнаўства» неабходна зыходзіць з ягонага асноватворнага слова — Радзіма. Радзіму ведаць, Радзіму знаць, Радзіму любіць — вось што такое радзімазнаўства. Шкада толькі, што такога прадмета няма ў нашых школах, дый у іншых навучальных установах. Ёсць, праўда, іншыя дысцыпліны, што закранаюць гэтую тэму. Апроч таго настаўнікі на ўроках, а таксама ў пазашкольным выхаванні выкарыстоўваюць кнігі беларускіх пісьменнікаў, якія працуюць на ніве краязнаўства, а таксама кнігі журналістаў, якія пішуць на гэтую тэму.

Няма сумнення, што ў гэтай рабоце педагогам прыдасца і кніга вядомага пісьменніка і краязнаўцы Алеся Карлюкевіча, што пабачыла свет у Рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і Мастацтва». Сяму-таму, хто кіне позірк на яе загаловак, можа падацца, што, нарэшце, з’явіўся жаданы падручнік. На самай жа справе пад адной вокладкай сабраны нарысы, артыкулы, у якіх з любоўю, захапленнем расказваецца пра многія мясціны нашай краіны і пра знакамітых людзей, якія вельмі шмат робяць дзеля прывіцця любові да сваёй Бацькаўшчыны тым, хто яшчэ не сказаць каб добра спазнаў яе.

Разам з тым кніга гэтая не лішняй будзе і для чытача, які даўно цікавіцца нацыянальнай гісторыяй. Бо, пазнаёміўшыся з «Радзімазнаўствам», шмат у чым можна, па сутнасці, ажывіць сваю памяць, нанава далучыўшыся да таго, што даўно цікавіць цябе. Адначасова з’яўляецца і магчымасць пра ўжо вядомае атрымаць новыя звесткі, якія ўдалося адшукаць А. Карлюкевічу. У асобных жа выпадках ён увогуле выступае першапраходцам, уводзячы ва ўжытак імёны тых, хто мае дачыненне да Беларусі, але, на жаль, пра гэтых людзей да з’яўлення ягоных публікацый мы нічога не ведалі.

Дарэчы, кніга мае падзагалоўкі «Мясціны» і «Асобы». У ёй прадстаўлены і два раздзелы, што адпавядаюць гэтым назвам. Хоць, калі разабрацца, у асобных выпадках падзел на раздзелы чыста ўмоўны, бо часам атрымліваецца так, што пэўны пісьменнік, краязнаўца, гаворка пра якога ідзе ў другім раздзеле, акурат найлепшым чынам праявіў сябе пры вывучэнні, даследаванні, асэнсаванні менавіта таго кутка Бацькаўшчыны, які ў той ці іншай ступені прапісаўся ў ягоным жыццяпісе, а таму не мог не адлюстравацца і ў яго творчасці. Тым самым падобны матэрыял можа быць змешчаны і ў раздзеле «Мясціны».

Не памыліцца і той, хто ўспрыме кнігу «Радзімазнаўства» менавіта як падручнік. Праўда, падручнік гэты своеасаблівы: ён афіцыйна не рэкамендаваны ў якасці дапаможніка для класнай і пазакласнай работы, тым не менш на такую ролю смела можа прэтэндаваць, бо і на самай справе добра адпавядае сваёй назве. Таму што вучыць любіць Радзіму, па сутнасці дапамагаючы знаходзіць яе прысутнасць заўсёды і ва ўсім. У першую чаргу праз тое, чаго грэшна не ведаць, але, на жаль, як назіраецца ў сапраўднасці, гэтага ведання многім і нестае. У такім разе бяры кнігу ў рукі і спаталяй сваю прагу па нязведаным, альбо слаба знаёмым табе, а то і зусім невядомым.

Такая магчымасць з'яўляецца пры знаёмстве з першым ужо краязнаўчым нарысам, што расказвае пра адзін з раённых цэнтраў. Нарыс так і называецца — «Ашмяны». Як быццам, больш-менш ведаў пра гэты горад. Ды, аказваецца, далёка не ўсё. Дзякуючы росшукам А. Карлюкевіча, даведваешся, што адсюль родам адзін з вядучых салістаў Вялікага тэатра оперы і балета ў Маскве, народны артыст РСФСР Аляксандр Батурын, які паспяхова выступаў на сцэнах Італіі, Францыі, Чэхіі, Венгрыі, Бельгіі, Англіі і іншых краін. У Ашмянах нарадзіўся і заслужаны артыст Літвы, таксама спявак Уладзімір Рубацкі. Аднак тамашняя зямля не толькі песенная. Яна родная для яўрэйскага пісьменніка і падарожніка Якава Сапіра, мастака Ігара Шкуратава, заходнебеларускага падпольшчыка Мікалая Арэхвы. Дый шмат хто іншы са знакамітых людзей звязаў свой лёс з Ашмяншчынай.

Ужо гэтых фактаў дастаткова, каб кнігай зацікавіцца. Не ў апошнюю чаргу яна можа стаць свайго роду дапаможнікам для настаўнікаў Ашмяншчыны ў пазашкольнай рабоце. Дый на ўроку кнігай «Радзімазнаўства» не лішне пакарыстацца, расказваючы пра тых жа А. Батурына, У. Рубацкага, Я. Сапіра.

Да ўсяго ў Ашмянах нарадзіўся мастак Вітольд Урбановіч. Пасля Вялікай Айчыннай вайны ён апынуўся ў Польшчы. Як сведчыць А. Карлюкевіч, «скончыў акадэмію ў Кракаве, стаў вядомым у Польшчы мастаком-мадэрністам. Работы ўраджэнца Ашмянаў захоўваюцца ў музеях Парыжа, Лондана, Кракава, Варшавы, у калекцыях Швецыі, Галандыі, ЗША, Германіі».

А хіба не цікавы такі факт?! Супрацоўнікам Ашмянскага краязнаўчага музея імя Францішка Багушэвіча ў свой час працавала будучая жонка Уладзіміра Караткевіча. Аўтар «Радзімазнаўства» прыходзіць да такой высновы: «Канешне ж, яе мысленне, яе светапогляд — і ў фундаменце, здавалася б, сціплага раённага музея».

Дый пра іншых знакамітых людзей, у чыёй біяграфіі прапісалася Ашмяншчына, ідзе гаворка. Гэта і паэт, перакладчык Пятро Бітэль, чыё жыццё само па сабе заслугоўвае цэлай кнігі, і заходнебеларускі падпольшчык Мікалай Арэхва — ён напісаў кнігу пра сваё жыццё і пра сваіх паплечнікаў «Справы і людзі КПЗБ», і святар, паэт Андрэй Зязюля.

Такім шляхам — сцісла, але надзвычай змястоўна, пераканаўча і з абавязковым адкрыццём для шырокага чытача новага імя — ідзе А. Карлюкевіч і ў іншых сваіх нарысах. Для прыкладу, возьмем «Браслаў». Прызнайцеся шчыра, ці ведаеце вы, што ў Відзах, якія ўваходзяць цяпер у склад Браслаўскага раёна, нарадзіўся вядомы пісьменнік Яўген Фёдараў, які ў сваёй творчасці быў моцна прывязаны да гістарычнай тэматыкі? Той самы Я. Фёдараў, які напісаў добра вядомую аматарам даўніны трылогію «Каменны пояс», у якой расказваецца пра зараджэнне прамысловасці на Урале, у тым ліку і пра знакамітую дынастыю Дзямідавых.

Прызнаюся шчыра, і я не ведаў, што Я. Фёдараў — наш зямляк, хоць першая са згаданых кніг ёсць і ў маёй асабістай бібліятэцы. Прыдбаў жа яе, сабраўшы, здаецца, 20 кілаграмаў макулатуры. Маладое пакаленне і не ведае, што ў савецкія часы была такая форма распаўсюджання мастацкай літаратуры і адначасова зберажэння лесу, бо з драўніны, як вядома, і вырабляецца цэлюлоза, а з яе папера. Каб заахвоціць патэнцыйных чытачоў, для продажу падбіраліся найбольш запатраба-

ваныя кнігі. «Каменны пояс» Я. Фёдарава, напрыклад, выйшаў накладам ажно два з паловай мільёны асобнікаў. Для сённяшняга часу — астранамічная лічба.

Несумненна, знайшла б сваіх чытачоў, калі б была выдадзена ў перакладзе на беларускую мову, і даследчыцкая праца Ота Хедэмана «Гісторыя Браслаўскага павета». Канешне, на «мільёны» яна не пацягнула б, а калі б выйшла накладам у якую-небудзь тысячу асобнікаў, то карысць для краязнаўцаў, для ўсіх, хто не абыякавы да нацыянальнай мінуўшчыны, была б відавочная.

Дарэчы, зноў пра краязнаўства. Аказваецца, зазначае А. Карлюкевіч, «у 1930-я гады ў Браславе было арганізавана павятовае аддзяленне краязнаўчага таварыства. Браслаўскія краязнаўцы ініцыіравалі выданне серыі паштовак з відамі роднага горада, яго ваколіц. Асновай паслужылі фотаздымкі мясцовага майстра Адольфа Бейнаровіча. Да нашага часу дайшлі 16 паштовак. Вядомы іх агульны наклад — 2500 экзэмпляраў».

Згаданая ж кніга О. Хедэмана належыць да гісторыка-краязнаўчай літаратуры. У аўтара яе не беларускае прозвішча, бо ягоны бацька Ян Магнус паходзіў з дацкіх немцаў, прыехаў на Палессе займацца меліярацыяй. Сам жа О. Хедэман працаваў настаўнікам, выкладаў гісторыю. Адсюль і ягоная цікавасць да мінуўшчыны гэтага краю. «Гісторыя Браслаўскага павета» — не адзіная ягоная праца. На краязнаўчай ніве О. Хедэман працаваў плённа, выдаўшы такія кнігі: «Дзісна і Друя — магдэбургскія гарады», «Граф Мануцы», «Даўнія пушчы і воды», «Школа Валяр'янаўская Лужкоўскіх піяраў», «Завяшчанні браслаўска-дзісенскія XVII—XVIII стст. як гістарычныя дакументы». Незавершанай, на жаль, засталася двухтомная праца О. Хедэмана «Белавежская пушча», бо ў 1937 годзе краязнаўцы не стала.

Няма сумнення, што і яна, калі б была выдадзена, таксама б знайшла сваіх прыхільнікаў, бо цікавасць да гэтага запаведнага лесу планеты, якім з'яўляецца Белавежская пушча, што ў многіх месцах захаваўся ў сваім спрадвечным выглядзе, з кожным годам узрастае. Прыцягвае яна да сябе ўвагу дзякуючы таму, што больш нідзе не напаткаеш такога багатага расліннага і жывёльнага свету (адны зубры чаго варты!). Дый таму яшчэ, што чалавецтва ўсё больш пачынае ўсведамляць, наколькі гэта важна зберагчы прыроду для нашчадкаў. Тым больш у яе першапачатковым выглядзе. Таму і кожная чарговая публікацыя пра Белавежскую пушчу не праходзіць па-за ўвагай.

У сувязі з гэтым, безумоўна, не можа не зацікавіць нарыс А. Карлюкевіча «Белавежская пушча: Каракумскі след». Як вядома, шмат якія мастакі, у тым ліку і знакаміты Іван Шышкін, у розны час прыязджалі сюды, каб занатаваць непаўторнасць краявідаў гэтага запаведнага кутка. Быў сярод іх і Назар Ёмудскі. Праўда, гэтае імя беларускаму чытачу невядома. Правільней, было невядомым, пакуль А. Карлюкевіч не ўстанавіў, што пачынальнік туркменскага прафесіянальнага выяўленчага мастацтва блізу канца пазамінулага стагоддзя быў на Беларусі. І, як відаць з нарыса «Белавежская пушча: Каракумскі след» — небезвынікова. Да нашага часу дайшлі жывапісныя палотны Н. Ёмудскага «Зіма ў Беларусі» і «Белавежская пушча». А. Карлюкевіч слушна мяркуе, што хутчэй за ўсёй былі ў гэтага туркменскага мастака і іншыя «беларускія» творы.

Нямала звестак можна пачэрпнуць і з нарыса «У ваколіцах Белавежжа». Маецца на ўвазе Пружаншчына — таксама куток багаты на падзеі даўнія, на людзей слаўных. Апроч усяго, у самім райцэнтры захаваўся помнік архітэктуры XIX стагоддзя. Гэта легендарны Пружанскі палацык — колішняя рэзідэнцыя маршалка мясцовага павета Валенція Швыкоўскага. Ён быў чалавекам неабыякавым да культуры: «У горадзе праводзіліся музычныя вечарыны, ладзіліся тэатральныя пастаноўкі. Маршалак сябраваў з пісьменнікам і гісторыкам Юзафам Крашэўскім, якому Пружаны былі вядомыя з дзяцінства».

Не прамінае А. Карлюкевіч магчымасці больш падрабязна расказаць і пра самога Ю. Крашэўскага, які жыў у вёсцы Доўгае. У ёй жа нарадзіўся і брат

Ю. Крашэўскага — будучы мастак, астраном-аматар Каятан Крашэўскі. Абедзве постаці знакавыя. Асабліва Ю. Крашэўскі, які не адну сотню раманаў і аповесцей напісаў, пераважная большасць якіх прысвечана мінуламу гэтага краю, дый Беларусі і Польшчы ў цэлым. Вядомы Ю. Крашэўскі і як этнограф, аўтар нарыса «Адзенне мяшчан і сялян з ваколіц Брэста, Кобрына і Пружан».

Згадвае А. Карлюкевіч і іншых закамітых ураджэнцаў Пружаншчыны: былога прэм'ер-міністра Ізраіля Іцхака Шаміра, рускую пісьменніцу Ксенію Львову, матэматыка Соф'ю Яноўскую. Адметнасць ягонага творчага метаду і ў тым, што ён умее заінтрыгаваць. Скажам, зірне чытач на загаловак яшчэ аднаго нарыса — «Ад каралевы Боны — да Сяргея Малібожкі» — і адразу ж захоча даведацца, што ж гэта за чалавек С. Малібожка, якога пісьменнік паставіў поруч з каралевай Бонай Сфорцай. С. Малібожка — адзін з дзевяці ашхабадскіх камісараў, расстраляных у 1918 годзе, пра што сёння таксама ведаюць далёка не ўсе. Але польская каралева і рэвалюцыянер, дзякуючы аўтару «Радзімазнаўства», як бы наблізіліся адно да аднаго, бо ён, кажучы словамі слыннага даследчыка нацыянальнай даўніны Адама Мальдзіса, які вельмі прыхільна ставіцца да творчасці А. Карлюкевіча, дазволіў ажыццявіць свайго роду падарожжа «ў часе і прасторы», а гэта дапамагае збліжаць як самі стагоддзі, так і людзей, якія жылі ў розныя гістарычныя перыяды.

А нарыс «Зоркавы край!..» — гэта падарожжа на сумежжа Беларусі і Расіі, на Мсціслаўшчыну і, канечне ж, у сам слаўны горад Мсціслаў. У ім жа «ў сярэдзіне дзевятнаццатага стагоддзя нарадзіўся мастацтвазнавец, усходазнавец Адрыян Віктаравіч Прахаў. Пражыўшы семдзесят гадоў (памёр Прахаў амаль у самы пярэдадзень рэвалюцыйных перамен — у 1916 годзе), пакінуў аб сабе велізарную творчую спадчыну». Да ўсяго ён рэдагаваў ілюстраваны часопіс «Пчела».

Аднак Мсціслаўшчына не адным А. Прахавым славіцца. Пра ўсіх тых, хто нарадзіўся тут, ці спрычыніўся да гэтых мясцін сваім лёсам таксама і расказваецца ў нарысе «Зоркавы край!..» Скажам, скрыпачка, кампазітар, музычны педагог Яўгенія Бязродная. Гэта яна з'яўляецца аўтарам песень «Успаміны катаржаніна», «Дзве працаўніцы». Яўгенію Рыгораўну прыцягнула і знакамітая «Песня пра Буравесніка» Максіма Горкага, у выніку чаго з'явіўся музычны твор для фартэпіяна ў суправаджэнні.

Вярнуўшыся ў 1922 годзе ў родны Мсціслаў, Я. Бязродная працавала выкладчыцай у мясцовым педвучылішчы. А перад гэтым, выехаўшы з Мсціслава, мела магчымасць сустракацца з многімі знакамітымі людзьмі. Была знаёма і з Ільёй Рэпіным, наведвалася ў яго знакамітыя «Пенаты». Нават вучыла ягоных дзяцей музыцы. І. Рэпін нават прызнаваўся, што яму добра пішацца пад яе музыку.

Яшчэ адна мсціслаўская славутасць — вядомы гісторык Сямён Дубнаў. У 1909—1918 гадах ён рэдагаваў часопіс «Еврейская старина», што выходзіў у Санкт-Пецярбургу, з'яўляўся адным з кіраўнікоў Яўрэйскага гісторыка-этнаграфічнага таварыства. Пасля сябе пакінуў шэраг гістарычных прац. Але, безумоўна, асноўны ягоны набытак — трохтомнік мемуараў «Кніга жыцця», які некаторыя даследчыкі літаратуры, літаратуразнаўцы параўноўваюць з «Акаяннымі днямі» самога Івана Буніна, што само па сабе не можа не выклікаць зацікаўленасці да гэтай працы нашага земляка.

Што ні куточак Беларусі, то багаты на таленты. Валожыншчына, для прыкладу, не тое, што не выключэнне, а, наадварот, шмат у чым іншым раёнам можа даць фору. Пры тым аднолькава шмат адсюль родам як тых, хто ўжо ўвайшоў у гісторыю, так і нашых сучаснікаў.

Валожынскі ж след у гісторыі, напрыклад, — гэта былы прэм'ер-міністр, міністр абароны Ізраіля, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Шымон Перэс, які нарадзіўся ў Вішневе. З гэтага ж мястэчка родам і Нахум Гольдман, які ў дваццаць чатыры гады абараніў дысератацыю на ступень доктара права, а праз год — яшчэ адну дысертацыю, гэтым разам на ступень доктара філасофіі. Амаль трыццаць гадоў

узначальваў Сусветны яўрэйскі кангрэс. Дый вішнеўская Уладзіслава Францаўна Луцэвіч — жонка і паплечніца Янкі Купалы.

Сёння ж годна працуюць ураджэнцы валожынскай зямлі літаратуразнаўца Вячаслаў Рагойша, паэты Віктар Шніп і Валянціна Гіруць-Русакевіч, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, знакаміты матэматык Якаў Радына.... Далёка не ўсе ведаюць, што ў Валожыне нарадзілася спявачка Дзіяна Арбеніна, якая стварыла вядомую групу «Начныя снайперы». Сапраўднае прозвішча Арбенінай — Кулачэнка.

З задавальнннем даведваешся, што на валожынскай зямлі ёсць чалавек, які «шмат што ведае з гісторыі горада, з гісторыі роднай старонкі. І знакамітыя землякі, а таксама тыя, хто крыніцамі валожынскімі сілкаваўся, — усе ў яго на ўліку». Гэта пры тым, што ў Алега Бобрыка, а менавіта яго мае на ўвазе А. Карлюкевіч, зусім не філалагічная адукацыя. Ён па прафесіі эканаміст, доўгі час працаваў у Валожынскім райвыканкаме, а цяпер узначальвае мясцовы райспажыўсаюз. У дадзеным выпадку не ў прафесіі справа.

Алег Бобрык — з тых людзей (на шчасце, як пераконвае кніга «Радзімазнаўства», падобныя апантаныя любоўю да Бацькаўшчыны, да беларускай гісторыі, падзвіжнікі ёсць і ў іншых раёнах), якія разумеюць, што, толькі пазбавіўшыся нацыянальнага бяспамяцтва, можна ўпэўнена ўзірацца ў дзень заўтрашні. Нічога на пустым месцы не ўзнікае, а ўсё, што адбываецца, з’яўляецца лагічным працягам таго несупыннага ланцуга, у якім цесна паяднаны ўчарашняе, сённяшняе і будучыня. Спасцігуць гэтае трыядзінства ва ўсёй паўнаце можна не толькі праз значныя падзеі, а і праз асэнсаванне жыцця слынных людзей, праз вызначэнне таго ўкладу, які яны зрабілі (ці робяць) у агульную скарбонку добрых спраў беларусаў і Беларусі.

Ведаючы пра тое, наколькі А. Бобрык захоплены краязнаўствам, А. Карлюкевіч пры чарговай сустрэчы з ім выказаў пажаданне: «...А што, калі выдаць такі адмысловы даведнік “Людзі культуры Валожыншчыны”?..» Пры гэтым выказаў упэўненасць, «што карыстаўся б ён попытам — і ў школьнікаў, і ў настаўнікаў, ды і проста ў чуйных і да айчыннай гісторыі ўважлівых людзей». З падобнай прапановай А. Бобрык «пагадзіўся, толькі ўдакладніў, што і хроніка «Памяць», і важкі том-хрэстаматыя валожынскіх пісьменнікаў у серыі «Літаратурная Беларусь» — гэта ўжо ёсць». Бадай, лепей «пайсці шырэй — зрабіць працу, напрыклад, кшталту «Людзі навукі і культуры Валожыншчыны».

Што ж, прапанова слушная. Было б вельмі добра, каб такі даведнік з’явіўся не толькі па Валожыншчыне, а і каб краязнаўцы, хто жывуць у іншых раёнах, з большай павагай і ўвагай ставіліся да свайго мінулага. Тым больш, што ёсць пра што і пра каго расказваць, у чым усё больш і больш упэўніваешся, знаёмячыся з кнігай «Радзімазнаўства», якая, бадай, кожнай сваёй старонкай заклікае: любі Беларусь, спазнавай Беларусь.

Шмат для душы і розуму даюць падарожжы ў Гомель і Давыд-Гарадок, на Мазыршчыну і Нясвіжчыну, Ляхаўшчыну і Мядзельшчыну, Іванаўшчыну і Драгічыншчыну... Дарэчы, апошняй прысвечаны ажно тры матэрыялы: «Драгічыншчына — салаўіны куток», «У Мікіцк па фалькор» і «З палескай вёскі Бездзеж». Кожны з іх па-свойму цікавы і змястоўны. Больш таго, яны як бы дапаўняюць адно аднаго, у выніку вымалёўваецца цэласная карціна гэтага адметнага палескага кутка.

Аднак, калі мець на ўвазе краязнаўчыя росшукі А. Карлюкевіча, то я ўсё ж вызначыў бы з іх нарыс «З палескай вёскі Бездзеж». Па той прычыне, што менавіта гэтая публікацыя дэталёва прасочвае жыццёвы і творчых шлях рускага празаіка, нашага земляка Дзмітрыя Стонава, пра якога ён мімаходзь згадаў ужо ў нарысе «Драгічыншчына — салаўіны куток». Менавіта А. Карлюкевіч першым назваў дакладнае месца нараджэння Дзмітрыя Стонава. Меркавалася, што Стонаў родам з горада Кобрына. На самай справе Дзмітрый Стонаў (сапраўднае

прозвішча. — Уладаўскі) паходзіў з вёскі Бездзеж Кобрынскага павета, а цяпер Бездзеж знаходзіцца ў Драгічынскім раёне.

Творчасць Дз. Стонава вартая таго, каб яе ведаць. Красамоўны такі факт, пра што нагадвае аўтар «Радзімазнаўства»: «Ужо з вышыні сённяшняга часу адзін з літаратурных крытыкаў параўнаў «Сям'ю Раскіных» з раманам Міхаіла Булгакава «Белая гвардыя». «Сям'я Раскіных» — бадай, галоўны твор нашага земляка. Якое месца ў гісторыі рускай літаратуры займае «Белая гвардыя» М. Булгакава, думаецца, дасведчанаму чытачу няма неабходнасці нагадваць. І раптам паралель: Дзмітрый Стонаў — Міхаіл Булгакаў. Такія супастаўленні выпадкова не з'яўляюцца. Гэта пацвярджэнне таго, што Дз. Стонаў сапраўды быў пісьменнікам яркага таленту. Сам жа А. Карлюкевіч, у прыватнасці, дае высокую ацэнку ягоным «лагерным» апавяданням.

Гэтыя творы Дз. Стонавым былі напісаны невыпадкова. У 1949 годзе ён быў арыштаваны. Ад Стонава патрабавалі, каб ён данёс на такіх знакамітых пісьменнікаў, як Юрый Алеша, Васіль Гросман, Ілья Эрэнбург. На такі крок, каб абылгаць ні ў чым невінаватых літаратараў, якіх ён добра ведаў, наш зямляк не пайшоў. Гэтая нязгода яму каштавала дорага: Дзмітрыя Стонава пазбавілі волі на 10 гадоў. Наколькі ўсё было сур'ёзна, сведчыць тое, што сам міністр дзяржбяспекі Абакумаў трымаў гэтую справу пад асабістым кантролем і рабіў па ёй заключэнне. Разам з Аляксандрам Фадзеевым. Што ж, і кіраўнік пісьменніцкай арганізацыі, хоць і дапамог многім літаратарам, часам быў бяссільным.

Выйшаў на свабоду Дз. Стонаў толькі пасля смерці Сталіна. Тады і расказаў у сваіх творах аб перажытым. «Тыя апавяданні, — сведчыць аўтар кнігі нарысаў «З палескай вёскі Бездзеж», — (дарэчы, надрукаваць іх удалося толькі праз шмат гадоў пасля смерці літаратара — у гады перабудовы) — «Пасля смерці», «Васіль Васільевіч», «Суседка», «Правільны чалавек», «На волі» — як на мой прыватны погляд, ніколькі не саступаюць прозе Варлама Шаламава і Аляксандра Салжаніцына».

Яшчэ адзін нарыс «З клецкай Сіняўкі — у Лапландыю» — чарговае адкрыццё. А. Карлюкевіч па сутнасці вярнуў з небыцця этнографа Сяргея Сергеля, які яшчэ студэнтам Пецярбургскага ўніверсітэта пачаў даследаваць зыранскае насельніцтва, якое жыве на берагах рэк, што ўпадаюць у Пячору ў яе сярэднім цячэнні. Потым яго зацікавілі саамы (іншыя варыянты саамі, лапары), месца пражывання якіх Нарвегія, Фінляндыя, а таксама Кольскі паўвостраў у Расіі. У 1927 годзе ў С. Сергеля выйшла нават кніга «Год вандроўкі з лапарамі». На жаль, пасля 1930 года лёс нашага земляка, які нарадзіўся на Клетчыне ў вёсцы Сіняўка, невядомы, таму не застаецца сумнення, што з цягам часу А. Карлюкевіч пастараецца знайсці новыя факты, якія тычацца жыцця і этнаграфічнай дзейнасці С. Сергеля.

Асабліва падрабязна расказвае А. Карлюкевіч пра Іванаўшчыну — адзін з самых прыгожых куткоў беларускага Палесся. Свайго роду запеўкай да размоў пра гэты раён Брэстчыны ўспрымаецца ягоны нарыс «На радзіме лабараў». Аднак больш шырокі размах гаворка гэтая набывае менавіта ў падарожным нарысе «Краскі Радзімы». Яно і не дзіўна, бо пісьменнік не адзін дзень правёў на Іванаўшчыне, рупліва вывучаючы і даследуючы яе, з зацікаўленасцю перагортваючы старонкі мінулага, але адначасова ўважліва ставячыся і да дня сённяшняга, а таксама да людзей, якія сваёй працай шмат робяць дзеля далейшага росквіту гэтага кутка Бацькаўшчыны.

Прываблівае нарыс «Краскі Радзімы» ўжо сваім пачаткам. Той узнёслы настрой, з якім А. Карлюкевіч бярэцца за расказ пра паездку, якая ў ягоным сэрцы пакінула такі глыбокі след, перадаецца і чытачу. Усё гэта лёгкай хваляй замілавання кранаецца і тваёй душы, таксама прагавітай на ўражанні новага, на спатканне з цікавымі людзьмі, на магчымасць перагарнуць яркія старонкі даўніны.

Сыноўняй споведдзю гучыць:

«Мой родны край — адзіны на планеце...

Цягнік Смаленск — Брэст стомлена спыніўся на станцыі Янаў-Палескі. Ведае працаўнік-вандроўнік, што Брэст ужо зусім блізка. Таму і нервова-дрыготка скалануўся, мала рупячыся пра камфорт сваіх пасажыраў. А я хутчэй саскокваю з прыступак, быццам таму мая дарога набудзе іншую хуткасць. Падарожжа, у якое выправіўся, пакінуўшы яшчэ ўчора апоўначы Мінск, па-сапраўднаму пачынаецца для мяне якраз тут, на вядомай чыгуначнай станцыі. Уражанні пра Палессе сённяшняе, сведчанні пра Палессе ўчарашняе, далёкае і не надта, якраз адсюль і пачнуць назбірвацца ў мой блакнот, запісвацца на магнітафонную стужку».

Далей адбываецца шмат так, як і мусіць адбывацца, калі кіруешся туды, дзе даўно хацелася пабываць, і дзе, ведаеш, ёсць людзі, ахвочыя стаць тваімі добразычлівымі і клапатлівымі гідамі, дапамагчы пры знаёмстве з зямлёй, якая для цябе шмат у чым невядомая, а для іх з’яўляецца роднай, дарагой, блізкай. Першы з іх — пісьменнік Анатоль Крэйдзіч, «таленавіты празаік і крышачку драматург і нават паэт». Да ўсяго — старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў. Родам А. Крэйдзіч, праўда, з суседняга Драгічынскага раёна, ды Іванаўшчына для яго даўно стала сваёй. «З Анатолем разам, — прызнаецца А. Карлюкевіч, — і пачынаю адкрываць для сябе Іванава, яго прастору, пачынаю знаёміцца з невядомымі дагэтуль людзьмі ці вядомымі толькі завочна... Праз некаторы час да нас далучаецца брэсцкі журналіст і пісьменнік Аляксандр Валковіч, а пакуль мы з Анатолем спяшаемся да Аляксея Трафімавіча Каўко».

Расказ пра А. Каўко — гэта як бы нарыс у нарысе. Невялікі памерам твор, аднак нездарма кажуць: малы залатнік ды дарагі. Правільная, да месца і такая выснова: словам цесна, а думкам прасторна. Сцісла, але разам з тым глыбока спасцігае А. Карлюкевіч сэнс таго, чым жыў, жыве і хацелася б, каб і далей жыў гэты цудоўны чалавек, узрост якога без малога 90 гадоў. Пісьменнік, журналіст, які на працягу некалькіх дзясяткаў гадоў рэдагаваў іванаўскую раённую газету, Аляксей Трафімавіч нямала зрабіў па падтрымцы маладых талентаў. Гэта з яго лёгкай рукі пачало працаваць літаратурнае аб’яднанне «Ясельда», у якое ў свой час уваходзілі потым вядомыя беларускія пісьменнікі Мікола Федзюковіч і Мікола Купрэеў.

Далейшае знаёмства з Іванава і раёнам — новыя сустрэчы і новыя цікавыя адрасы. Пра каго б ні расказваў А. Карлюкевіч, гэта людзі вартыя ўвагі. Як, скажам, Уладзімір Гетманчук. Працуе эканамістам райсельгасхарчу і піша вершы, выдаў кнігу «Зараніцы». Васіль Жушма — мясцовы журналіст, прыродазнаўца і паляўнічы. Яго кніга «Гарэза», у якой расказваецца пра вавёрку, — захапляльнае падарожжа ў свет прыроды. Аднак, па сведчанні А. Карлюкевіча, «узнёсласць, рамантычнасць, з якой піша ўраджэнец іванаўскай вёскі Хамічава... пра прыроду, ніколькі не пазбаўляе яго публіцыстычнасці, яго прозы трывожных нотак, скіраваных на тое, каб прызваць чалавека да сапраўднага клопату аб навакольным асяроддзі».

З нарыса «Краскі Радзімы» даведваешся, што Іванава з’яўляецца свайго роду беларускай сталіцай бондараў, бо ў гэтым горадзе працуе адзіная на ўсю краіну школа, дзе іх рыхтуюць. Ля вытокаў гэтай школы стаяў архітэктар па адукацыі Васіль Голік. На жаль, ён заўчасна пайшоў з жыцця, але ягоную справу годна працягвае жонка Тамара. А хіба не цікава пазнаёміцца з музеем народнай медыцыны «Бабуліны вышкі», што працуе пры Стрэльненскім Доме культуры?! А ўзяць народны фальклорны гурт «Жураўка»?!

Згаданы нарыс — гэта не тое, што адкрыццё Іванаўшчыны (для прыкладу, рэдка хто не ведае, што адсюль родам знакаміты Напалеон Орда, ці пра тое, што на тамашняй зямлі радавыя карані сусветна вядомага пісьменніка Фёдара Дастаеўскага). Аўтар кнігі «Радзімазнаўства» робіць куды большае і няменш важнае: ён пераконвае (зразумела, як на гэтых, так і на іншых прыкладах), што на Іванаўшчыне прысутнічае своеасаблівая духоўная аўра, якая стварае адпаведную атмас-

феру. Атмасфера ж, як вядома, не можа быць без паветра, без кісларода. Той жа, хто ўдыхае ў сябе такое жыццядайнае, жыватворнае паветра, не можа заставацца абыякавым да зямлі, на якой жыве, а яшчэ прасякнуты заканамерным жаданнем, каб і іншыя адкрылі для сябе яе непаўторнасць, а, адкрыўшы, каб палюбілі.

«І гэтыя людзі, — упэўнена гаворыць А. Карлюкевіч, што і на самай справе так, — не краязнаўцы-адзінкі, не настаўнікі-саматужнікі, не чыноўнікі, што кіруюць, так мовіць, культурай, не музейныя работнікі, не мастакі-самавукі, не самадзейныя артысты, не разьбяры-інсітнікі... Але гэтыя людзі — і краязнаўцы, і настаўнікі, і бібліятэкары, і мастакі, і таленавітыя майстрыхі, і чыноўнікі, і кіраўнікі, якія рашэнні па культурным, асветніцкім жыцці рэгіёна лічаць не меней важкімі, чым клопаты пра эканамічныя набыткі».

Тым самым відавочна, наколькі на Іванаўшчыне зліваюцца ў адно цэлае два падыходы да культуры, а калі глядзець шырэй, то да захавання народных традыцый, гістарычнай памяці — падзвіжніцкі і дзяржаўны. Але падыход дзяржаўны тут становіцца больш выніковым па той прычыне, што і на кіруючых пасадах знаходзяцца людзі, якія не толькі дбайныя гаспадарнікі, а, і не ў апошнюю чаргу, патрыёты сваёй зямлі. Яны памятаюць тую простую і важную ісціну, што не хлебам адзіным жыве чалавек. Як і ўпэўнены ў тым, што будзе хлеб — будзе і песня. І гэта адно аднаму ніколькі не супярэчыць, бо за ўсім стаіць, прысутнічае сама дыялектыка жыцця.

Прадчуваю, што чытачу, незнаёмаму з нарысамі А. Карлюкевіча пра Іванаўшчыну, няцерпіцца ўсё ж даведацца, а хто ж такія лабары? На гэтае пытанне адказвае адзін з герояў нарыса «Краскі Радзімы» дырэктар комплексу Напалеона Орды ў Варацэвічах, колішні настаўнік геаграфіі Дзмітрый Козак, які сам з лабараў. Пры гэтым, каб уразіць А. Карлюкевіча, спачатку прамаўляе «некалькі слоў на дзіўнай лабарскай мове».

Дык хто ж яны, лабары? Аказваецца, даведваешся з нарыса «Краскі Радзімы», «пра лабараў яшчэ напрыканцы дзевятнаццатага стагоддзя пісалі: «Янавец і лабар — гэта сінонімы. Промысел янаўскіх лабараў складаецца ў хаджэнні па свеце і выпрошванні добраахвотных ахвяраванняў на цэрквы, а ў былыя часы і на касцёлы. Дакладна вядома, што гэтым промыслам займаюцца ўсе жыхары-хрысціяне мястэчка Янава, за выключэннем некалькіх службовых асоб, якім нельга пакінуць сваіх абавязкаў, жанчын, дзяцей і яшчэ трох чалавек — гаспадароў, якія чамусьці не любяць лабарства».

Жыхары Іванава перакананы, што слова «лабар» пайшло ад імені памешчыцы Лабарыні. Праўда, ніякіх звестак наконт існавання яе не захавалася. Затое больш праўдападобная версія, паводле якой у аснову слова «лабар» пакладзена лацінскае labor, што азначае — праца. У лабараў была свая мова, у аснове якой ляжала паляшуцкая гаворка. Але чалавек староннi мову лабараў не мог зразумець. Да месца дадаць, што свая мова некалі існавала і ў жабракоў вёскі Семежава цяперашняга Капыльскага раёна. Зразумела, як і лабарскай, сёння ёю ніхто не карыстаецца. Затое на Брэстчыне добра ведаюць фальклорны гурт «Лабары», што працуе пры Іванаўскім раённым Доме культуры.

Калі б не А. Карлюкевіч, то наўрад ці выйшла б гісторыя пра лабараў за межы Іванаўшыны. Невядома колькі б яшчэ часу адносна іх знаходзіліся б у няведанні тыя, хто не бываў у гэтым раённым цэнтры. Сапраўды ўжо: неабходны людзі цікаўныя ў самым шырокім значэнні гэтага слова. Хоць у дадзеным выпадку слова «цікаўныя» яшчэ не ўсё гаворыць. Прынамсі, далёка не ўсё. Адной цікаўнасці мала. Яшчэ і неабходна і ўсведамленне грамадзянскага абавязку. Неабходна, каб кожны краязнаўца, незалежна ад таго — пісьменнік ён, журналіст, ці проста аматар, зразумеў: калі я магу зрабіць свайго роду прарыў у невядомасць, то навошта чакаць, пакуль гэта зробяць іншыя.

Так атрымалася і ў выпадку з мастаком Анатолем Рубановічам, які быў некалі настаўнікам вядомага сёння жывапісца Аляксея Кузьміча. Таго самага

А. Кузьміча, які марыць аб стварэнні музея Мадонны. На жаль, імя А. Рубановіча многім нічога не гаворыць. Многім, ды не іванаўцам. У вёсцы Махро, з якой Анатоль Паўлавіч звязаў большую частку свайго жыцця, ёсць нават ягоная вуліца. У музеі ж мясцовай сярэдняй школы яму прысвечана асобная мастацкая зала. Янка ж Рамановіч — наш сучаснік. І пра гэтага мастака таксама расказвае А. Карлюкевіч. Дый, бадай, пра ўсіх, кім можа ганарыцца Іванаўшчына, расказвае.

Знаёмішся з нарысам «Краскі Радзімы» і ловіш сябе на думцы, што было б няблага, калі б аддзел культуры Іванаўскага райвыканкама паруціўся аб выданні гэтага нарыса асобнай кніжкай. Канечне, такі намер патрабуе выдаткаў, ды карысць ад падобнага выдання акупіць іх, таму што можна будзе яе прапанаваць у кожную бібліятэку, у тым ліку і школьную. Дый сярод тых, хто наведаецца ў Іванава, знойдуцца ахвотнікі прыдбаць гэтую кнігу. Зразумела, калі яна будзе выпушчана на належным паліграфічным узроўні, бо кніжачкі, якія рыхтуюцца саматугам, хоць і маюць пазнавальнае значэнне, на жаль, не задавальняюць тых, хто любіць папаўняць свае асабістыя бібліятэкі па краязнаўстве.

Да месца сказаць і пра тое, што кніга «Радзімазнаўства» ўдала аформлена. Канечне, пры жаданні можна было б знайсці мастака, які б праілюстраваў яе. Ды выдавецтва пайшло іншым шляхам і, думаецца, у дадзеным выпадку знайшло найбольш аптымальнае выйсце. Тэкст аздабляюць шматлікія паштоўкі, выпушчаныя ў пачатку мінулага стагоддзя, а то і бліжэй да сярэдзіны яго. Узяты яны з багатай калекцыі лаўрэата прэміі «За духоўнае адраджэнне», вядомага беларускага філакартыста Уладзіміра Ліхадзедава.

Між іншым, ён не толькі калекцыяніруе старыя паштоўкі. Да ўсяго і заўзяты «кнігалюб, які не прапусціць ніводную новую і старую кнігу па гісторыі Айчыны. А яшчэ мае пэўны досвед у мінуўшчыне...» Філакартычная калекцыя У. Ліхадзедава складаецца з ажно больш як 15 тысяч паштовак і фотаздымкаў, на якіх адлюстраваны выявы гарадоў, мястэчак, вёсак Беларусі, а таксама краявіды, сюжэтна звязаныя з іхнімі ваколіцамі. Пры тым каля шасцісот гэтых сведкаў мінуўшчыны маюць дачыненне да Полацка і Полаччыны. Дарэчы, полацкая тэма ў зборы У. Ліхадзедава невыпадкова займае такое важнае месца: калекцыянер нарадзіўся ў гэтым старажытным беларускім горадзе.

Пра гэтага чалавека, апантанага беларускасцю, захопленага мінуўшчынай і, безумоўна, той справай, якая па сутнасці стала справай ягонага жыцця, можна даведацца з нарыса «Руплівы збіральнік памятак зямлі беларускай». Гэта аповед пра аднаго з тых, хто шмат робіць дзеля зберажэння нацыянальнай памяці. Праз тыя ж даўнія паштоўкі, праз адлюстраванае на іх. Заслугоўвае ўвагі такое прызнанне У. Ліхадзедава: «Я, магчыма, губляюся ў тым, як, дзе павінна быць маё месца па назве — сярод краязнаўцаў альбо недыпламаваных гісторыкаў (У. Ліхадзедаў скончыў інстытут фізічнай культуры. — **Г. М.**) ці толькі ў асяродку калекцыянераў… Але ж у прынцыпе мяне не цікавіць гэткае вызначэнне, няма ў тым неабходнасці. Будучы заняты як быццам справай сваёй прыватнай калекцыі, я выходжу на дастаткова шырокія прасторы. А яны — і з краязнаўствам звязаны, і да гісторыі маюць дачыненне. Калекцыяніраванне на сур'ёзным узроўні патрабуе валодання апаратам гісторыка-краязнаўчых методык, пастаянна штурхае да самаадукацыі, развагі над спрэчнымі гістарычнымі «формуламі».

Аб тым, што У. Ліхадзедаў, кажучы ягонымі словамі, «выходзіць на дастаткова шырокія прасторы», сведчаць яго развагі наконт таго, што тычыцца пэўных момантаў гісторыі Полацкай зямлі і, у прыватнасці, самога Полацка. Прынамсі, года ўзнікнення гэтага аднаго з самых старажытных беларускіх гарадоў: «Я перакананы, што Полацк з'яўляецца равеснікам Кіева». Пачуўшы падобнае сцвярджэнне з вуснаў свайго субяседніка, А. Карлюкевіч зазначае: «Прызнацца, такое меркаванне крыху шакіруе, з разраду сенсацый, якія патрабуюць падмацавання, на мой погляд». Адно відавочна: такія смелыя выказванні, нават калі

яны не заўсёды дастаткова аргументаваны, заслугоўваюць увагі, бо самі па сабе падштурхоўваюць гістарычную думку, выводзяць яе на шлях даследаванняў, далейшых росшукаў. Бо тое, што падаецца сёння нечаканым, цягам часу можа стаць ісцінай, сумнявацца ў якой жадаючых ужо не знойдзецца, гэта будзе ўспрымацца фактам.

Тым больш, калі на гістарычнай ніве пачынаюць працаваць «магутныя духоўныя асілкі, чыя руплівасць і ўнікальная працаздольнасць, чыя крынічная ініцыятыва, чыя прыцягальная энергетыка дапамаглі беларускаму асветніцтву зрабіць крок наперад». На думку А. Карлюкевіча (і з гэтым нельга не пагадзіцца) — адзін «з такіх магутных духоўных асілкаў» Адам Мальдзіс. Пра Адама Іосіфавіча гаворка ў нарысе з сімптаматычнай назвай «Інстытут Мальдзіса». Ужо гэтым па сутнасці сказана ўсё наконт таго, наколькі шмат зроблена надзіва няўрымслівым навукоўцам, якім з'яўляецца А. Мальдзіс.

Сапраўды, зроблена Адамам Іосіфавічам, калі мець на ўвазе абсягі здзейсненага ім, вельмі шмат. Больш за тое, сваім прыкладам ён падштурхоўвае да гэтага і іншых. А ў неабходных выпадках і дапамагае ім. Атрымліваецца, прыходзіць да высновы аўтар «Радзімазнаўства», што «фактычна Мальдзіс працуе за цэлы інстытут. І гэта не толькі вобраз. Сёння ўжо не па пальцах аднае рукі можна пералічыць усіх тых навукоўцаў, журналістаў, літаратараў, хто не абыходзіцца без яго, шчодрага і багатага на парады, кансультанта, дарадцы».

Нельга не пагадзіцца з А. Карлюкевічам і ў тым, што «Адам Іосіфавіч ва ўсе гады сваёй руплівасці быў і застаеццца Краязнаўцам з вялікай літары». Іначай кажучы, як нямногія, уносіць важкі ўклад і ў радзімазнаўства.

Ёсць у А. Мальдзіса чаму павучыцца. Як і ў іншых рупліўцаў з асяродку тых, хто звязаў свой лёс з краязнаўствам. І не толькі ў тых, хто жыве і працуе ў сталіцы, але і на перыферыі. Хоць, як вядома, няма перыферыі для сапраўднай літаратуры. Гэтаксама не існуе такога паняцця і для тых, хто, адкрываючы невядомыя і малавядомыя старонкі з гісторыі пэўнага рэгіёна, вучыць свайго чытача любіць не толькі той край, дзе ён жыве, а і ўсю краіну, якая называецца Рэспубліка Беларусь. Пра аднаго з такіх краязнаўцаў нарыс «Краязнаўчы пісьменнік Сяргей Чыгрын».

Падрабязна прасочвае А. Карлюкевіч і творчы шлях Алеся Марціновіча («Спасціжэнне галоўнага»), у кнігах якога, а таксама ў асобных публікацыях годнае месца займае гісторыка-краязнаўчая тэматыка, расказваецца пра знакамітых ураджэнцаў Беларусі, якія шмат зрабілі дзеля яе росквіту, а таксама пра тых, чый талент ярка раскрыўся за межамі Бацькаўшчыны. Дый не абыходзіць А. Марціновіч увагай і ўраджэнцаў іншых краін, якія працавалі на карысць Беларусі.

Гэтаксама ўпэўнена, натхнёна і мэтанакіравана, прытым з вялікай творчай аддачай працуе і сам аўтар «Радзімазнаўства». Было б добра, калі б перакананасць А. Карлюкевіча стала ўпэўненасцю кожнага, у першую чаргу тых, хто працуе на ніве краязнаўства: «Толькі ўсе разам мы можам узвышаць дабрыню і гуманізм, справядлівасць і сумленнасць, роля якіх у развіцці жыцця, пэўна ж, відавочная для кожнага культурнага і адукаванага чалавека. У перажыванні за адукацыйны ўзровень сённяшняй моладзі, у стварэнні адпаведнай глебы для заўтрашніх спадкаемцаў не забыцца б, што сілу і моц гартуе павага да роднага і знаёмага, да таго, што выпрабавана і адзнаку атрымала ў родным краі. Хіба не так?..»

Пытанне ў пэўнай ступені рытарычнае, бо і кніга «Радзімазнаўства» сваім зместам і пераконвае ў правільнасці падобнага сцвярджэння. І не толькі тады, калі аўтар яе знаёміць з адметнасцю пэўнага кутка Беларусі. Значыць, ёсць падставы чакаць новых публікацый А. Карлюкевіча ў гэтым накірунку. Як і новых ягоных кніг. Што да выдання «Радзімазнаўства», то верыцца, што яно для многіх стане настольным. Лепшага дапаможніка па радзімазнаўстве і не знойдзеш.

# МАЯ МАЛЕНЬКАЯ РАДЗІМА

**Таццяна ВАЙЦЯХОВІЧ, 7 клас**

## *Вёска Дроздзіна*

Хіба гэта не шчасце жыць на зямлі, дзе ты нарадзіўся, вырас, дзе прайшло ўсё тваё дзяцінства, юнацтва, дзе напаткала цябе першае каханне...

Радзіма заўсёды звязана з успамінамі. Гэта перш за ўсё ўспаміны пра родную маці, якую мы ўсе вельмі любім і думаем пра яе, дзе б ні былі.

Радзіма — гэта доўгія зімовыя вечары, калі маці расказвае цікавыя казкі, легенды, спявае песні, калі вучыць нас з маленства працаваць, сябраваць, любіць.

У кожнага чалавека ёсць дзве радзімы — вялікая і малая. Вялікая — адна для ўсіх, малая — у кожнага свая.

Мая маленькая радзіма — вёска Дроздзіна. Паводле архіўных звестак, вёска ўзнікла недзе ў 1760-х гадах. Сярод балацін нашы далёкія продкі знайшлі выспу і пачалі будаваць на ёй хаты. Яны апрацавалі зямлю вакол свайго паселішча, высеклі і выкарчавалі лес, выкарыстоўваючы яго для будоўлі і абагрэву, робячы з яго прылады працы.

З цягам часу паселішча пашыралася. Яно атрымала сваю назву — Дроздзіна — хутчэй за ўсё з-за таго, што ў балотах гняздзілася шмат драздоў.

Крыху пазней вёска ўвайшла ў склад Вяляціцкай воласці. На адным з самых высокіх узгоркаў была пабудавана царква. Самае цікавае тое, што пабудавана яна была цалкам з дрэва, без выкарыстання цвікоў. У 1919 годзе царква была знішчана — яе напаткаў лёс шматлікіх беларускіх культавых пабудоў.

У 1884 годзе ў вёсцы была адкрыта царкоўнапрыходская школа. Праз сем гадоў яе зачынілі па прычыне недахопу грошай у царскай казне, але ў пачатку 1920-х школа была адноўлена, аб чым сведчаць архіўныя дакументы.

Вучні таго часу ўспамінаюць, што школа размяшчалася ў арандаваных памяшканнях і часта пераязджала з адной хаты ў другую.

Пазней школа заняла новы будынак, у якім дзеці вучыліся да 1960 года. У 1961 годзе навучанне стала васьмігадовым. З таго часу яе скончылі 547 чалавек.

Амаль усе настаўнікі былі мясцовыя. Хочацца назваць Міхаіла Васільевіча Насаўца, Соф'ю Аляксееўну Мільвіт, Кацярыну Міхайлаўну Алісіевіч, Ніну Віктараўну Зінкевіч, Адама Ціханавіча Зінкевіча, Міхаіла Ісакавіча Вінакурава, Кацярыну Рыгораўну Белую, Галіну Раманаўну Жылку.

Дарэчы, сярод настаўнікаў нашага Мётчанскага навучальна-педагагічнага комплексу таксама ёсць выпускнікі Дроздзінскай школы.

З цягам часу колькасць насельніцтва вёскі змяншалася. Моладзь пачала выязджаць у гарады. Вучняў у школе з кожным годам станавілася меней і меней. У 1991 годзе школа спыніла сваё існаванне. Нейкі час яна стаяла пустая і пазірала сваімі цёмнымі вокнамі на вёску, быццам чакала вучняў. Пазней у будынку школы пасяліліся людзі.

У адзін трагічны дзень школа загарэлася. Пажар здолелі патушыць, але жыць там стала немагчыма.

Захаваўся толькі будынак былой школьнай сталовай. Пэўна, адбылося гэта таму, што крыху раней, дзякуючы намаганням веруючых жыхароў вёскі, тут дазволілі адкрыць мясцовую царкву.

Наша вёска складаецца з чатырох вуліц. Адна з іх — Паўночная. Вяскоўцы звыкла называюць яе Лаза. Мабыць таму, што раней на гэтым месцы быў густы лес, а па ўскрайках расло шмат лазы. Вось і захавалася старажытная назва.

Я жыву на вуліцы Цэнтральная. Яна самая вялікая ў вёсцы. Летам, калі да бабуль і дзядуль на канікулы з'язджаюцца ўнукі, вуліца ажывае. Цэлымі днямі — гульні, песні, музыка.

У пару маладосці маёй бабулі наша вёска была вялікая, вясёлая. Працаваў вясковы клуб, дзе паказвалі фільмы, а пасля прагляду моладзь ладзіла танцы. Танцавалі пад гармонік. Потым з'явіўся прайгравальнік, а пласцінкі прыносілі з дому.

У вёсцы многа цікавых людзей. На маёй вуліцы жыве знакаміты на ўсю Беларусь выдатны чалавек Міхаіл Ісакавіч Вінакураў. Усе гады свайго жыцця ён аддаваў добраўпарадкаванню вёскі. Раней ён быў старшынёй калгаса. Дзякуючы яму наша вёска атрымала электрычнае асвятленне. Раней людзі выкарыстоўвалі святло лучыны. Першы тэлевізар у вёску прывёз Міхаіл Ісакавіч і паставіў у клубе.

Міхаіл Ісакавіч працаваў настаўнікам гісторыі ў Дроздзінскай школе, пазней — у Мётчанскай. А якія падарожжы, здзейсненыя пад кіраўніцтвам гэтага чалавека, успамінаюць нашы бацькі! Амаль усю Беларусь аб'ехалі яны за гады вучобы ў школе.

Зараз у вёсцы Дроздзіна пражывае каля 240 чалавек, большасць з якіх людзі сталага ўзросту. На жаль, з кожным годам становіцца ўсё больш апусцелых дамоў.

**Ганна КУДЗІНА, 7 клас**

## *Вёска Старая Мётча*

У кожнага чалавека ёсць свая маленькая радзіма, у мяне таксама. Яна знаходзіцца на Барысаўшчыне, а завецца — Старая Мётча.

Наша Мётча славіцца сваёй гісторыяй і старажытнасцю. У 1932 годзе тут быў створаны першы калгас, які называўся «Радзіма», старшынёй калгаса стаў Ліхач Аляксандр Сцяпанавіч. Пасля далучэння да яго некалькіх больш дробных калгасаў быў перайменаваны ў «Шлях сацыялізму». У даваенны час старшынямі працавалі: Барыс Карнеевіч Маталыга, Сідар Парфёнавіч Паўлавец, Уладзімір Пятровіч Якут. Вялікая Айчынная вайна на значны час спыніла эканамічнае і сацыяльнае развіццё Мётчы. Але жыхары гэтай вёскі — працавітыя, спагадлівыя, чулыя, і яны перажылі ўсе цяжкасці вайны.

Я жыву на вуліцы Сонечная. А каля мяне жывуць дзве самыя блізкія суседкі, да якіх вяскоўцы заўсёды могуць звярнуцца па дапамогу. Адну завуць Антаніна Анатольеўна Абрамовіч, яна працуе настаўніцай у Мётчанскай ВВУ «Школа-садок». Другая — Раіса Уладзіміраўна Абрамовіч, якая працуе ў саўгасе «Гвардыя» ветэрынарам. На нашай вуліцы жыве таксама жанчына са старэйшага пакалення — гэта Кацярына Аляксандраўна Шчуцкая. Яна нарадзілася ў 1923 годзе ў вёсцы Вяляцічы. Усё яе юнацкае і дарослае жыццё прайшло ў вёсцы Аскеркі. У маладыя гады Кацярына Аляксандраўна была ўмелай рукадзельніцай. І зараз яна беражліва захоўвае вытканыя ўласнымі рукамі ручнікі, посцілкі, аздобленыя ўзорамі фіранкі і сурвэткі.

Мётча — гэта найпрыгажэйшы край і любая для мяне старонка. Я вельмі рада, што жыву ў Мётчы, што ў нашай вёсцы існуе інтарэс да культуры сваіх продкаў. Цікава бачыць, як танчылі нашы бабулькі і якія песні яны спявалі. З мастацтвам народа нас знаёміць фальклорны гурт «Берагіня», які існуе ў нашай школе сем год. «Берагіня» — гэта аб'яднанне адкрытага тыпу, удзельнікам якога можа стаць кожны, хто любіць народнае мастацтва ці жадае авалодаць ім.

«Берагіня» — самая шматлікая і ўплывовая школьная суполка, далучыцца да якой мараць многія вучні. Яна вядзе свой калектыў па шляху адраджэння і захавання беларускай мовы і культуры. Мы, вучні, ганарымся, што ў нашай школе існуе такі фальклорны гурт, які вядомы на ўсю Беларусь і нават за яе межамі.

Нам ёсць чым пахваліцца. А вялікую падзяку за гэта трэба выказаць настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Антаніне Анатольеўне Абрамовіч і этнахарэографу Міколу Аляксеевічу Козенку, якія кіруюць гуртом «Берагіня». У нашай школе працуюць добрыя настаўнікі, якія аддаюць душу, веды дзецям. Яны клапоцяцца не толькі пра вучобу дзяцей, але і займаюцца разнастайным выхаваннем.

**Алена МАЦЮШОНАК, 7 клас**

## *Вёска Антаневічы*

Вёска Антаневічы была заснавана ў XIV стагоддзі. Адкуль пайшла гэта назва, сучасныя жыхары вёскі не памятаюць. Магчыма, першым пасяліўся тут Антаневіч, пабудаваў хату, завёў сям’ю. І дзеці Антаневіча пасяліліся тут жа. І месца, дзе жылі гэтыя людзі, стала называцца Антаневічамі.

Вёска знаходзіцца на невялікім узвышшы. Хаты прыгожа глядзяцца, размешчаныя шнурочкам, вышэй суседняй вёскі Дроздзіна.

Раней амаль усю вёску акружалі балоты. Толькі з боку вёскі Леванова рос лес. Аднак пачалася меліярацыя, балоты асушылі. Знікла дрыгва, маленькія балотныя вочкі — азярцы, а разам з імі — і тыя жывёлы, якія прызвычаіліся да нашых мясцін. Адсунуліся далей зараснікі хмызняку і кусцікі дурніц, танклявыя нітачкі журавін, якія раслі адразу за вёскай. Не даносіцца ўранку да вёскі пах багуну. Цяпер яе акружаюць калгасныя палі. На месцы асушанага балота была арганізавана здабыча торфу. І жыхары нашай вёскі працавалі на торфараспрацоўках. Спачатку выраблялі «торф» — паліва, якое выкарыстоўвалі для ацяплення на месцы, а затым пачалі вывозіць у вёску Ганцавічы для вырабу брыкету. Вельмі весела было тады вясковым хлапчукам. Яны хадзілі ўзімку на караваны торфу і з’язджалі на лыжах, быццам з трампліна. Выкарыстоўваўся торф у якасці ўгнаення. Акрамя таго, працавалі антанеўцы на саўгасных палях, займаліся жывёлагадоўляй.

Славілася вёска Антаневічы сваімі цеслярамі, якія пабудавалі шмат хат у сваёй мясцовасці і ў суседзяў. Гэта Аляксандр Сакавец, Васіль Сусолкін, Міхаіл Бабіцкі. Займаўся сталярнай справай Ілья Шынкевіч. Яшчэ і зараз многія жыхары вёскі пазіраюць у вокны, зробленыя рукамі гэтага чалавека, і сядзяць на табурэтах і лавах, якія таксама змайстраваў ён.

Менавіта ў нашай вёсцы нарадзіўся і вырас святар Аляксей Шынкевіч. Да гэтага часу карыстаецца попытам майстэрства печніка Пятра Сафронавіча Сакаўца. Славіўся некалі сваёй ігрой на гармоніку Аляксандр Фёдаравіч Сакавец. А колькі песень і прыпевак ведала Вольга Сакавец!

Былі ў вёсцы свае знахаркі, якія прыходзілі на дапамогу сяльчанам у цяжкую хвіліну. Гэта і Вольга Галуза, і яе сястра Марфа, і бабуля Ганна, і бабуля Варка.

Мабыць, у вёсцы было яшчэ шмат цікавых людзей, але пра іх ужо цяперашнія жыхары не памятаюць.

Цяпер наша вёсачка значна паменшылася. Яна налічвае ўсяго 22 двары. І ўзрост жыхароў, у асноўным, пераступіў 60-гадовую мяжу.

Але ўсе роўна наша вёсачка вельмі прыгожая. У ёй шмат дрэў. Улетку кожны двор радуе вока яркімі кветкамі. А вясной да нас прылятаюць птушкі і напаўняюць вуліцы сваімі спевамі.

Я люблю сваю маленькую радзіму за яе прыгажосць, за тое, што ўвесну яна патанае ў квецені садоў, за тыя птушыныя спевы, якія чуюцца ўранку і ўвечары, за тое, што тут жывуць мае бацькі, бабуля, суседзі.

# Іван МІСКО:

# «КОСМАСУ НАЛЕЖЫЦЬ БУДУЧЫНЯ»

Яго вядомасці, яго высокіх узнагарод і званняў хапіла б для таго, каб адчуць сябе вялікім любому творцу. Мяркуйце самі: заслужаны дзеяч мастацтваў, народны мастак Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, акадэмік Міжнароднай акадэміі духоўнага адзінства народаў свету… Тут сапраўды ў любога творцы галава можа закружыцца.

У любога, але не ў Івана Якімавіча Міско — вядомага беларускага скульптара. Нягледзячы на свае выдатныя заслугі, на сваю шырокую папулярнасць, ён застаецца ўсё такім жа па-сялянску простым, па-народнаму мудрым, шчырым, адкрытым і абаяльным у размове.

А між тым Іван Якімавіч не проста вядомы — унікальны скульптар. Яго ўнікальнасць перш за ўсё ў тым, што ён стварыў своеасаблівую касмічную галерэю, у якой самая багатая ў свеце калекцыя скульптурных партрэтаў касманаўтаў розных краін — Амерыкі, Англіі, Францыі, Германіі, Японіі, Польшчы, Чэхіі, Румыніі, Афганістана, В'етнама і іншых. Федэрацыя касманаўтыкі Расіі ўзнагародзіла Івана Міско медалём «За заслугі», які даецца толькі касманаўтам. А гэта пра многае гаворыць.

Захопленасць космасам доўжыцца ў скульптара ўжо больш як паўвека. І, здаецца, ён не збіраецца здраджваць галоўнай тэме ў сваёй творчасці. Пасля некаторага перапынку Іван Якімавіч зноў стаў бываць у Зорным гарадку, а значыць, зноў паявяцца новыя экспанаты ў яго касмічнай галерэі.

Але не трэба думаць, што гэта адзіная захопленасць у Івана Міско. Ён — аўтар дзясятка манументальных твораў, соцень скульптурных партрэтаў знакамітых дзеячаў культуры, навукі, працы, многіх мемарыяльных дошак.

Я даўно марыў сустрэцца і бліжэй пазнаёміцца з гэтым легендарным чалавекам. І вось нарэшце іду па адрасе, які назваў мне па тэлефоне Іван Якімавіч. Аднак адшукаць ягоную майстэрню аказалася не так проста ў раскапаным, запруджаным рознай тэхнікай і рыштаваннямі двары па Інтэрнацыянальнай. Дый ці адшукаў бы, каб не папытаўся ў тутэйшай дзяўчыны, якая збіралася сесці ў сваё аўто.

— Майстэрня Міско? — перапытала яна і прыязна ўсміхнулася. — А вунь адразу за тым шлагбаўмам злева аднапавярховы будынак з жалезнымі дзвярыма.

Заклапочанага гаспадара я застаў пасярод пакоя ў акружэнні вялікіх і малых скульптур, якія месціліся і на паліцах, і на падаконні, і проста на падлозе. А яшчэ ў розных месцах, уроскід, стаяла з дзясятак скульптурных партрэтаў у гіпсе, у гліне (некаторыя з іх былі ўхутаны, каб не перасохлі, у чорныя поліэтыленавыя пакеты). А яшчэ вакол стаялі напакаваныя скрынкі, ёмістыя клункі, рэчы хатняга ўжытку. У суседнім пакоі чуўся моцны грукат — там клалі падлогу. Сярод усяго гэтага гармідару і разрухі постаць Майстра, нерухома застылага ў крэсле, падалася мне адзінокай і самотнай.

— Іван Якімавіч! — міжволі выгукнуў я. — Як жа вы ў такіх умовах працуеце?

Майстар гаротна развёў рукамі:

— А я і не працую…

— І даўно вас гэта бедства напаткала?

— Ды ўжо другі год…

Крыху пазней, калі мы прымасціліся на краёчку стала і пілі духмяны зёлкавы чай, гаспадар тужліва паскардзіўся:

— Ведаеце, я прывык працаваць. З ранку да вечара. А цяпер вось у прастоі…

Але гэта была адзіная сумная нота за ўвесь час нашай шматгадзіннай размовы. Прыгадваючы дзяцінства, юнацтва, службу ў арміі, Іван Якімавіч ажывіўся, вочы яго загарэліся, ён ахвотна жартаваў, смяяўся, ад былой заклапочанасці і самоты не засталося і следу.

Аднак толкам пагаварыць з-за пастаяннага грукату мы так і не змаглі. Давялося сутрэцца яшчэ раз, у выхадны дзень. І тут ужо мы нагаварыліся ўволю. Але ўсё па парадку.

## На хутары ля Валобрынкі

***— Іван Якімавіч, кажуць, што для таго, каб глыбей зразумець творчага чалавека, трэба пабываць на яго малой радзіме. На жаль, у нас зараз такой магчымасці няма, таму давайце пабываем там хоць бы завочна. Раскажыце, калі ласка: дзе вы нарадзіліся, што гэта за мясціны, як яны вам помняцца?***

— Нарадзіўся я амаль па Гогалю: на хутары ля Валобрынкі, што на Слонімшчыне. Валобрынка — гэта невялічкая, надзвычай маляўнічая рачулка з чыстай, светлай, ласкавай вадою. Дык вось на беразе гэтай рачулкі, літаральна за дзесяць—пятнаццаць метраў ад вады, стаяла наша хата. Звычайная драўляная хата-пяцісценка. Побач быў агарод, гаспадарчыя пабудовы. Крыху воддаль, метраў за трыста, пачынаўся стары высокі лес, які агінаў нашу сядзібу плаўнай дугою. Вось гэта мясціна памерам недзе з гектар і называлася хутар Поплава. Можа, ад таго, што вакол хаты і сапраўды быў прыгожы травяністы поплаў, на якім улетку пасвілася ўся наша нешматлікая жыўнасць — конь, карова, свінні.

Уздоўж рэчкі, за паўкіламетра ад нас, стаяў яшчэ адзін хутар, крыху далей — панскі маёнтак Грыбава. Але я ні на адзін з іх не любіў хадзіць — мне там не было чаго рабіць. Часцей за ўсё сустракаўся са сваімі сябрамі-аднагодкамі з суседняй вёскі Чамяры. Мы разам гойсалі па лесе, збіраючы ягады альбо грыбы, купаліся ў Валобрынцы, лавілі ў ёй ракаў, рыбу.

Але больш за ўсё мне падабалася быць аднаму. Я тады клаўся на траву, тварам у неба, і мог гадзінамі назіраць, як плывуць вялікія беласнежныя аблокі, якія ўяўляліся мне рознымі загадкавымі, казачнымі персанажамі. У такія хвіліны таямнічай сцішанасці я даваў волю фантазіі і ў сваіх марах-летуценнях пераносіўся далёка-далёка, лёгка і шчасліва вандраваў у бяскрайнім Сусвеце.

А яшчэ я любіў бегаць да чыгункі, што праходзіла непадалёку ад хутара. Стаіш, бывала, на адхоне, а міма пад грукат жалезных колаў праплываюць вагоны, за вокнамі якіх сядзяць прыгожыя незнаёмыя людзі. Хто яны такія? Куды едуць? І доўга яшчэ пасля, удыхаючы пах дыму ад паравоза, адчуваеш у душы рамантычнае хваляванне…

А хто з вясковых хлапчукоў не марыў паглядзець, як узыходзіць сонца?! І я таксама не раз прачынаўся на досвітку, залазіў на самае высокае дрэва альбо на страху нашай хаты і стараўся ўбачыць гэты цуд прыроды. Але вакол быў толькі лес і лес.

Колькі сябе помню, столькі і жыве ўва мне гэтая неспатоленая прага ўбачыць нябачанае, спазнаць неспазнанае. Мусіць, адтуль, з далёкага, чароўнага маленства і пачынаюцца вытокі майго творчага захаплення.

***— Вы рана адчулі жаданне маляваць?***

— Рана. Гадоў недзе ў шэсць-сем. Спачатку рэалізоўваў свае фантазіі кіёчкам на пяску. Гэта было вельмі зручна: калі што не ўдавалася, загладзіў пясок рукою і малюй нанава. А калі пайшоў у школу, то, помню, мне падабалася

маляваць крэйдай на школьнай дошцы. Найлепш чамусьці ў мяне атрымоўваўся казёл — ганарыстая істота з фасоністымі рагамі і рэдзенькай, каларытнай барадой. Такога я бачыў аднойчы на суседнім хутары.

Аднаго разу са сваім маляваннем я ледзь не трапіў у бяду. У нашай хаце была вялікая, акуратна пабеленая печ. І вось адна яе плоскасць — роўная, бялюткая — дужа ж упадабалася мне. Яна як бы спецыяльна была створана для таго, каб на ёй маляваць. І я не ўтрымаўся ад спакусы. Калі дома нікога не было, я дастаў з печы вуголінку і даў волю свайму натхненню. На вачах нараджаўся поплаў, лес, бераг рэчкі… Спахапіўся толькі тады, калі ўвесь бок печы быў размаляваны. І тут мяне ахапіў страх: што ж я нарабіў?! Бацькі мне гэтага злачынства нізавошта не даруюць. Надзіва, усё абышлося даволі спакойна. Маці ўзялася было сварыцца, але бацька яе весела спыніў:



*Іван Міско.*

— Паглядзі, якое хараство падарыў табе сын. Гэта ж рыхтык наш хутар. Малайчына, Ваня! Мабыць, мастаком будзеш.

Як у ваду глядзеў бацька! Праз гады я і праўда стаў мастаком, скульптарам, і нават крыху вядомым (смяецца). Але да гэтага яшчэ ляжала доўгая і складаная дарога.

***— Ну што ж, Іван Якімавіч, давайце разам з вамі пройдзем па гэтым шляху. Хаця б па яго галоўных вехах.***

— Пачатковай вехай можна лічыць Мінскае мастацкае вучылішча. Праўда, з першага разу мне трапіць туды не ўдалося. Паступаць я рашыў пасля сёмага класа. Узяў бацькаў франтавы рукзак, паклаў у яго сёе-тое з рэчаў, пакунак сухароў, бацькі далі грошай на дарогу — і я паехаў у Мінск. Знайшоў тое вучылішча (а яно месцілася тады ў тэатры оперы і балета) толькі пад вечар, нікога з кіраўніцтва ўжо не было. Дзе ж начаваць? Ні сваякоў, ні знаёмых у Мінску не мелася. «А начуй тут, — дазволіў вахцёр.—Вунь пад сталом сцяліся і спі». Мяне гэта цалкам задавальняла. Паклаў я рукзак пад галаву, накрыўся прыхопленай з дому коўдрай і, натомлены за дзень, імгненна заснуў. А калі раніцай прачнуўся — рукзака майго не было. Вахцёр паціскае плячыма: нічога не бачыў, нічога не ведаю.

Крыўдна мне стала — што ж я буду рабіць у горадзе без ежы, без неабходных рэчаў? Давялося вяртацца назад, дадому.

У другі раз я паехаў у вучылішча праз год, скончыўшы восем класаў. Спачатку паступіў на аддзяленне жывапісу, але калі ўбачыў, як працуюць скульптары, калі зразумеў, што прадметы, аб’екты можна перадаваць аб’ёмна, шматмерна, мяне гэта настолькі захапіла, што я перавёўся на аддзяленне скульптуры. Вось так я і выбраў сваю жыццёвую і творчую дарогу канчаткова.

Другой вехай на гэтай дарозе, як ні дзіўным здасца, была армія. Мяне прызвалі пасля першага курса вучылішча. Але я расстройваўся нядоўга, таму што са службай мне пашанцавала. Адразу ж на першым пастраенні камандзір роты запытаўся: «Хто ўмее маляваць?» Я зрабіў крок наперад.

Мяне прызначылі мастаком у армейскі клуб. Спачатку я маляваў для акружной газеты партрэты выдатнікаў баявой і палітычнай падрыхтоўкі. Пасля даручылі зрабіць цэлую галерэю партрэтаў членаў Палітбюро ЦК КПСС. Я стаў вядомым, папулярным чалавекам у часці. Мяне нават хацелі пакінуць на звыштэрміновую службу, і я не ведаю, як бы выкруціўся з гэтага становішча, калі б не шчаслівы выпадак. Нампаліт часці даў мне заданне намаляваць партрэт камандзіра дывізіі, двойчы Героя Савецкага Саюза, генерала Драгунскага. Маляваў я па фатаграфіі, але мне няблага ўдалося перадаць і мужнасць, і дабрыню гэтага чалавека. Партрэт спадабаўся генералу. Пахваліўшы за добрую работу, ён пабацькоўску паклаў мне руку на плячо і цвёрда сказаў:

— Ты павінен вучыцца!

І адпусціў з мірам, калі прыйшоў выклік на вучобу. А ў знак удзячнасці на памяць падараваў імянны ручны гадзіннік. На жаль, ён не захаваўся. А вось кніга ўспамінаў, якую ён мне прыслаў пасля са сваім аўтографам, ёсць. Я часта званіў яму, калі ён ужо працаваў у Маскве, але так сустрэцца і не ўдалося.

Трэцяй і, бадай, галоўнай вехай у маім жыцці стаў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, у які я паступіў у 1961 годзе і скончыў у 1966-м. Дарэчы, паступаў я туды ўжо будучы членам Саюза мастакоў рэспублікі.

***— Так рана прыйшло прызнанне? Вам жа не было яшчэ і трыццаці.***

— Не было. Ведаеце, мне, відаць, шанцавала на добрых людзей. Ну вось як, напрыклад, расцаніць такі факт. Не паспеў я скончыць у 1957 годзе мастацкае вучылішча, як у Мінску адкрываецца мастацкі музей. І дырэктар гэтага музея Алена Аладава, таленавітая, высакароднейшая жанчына, запрашае мяне на працу. Мне тут жа выдзяляюць пад майстэрню невялічкі пакойчык і загружаюць цікавай работай. Амаль дваццаць гадоў свайго жыцця я аддаў музею. І ні кропелькі не шкадую. Наадварот, удзячны Богу і лёсу, бо гэта былі гады майго мастакоўскага росту, майго прафесійнага і чалавечага сталення.

Дарэчы, тая ж Алена Васільеўна Аладава пасадзейнічала і майму ўступленню ў Саюз мастакоў. Праўда, да гэтага часу я ўжо меў з добры дзясятак арыгінальных, самастойных работ, прыняў удзел у некалькіх рэспубліканскіх мастацкіх выстаўках. Так што праблем з уступленнем не было.

***— Бацькі сачылі за вашым прафесійным ростам, радаваліся творчым поспехам?***

— Радаваліся, канечне. Бацькі ёсць бацькі. Хаця, па праўдзе кажучы, доўга не верылі, што з мастакоўскай прафесіі можна есці хлеб. Лічылі гэта забавай, у лепшым выпадку — заняткам для душы. А хлеб, маўляў, трэба зарабляць іншай працай. Таму і за маім прафесійным ростам, як вы кажаце, спецыяльна не сачылі. Нешта чулі па радыё. Нешта сястра вычытвала ў газетах. А пра многае я расказваў сам, калі прыязджаў дадому, у госці.

***— Прабачце, Іван Якімавіч, я забыўся спытаць у вас пра бацькоў. Раскажыце крыху пра іх.***

— Бацька, Якім Сцяпанавіч, і маці, Вольга Іосіфаўна, пры панскай Польшчы былі простымі сялянамі. Але зямлі было мала, таму жылі беднавата. Можа, па гэтай прычыне і сям'я была невялікая — я ды сястра Люба. Ну і яшчэ з намі жыў дзед, бацькаў бацька. Каларытная асоба! Здольны быў што да працы, што да гуляння. Аднойчы, яшчэ кавалерам, разам са сваімі сябрукамі паехаў дзед у суседнюю вёску сватацца. Па дарозе, канечне, для смеласці выпілі, прыпыняючыся ў лесе і раз, і другі, і трэці. А калі прыехалі да дзяўчыны ў двор, глянулі назад у сані — а жаніха няма! Па дарозе, аказваецца, згубілі. Смеху было на ўсю акругу.

Бацька мой па характары быў больш стрыманы. Скончыў два класы польскай школы. Вялікай граматы не набыў, але чытаць і пісаць умеў. Калі пачалася вайна, мы апынуліся на часова акупаванай тэрыторыі. Бацька, як толькі ў нашых мясцінах аб'явіліся партызаны, устанавіў з імі сувязь. Пра гэта, відаць, тоё-сёй ведаў, бо аднойчы да нас у хату прыйшоў з Чэмераў тутэйшы доктар. Ён лячыў мяне ад малакроўя, прыносіў неабходныя лякарствы. А тут заявіўся з просьбай: «Якімка, звяжы мяне з партызанамі, хачу пайсці ў лес». Бацька адкрыта не прызнаўся, але намякнуў, што калі ён надта хоча, то партызаны самі яго знойдуць. І праўда, неўзабаве доктар быў ужо ў партызанскім атрадзе. Але на гэтым гісторыя не скончылася. Чалавек паведаміў, што ў яго хаце, пад падлогаю, захаваны дзве скрынкі дэфіцытных лякарстваў. Трэба толькі ноччу з'ездзіць і забраць. Партызаны паслалі сваіх разведчыкаў. Тыя і праўда прывезлі лякарствы — і парашкі розныя, і ўколы. Нехта разумны ды асцярожны прапанаваў: давайце праверым на сабаках. Праверылі — праз некалькі гадзін яны былі мёртвыя.

Хапіліся доктара, а яго ўжо і следу няма — уцёк. Бег у Грыбава, дзе стаяў паліцэйскі гарнізон і дзе служыў камендантам ягоны родны брат. Але не дабег. Пачуўшы пагоню, схаваўся ў школе, ушчаміўшыся ў комін. Дасталі і адтуль. Прывялі назад у атрад, абшукалі — знайшлі ў патаемнай кішэні поўны спіс партызанаў, збіраўся, гад, перадаць у паліцыю.

Так што падчас вайны было ўсяго — і гераізму, і здрады, і мужнасці, і подласці… Бацька чым мог памагаў партызанам: паказваў падрыўнікам лепшыя падыходы да чыгункі, збіраў у наваколным лесе зброю, якой тут шмат засталося пасля адступлення савецкіх войскаў, папярэджваў пра аперацыі карнікаў…

Пасля вызвалення бацьку прызвалі ў армію. Служыў кулямётчыкам. Ваяваў у Польшчы, Германіі. Дзякаваць богу, вярнуўся жывы і здаровы. Я ў пісьмах пісаў яму, каб прывёз гармонік. Не прывёз. Але гэта было ўжо няважна. Галоўнае — тата побач!

Трэба было пачынаць жыццё нанова. За ваенныя гады гаспадарка прыйшла ў заняпад. А тут яшчэ бацьку ўгаварылі пайсці ў леснікі. Значную частку гаспадарчых клопатаў давялося мне ўзяць на свае плечы, у вольны ад школы час. А маці з сястрою шчыравалі ад цямна да цямна.

Як бачыце, бацькі мае пражылі звычайнае сялянскае жыццё. За свой век не нажылі ні вялікага багацця, ні асаблівых узнагарод. Бацька іншы раз, узяўшы чарку, любіў з гэтай нагоды спяваць: «Якім я быў, Якім застаўся…» Але гэта, канечне, спявалася з гумарам. На самай справе ён ніколі не наракаў на свой лёс. Жыў чэсна, сумленна. Мог заўсёды адкрыта і з годнасцю глядзець людзям у вочы.

***— Цяпер ужо з блізкіх нікога не засталося?***

— Нікога. Заставалася сястра Люба, але і яна нядаўна памерла.

***— А што з хутарам? Ці наведваеце вы калыску свайго маленства?***

— Наведваю. Не так часта, як хацелася б, але бываю. Хата наша захавалася. Праўда, цяпер там жывуць ужо чужыя людзі. Дачнікі. А мясціна змянілася непазнавальна. Дзе быў поплаў — вырас лес. Абмялела рэчка, амаль зарасла асакою. Але ўсё роўна мяне цягне туды, бо няма на зямлі больш дарагога месца, чым гэтае.

***— Слонімшчына, ваша малая радзіма, багатая на вядомых людзей. Некаторых з іх вы, напэўна, добра ведалі?***

— І ведаў, і сустракаўся, і сябраваў. Напрыклад, з Анатолем Іверсам — вядомым падпольшчыкам, партызанам, а ў пасляваенны час — не менш вядомым у нашых краях журналістам, паэтам.

Вельмі цёплыя адносіны былі ў мяне з іншым нашым славутым земляком — акадэмікам Андрэем Якаўлевічам Пракапчуком. Ён не раз бываў у маёй майстэрні, пазіраваў мне. Я заходзіў да яго на кватэру, дзе мяне заўсёды частавалі смачным абедам і добраю чаркай гарэлкі з лімонам.

Асобна хачу сказаць пра Якуба Герасімавіча Міско, які даводзіўся мне родным дзядзькам. Ды вы яго, напэўна, таксама ведаеце. Ён працаваў у «Сельской

газеце». Таленавіты журналіст, пісьменнік. Удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. На жаль, пасля ўз’яднання разам з двума братамі быў арыштаваны органамі НКУС і зняволены ў турму. З пачаткам вайны быў накіраваны ў штрафную роту, чэсна адваяваў усе гады і даслужыўся нават да маёра. Але ён мне дарагі не толькі гэтым. Калі я вучыўся ў Мінску, мяне даволі часта даймала безграшоўе. Тады я ішоў да дзядзькі, і ён заўсёды выручаў. Праўда, лішняй капейкі не даваў — толькі паесці. Казаў, каб не раздурыўся.

З маладзейшых маіх землякоў апошнім часам мы вельмі цесна сябравалі з Алегам Лойкам — знакамітым беларускім паэтам і навукоўцам. Мы шмат разоў сустракаліся з ім тут, у гэтай майстэрні. Я ляпіў яго скульптурны партрэт, а на юбілей вырабіў памятны медаль. Падарожнічалі разам і па родных мясцінах. Калі Алег Антонавіч цяжка захварэў, я наведваў яго ў бальніцы. Ён вельмі любіў распытваць пра маё жыццё, пра наш хутар, пра бацькоў. Казаў: «Іван, я хачу напісаць пра цябе аповесць». Не паспеў…

## У гліне, у гіпсе, у бронзе

***— Іван Якімавіч, давайце крыху зменім тэму і пагаворым пра тое, што паспелі зрабіць вы. Пачнём з манументальных твораў. Іх у вас ужо сабралася, калі не памыляюся, з добры дзясятак. Для скульптара гэта — вельмі і вельмі важкі набытак. Нагадайце, калі ласка, найбольш помныя для вас работы.***

— Ну, найперш хачу прыгадаць Манумент у гонар маці-патрыёткі ў Жодзіне, які я выканаў у 1975 годзе разам са скульптарамі Андрэем Заспіцкім, Мікалаем Рыжанковым і архітэктарам Алегам Трафімчуком. Ён дарагі мне тым, што ў ім увасоблены драматычны лёс канкрэтнай беларускай жанчыны, Анастасіі Фамінічны Купрыянавай, якая ў гады ваеннага ліхалецця выправіла на фронт пяцярых сваіх сыноў, і ніводзін з іх не вярнуўся дадому.

У Мінску, у цэнтральным гарадскім парку, карыстаецца папулярнасцю помнік Максіму Горкаму. Я працаваў над ім з тым жа творчым калектывам, што і над жодзінскім манументам. Каля помніка заўсёды людна — снуюць дзеці, дарослыя, фатаграфуюцца закаханыя пары. А іншы раз нават бачу кветкі, пакладзеныя на лаўку побач з пісьменнікам. Мне гэта прыемна: значыць, мая работа людзьмі ацэнена.

Што яшчэ? Вось бачыце, я ўжо нават і ўспомніць адразу ўсё не магу. Ага, ёсць яшчэ помнік Герою Савецкага Саюза Івану Кабушкіну, устаноўлены ў Баранавічах, помнік вядомаму тэатральнаму дзеячу Ігнату Буйніцкаму на яго радзіме ў вёсцы Празарокі Глыбоцкага раёна. Ганаруся таксама і тым, што ў свой час спрычыніўся да ўшанавання памяці вялікага рускага мастака Ільі Рэпіна, які любіў праводзіць свой адпачынак у Беларусі. Бронзавы помнік маёй работы ўстаноўлены яму каля ягонай дачы ў Здраўневе, што на Віцебшчыне.

***— Дарэчы, гэта не адзіная ваша работа, прысвечаная вядомым расійскім дзеячам культуры.***

— Вы маеце на ўвазе помнік Сяргею Аксакаву ў Башкартастане?

***— Так. Цікава толькі, чаму гэтая работа была даручана беларускаму скульптару?***

— Вельмі проста. Ніякай містыкі. У свой час пляменніку знакамітага пісьменніка і поўнаму цёзку, кампазітару Сяргею Аксакаву, калі вярнуўся ў Расію з Кітая як эмігрант, забаранілі пражыванне ў Маскве. І ён выбраў Мінск, пераехаўшы сюды з сям’ёю. Дык вось з яго дачкою Вольгай Сяргееўнай мы разам працавалі ў мастацкім музеі. Пасля смерці бацькі Вольга Сяргееўна папрасіла мяне зрабіць яму надмагільны помнік.

Я зрабіў — і забыўся. Прайшло шмат гадоў. І вось аднойчы звоніць мне жанчына, прадстаўляецца, што яна ўнучка кампазітара Сяргея Аксакава і запрашае мяне па даручэнні башкірскіх улад у Башкартастан на міжнародныя аксакаўскія

святы. Аказваецца, я пра сваю работу запамятаваў, а вось прадстаўнікі роду Аксакавых не забыліся.

Я, канечне, быў крануты такой увагай і з задавальненнем даў згоду на ўдзел у гэтых святах. І прыехаў туды не з пустымі рукамі — на ўрачыстым вечары ўручыў прэзідэнту Башкартастана Муртазу Рахімаву партытуры музычных твораў кампазітара Сяргея Аксакава. Гэта было пэўнай сенсацыяй, бо ў мясцовым музеі іх не мелася. А я каштоўныя рукапісы адшукаў у нашым Нацыянальным архіве.

Тады ж у мяне нарадзілася ідэя стварыць помнік пісьменніку Аксакаву. Калі я падзяліўся гэтым з удзельнікамі ўрачыстасцей, ідэя была адзінадушна ўхвалена.

А неўзабаве ў Мінск, да мяне ў майстэрню, завітаў дырэктар Уфімскага мемарыяльнага дома-музея Сяргея Аксакава, старшыня Аксакаўскага фонду, рускі пісьменнік Міхаіл Чванаў і паведаміў, што рашэнне пра ўстаноўку скульптуры прынята і на гэта будуць адпушчаны адпаведныя сродкі. А я ў сваю чаргу паказаў госцю ўжо гатовы эскіз помніка.

Цікавым было абмеркаванне гэтага эскіза. Напачатку ў мяне была такая задума: пісьменнік сядзіць у крэсле і, трымаючы ў руцэ кнігу, аб нечым задумаўся. Ля ног прымасціўся яго верны паляўнічы сабака. А побач яшчэ адно крэсла — пустое.

— А навошта гэтае крэсла? — запыталіся ў мяне.

— Ну, на той выпадак, калі нехта з наведвальнікаў музея захоча прысесці побач з пісьменнікам і таксама падумаць, памаўчаць.

— Не, — кажуць, — гэта дарагая раскоша. Давайце абыдземся без крэсла.

— А можа, і без сабакі абыдземся? — падаў нехта асцярожны голас.

Тут ужо я не вытрымаў, засмяяўся і кажу:

— Я прапаную яшчэ больш танны варыянт — пакінуць толькі сабаку. Маўляў, сам Аксакаў пайшоў на рыбалку, а сабака застаўся і чакае, пакуль ён вернецца.

Мой гумар удзельнікі абмеркавання ацанілі, і эскіз зацвердзілі. Праўда, у працэсе работы ад лішняга крэсла давялося ўсё ж такі адмовіцца. Але помнік ад гэтага горшым не стаў.

***— Вам цікава было працаваць над гэтым творам?***

— Ведаеце, калі я пабываў на радзіме пісьменніка, пасля перачытаў ягоныя кнігі, я захапіўся гэтай постаццю, пранікся да яго незвычайнай павагай і нават, калі хочаце, любоўю. Так, так, менавіта любоўю, бо многія захапленні, думкі і пачуцці пісьменніка аказаліся мне вельмі блізкія, сугучныя, роднасныя маім.

Сам працэс работы над творам доўжыўся амаль два гады. Але гэты час быў заняты не толькі творчымі момантамі, але і многімі тэхнічнымі рашэннямі. Ну, скажам, такімі. Першапачаткова вышыня помніка была вызначана ў два з паловай метры, але калі паспрабавалі віртуальна ўпісаць яго ў навакольнае асяроддзе, зразумелі, што гэтай вышыні малавата і павялічылі яе да трох метраў пятнаццаці сантыметраў. Далей. У эскізе, як я ўжо гаварыў, пісьменнік трымаў кнігу. Што гэта за кніга? Чыя яна? Каб не ўзнікала такіх пытанняў, я перавёў кнігу ў рукапіс. І яшчэ. На апошнім этапе абмеркавання раптам высветлілася, што хоць гузікі на паліто размешчаны злева і справа (так было на фатаграфіі), але зашпілена яно справа налева, па-жаночы. Можа, тады мода была такая — хто ведае. Аднак, каб не выклікаць у сучасных гледачоў ніякіх сумненняў, давялося гузікі зрэзаць.

Перарабіць прыйшлося і фігуру сабакі. Напачатку яна ў мяне глядзела на гаспадара. Але вопытныя кінолагі сказалі мне, што так сабака можа глядзець толькі на незнаёмага чалавека, а з гаспадаром яна павінна глядзець у адным напрамку. Я так і зрабіў.

Ну, а далей ужо, як кажуць, было справай тэхнікі. З эскіза скульптуру я перавёў у гліну, пасля гэтага яе адфармавалі ў скульптурным камбінаце ў Мінску. А вось бронзавую адліўку па прапанове зямляцтва беларусаў Татарстана было вырашана зрабіць у Казані. І нарэшце гатовая скульптура заняла сваё ганаровае месца ля дома-музея на радзіме пісьменніка.

Адкрываючы помнік, я сказаў так: «Свой шлях Сяргей Аксакаў пачаў у Мінску, праехаў па Беларусі, па Расіі, палюбаваўся яе прыгажосцю і багаццем, даехаў да Казані, апрануўся ў бронзу і вось прызямліўся тут, у Надзеждзіне, на гранітным п’едэстале. Я сказаў, што зраблю помнік, і я зрабіў. Мой абавязак споўнены…»

***— Іван Якімавіч, а вось я чытаў у адным з вашых інтэрв’ю, што вы марылі зрабіць помнік свайму знакамітаму земляку Льву Сапегу і паставіць яго ў Слоніме. Што ж адбылося, чаму помніка да гэтага часу няма?***

— О, гэта маё самае балючае месца. Я ж не толькі марыў, але і многае зрабіў. Распрацаваў праект, вылепіў скульптуру ў пластыліне. Адкрылі ў ашчадным банку рахунак для ахвяраванняў, а грошай сабралі — кот наплакаў. Без дапамогі дзяржавы нічога не будзе. Між тым у мясцовым бюджэце знайсці неабходныя сродкі няпроста. Ужо каторы год вядуцца размовы, а справа — ні з месца.

***— Наколькі мне вядома, у вас была яшчэ адна выдатная задума: стварыць помнік маці герояў…***

— Была, была. І ў многім я нават ужо рэалізаваў яе. Гэта — чатырохфігурная скульптурная кампазіцыя, сюжэт якой узяты з жыцця. Аднойчы ў Жодзіне у госці да Анастасіі Купрыянавай прыехалі тры вядомыя жанчыны — Ганна Гагарына, Марфа Клімук і Вольга Кавалёнак. Кожную з іх я выдатна ведаў, ляпіў з натуры. Мне заставалася толькі скампанаваць іх разам. Атрымалася, як мне здаецца, цікавая, жывая кампазіцыя. Яна дарагая мне не толькі з мастацкага боку, але і з ідэйнага. У гэтым творы я спалучыў дзве важныя тэмы: касманаўтыкі, якой даўно і страсна захоплены, і мацярынства. А яшчэ — ужо як звышзадача — скульптура сімвалізуе глыбокую, цесную дружбу двух братніх народаў, беларускага і рускага.

Разам з архітэктарам Леанідам Левіным мы падабралі для манумента адпаведную пляцоўку — па вуліцы Касманаўтаў. Вельмі прыгожае, зручнае месца. І ў нечым сімвалічнае. Па-першае, назваю вуліцы, па-другое, тым, што знаходзіцца непадалёку ад магістралі Брэст—Масква. Але… але зноў усё ўпёрлася ў недахоп сродкаў.

***— Праклятая праблема! Колькі аб яе разбілася цудоўных творчых задумак…***



*Мікалай Чаргінец, маці Юрыя Гагарына Ганна Цімафееўна і ІванМіско.*

— Дык гэта ж яшчэ не ўсё. Нядаўна мне падказалі яшчэ адну важную ідэю. Жанчына са Слуцка прыслала пісьмо, у якім просіць зрабіць помнік удовам Вялікай Айчыннай вайны. Яна кажа, што мы па праве ўславілі і нашых франтавікоў, і нашых партызанаў, і нашых падпольшчыкаў, але тым, хто перажыў жахлівую трагедыю вайны, хто вынес на сваіх плячах неймаверны цяжар пасляваеннага аднаўлення, хто ў адзіночку падымаў, ставіў на ногі дзяцей-сірот, — гэтым жанчынам помніка няма. Правільна кажа!

Праз чатыры гады мы будзем адзначаць 70-годдзе Вялікай Перамогі. Да гэтага часу, спадзяюся, пабудуюць новы будынак музея Вялікай Айчыннай. Вось каля яго і паставіць бы гэткі помнік. І я гатовы ўзяцца за яго стварэнне. Але, баюся, што і тут могуць паўстаць прыкрыя праблемы.

Мы часам асцерагаемся немаведама чаго. Ну, раней, пры Савецкай уладзе, мы ўсе былі ідэалагічна зашораныя. А цяпер? Што нам замінае зрабіць добрую справу? Асцярожнічаем.

Я вам прывяду канкрэтны прыклад. У свой час, гадоў трыццаць таму, прыязджала да нас вядомая французская мастачка Надзя Лежэ. Родам яна з Беларусі, толькі рана з’ехала ў Францыю і там выйшла замуж за мясцовага мастака Фердынанда Лежэ. І вось праз многа гадоў нашай зямлячцы захацелася пабываць на радзіме і што-небудзь зрабіць для яе карыснага. Надзя Лежэ прапанавала за ўласныя сродкі на казырку Палаца спорту зрабіць мазаіку свайго мужа. Несумненна, гэта ўпрыгожыла б не толькі палац, але і горад. Але мы збаяліся. Ну як жа — француженка, хай сабе і зямлячка, невядома, што стаіць за яе прапановай. А раптам гэта акажацца ідэалагічнай дыверсіяй. Словам, далей ад граху. Адмовіліся.

У свой другі прыезд Надзя Лежэ звярнулася да гарадскіх улад з яшчэ больш важнай прапановай — пабудаваць у Мінску выставачную залу для яе асабістых твораў і твораў яе мужа. Зноў-такі за ўласныя сродкі. Да таго ж абяцала ўсе экспанаты для будучай залы перадаць бясплатна. Здавалася, ухапіцца б за гэтую прапанову дзвюма рукамі. Не, збаяліся і тут.

Пасля наша славутая зямлячка ўсё роўна прывезла нам вялікую колькасць мазаічных работ, жывапісных палотнаў — сваіх і мужавых, столькі зрабіла каштоўных падарункаў для Беларусі, што мы ў неаплатным даўгу перад ёю. І тут мне падумалася: а чаму б нам не зрабіць падарунак у адказ? Ну хай нерэальна пабудаваць персанальную выставачную залу, але ж зрабіць сціплы помнік і ўстанавіць яго на радзіме мастачкі маглі б? Маглі б. Тым больш, што аснова такога помніка ў мяне даўно ёсць. Надзю Лежэ я ляпіў з натуры, і з таго часу даволі прыстойны эцюд захоўваецца ў маёй майстэрні. Трэба толькі невялікія сродкі, каб перавесці яго ў бронзу ці які іншы матэрыял і выбраць месца для ўстаноўкі. Аднак ніхто гэтым займацца не хоча.

***— Іван Якімавіч, давайце вернемся да больш вясёлага, да таго, што ўжо вамі зроблена і што ўзбагаціла беларускае выяўленчае мастацтва. Я маю на ўвазе дзясяткі скульптурных партрэтаў заслужаных людзей Беларусі, вядомых дзеячаў культуры. Назавіце найбольш блізкія вам работы ў гэтым жанры.***

— Я, напрыклад, ганаруся, што мне ў свой час давялося рабіць партрэты Героя Савецкага Саюза, віцэ-адмірала Георгія Халасцякова, двойчы Героя Сацыялістычнай Працы Уладзіміра Ралько, Героя Сацыялістычнай Працы Івана Куляша і іншых праслаўленых людзей. Помнымі і дарагімі засталіся ў маёй памяці сустрэчы з нашымі слыннымі пісьменнікамі Янкам Маўрам, Валянцінам Таўлаем, Міколам Арочкам. Іх скульптуры — прыемны вынік гэтых сустрэч. Але асаблівым шчасцем лічу блізкае знаёмства з такімі знакавымі постацямі нашай культуры, як Яўген Цікоцкі і Рыгор Шырма.

Дарэчы, колькі слоў мне хацелася б сказаць пра нашы сустрэчы з Шырмам. Рыгор Раманавіч на ўсе сеансы хадзіў ахвотна і надзвычай пунктуальна. Пазіраваў цярпліва і звычайна моўчкі. Часам нават прыдрэмле. А пасля спахопіцца і, каб загладзіць няёмкасць, пачынае што-небудзь расказваць.

Аднойчы размова зайшла пра ансамбль «Песняры», які тады сама што набіраў сілу, уваходзіў у моду. А Рыгор Раманавіч, як прыхільнік строгіх музычных канонаў, абсалютна не прымаў мулявінскай манеры і стылю выканання. «Гэта не наватарства, не плённы эксперымент, — абурана гаварыў ён. — Гэта зневажэнне народных традыцый, разбурэнне законаў народнага меласу. Гэта хунвэйбіны ў музыцы!»

Як бачыце, нават такія прызнаныя аўтарытэты, як Шырма, могуць памыляцца. У мастацтве нельга быць занадта катэгарычным. Сваю думку, канечне, трэба мець, але заўсёды выяраць яе меркаваннем іншых прафесіяналаў.

Прыгадваецца яшчэ адзін эпізод, звязаны з Шырмам. Эпізод, у якім ён раскрыўся трохі з дзіўнага і дужа кранальнага боку. Мы закончылі чарговы сеанс, і Рыгор Раманавіч падняўся з крэсла, падышоў да станка, стаў пільна разглядваць тое, што ў мяне атрымалася. Доўга насуплена глядзеў, а тады з нейкай скрухаю кажа — ці то мне, ці то сам сабе: «Гэта я такі стары?..» А пасля яшчэ і перад люстэркам колькі хвілін пастаяў — адцягнуў пальцамі свае калматыя бровы, пакратаў вусы, бараду. Незадаволена хмыкнуў і, нічога не кажучы, паспешліва развітаўся. А назаўтра заходзіць у майстэрню, я глянуў і ледзьве яго пазнаў — ні броваў, ні вусоў, ды і ад барады застаўся адзін знак.

— Што вы нарабілі? — прыйшоў я ў адчай.

— Затое намнога памаладзеў!

— Рыгор Раманавіч, пакуль вы не вернеце свой ранейшы воблік, ляпіць не буду, — катэгарычна заявіў я. — Вы ж страцілі ўсю сваю адметнасць, усю каларытнасць.

Шырма спачатку шчыра расстроіўся, але пасля ўспрыняў маю катэгарычнасць з разуменнем. Развіталіся мы па-сяброўску. А недзе праз паўгода я вярнуўся да працы над незакончаным эцюдам, і бюст патрыярха нашай культуры быў закончаны.

Калі цікава, магу яшчэ крыху расказаць пра Станюту.

***— Канечне, раскажыце.***

— Стэфанія Міхайлаўна ніколі не прыходзіла ў майстэрню адна. Заўсёды з нейкімі маладымі дзяўчатамі — то актрысамі, то журналісткамі. Заўсёды ажыўленая, вясёлая, гарэзлівая. Жартавала:

— Эх, Іван, была б я маладзейшая — ты ад мяне не выкруціўся б.

Ляпіць яе было няпроста: выседзець доўга ў адной позе яна не магла. Акрамя таго то смяялася, то хмурылася. Але якая цікавейшая была фактура!

Аднак праходзіць адзін сеанс, другі, трэці, а вобраз артысткі мне не даецца. Разумею: нешта тут не тое, а што — даўмецца не магу. Прашу прынесці яе любімыя фатаграфіі. На адной з іх я ўбачыў Стэфанію Міхайлаўну крыху маладзейшую, з прыгожымі натуральнымі валасамі. І тут мне стала ўсё зразумела. Як толькі яна зняла парык, работа мая зрушылася з мёртвай кропкі. А сама Стэфанія Міхайлаўна прызналася мне пасля, што гэты злашчасны парык яна больш ні разу не адзявала.

***— Іван Якімавіч, вось вы зараз сказалі, што бываюць сітуацыі, калі вобраз не даецца. Што гэта значыць?***

— Ведаеце, у нашай справе дабіцца партрэтнага падабенства з натураю — не галоўнае. Раскрыць характар, лёс, паказаць асобу — вось звышзадача. Як я яе вырашаю? Ды рознымі спосабамі. Перш за ўсё да свайго героя трэба прывыкнуць, ужыцца ў яго свет, ведаць яго звычкі, схільнасці, спазнаць, што ён любіць, што ненавідзіць. Часам бывае, што герой ну аніяк не хоча адкрывацца. Тады не грэх і чарку з ім узяць, і разам у лазню схадзіць. І што немалаважна — улюбіцца ў яго. Калі ён адкажа ўзаемнасцю — будзе праца. Калі не — пішы прапала.

***— Вы сваіх герояў выбіраеце самі ці гэта, як правіла, заказы?***

— Па-рознаму бывае. Прыкладна палавіна маіх работ — гэта мой выбар, маё асабістае жаданне. Яно прадыктавана альбо шчырай, глыбокай сімпатыяй да чалавека, альбо асаблівай каларытнасцю натуры. Астатнія работы — заказныя.

Чым выгадны заказ? Ты працуеш і ведаеш, што работа твая будзе запатрабавана, а аплата — гарантавана.

***— А калі з навязаным героем не адбудзецца кантакту?***

— Ведаеце, кепскім людзям бюсты не заказваюць. А з любым добрым чалавекам кантакт заўсёды можна знайсці. Калі гэтага не адбываецца, то я вінавачу не героя, а самога сябе. На шчасце, у маёй практыцы такога не здаралася. Хаця не, быў адзін выпадак, калі я біўся, можа, з паўгода, а работа так і не атрымалася. Несімпатычным аказаўся мне чалавек, не хачу нават называць яго прозвішча. З таго часу я ляплю толькі тады, калі натура мне падабаецца.

***— Працэс працы над творам шмат займае часу? Няўжо можа доўжыцца да паўгода?***

— Бывае і больш. Усё залежыць ад натуры, ад абставін, ад майго настрою, нават ад надвор'я. Вось тут на паліцах стаяць дзясяткі маіх работ і пра кожную з іх я магу расказаць цэлую гісторыю — калі гэта было, пра што мы з чалавекам гаварылі, якая стаяла за акном пагода… Гэта мае своеасаблівыя запісныя кніжкі.

***— Аднойчы вы сказалі: «У кожным маім героі ёсць часцінка мяне самога»…***

— Так яно і ёсць. Таму што калі ты працуеш над нейкім партрэтам, то міжволі перадаеш яму свае пачуцці, свой настрой. І калі ты па натуры злы, не любіш людзей — гэта абавязкова перадасца ў творы. У нас быў адзін скульптар, дык ты як яго ні прасі, каб ён зрабіў чалавека з усмешкай, ён у яго ўсё роўна атрымоўваўся хмурны, пануры.

***— Цяпер мне зразумела, чаму ў вас столькі скульптур, твары якіх праменяцца дабрынёй і цёплай усмешкай.***

— Справа ў тым, што я сваіх герояў сапраўды люблю.

***— Іван Якімавіч, а ці любіце вы займацца грамадскай работай? Ведаю, што вы шмат гадоў узначальвалі Рэспубліканскі мастацка-экспертны савет па манументальным мастацтве, цяпер вы ў ім — намеснік старшыні.***

— Слова «люблю» можа тут і не зусім падыходзіць. Гэта работа, якая адымае нямала часу, а яшчэ больш сілы і нерваў. Але я разумею яе неабходнасць і важнасць і таму адношуся да сваіх абавязкаў сур'ёзна, адказна. Дзякуючы савету ўдаецца вырашаць многія складаныя праблемы.

Ну вось хоць бы такі прыклад. У Мінску на выездзе з Партызанскага праспекта на Магілёўскую шашу ўстаноўлены манумент у гонар беларускіх партызанаў. Вы, напэўна, не раз яго бачылі. Аднак першапачатковы варыянт яго быў інакшы. Абмеркаванне эскізнага праекта на пасяджэннях нашага савета ішло вельмі бурна, эмацыянальна, было выказана шмат розных заўваг і прапаноў. У выніку цэнтральную фігуру манумента яе аўтарам давялося перарабіць, а шмат якія дэталі падправіць.

Праўда, не заўсёды наша работа прыносіць жаданы эфект. Мы вельмі многа часу патрацілі на абмеркаванне праекта арганізацыі ландшафту вакол Нацыянальнай бібліятэкі. Там прадумана ўсё да дробязей, прадугледжана ўстаноўка каля сарака скульптурных кампазіцый у камені і бронзе. Іх тэматыка ахоплівае самыя розныя аспекты нашай гісторыі. Гэта быў бы выдатны музей пад адкрытым небам. Быў бы… Але яго пакуль няма.

Нядаўна мы зноў абмяркоўвалі гэту праблему на савеце. Прапанавалі ўладам: калі не хапае сродкаў, давайце правядзём міжнародны пленэр, запросім на яго лепшых замежных скульптараў і іх сіламі вырашым непад'ёмную праблему. Канечне, справа гэтая турботная — трэба людзей прыняць, забяспечыць іх жыллём, харчаваннем, неабходнымі матэрыяламі, але ж і надзвычай выгадная. Усе работы будуць выкананы намнога танней і больш якасна. Дай бог, каб улады да гэтай прапановы прыслухаліся.

А што бывае, калі да нас не прыслухоўваюцца, калі нас ігнаруюць, раскажу таксама. Колькі гадоў таму выклікае мяне міністр культуры і кажа: «Трэба зрабіць

выязное пасяджэнне савета ў Полацку, паглядзець і абмеркаваць помнік Еўфрасінні Полацкай». Паехалі мы, паглядзелі. Па сваіх мастацка-выяўленчых якасцях помнік абсалютна слабы, памерам малы, не ўпісваецца ў навакольнае асяроддзе. Словам, тысяча і адзін недахоп. Але ж помнік ужо ўстаноўлены. Што рабіць? Да гонару членаў савета, на кампраміс са сваім сумленнем яны не пайшлі, прынялі адзінадушнае рашэнне: дэманціраваць. Аднак зрабіць гэта Міністэрства культуры не адважылася.

Хачу, праўда, зазначыць, што такое ў нашай рабоце здараецца рэдка. Часцей за ўсё на абмеркаванне нас запрашаюць своечасова, на стадыі праекта, і нашыя заўвагі прымаюць да ўвагі. Вось, скажам, зусім нядаўна правялі выязное пасяджэнне Мінскага абласнога экспертнага савета ў Барысаве. Тут да 200-годдзя вайны з Напалеонам вырашылі стварыць цэлы мемарыял. Жаданне пахвальнае, але аднаго жадання мала. Эскізы пакуль на ўзроўні самадзейнасці. А гэта ж павінен быць мемарыял міжнароднага ўзроўню. Таму я прапанаваў перадаць усе матэрыялы на разгляд рэспубліканскага савета і падключыць да рэалізацыі праекта сталічныя сілы. Барысаўскія ўлады з удзячнасцю пагадзіліся з гэтым.

***— А ў цэлым, Іван Якімавіч, узровень і стан нашага манументальнага мастацтва вас задавальняе?***

— Цяжка адказаць адназначна. І задавальняе, і не задавальняе. У нас, безумоўна, ёсць нямала выдатных і помнікаў, і мемарыялаў. Дастаткова назваць Хатынь, Брэсцкую крэпасць-герой, скульптурную кампазіцыю на плошчы Якуба Коласа, помнік Янку Купалу ў купалаўскім скверы… А што можна прыгадаць з гістарычных помнікаў? Фантанчык «Хлопчык з лебедзем» — і больш нічога няма. І гэта дрэнна, бо помнікі — неад'емная частка нашай гісторыі, нашай культуры. Здаецца, усе гэта разумеюць, і тым не менш і сёння ў нашай краіне няма зацверджанага ўрадам плана манументальнай прапаганды. Таму нашыя жывапісцы, графікі, скульптары не ведаюць, што яны будуць рабіць у бліжэйшай перспектыве.

## Дарога да зорак

***— Іван Якімавіч, нікольні не змяншаючы вартасці і значнасці зробленага вамі ў галіне манументальнага мастацтва, усё ж галоўнай, вызначальнай у вашай творчасці была і застаецца тэма космасу. Часам вас нават паўжартам, паўсур'ёзна называюць зорным скульптарам. Калі і як нарадзілася ў вас захапленне гэтай тэмай?***

— Нарадзілася тады, калі ў Савецкім Саюзе ўпершыню ў свеце быў запушчаны штучны спадарожнік Зямлі. Магу нават назваць дакладную дату — 4 кастрычніка 1957 года. Менавіта ў гэты дзень я зрабіў свой першы касмічны малюнак: на зямным шары стаіць волатаўская постаць чалавека, а з яго рукі вылятае спадарожнік. Малюнак быў надрукаваны ў газеце «Калгасная праўда».

А потым, калі паляцеў Юрый Гагарын, я пачаў збіраць фатаграфіі касманаўта і ўсё, што звязана з космасам, фарміраваць своеасаблівы архіў. Аднойчы, будучы ў Маскве, я нават загарэўся ідэяй пабываць у Зорным гарадку, але дасведчаныя людзі сказалі мне, што трапіць туды надзвычай складана, патрэбны спецыяльны пропуск. І я на нейкі час прыцішыў сваё захапленне касмічнай тэмай.

З новай сілай яно ўспыхнула пасля смерці Гагарына. 27 сакавіка 1968 года я ўключыў радыё і пачуў жахлівае паведамленне: «Сёння трагічна абарвалася жыццё першага касманаўта планеты Зямля Юрыя Аляксеевіча Гагарына». Гэта было сапраўдным шокам. Я прыйшоў у сваю майстэрню (тады яна яшчэ месцілася ў мастацкім музеі) і, расклаўшы гагарынскія фатаграфіі, пачаў працаваць. Ляпіў, ледзь стрымліваючы слёзы. Ляпіў на адным дыханні, забыўшыся на ўсё. Пад канец дня партрэт быў гатовы.

Назаўтра я перавёў скульптуру ў гіпс і паставіў сушыцца на сонцы ў двары музея. А сам пайшоў паабедаць. Вяртаюся назад — у двары поўна людзей, дым, пажарныя машыны. Аказваецца, пакуль я адсутнічаў, па нейкай прычыне загарэліся падсобныя памяшканні, і мая работа апынулася ў самым эпіцэнтры пажару. Разгрэбшы баграмі галавешкі, пажарнікі знайшлі скульптуру, але выгляд яе быў сумны. З белай яна стала чорнай і моцна пашкоджанай. Я прынёс яе ў майстэрню, і яна доўга яшчэ стаяла там, пакалечаная, пахнучы гарэлым. Спатрэбілася нямала часу, каб я змог знайсці ў сабе сілы і ўзяцца яе аднаўляць.

А ў 1980 годзе ў Мінск прыехала Ганна Цімафееўна Гагарына. Я пазнаёміўся з ёю і запрасіў да сябе ў майстэрню.Убачыўшы абгарэлы бюст свайго сына, Ганна Цімафееўна заплакала: «Юрка паўтарыў свой лёс у другі раз…» — і папрасіла падарыць партрэт, які ёй вельмі спадабаўся, для музея роднага горада: «Хачу, каб ён быў заўсёды побач».

Я паабяцаў, але не думаў, што выканаць сваё абяцанне мне будзе так няпроста. Скульптура ж — не жывапісная карціна, упакаваў і павёз. Гіпсавы партрэт трэба перавесці ў бронзу, а для гэтага неабходны спецыяльны заказ, немалыя сродкі. У рэшце рэшт гатовую адліўку ў чамадане не павязеш, патрэбны нейкі транспарт. Словам, без дапамогі дзяржавы не абыдзешся. Кінуўся я з просьбаю ў Вярхоўны Савет рэспублікі, а там мне сказалі: «Сам ляпіў — сам і вязі»… У органах культуры, куды я не раз звяртаўся, толькі рукамі разводзілі: маўляў, сродкаў няма, трэба пачакаць.

Чакаў я, чакаў і нарэшце наважыўся напісаць пісьмо Прэзідэнту краіны Аляксандру Лукашэнку. Толькі пасля гэтага Міністэрства культуры раптам зацікавілася маёй работай і ўсё, што я прасіў, было выканана поўнасцю і без цяганіны. Да сямідзесяцігоддзя з дня нараджэння Юрыя Гагарына на ягонай радзіме была адкрыта мая персанальная выстава, прысвечаная касмічнай тэме, а адліты ў бронзе бюст першага касманаўта планеты ад імя кіраўніка дзяржавы быў перададзены мемарыяльнаму музею горада Гагарына.

***— З сям'ёй першага касманаўта, я ведаю, у вас склаліся асабліва цесныя, цёплыя сувязі. Калі і як яны пачаліся?***

— Пачаліся са знаёмства з Ганнай Цімафееўнай. Мы неяк адразу праніkліся адно да аднаго сімпатыяй і давер'ем. Яна была ў маёй майстэрні больш за дваццаць разоў. А гэта пра многае гаворыць. Я ляпіў яе з натуры, гіпсавы партрэт захоўваецца зараз у маім архіве. А я хачу, каб ён стаў даступным для ўсіх і, дасць бог, можа гэтая мара калі-небудзь збудзецца.

Ну вось… А праз Ганну Цімафееўну я пазнаёміўся і з астатнімі членамі сям'і. Я абавязкова заходзіў да гэтых шчырых, гасцінных людзей, калі бываў на Смаленшчыне. У мяне захавалася вялікая колькасць іх фотаздымкаў, скульптурных эскізаў. На вялікі жаль, цяпер ужо нікога з іх няма ў жывых. Мне выпаў — не ведаю нават як тут лепш сказаць — пачэсны ці горкі абавязак зрабіць сям'і Гагарына адзіны мемарыял — бацькам, братам Барысу і Валянціну і сястры Зоі. Гэта ўяўляе сабой гранітную стужку, на якой умацаваны іх бронзавыя барэльефы.

***— Вернемся да касмічнай тэмы. Хто з касманаўтаў пасля Гагарына стаў аб'ектам вашай увагі?***

— Клімук. Пасля таго, як ён злятаў у космас, Пётр Ільіч стаў у нас нацыянальным героем. І вось аднойчы дазнаюся: Клімук прыязджае ў Мінск. Але як з ім сустрэцца, калі яго жадаюць бачыць дзясяткі розных калектываў, запланавана безліч выступленняў і гутарак? Дапамог родны камсамол, з якім я тады быў у вялікай дружбе. Нейкім цудам Пятру ўдалося выкраіць паўгадзінкі, каб заскочыць да мяне ў майстэрню, але і за гэты кароткі час я паспеў зрабіць эцюд. Пазней, калі ўжо ажыятаж вакол асобы Клімука крыху спаў, ён, будучы ў Мінску, заходзіў папазіраваць мне яшчэ колькі разоў. І толькі пасля гэтага я зрабіў ягоны скульптурны партрэт, які, дарэчы, яму вельмі спадабаўся. І, можа, таму, калі Клімук стаў ужо двойчы Героем Савецкага Саюза і было прынята рашэнне паставіць бронзавы бюст на

ягонай радзіме, Пятро папрасіў, каб гэта зрабіў я. Для мяне гэта — і вялікі гонар, і яшчэ большая адказнасць. Рады, што ўсё атрымалася належным чынам.

З гадамі наша знаёмства перарасло ў добрае сяброўства. Пятро любіць бываць у маёй майстэрні. Мы тады распальваем грубку, усаджваемся побач, ля жывога агню, і ціха, няспешна гамонім.

З Клімука, па праўдзе кажучы, і пачалася мая сапраўдная касмічная эпапея. Ён, калі стаў начальнікам палітаддзела атрада касманаўтаў, запрасіў мяне ў Зорны гарадок, пазнаёміў са сваімі сябрамі. А самае галоўнае — дабіўся ў начальства, каб мне дазволілі ляпіць герояў космасу. Тады гэта было вельмі няпроста, сакрэтнасць захоўвалі самую строгую. Ва ўсім: і калі будзе чарговы палёт, і хто паляціць, і хто дзе жыве. Я ж прысутнічаў амаль на ўсіх нарадах, практычна чуў усе дзелавыя размовы і мог беспамылкова вызначаць, хто паляціць наступны. І ні разу не памыліўся! Больш таго, ляпіў іх яшчэ да палёту. І правільна рабіў, таму што пасля палёту ім ужо было не да пазіравання.

Вельмі важнай старонкай гэтай своеасаблівай эпапеі стала сустрэча, а пасля і цесная дружба з Уладзімірам Кавалёнкам — другім нашым знакамітым касманаўтам. Я зрабіў некалькі эцюдаў з натуры, вялікі скульптурны партрэт, які захоўваецца зараз у майстэрні, а самае галоўнае — на радзіме касманаўта ўстаноўлены бронзавы бюст маёй работы.

Так вось незаўважна, неяк само сабой касмічная тэма захапіла мяне цалкам, я літаральна захварэў ёю. Зорны стаў маім другім домам. Я ездзіў туды кожны месяц і заставаўся на 10—20 дзён. Ляпіў скульптурныя партрэты ўсіх касманаўтаў: спачатку айчынных, а пасля і замежных, тых, што лёталі па праграме Інтэркосмасу, — паляка Міраслава Гермашэўскага, француза Жана-Луі Крэцьена, кубінца Тамайя Мэндэса, румына Дзмітрыу Прунарыу, чэха Уладзіміра Рэмека…

Хаця, ведаеце, што бюста Валянціны Церашковай да гэтага часу я так і не зрабіў. Шмат разоў дамаўляліся, і ўсё па нейкіх прычынах адкладвалася. Але я абавязкова зраблю. Таму што Валянціна Уладзіміраўна — першая ў свеце жанчына-касманаўт і таму, што яе бацькі з Беларусі.

З усімі касманаўтамі, якіх я ляпіў, у мяне засталіся добрыя адносіны. Бываючы ў Мінску, яны лічаць сваім абавязкам, а, можа, прыемнай патрэбай пабываць у маёй майстэрні. Вось тут, дзе вы зараз седзіце, на гэтым крэсле з гербам, сядзелі ў свой час Георгій Берагавы, Валерый Румін, Віталій Севасцьянаў, Віктар Савіных, Юрый Раманенка… Я ўсіх і не пералічу.

Помню, заехаў неяк да мяне кубінскі касманаўт. Я паказаў яму сваю касмічную галерэю. Ён доўга, уважліва разглядаў кожны партрэт, а пасля і кажа: «Гэта ж усё мае сябры. Мне так прыемна быць у іх кампаніі. Не трэба мне больш ніякай культурнай праграмы. Я застаюся тут…»

***— Іван Якімавіч, а як вам працавалася з касманаўтамі? Хто і чым вам больш за ўсё запомніўся?***

— Працавалася з імі лёгка. Яны прывучаныя да цярплівасці, да дысцыпліны. Скажаш сядзець вось так, у адпаведнай позе — могуць гадзіну не зварухнуцца. І тым не менш без цеснага кантакту, без блізкага знаёмства з чалавекам нічога не атрымаецца. Мне ж трэба, паўтаруся, перадаць не толькі знешняе падабенства, але і духоўны, унутраны свет, стварыць вобраз. Таму мне цікава бывае назіраць, як гэты чалавек пасля здзіўлена разглядвае свой гатовы скульптурны партрэт, як бы адкрываючы нешта новае, невядомае ў самім сабе.

Аднойчы мне давялося быць у лазні разам з Пятром Клімуком. Нас прыйшло чалавек пяць. Хто прылёг на палку, хто ўжо хвошчацца венікам. Пятро ж як сеў у адной позе, так і застыў. А я не магу адарвацца ад яго каржакаватай, мускулістай фігуры. Бачу, як кропля поту выступіла на лбе, паволі паплыла ўніз, па носе, скацілася на вусны, на падбародак і ўпала, прачарціўшы рэльефна, амаль адчувальна яго валявы, прыгожы профіль. Пасля гэтага я зразумеў як я буду ляпіць Клімука, і работа пайшла лёгка, натхнёна.



*З лётчыкам-касманаўтам Пятром Клімуком у майстэрні.*

Хачу сказаць, што ўсе касманаўты — людзі цікавыя. Іх жа адбор ідзе вельмі карпатліва. Абы-хто сюды не трапіць. Знешне яны ўсе розныя, а ўнутрана, калі гаварыць чэсна, усе чамусьці, як мне падалося, нечым падобныя. Падобныя да Гагарына. Пераймаюць яго паводзіны, яго ўсмешку, нават прычоску стараюцца рабіць ягоную. І трэба пільна, не адзін дзень углядацца, каб выявіць сутнасць чалавека.

***— Вы сказалі, што раней бывалі ў Зорным ледзь не кожны месяц. А як цяпер?***

— Пасля развалу Савецкага Саюза я не быў там больш як дзесяць гадоў. Чаму не быў? Таму што ўсё стала дарагім, недаступным для мяне — і білеты на дарогу, і пражыванне ў гасцініцы. Гэта раней усё каштавала капейкі. А цяпер… дзяруць з нас як з іншаземцаў. І вось толькі мінулай вясной нарэшце зноў наведаўся да сваіх даўніх сяброў. Мой добры знаёмы бізнесовец на сваёй машыне завёз мяне ў Маскву і прывёз назад. Ён жа аплаціў і пражыванне ў гасцініцы. Пражыў там пятнаццаць дзён. Сустрэлі мяне добра. Усе ж — знаёмыя. І новы начальнік Цэнтра падрыхтоўкі касманаўтаў Васіль Цыблеў таксама. Сустрэліся, абняліся. Запрашае прыехаць на лета. Работы, кажа, хопіць не на адзін месяц — падрасло ўжо новае пакаленне мужных хлопцаў, якія гатовы штурмаваць неба. Адзін мой знаёмы касманаўт так і сказаў мне: «Цяпер ужо, Іван, давядзецца табе ляпіць мяне разам з сынам». Што ж, я гатовы ехаць і заняцца сваёй любімай працай, але хто мне аплаціць немалыя выдаткі? Сам я іх не пацягну.

Калі пачынаеш пра гэта думаць — становіцца сумна. На жаль, касмічная тэма цяпер страчвае сваю рамантычную прыцягальнасць, мала каго цікавіць. Не так даўно я сутыкнуўся з такім фактам. Калі я аддаваў у праяўку свае фатаграфіі, дзеля цікавасці падышоў да маладой супрацоўніцы і паказаў ёй партрэт Клімука. «Ці ведаеце вы, хто гэта такі?» — папытаўся. Дзеўчынё толькі паціснула плячыма. Вось вам суровая рэальнасць! Вырасла цэлае пакаленне, якое ўжо нічога не ведае пра нашых касманаўтаў.

І ўсё ж я не губляю аптымізму, не апускаю рук. І веру, што з дапамогай добрых людзей яшчэ не раз пабываю ў Зорным, яшчэ падоўжу сваю касмічную

галерэю. Гэта тэма, з якой я ўжо, відаць, не змагу расстацца да канца сваіх дзён. У гэтым мяне актыўна падтрымлівае і мой сябра Пятро Клімук. Днямі ён прыслаў мне такую тэлеграму: «Іван, прыйдзе час, калі ўсё, што зроблена тваімі рукамі, атрымае дастойную ацэнку».

Разумныя людзі кажуць: за космасам — будучыня. Хто ім будзе валодаць — будзе валодаць і светам. У тым сэнсе, што найноўшыя дасягненні ў галіне навукі і тэхнікі, якія дазваляюць узнімацца ў касмічныя вышыні, дазволяць заваёўваць вяршыні і ў астатніх галінах зямной цывілізацыі.

А я мару вось аб чым. Каб некалі, і не ў далёкай перспектыве, а ў бліжэйшай будучыні, мая майстэрня стала музеем касманаўтыкі. Экспанатаў тут хопіць на два паверхі. І я гатовы ўсё гэта бясплатна перадаць уладам роднага горада, каб толькі яны праніkліся гэтай ідэяй. Тады я мог бы лічыць, што галоўную справу свайго жыцця добрасумленна выканаў.

## Жыццё пражыць — не поле перайсці

***— Іван Якімавіч, а што вы ўкладваеце ў паняцце «сэнс жыцця»?***

— О, пра гэта многа можна гаварыць. А калі коратка, то галоўнае заключаецца ў тым, каб не змарнаваць адведзеныя табе лёсам гады, каб рэалізаваць дараваныя Богам здольнасці.

***— І як гэта лепш зрабіць?***

— Рэцэпт тут адзін — праца, праца і яшчэ раз праца. Нехта з вялікіх сказаў, што геній — гэта на 90 працэнтаў праца і толькі астатняе — прыродныя здольнасці. Цалкам з гэтым згодны. Ведаеце, я і дзясятай долі не зрабіў бы таго, што зрабіў, калі б аддаваўся ляноце, гультайству. Я ж сабе не дазваляў такога ніколі. Працаваў з ранку і да позняга вечара. А ў маладыя гады прыхопліваў і выхадныя дні. Мой жыццёвы дэвіз: рукі павінны быць кожны дзень у гліне. Гэта цяпер мяне выбілі з каляіны — другі год рамантуюць майстэрню. Хаця можна было б зрабіць за два месяцы. Складваецца ўражанне, нібыта пэўныя зацікаўленыя сілы спрабуюць мяне адсюль выжыць. Не дачакаюцца!

***— А даўно вы ў гэтай майстэрні?***

— Ды ўжо гадоў сорак. Я чаму сказаў «не дачакаюцца»? Таму што гэта ўжо, так бы мовіць, намоленае месца. У маёй майстэрні перабывалі сотні вядомых, праслаўленых людзей. Іх думкамі, іх пачуццямі літаральна прасякнуты гэтыя сцены. А шматлікія скульптуры, што стаяць на паліцах? У іх сканцэнтравана высокая чалавечая энергія, сіла чалавечага духу. Вось чаму кожны, хто сюды прыходзіць, адзначае тут асаблівую аўру, незвычайную ўтульнасць. Гэта цяпер гора-будаўнікі ўсё разбурылі, парушылі. Але нават сярод гэтага бедламу, гармідару захаваўся адзін астравок, дзе мая душа знаходзіць утульнасць і камфорт. Я маю на ўвазе вось гэтую грубку. Яна, як бачыце, простая, без усялякіх упрыгожанняў, але калі я запальваю ў ёй дровы, прысаджваюся бліжэй да жывога агню, мне адразу становіцца цёпла, добра, знікаюць прэч непрыемныя думкі…

І яшчэ адну адметнасць мае гэтая майстэрня. Яна ж размешчана ў гістарычным цэнтры горада. Нядаўна побач будаўнікі капалі траншэю і на глыбіні трох метраў выявілі цагляную муроўку. Я не паленаваўся, адбіў сабе адну цагліну і прынёс сюды, у майстэрню. Пазней паказаў спецыялістам, і яны вызначылі, што гэта плінфа — цагліна, значна большых памераў, чым сучасная, і больш трывалая. З такога матэрыялу будавалі дамы ў XII—XIII стагоддзях. І вось гэтая старажытная сцяна праходзіць проста пад маёй майстэрняй, яна як бы знаходзіцца на своеасаблівых гістарычных арэлях, а злева і справа — загадкі, таямніцы, легенды. Сам Гасподзь, відаць, вызначыў тут месца для творчасці.

***— Іван Якімавіч, а ваш галоўны «будаўнічы» матэрыял?***

— Гліна.

***— Не пластылін, не гіпс, не бронза?***

— Гэта ўсё выкарыстоўваецца ўжо значна пазней. А на самым пачатку — гліна. Гэта самы высакародны, самы ўдзячны матэрыял. І ён павінен быць выдатнейшай якасці.

***— А дзе вы такую гліну знаходзіце?***

— Ёсць яна, прычым зусім някепская, і ў нас, у Беларусі. Але я люблю ленінградскую — зеленаватую, надзвычай пластычную. Гліну трэба капаць летам. Яна павінна перазімаваць на вуліцы, час ад часу патрэбна паліваць яе вадой. І толькі тады яна будзе прыдатная для работы.

***— Вы здабываеце гліну кожны год?***

— Ды не. Дастаткова адзін раз прывезці дзве тоны, і гэтага хопіць амаль на ўсё жыццё. Гліна мае адну выдатную якасць: чым яе болей мнеш, лашчыш — тым яна лепшай, мякчэйшай становіцца. Для адной работы трэба перамяць паўтоны гліны. Рукамі. Канечне, гэта цяжка. Але калі любіш сваю справу, то на ўсе цяжкасці забываеш.

***— У друку паведамлялася, што падчас леташніх ліўневых дажджоў вашу майстэрню моцна заліло. Што было пашкоджана?***

— Многае. Я якраз рыхтаваўся да рамонту і таму амаль увесь свой архіў — а гэта кнігі, унікальныя фатаграфіі, каштоўныя негатывы, шматлікія замалёўкі — паклаў на падлогу, каб вывезці на дачу. А тут нечаканая паводка, і вада з Нямігі дайшла ажно сюды, затапіла майстэрню. Канечне, вельмі шкада пашкоджанага. Але што зробіш?

***— Гэта быў для вас, відаць, самы драматычны дзень?***

— Напэўна. Але, баюся, што самы чорны дзень чакае мяне яшчэ наперадзе. Гэта калі мяне выселяць з маёй майстэрні.

***— Няўжо ўсё так сур'ёзна?***

— Куды ўжо болей. Справа ў тым, што ўлады касцёла, які стаіць тут па суседстве, хочуць пашырыць сваю тэрыторыю. Я іх разумею, але няўжо нейкіх сто квадратных метраў вырашаюць справу? Можна ж акуратна абысці майстэрню, якая, дарэчы, сама па сабе з'яўляецца гістарычна-архітэктурным помнікам, бо пабудавана ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Буду гаварыць і з ксяндзом, і з гарадскімі ўладамі — можа ўсё ж дамовімся.

***— А самы шчаслівы дзень можаце прыгадаць?***

— Самыя шчаслівыя дні былі ў дзяцінстве. Як цёпла, як сонечна ўспамінаецца цяпер маё маленства, праведзенае сярод маляўнічай прыроды, калі ты меў з навакольным светам арганічную, непарыўную сувязь і разам з тым быў вольны, як птушка.

***— А што, пазней даводзілася, вобразна кажучы, наступаць на горла ўласнай песні?***

— Не, нечага такога асабліва не прыпомню. Хаця некаторыя мастакі абураюцца, што, маўляў, іх раней, пры Савецкай уладзе, гвалцілі сацыяльнымі заказамі, душылі цэнзураю. А мастак павінен быць вольным, тварыць так званае чыстае мастацтва. Ну вось цяпер нарэшце далі нам поўную свабоду — ні заказаў, ні цэнзуры. Твары што хочаш. А я не хачу такой свабоды! Я павінен прыходзіць у майстэрню і кожны дзень працаваць, а не ламаць галаву, дзе мне які рубель здабыць. Раней я ў студзені ведаў, што буду рабіць у снежні. Пра гэта клапаціўся Саюз мастакоў, Мастацкі фонд. Дзе яны цяпер? Ледзь выжываюць самі.

Канечне, я без работы не сяджу. Нешта мне, па старой памяці, заказваюць, нешта я раблю сам. Аднак большасць работ не запатрабавана…

***— Вы хацелі б, каб Савецкі Саюз вярнуўся?***

— Не падумайце, што я ідэалізую мінулае, так ужо па ім настальгірую. Не. Ёсць свае перавагі, і вельмі істотныя, і ў нашым цяперашнім дні. Але хацелася б, каб мастак быў трохі больш сацыяльна абаронены.

***— А як вы адносіцеся да стварэння Саюзнай дзяржавы?***

— Станоўча адношуся. Мы — два братнія народы і павінны жыць у дружбе. Ад гэтага — узаемная выгада, і палітычная, і эканамічная, і культурная. Нам, творчым людзям, прасцей было б наведваць адзін аднаго, наладжваць сумесныя выставы, абменьвацца мастацкімі дасягненнямі.

Наогул усе людзі павінны жыць у міры і згодзе. Каб можна было прыходзіць да чалавека любой нацыянальнасці, як да свайго сябра. Кубінскі касманаўт Тамайя Мэндэс аднойчы мне сказаў так: «Зямля зверху такая маленькая! Сушы не так і многа, усё больш вада. І нідзе ніякіх межаў. Вось сабраць бы кіраўнікоў усіх краін разам, падняць у космас, і хай бы яны паглядзелі на ўсё гэта з вышыні і задумаліся, як нашу зямлю, такую прыгожую і такую даверлівую, абараніць ад разбурэнняў і смертаносных войнаў, захаваць і перадаць у першароднай красе нашчадкам».

***— Вам з космасу на нашу зямлю паглядзець не ўдалося. А зблізку?***

— Зблізку я паглядзеў на многія краіны. Вялікае ўражанне зрабілі Егіпет, В'етнам, Японія, Ліван…

Ліван таму, што ў гэтай краіне я пражыў цэлы месяц. Удзельнічаў у міжнародным пленэры, прысвечаным космасу. Я зрабіў з белага італьянскага мармуру вялікі зямны шар, на адным баку якога рэльефна намаляваў контуры Лівана, а на другім — партрэт Юрыя Гагарына. Ліванцам мая скульптура спадабалася. Адразу ж устанавілі на гарадской плошчы. А ў газетах з гордасцю напісалі, што Ліван — краіна маленькая, але бачна з космасу.

У Японіі я гасцяваў па запрашэнні іхняга касманаўта Таёхіра Акіяма. Я расказаў яму, што з дзяцінства марыў убачыць мясціну, адкуль устае сонца. Японец ветліва, з разуменнем паківаў галавою і падняў мяне на самы высокі ў Токіа будынак. Паказаўшы рукою у бок шырокага заліва, ён сказаў: «Сонца ўзыходзіць там. І яшчэ крыху далей…»

А яшчэ я пазайздросціў японцам, якія з такой павагай і любоўю адносяцца да сваёй гісторыі, сваёй культуры, з такой ашчаднасцю захавалі сваю нацыянальную адметнасць і самабытнасць. Нам у гэтым ёсць чаму павучыцца.

У Егіпце мяне ўразіла старажытная Александрыйская бібліятэка. Яе ўнікальнае кнігасховішча, арыгінальныя чытальныя залы, мастацкае афармленне інтэр'ераў. Я там зрабіў сотні фотаздымкаў і перадаў нашым архітэктарам, якія будавалі Нацыянальную бібліятэку.

А вось В'етнам запомніўся адным кур'ёзным выпадкам. Там я ляпіў іхняга касманаўта Фам Туана. Вечарам, калі праца была скончана, мы выпілі па чарцы рысавай гарэлкі. Жонка касманаўта прынесла закуску, нешта смажанае. Я паспрабаваў — смачна. «Як ты думаеш, што гэта?» — пытаецца гаспадар. «Грыбы, — кажу. — Падобныя да нашых баравікоў». — «А вось і не адгадаў, — смяецца той. — Гэта смажаны бамбук». Мне аж нядобра стала. Адразу перад вачыма паўсталі бамбукавыя лыжныя палкі, бамбукавыя вудачкі. А яшчэ прыгадалася, як у адной кніжцы пісалі, што бамбукавыя зярняты, трапіўшы ў жывот, могуць там за ноч прарасці і прабіць яго наскрозь. Няцяжка здагадацца, што ноч я амаль не спаў, усё здавалася, што ў маім жываце нешта варушыцца, расце. Раніцай, калі я расказаў пра гэта гаспадару, мы абодва весела рагаталі.

***— А па роднай Беларусі вы любіце падарожнічаць?***

— Вельмі люблю. У нас столькі цікавых, маляўнічых мясцін! Якія ў нас рэкі! Якія азёры! А лясы! Колькі ўнікальных гістарычных помнікаў. Мы нават толкам не ўяўляем, якое маем багацце. Хацелася б усё гэта пабачыць, сфатаграфаваць, захаваць у сваім архіве. На жаль, не хапае часу.

***— А ці ўдаецца вам знайсці час для чытання кніжак? Што вы любіце чытаць?***

— Некалі захапляўся прыгодніцкімі раманамі, дэтэктывамі. Люблю класіку. Цяпер аддаю перавагу дакументальнай літаратуры. Ну і, вядома ж, чытаю ўсё, што звязана з космасам, касманаўтыкай. Хаця, прызнаюся, часу на чытанне ў



*З дачкой Інай, жонкай Ірынай і сябрамі сям'і.*

мяне застаецца небагата. Дадому я прыходжу позна, нярэдка апоўначы. Не ведаю, як яшчэ мяне церпіць мая сям'я.

***— Сям'я вялікая?***

— Ды не. Жонка Ірына Уладзіміраўна і дачка Іна.

***— Дачка пайшла па вашай дарозе?***

— На жаль, не. Я вельмі хацеў, каб яна была скульптарам альбо мастаком. Але дачка стала эканамістам, а пазней захапілася юрыспрудэнцыяй.

***— Раскажыце крыху пра жонку.***

— Я раскажу вам, як мы з ёю пазнаёміліся. Ідзём з маім сябрам Мішам Грыгор'евым па праспекце. І вось каля ГУМа дзяўчына, якая крочыла паперадзе нас, каб пераступіць лужыну, крыху прыўзняла спаднічку. Усяго на нейкае імгненне, але я паспеў заўважыць у яе пад каленьмі незвычайна прыгожыя ямачкі. «Міша, — кажу, — гэтыя ямачкі мяне паланілі. Ідзём знаёміцца». Пазнаёміліся. А праз два месяцы пажаніліся. Шлюб аказаўся шчаслівым, мы разам жывём ужо больш як трыццаць гадоў.

***— У вас многа сяброў?***

— Калі лічыць касманаўтаў, то многа. Аднак самых блізкіх і даўніх — мала. Адыходзяць сябры, адыходзяць… Няма ўжо Валодзі Бальбасава, вядомага беларускага фізіка, выдатнага знаўцы паэзіі і проста цудоўнага чалавека. За мяжой апынуўся Алег Папоў, папулярны цыркавы клоўн, з якім мы доўгія гады вельмі блізка сябравалі. Канечне, мы зрэдчас перазвоньваемся з ім, але гэта ўжо не тое. А бывала, вось ля гэтай грубкі мы праседжвалі ночы напралёт. І не маглі нагаварыцца. Затое, дзякуй богу, ёсць яшчэ ў мяне Міша Грыгор'еў, з якім сябруем ужо больш як паўвека. Ёсць Міхась Кенька, які дужа дапамагае мне разбірацца ў маіх архівах ды і ў іншых бытавых праблемах. Мае сябры — гэта маё духоўнае апірышча, мая маральная падтрымка.

***— Што вы больш за ўсё цэніце ў людзях?***

— Прыстойнасць. Дабрыню. Я так лічу, што, калі нават нехта табе прычыніў зло, не адказвай на гэта злом, наадварот, зрабі яму што-небудзь добрае, і чалавек абавязкова гэта ацэніць.

***— А што вы не прымаеце ў людзях?***

— Не прымаю здрады. Вельмі засмучае мяне неабавязковасць. Я — чалавек дысцыпліны і хачу гэтага ад іншых.

***— Ваш ідэал жанчыны? Што яго, на вашу думку, вызначае?***

— Жаноцкасць. І ўсё тая ж дабрыня. Рускі паэт Яўген Еўтушэнка вельмі добра сказаў: «Если в женщине есть доброта — значит, женщина состоялась».

***— Ці любіце вы музыку? І якую — класічную, эстрадную, народную, рок?***

— Вось рок дакладна не люблю. Сучасную папсу — таксама. З задавальненнем слухаю духоўную, класічную, народную музыку. Асабліва пачуццёвыя, задушэўныя мелодыі. Мне пад іх добра працуецца. Я сабраў цэлую калекцыю такіх дыскаў.

***— Пачуццё адзіноты вам знаёмае?***

— Я не люблю адзіноты. Таму ў маёй майстэрні пастаянна бываюць самыя розныя людзі. Я нават не ведаю, хто сёння можа прыйсці. Але для госця заўсёды знойдзецца кубак свежазаваранага на духмяных травах чаю, а то і чарка. Праўда, часам бываю жорсткім: магу паказаць на дзверы. Гэта калі чалавек вярзе рознае глупства, адымае толькі мой каштоўны час.

***— У адным з інтэрв'ю вы прызналіся, што марыце напісаць кнігу. Гэта будуць чыстыя мемуары альбо мастацка-публіцыстычны роздум аб пражытым і перажытым?***

— Я на працягу многіх гадоў вяду дзённік. Запісваю сюды пра найбольш значныя падзеі ў жыцці краіны, у асабістым жыцці, пра сустрэчы з цікавымі людзьмі. Такіх агульных сшыткаў назбіраўся ўжо не адзін дзясятак. Хачу аднойчы засесці за іх, перачытаць, выбраць лепшае і падрыхтаваць да друку. А што з гэтага атрымаецца — не ведаю.

***— Іван Якімавіч, у вас многа розных дзяржаўных узнагарод і ганаровых званняў. Яны да вас прыйшлі своечасова? І якая з узнагарод для вас самая дарагая?***

— Самая дарагая, бадай, першая — Дзяржаўная прэмія СССР у 1977 годзе за Манумент у гонар маці-патрыёткі, устаноўлены ў Жодзіне.

А што датычыцца своечасовасці, то мне прыгадваецца рэакцыя Рыгора Шырмы, якому званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоілі амаль у восемдзесят гадоў. І калі я патэлефанаваў яму, каб павіншаваць, то Раман Рыгоравіч са скрухаю сказаў: «Што яны зрабілі? Я ж ужо з гэтай зоркай і выйсці нікуды не змагу — ногі баляць…» Амаль у такім узросце званне народнага мастака надалі і мне. Але я не хачу быць няўдзячным чалавекам. Канечне ж, кожная ўзнагарода для мяне прыемная і шаноўная. Гэта — ацэнка і прызнанне маёй працы.

***— Вы можаце назваць сябе шчаслівым чалавекам?***

— Безумоўна. Я рана выбраў свой шлях і ніколі, ні разу аб гэтым не пашкадаваў. Усё жыццё я займаюся любімай справай, якая дае мне маральнае задавальненне, пэўную вядомасць, дзяржаўнае і грамадскае прызнанне. Усялякае было ў мяне на гэтым шляху — перамогі і няўдачы, радасці і засмучэнні, набыццё сяброў і іх страты… І гэта нармальна. Як кажуць у народзе: жыццё пражыць — не поле перайсці.

***Гутарку вёў Зіновій Прыгодзіч.***



**Наталля МІЦКЕВІЧ**

# ДОЎГАЯ ДАРОГА

***(ад дома Янкі Маўра да дома Якуба Коласа)***

## Па слядах Янкі Маўра

10 мая 2013 года спаўняюцца стотрыццатыя ўгодкі Янкі Маўра — Івана Міхайлавіча Фёдарава — вядомага пісьменніка, аднаго з заснавальнікаў беларускай літаратуры для дзяцей і юнацтва. У літаратуру ён увайшоў сталым чалавекам, за плячыма якога быў вялікі вопыт настаўніка-псіхолага. Ён тонка адчуваў настрой дзяцей, іх зацікаўленасць невядомым, падарожжамі, далёкімі краінамі, бо сам многа перажыў; марыў у свае юнацкія гады пабываць у далёкіх краінах, праплыць на лодцы па вялікіх рэках свету. Аб яго жыццёвым шляху і творчасці напісана некалькі кніг, мноства артыкулаў, успамінаў аб сустрэчах з ім. Але, напэўна, нідзе не раскрываюцца так яскрава, так змястоўна яго малечыя і юнацкія гады, як у аўтабіяграфічнай аповесці «Шлях з цемры». Сапраўды, маленькі Янка жыў у асяроддзі нячысцікаў, дамавікоў, вадзянікоў і іншых цудаў, якія ўбівалі ў яго галаву непісьменныя бабулькі з Богам закінутай вёсачкі, дзе праходзілі яго малечыя гады. Але ён адчуваў сябе шчаслівым, бо поруч была клапатлівая маці, якая аддавала ўсе свае сілы, усе намаганні, каб сыну было добра. Яна выхадзіла яго ад воспы, якая касіла людзей. А выратаваць малога ад укусу шалёнага сабакі — колькі гора і хвалявання! Дзяўчынка, якую пакусаў той самы сабака, памерла. І, канечне, ніякія намаганні, звароты да саматужных лекараў не дапамаглі б, калі б сам хлопчык не прамыў пакусаную руку ў бочцы са шчолаччу.

З неверагоднай настойлівасцю непісьменная маці бачыла адно выйсце з галечы — атрымаць адукацыю. І яна ўладкавала сына ў школу — за 35 кіламетраў ад вёскі, пасля — у рамесную вучэльню. Ад сваіх настаўнікаў вучні атрымлівалі мала. Толькі дзякуючы таму, што ў рамеснай вучэльні падабралася кола дапытлівых хлопцаў, адбываліся абмеркаванні на свой розум розных жыццёвых пытанняў, пасля — захапленне кнігамі, якія здабываліся з немалымі цяжкасцямі, а таксама рэкламнымі праспектамі. У гуртку самавыхаванцаў складаўся свой погляд, сваё бачанне навакольнага свету. Для атрымання праспектаў патрабаваліся маркі, а на іх грошай не хапала, таму змывалі сляды штэмпеля з пагашаных марак і паўторна іх выкарыстоўвалі. Дзякуючы атрыманай інфармацыі давялося азнаёміцца і з мноствам тавараў, месцамі іх вытворчасці, істотна пашырыць гарызонт ведаў. Але самае трапяткое пытанне ў юнакоў заставалася і самым страшным — адносіны да Бога, да папоўшчыны. Жыццё ў атмасферы Божае кары, навакольнага цемрашальства палохала, але і выклікала пратэстныя пытанні. І ў вырашэнні гэтых пытанняў складваліся свае адносіны да рэлігіі, хай сабе і не надта глыбока асэнсаваныя. Менавіта з прыняцця самастойных рашэнняў фарміраваліся крытычныя падыходы як да ідэалогіі, так і да сацыяльных праблем. На адным з «пасяджэнняў» іх гуртка Янка цудам пазбегнуў смерці. Адзін з навучэнцаў прынёс аднекуль наган і стаў наводзіць то на аднаго, то на другога хаўрусніка і націскаў на спуск. Дайшла чарга і да Янкі. Сябра нацэліўся яму ў лоб, але не паспеў здзейсніць крывавую справу: над іх галовамі завішчэлі пацукі, і хлопец ускінуў наган угору і спусціў ударнік. Пачуўся стрэл — адзін патрон у барабане быў…

Не ўсім выпускнікам вучэльні ўдалося ўладкавацца на работу. Аказалася, што падмайстру слесара рабочага месца не знайшлося. І тут выручыла маці — прыслала дзесяць рублёў! Такія грошы і не сніліся! А разам з грашыма — кароткае пісьмо, каб работы не шукаў, а прыехаў да яе. Яна ўладкавалася ў доме заможнага старога чалавека, у трыццаці вёрстах ад Панявежа. І Янка паехаў, не ведаючы, што гэта за дом, і што ён будзе там рабіць. Маці настойвала, каб ён вучыўся далей, стаў «вучоным» чалавекам. Хлопец паступае ў Панявежскую настаўніцкую семінарыю. Там нашмат лепшыя ўмовы, дзяржаўнае забеспячэнне, там знаходзіць аднадумцаў. Там канчаткова падрываецца вера ва «всесилие господа Бога». Там жа групоўка ўдумлівых семінарыстаў фармулюе свой «закон» паводзін. Напэўна, аўтарам быў Іван Фёдараў, так як ён падрабязна падводзіў пад яго свае ўспаміны. А гучаў гэты закон так: «Рабі ўсё, што захочаш, абы толькі ад гэтага нікому шкоды не было».

За спрэчкі і непадпарадкаванне бацюшку з апошняга курса семінарыі Янку адлічваюць. Два гады працы — прыватных урокаў і падрыхтоўкі да здачы экзаменаў — і паспяховае завяршэнне навучання. Ён набывае статус памочніка настаўніка і накіроўваецца на работу спачатку пад Панявежай, а пасля — у вёску Бытча пад Барысавам. Цяпер гэта школа носіць імя Янкі Маўра. Здзейсніць сваю «геніяльную» юнацкую мару, навеяную прыгодніцкай літаратурай, — праплыць у лодцы па рэках свету — аказалася не пад сілу. Але жаданне пабачыць як мага болей, павандраваць дарогамі свайго краю заставалася. І на першыя заробкі памочніка настаўніка ён набывае такую рэдкую ў тыя часы рэч, як ровар.

Ровар з чырвонымі шынамі паяўляецца ў розных куточках Барысаўшчыны і далей яе. У гэты час настаўнік знаёміцца з Алімпіядай — маладой сімпатычнай дзяўчынай з вёскі Верхмень. Яе бацька, айцец Уладзімір, меў там прыход. У тыя ж часы ў Верхменьскай школе настаўнічае Кастусь Міцкевіч, таксама малады настаўнік. І ён пазней выкажа свае ўражанні ад сустрэч з айцом Уладзімірам: «У бацькі Уладзіміра быў свой лексікон. Ён часта ўжываў такія словы, якія ішлі наперакор не толькі статусу святой царквы, але і самай элементарнай цэнзуры. Набажэнствы ў царкве ён заўсёды правіў «пад мухай». Мала таго, аднойчы ён прымаў прысягу ў мужыкоў са свайго прыходу, а Евангелля дома не аказалася. І ён паклаў крыж на томік твораў Пушкіна і прывёў сваіх мужыкоў да прысягі. Так і настаўніку напісаў пасведчанне аб тым, што той спавядаўся і прычашчаўся, заўважыўшы, што ўсё гэта — адна фармальнасць. Добры вы і разумны чалавек, айцец Уладзімір! Дай божа болей такіх!»

Сустрэцца ў Верхмені настаўнікам не давялося. Упершыню яны сустрэліся ў 1906 годзе на радзіме Міцкевіча ў вёсцы Мікалаеўшчына ў час нелегальнага з’езда настаўнікаў. Там іх накрыла паліцыя, яны былі пазбаўлены права працаваць у школе, а Міцкевічу прыйшлося адсядзець тры гады ў астрозе.

Роўна праз сорак гадоў далёка ад свайго Менску сустрэліся малодшы сын аднаго з настаўнікаў і малодшая дачка другога. Сустрэліся на ўсё жыццё.

Старэйшыя нашчадкі І. Фёдарава не пакінулі чаго-небудзь істотнага аб сваім бацьку, і мне прыйшлося пераканаць сваю спадарожніцу ў неабходнасці ўспомніць мінулае, аддаць даніну пісьменніку, асвятліць абставіны яго жыцця, узгадаць сям’ю і бліжэйшае акружэнне, бо далёка не ўсе характэрныя моманты жыцця Янкі Маўра, надзвычай цікавага чалавека, асветлены.

***Міхась Міцкевіч***

## У сям'і Янкі Маўра



*Іван Фёдараў. 1906 г.*

Калі бацька вярнуўся ў Бытчу пасля настаўніцкага з'езда, ён даведаўся, што звольнены з работы. Што рабіць? Дзе ўладкавацца? Дапамог айцец Уладзімір. Ён быў знаёмы з многімі святарамі, у тым ліку з Фёдарам Адамовічам. А той шукаў настаўніка для сваіх унукаў — дзяцей дачкі Варвары. Для шасцярых яе дзяцей патрабаваўся хатні настаўнік. Сям'я Варвары жыла ў Турцы. Кім быў муж Варвары Фёдараўны Мінковіч і калі ён памёр — невядома.

Бацька расказваў, што святар Фёдар быў вельмі разумны чалавек, але ж і надта скупы. Не шкадаваў ён грошай толькі на кнігі. І бацька набываў патрэбныя выданні, вучыў дзетак і прывязаўся да іх, асабліва да меншага Мішы. І дзеці палюбілі свайго настаўніка. Пасля смерці Мінковіча праз некаторы час пайшлі перасуды: недапушчальна маладому чалавеку жыць у адной хаце з удавой, хай сабе і старэйшай за яго на дзясятак год. Варвара Фёдараўна клапацілася пра свой гонар, і настаўнік проста апынуўся перад выбарам — ці з'ехаць з дому і шукаць работу, ці ажаніцца з удоўкаю. Настаўнік з павагаю адносіўся да маці дзяцей, якіх вучыў і да якіх прывык, але не болей. Як ён сам пасля расказваў маёй маці, ён «ажаніўся на дзецях». У 1909 годзе яны абвянчаліся, а праз два гады ў іх нарадзіўся сын, якога назвалі ў гонар дзеда Адамовіча — Фёдарам. У гэтыя гады бацька не губляў часу і завочна вучыўся ў Віленскім універсітэце. Экстэрнам здаў экзамены і атрымаў права выкладаць гісторыю і геаграфію. І ў 1911 годзе ён пераязджае са сваёй сям'ёй у Мінск, дзе яму пашанцавала ўладкавацца нелегальна ў прыватную гандлёвую школу. Але тут надоўга затрымацца не давялося. Пачалася Першая сусветная вайна, пагроза нямецкай акупацыі, і сям'я эвакуіруецца ў Сібір. Там, у Томску, нарадзіўся другі сын — Арсень (1917 год). Пасля вызвалення Беларусі сям'я вяртаецца ў Мінск, бацька ўладкоўваецца настаўнікам геаграфіі і гісторыі ў чыгуначную школу. Пасля народзін дачкі Аляксандры (1919) Варвара Фёдараўна цяжка захварэла. За хворай жонкай і малымі дзецьмі трэба было наглядаць, і бацька запрасіў дзеля гэтага Марыю Шылёнак, жанчыну з журботным лёсам. У той жа час у Мінску ў багатай сям'і родзічаў прыслужвала яе малодшая сястра Стэфаніда. І яна часценька наведвала сваю старэйшую сястру, якая і пазнаёміла яе з Варварай Фёдараўнай і яе мужам. Сімпатычная жыццярадасная дзяўчына зрабіла добрае ўражанне. А Варвары Фёдараўне станавілася горш і горш, яна адчувала, што хвароба яе адолее, і малыя дзеці застануцца сіротамі. Аднойчы яна паклікала Стэфаніду і сказала, што ў хуткім часе памрэ. Іван Міхайлавіч, безумоўна, жэніцца. А што будзе з яе дзецьмі? Ці стане новая жонка сапраўднай маці, а не мачахай. Яна сказала яшчэ, што даўно наглядае за Стэфанідай, бачыць, якая яна добрая і чуллівая дзяўчына, а Іван Міхайлавіч — дабрэйшы чалавек. Выходзі за яго замуж пасля маёй смерці і абяцай, што не дасі ў крыўду дзетак, і я памру спакойнай за іх лёс. Бедная дзяўчына разгубілася ад такіх слоў і ў збянтэжанасці збегла.

Восенню 1919 года Варвара памерла. Мужа не было дома, а калі прыйшоў і даведаўся пра скон жонкі, спакойна, па-філасофску сказаў: «Ну, і слава богу. Адмучылася». Старшаму Фёдару было восем, Арсеньку — два з паловай,

а Шуры ўсяго паўгода. За дзецьмі наглядала Марыя, а Стэфаніда па-ранейшаму жыла ў сваёй радні.

Пасля прыходу да ўлады бальшавікоў радня стала баяцца за сваю будучыню ў Беларусі і вырашыла назаўсёды пакінуць яе. На развітанне Стэфаніду надзялілі пасагам, і яна пакінула тое, што немагчыма было ўзяць з сабой — піяніна, нешта з мэблі і іншыя рэчы. Кватэра аслабанілася, і яе неабходна было здаць. Куды ж падзець пакінутыя рэчы? Больш як з сястрой не было з кім параіцца, і тая папытала згоды ў Івана Міхайлавіча. А ў хуткім часе і самой давялося перабрацца і даць згоду выйсці замуж за ўдаўца з кучай дзяцей, нібы памяняцца ролямі. Раней яму дасталіся жончыны дзеці, а цяпер ёй — мужавы.

Ад той пары пачалося яе нялёгкае жыццё. Каб пракарміць вялікую сям'ю ў тыя галодныя 20-я гады прыйшлося выменьваць свой пасаг на прадукты. А ў пачатку 30-х занесці ў ламбарды, якія пачалі адчыняцца, нешматлікія залатыя рэчы, якімі адарылі яе родзічы. А Іван Міхайлавіч акрамя работы ў школе быў вымушаны весці прыватныя заняткі. Прыходзячы на абед, ён мог сабе дазволіць падрамаць 15—20 хвілін на крэсле і зноў павінен быў ісці на работу.

Зараз ужо мала хто можа ўявіць, як жылі нашы бацькі: не было ні цэнтральнага ацяплення, ні гарачай вады, ні электрапрыбораў. Але ж жыццё працягвалася.

У 1924 годзе нарадзілася і я. У той час сям'я бацькі жыла на трэцім паверсе дома на Новамаскоўскай вуліцы (цяпер Мяснікова). А на першым і другім паверхах размяшчалася сярэдняя школа № 31. Па сутнасці на трэцім паверсе быў толькі адзін нармальны пакой з балконам, а астатнія тры пакоі і кухня з'яўляліся перабудаваным гарышчам. У кожным пакойчыку было па акенцу, якія выходзілі непасрэдна на дах. Гэтыя акенцы былі ўстаўлены ў вузенькія нішы. Яны давалі магчымасць вылазіць на дах. У добрае надвор'е дзетвара бавіла там свой час: чытала, загарала, выдумляла розныя гульні. З агульнага калідора можна было патрапіць не толькі ў пакоі і на кухню, але і на гарышча. І дзеці лазілі там, шукаючы «скарбаў». Аднойчы Фёдар знайшоў маленькі жаночы гадзіннік, які падараваў мне. Магчыма туды яго занесла сарока ці варона. Гадзіннік ішоў кепска, але я была шчаслівая, таму што на той час ручныя гадзіннікі былі вялікай рэдкасцю.

Уваход у нашу кватэру быў з двара праз асобную лесвіцу з цёмнымі закуткамі і адным маленькім акенцам. Па вечарах, калі цямнела, нават мае старэйшыя браты пабойваліся хадзіць паасобку. У кватэры было пячное ацяпленне, дровы з адрыны даводзілася цягаць на трэці паверх. Страву гатавалі на пліце, у якой палілі дровы, альбо ў вялікай печы. Бялізну мылі ў ночвах, дзяцей купалі ў цэбры, а ваду награвалі на пліце. Усё сваё жыццё Стэфаніда прысвяціла сям'і. Яна адмаўляла сабе ва ўсім, абы дзецям было лепш. Яна была клапатлівай і добрай, усе яе любілі і паважалі.

У нас было тры пакойчыкі, а ў чацвёртым жыла сям'я Іпаліта Івашына — выдатнага майстра на ўсе рукі. У яго было два сыны — Іпаліт (Пулька) і Цэзар (Цэзік). Яны — мае сябры дзяцінства. І дзеці, і дарослыя жылі надзвычай дружна. Я лічу гэта заслугаю бацькоў. Яны ніколі не лаяліся, не ўзвышалі голасу, нават на вінаватых дзяцей. Усе канфлікты ўладкоўваліся мірным шляхам. Помніцца такі цікавы выпадак. У нас з суседзямі была агульная кухня. І вось на працягу пэўнага часу маці заўважала, што з каструлі, у якой варылі суп з мясам, частка мяса знікае. Што можна было падумаць, калі акрамя суседкі нікога болей не было? І яшчэ маці заўважыла, што суседка стала панурай, маўклівай. Размаўляла з маці скрозь зубы, а затым наогул змоўкла. Маўчала і маці. А мяса знікала непасрэдна з каструлі. Маці звярнулася да бацькі — што рабіць? І ён параіў нічога не гаварыць суседцы, а асцярожна прасачыць за кухняй. І вось аднойчы, калі маці ціхенька прыадчыніла дзверы на кухню, яна ўбачыла, што наш вялікі сібірскі кот лапай стараецца выцягнуць мяса. Маці хуценька паклікала суседку, і яны застукалі ката-зладзюгу. Высвятлілася, што і ў суседкі знікала мяса, і яна не ведала, што рабіць. А сварыцца з маёй маці не хацела, таму і маўчала.

Дабрыня і чуласць да людзей — характэрная рыса бацькоў. Аб гэтым сведчаць і многія іх учынкі, як, напрыклад, адносіны да маладой сям'і Кантаровічаў. Так, частка куханькі была адгароджана драўлянай перагародкай, і яе выкарыстоўвалі ў якасці кладоўкі. Там было маленькае акенца, а падлога цэментная. І вось нашы ўлады вырашылі лічыць яе за жылую плошчу і пасялілі маладую сям'ю, якая чакала дзіця. А гэты пакойчык мог абагравацца толькі ад вялікай печы кухні, але ёю карысталіся рэдка. Надыходзілі халады, і бацькі пашкадавалі маладых і прапанавалі ім на восень і зіму перабрацца ў пакой, які займалі браты. А калі ў Кантаровічаў нарадзілася дзіця, то сумленне не дазволіла бацьку папрасіць іх вызваліць памяшканне. Так яны і засталіся жыць на доўгія гады, пакуль не атрымалі кватэры. Назаўжды яны засталіся нашымі сябрамі.

Наш большы пакой стаў агульным, тут мы снедалі, абедалі, рыхтавалі ўрокі, займаліся музыкай і прымалі гасцей. А вечарам, калі ўсе клаліся спаць, бацька садзіўся за работу. У гэтым жа пакоі знаходзілася і бацькава бібліятэка, адна з лепшых на той час у Мінску. Адна сценка пакоя ад падлогі да столі была застаўлена паліцамі з кнігамі. Тут былі энцыклапедыі Бракгаўза і Эфрона, першы выпуск Вялікай Савецкай Энцыклапедыі, «Жыццё жывёл» Брэма, кнігі вядомых вандроўнікаў. Многа кніг было па гісторыі. Ніжнія паліцы поўніліся часопісамі: «Вакол свету», «Мір прыгод» і іншымі, знітаванымі па гадах. Але больш усяго было мастацкай літаратуры — зборы твораў Пушкіна, Лермантава, Жукоўскага, Талстога, Тургенева, а таксама Марка Твэна, Джэка Лондана, Жуля Верна, Вальтэра Скота, Уільяма Шэкспіра і шматлікіх іншых аўтараў. Бацька вельмі перажываў страту гэтай бібліятэкі ў час вайны. Ён збіраў кнігі на працягу многіх год, часта адмаўляючы сабе шмат у чым. Памятаючы пра бацькаву бібліятэку, я вырашыла сабраць сваю, падобную да той. А калі падраслі мае дзеці, то яны сталі маімі памочнікамі ў гэтай справе. У пасляваенныя часы дастаць добрую кнігу было цяжка. Друкаваліся працы класікаў марксізму-ленінізму, а каб атрымаць мастацкую кнігу, трэба было здаць дзясяткі кілаграм макулатуры. Збіралі, а таксама хадзілі на забароненыя кніжныя рынкі, дзе і прадаўцоў, і пакупнікоў разганяла міліцыя. Пазней адкрылі падпіску на зборы савецкіх і замежных пісьменнікаў. Зараз наша бібліятэка налічвае некалькі тысяч кніг. І гэта ў многім дзякуючы бацьку, які прывіў любоў да кнігі.

Бацька надаваў агромністае значэнне кнігам як скарбніцы ведаў, як архітэктару інтэлекту чалавека. І ён сачыў не толькі за тым, што я чытаю, але і як засвойваю прачытанае. Ён таксама прывучаў нас да сімфанічнай і опернай музыкі. І сам выдатна іграў на скрыпцы, а нас вучыў іграць на фартэпіяна, якое ў нас было.

Вялікім святам для мяне, сямігадовай дзяўчынкі, стала наведванне прэм'еры оперы «Кармэн» Жоржа Бізэ. Я была зачаравана пачутым і ўбачаным. Мы сядзелі ў дырэктарскай ложы, пасля спектакля дырэктар запытаў, ці спадабалася мне опера. Я выпаліла адным духам: «Хачу яшчэ сем разоў!» Прысутныя выбухнулі смехам, а я страшна засаромелася і ледзь не расплакалася.

У другі раз у час адпачынку ў Адэсе бацька павёў усю сям'ю ў оперны тэатр на «Пікавую даму». Мне было дзевяць гадоў, і мяне не пускалі. Тады бацька пайшоў да дырэктара тэатра з просьбай у якасці выключэння дазволіць прапусціць малодшую дачку. Прыехалі з Мінска, пакінуць дзяўчынку няма дзе, знаёмых няма. Дазвол быў атрыманы, ад спектакля засталася ў захапленні — выканаўцы былі выдатнымі, і гэта опера стала адной з самых любімых.

Прывітую бацькам любоў да музыкі я старалася перадаць дзецям. Мае дачка і ўнучка скончылі музычную школу па класе фартэпіяна, а ў малодшага сына, філолага па адукацыі, музыка з'яўляецца хобі.

Шкада, што сучасная моладзь мала цікавіцца сапраўднай класічнай музыкай, яе заглушае нізкапробная эстрадная папса.

Такім чынам, у бацькі не было асобнага кабінета. І ён працаваў у нашым агульным пакоі, калі ўсе ўжо спалі, і іншы раз працаваў да самай раніцы. У пакоі

было халаднавата, ногі мерзлі, і бацька часта сядзеў у валёнках, а на плечы накідваў футра, як мне здавалася, на воўчай поўсці. Часценька, калі бацька садзіўся за работу, я ўзбіралася яму на калені, а ён захутваў мяне ў сваё футра, прыціскаў да сябе — і мне было так цёпла, так лагодна, што я хутка засынала. Тады бацька адносіў мяне ў ложак. Пазней, калі я падрасла, то любіла паслухаць яго аповеды на самыя розныя тэмы. А ён расказваў мне пра будову Зямлі, пра зоркі, планеты, пра іншыя краіны з іх раслінным і жывёльным светам. Расказваў ён і пра знакамітых вандроўнікаў і іх адкрыцці, пра вядомых вучоных, вынаходніцтвы... Гэтыя вячэрнія размовы мелі вялікае значэнне для майго развіцця. Мне пашанцавала ў тым, што я была нашмат маладзейшай за братоў і сястру. Нарадзілася ў 1924 годзе, на той час бацька пакінуў настаўніцкую работу і ў сталым веку — дзесьці ў сорак гадоў — пачаў пісаць. Я вучылася толькі складна гаварыць, калі астатнія бацькавы дзеці былі ўжо школьнікамі. І калі яны адпраўляліся раніцай у школу, я заставалася адна з бацькам. Паколькі ён ужо не бегаў на ўрокі, то майму выхаванню мог удзяліць значна больш часу, чым старэйшым дзецям. Бацька вучыў мяне назіральнасці, вучыў адразу выпраўляць тыя непарадкі, якія я заўважала. Напрыклад, ён казаў: «Ідзеш па дарожцы і бачыш — ляжыць на ёй камень. Скінь яго, бо нехта другі можа яго не заўважыць і спатыкнуцца. Дома бачыш — ляжыць на падлозе кніга, газета, якая іншая рэч — падымі і пакладзі на месца. Пахінулася на сцяне карціна — папраў». Ён падкрэсліваў — каб выправіць гэтыя дробязі, трэба зусім мала часу. Проста трэба заўважаць непарадкі. І я да гэтага прызвычаілася.

Мы, чацвёра бацькавых дзяцей, былі зусім розныя, як па характары, так і па здольнасцях. Але ён умеў да кожнага з нас знайсці пэўны падыход і дамагчыся жаданага выніку. Так, калі я толькі навучылася чытаць, у мяне, як мне здавалася, былі больш цікавыя і прыемныя заняткі, чым чытанне кніг. І бацька прыдумаў, як заахвоціць мяне кнігай. У тыя часы самым даступным ласункам для нас было марожанае. І тата сказаў мне: калі хочаш атрымаць яго, то трэба зарабіць грошы, а работа — удумлівае прачытанне пэўнай колькасці старонак. Прыходзілася чытаць, а па прачытаным тэксце бацька задаваў пытанні, ці ўважліва я яго засвоіла. І такім чынам ён прывучыў мяне да кнігі, і ў далейшым чытанне кніг стала маім любімым заняткам.



*Наталля з бацькамі ў Сочы. Май—чэрвень 1940 г.*

А дачку Шуру даводзілася адвучваць ад ляманту. У дзяцінстве яна з нагоды самых нязначных непаразуменняў пачынала істэрыку. Гучна лямантавала, і ніякія словы, угаворы не дапамагалі. Тады бацька гаварыў ёй: не супакоішся — зачыню ў кладоўцы. Але яна толькі гучней крычала. І пасля гэтага, нягледзячы на матчыны захады абараніць малую, зачыняў крыклівае дзіця ў кладоўцы. І там яна лямантавала да хрыпаты. Як толькі супакойвалася, дзверы адчыняліся. З часам Шура зразумела, што крыкам яна нічога не дасягне, а сядзець адной упоцемку і лямантаваць — прыемнасці мала. І так бацькава методыка перамагла.

Арсеня і Шуру раздзялялі два з паловай гады. Яны гулялі разам, але і часта сварыліся. І тады беглі да бацькі са скаргамі, а той казаў ім, каб свае справы яны вырашалі самастойна, а не скардзіліся адзін на аднаго. Ён садзіў іх па розныя бакі канапы, загадваў сядзець ціха і не замінаць яму працаваць. І як толькі яны вырашаць свае праблемы і паміраццa, ён іх адпусціць. Спачатку дзеці надзімаліся, а калі надакучвала ціха сядзець на канапе, мірыліся, і бацька іх адпускаў. Задаволеныя, яны беглі гуляць зноў. Са старэйшым сынам Фёдарам бацька паступіў інакш. Як ён расказваў, Фёдар, вельмі здольны хлопец, у юнацкім узросце многа часу праводзіў з сябрамі, а вучобу зусім закінуў. І бацька прапанаваў таленавітаму юнаку два варыянты: альбо ён застанецца ў сям'і і будзе добра вучыцца, альбо пойдзе жыць самастойна. Фёдару цяжка было разлучыцца з сябрамі, і ён вырашыў сысці. Бацька даў яму пляцак, дапамог скласці нешматлікія рэчы і развітаўся з ім. Фёдар выйшаў на вуліцу і спыніўся, не ведаючы, куды ісці. Ён задумаўся і ў рэшце рэшт вырашыў вярнуцца ў сям'ю, да бацькі, якога любіў. І ён вярнуўся і даў слова, што будзе добра вучыцца. На гэта бацька і разлічваў. Фёдар стрымаў сваё слова і многага дасягнуў. Скончыў універсітэт, абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі, стаў вядомым фізікам-тэарэтыкам, быў абраны ў правадзейныя члены нашай акадэміі, стаў лаўрэатам Дзяржаўных прэмій БССР і СССР. Яму было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Ён заўсёды лічыў, што сваімі поспехамі абавязаны бацьку, які сумеў прымусіць яго вучыцца.

Бацька ніколі не правяраў нашыя ўрокі і не чытаў натацый. І я не памятаю, каб ён на каго-небудзь узвысіў голас. Ён вучыў нас ніколі не лгаць. Калі казаць — дык толькі праўду. Бацька разумеў, што ў нас, дзяцей, як і ў кожнага чалавека, ёсць свае таямніцы. Лепш, гаварыў ён, прамаўчаць, чым казаць хлусню. І мы ўсе добра гэта засвоілі.

Вялікая роля ў выхаванні дзяцей належала маці. Усё сваё жыццё яна прысвяціла сям'і, адмаўляла сабе ва ўсім. Больш за ўсё баялася, каб дзеці Варвары Фёдараўны не палічылі яе мачахай, такой, якая ўяўлялася з рускіх казак. Таму маці ніколі мяне маленькую не песціла, каб не выклікаць рэўнасці ў старэйшых дзяцей. Мая сястра Шура была старэйшая за мяне на пяць гадоў. Калі мне споўнілася два гады, яна была ўжо школьніцай. Яна часта мяне крыўдзіла, адбірала цацкі, якія раней належалі ёй, і нагаворвала на мяне. І ва ўсіх нашых сварках маці вінавaціла толькі мяне, і даставалася толькі мне. Было страшэнна балюча і крыўдна, я палічыла, што маці мяне не любіць і вырашыла памерці. Але маці, відаць, адчула сваім сэрцам, што са мною адбываецца нешта нядобрае і, калі ўсе заснулі, прыйшла да мне, заплакала і расказала, чаму паводзіць сябе так, што яна любіць мяне і што я адзіная яе родная дачка. А ў старэйшых дзяцей была іншая маці, якая памерла. І яна не хоча, каб другія дзеці думалі, што яна любіць іх менш, чым мяне. Яны ж ведалі, што толькі я родная дачка.

Што датычыцца Арсеня, старэйшага за мяне на сем гадоў, то ён проста не заўважаў мяне ні тады, калі я была малечай, ні тады, калі вырасла. Калі ж Арсень падрос, то яго амаль што ніколі не было дома. І бацька казаў, што наш Арсень дзесьці сабак ганяе. А яму ж трэба было вучыцца, але як толькі ён браў у рукі кнігу, то тут жа і засынаў. Таму вучыўся кепска і ў школе і ва ўніверсітэце. Прыйшоў час, і яму давялося трымаць экзамен па фізіцы перад сваім старэйшым братам Фёдарам. А Фёдар, вельмі прынцыповы настаўнік, патрабаваў ад студэнтаў

грунтоўных ведаў. І ён вымушаны быў паставіць двойку свайму брату. Фёдар настойваў, каб Арсень добра вывучыў курс. Дома ўзнік канфлікт, і досыць сур'ёзны. Бацькі стараліся прымірыць братоў. Прыйшлося Арсеню засесці за падручнікі. Здаць то ён здаў, але хваліўся, што здаваў па шпаргалцы. Пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1940 годзе ўсіх хлопцаў-выпускнікоў прызвалі ў армію і накіравалі за Брэст на самую мяжу. Там ён праслужыў крыху менш як год і яго накіравалі ў Кіеў у танкавую вучэльню.

Фёдар, старэйшы на 13 гадоў, любіў сваю меншую сястрычку. Ён часта насіў мяне на руках, абдымаў, цалаваў. І я яго таксама любіла. Калі я крыху падрасла, ён расказваў мне розныя гісторыі, у тым ліку пра подзвігі старажытнагрэчаскага героя Геракла, як той, каб зрабіцца дужэйшым, кожны дзень падымаў на плечы бычка. Бычок рос, а Геракл дужэў і дужэў. І Фёдар вырашыў выкарыстаць метад Геракла, а ў якасці бычка — мяне. Ён саджаў мяне на далонь рукі і ўздымаў уверх некалькі разоў. Пасля ён паехаў на вучобу ў аспірантуру, у Ленінград, а калі вярнуўся дахаты, то ўбачыў, што я не падыходжу для яго трэніровак — вырасла. Праз многа гадоў ён такім жа чынам падымаў свайго сына Андрэя.

Фёдар быў выдатным апавядальнікам і пад Новы год пачынаў расказваць мне і маім сяброўкам чароўную казку. І, як у «Тысячы і адной ночы», прыпыняўся на самым цікавым месцы, абяцаючы прадоўжыць у наступным годзе. Мы раслі, а казка станавілася ўсё цікавейшай і цікавейшай, і мы з нецярплівасцю чакалі яе працягу. Закончыць яе Фёдар не паспеў — пачалася вайна.

З малых гадоў засталіся ўспаміны пра нашыя падарожжы. Калі бацька атрымоўваў ганарары за свае кнігі, то ён лічыў больш карысным патраціць іх на падарожжы, чым на якія-небудзь рэчы. Запомніўся з першай паездкі ў Башкірыю, на кумыс, выпадак са мною і сабакам. Пакуль бацька з гаспадыняй хаты з воза пераносілі рэчы, я са словамі «які маленькі сабачка» пабегла да навязанай злоснай псіны. Гаспадыню ледзь не хапіў удар, яна спалохалася, што сабака парве мяне. Але ён сустрэў мяне прыязна і дазволіў пагладзіць. За месяц я так прывыкла да кумысу, што па прыездзе дахаты часта прасіла даць мне яшчэ. У Мінску ж яго не было, і маці давала мне кіслае малако і, як расказвала яна, я была задаволена.

Калі мне было пяць гадкоў, бацька павёз нас у Крым. Там, па дарозе на Ластаўчына гняздо, я паслізнулася і ледзь утрымалася, каб не зваліцца ў бездань.

На наступны год бацька звазіў нас у Ленінград, мы пабывалі ў шэрагу музеяў, наведалі Пецяргоф з яго цудоўнымі фантанамі. Пасля ён арганізаваў нам захапляльнае падарожжа ў Адэсу на цеплаходзе па Дняпры з Гомеля. Мноства ўражанняў засталося ад гэтага падарожжа ў маёй памяці.

А ў пачатку трыццатых гадоў бацька вырашыў знайсці для летняга адпачынку ціхі куточак на роднай зямлі, дзе б ніхто не замінаў яму працаваць. Канечне, павінны быць рэчка і лес. У вёсцы Турын Пухавіцкага раёна настаўнічаў Адліванчык, які ажаніўся з сястрой першай бацькавай жонкі. І бацька папытаў яго, ці няма дзе блізка такога куточка. Адліванчык прапанаваў хутар недалёка ад Турына, які называўся Лысай гарой. Там, на беразе старыцы Свіслачы стаялі тры хацінкі, вакол якіх высіўся лес. Моста праз раку там не было, і гэтая мясціна была адасоблена ад іншых паселішчаў. Месца было сапраўды райскім. Уздоўж рэчкі раскінуўся квітнеючы луг, над якім лётала мноства матылькоў і стракоз, у траве стракаталі конікі. Лес здаваўся спрадвечным, да якога не дакраналася рука чалавека. Паветра было чыстым, напоўненым водарам траў і кветак. У лесе гуло ад птушыных галасоў, па дрэвах скакалі вавёркі. На невысокай яліне сядзела адна з іх. Я папрасіла бацьку стрэсці яе. Бацька ў жарт страсянуў дрэўца, і вавёрка звалілася пад ногі, але тут жа мільганула і апынулася на другім дрэве.

Наш гаспадар — Пракоп — жыў тут толькі летам. Ён працаваў на кардоннай фабрыцы, дзе ў яго была другая хата, і там ён жыў са сваёй сям'ёй. Праз Пракопа бацька купіў на фабрыцы некалькі лістоў тоўстага кардона. З яго Пракоп «пабудаваў» для бацькі на самым беразе ракі будку. Каб ад дажджу не намакалі сцены,

змайстравалі шырачэнны дах. У будцы змяшчалася толькі адно крэсла, а ў якасці стала служыла шырокая дошка, прымацаваная пад акном. У гэтай будцы бацька працаваў над сваімі творамі. Калі ж ён заседжваўся з намі пасля трапезы, мы ў жарт казалі: «Пайшоў у будку!» І ён паслухмяна ішоў туды.

У гэтым райскім куточку мы адпачывалі амаль кожнае лета аж да вайны. Цікава, што ніжэй па Свіслачы, у іншым райскім кутку, аблюбаваў сабе лецішча Якуб Колас, але пра гэта мы даведаліся пазней.

У лесе было шмат ягад і грыбоў, і мы ўсёй сям’ёй адпраўляліся ў нарыхтоўкі. Акрамя нас туды ніхто не заходзіў. Зборы былі ёмістымі. Маці нарыхтоўвала на зіму розныя варэнні, рабіла наліўкі з ягад, сушыла, саліла і марынавала грыбы. Даводзілася ўсёй сям’ёй перабіраць і сартаваць свае зборы, а бацька расказваў нам пра сваё дзяцінства, пасля напісаў пра гэта кнігу «Шлях з цемры».

Для мяне гэта былі самыя шчаслівыя гады ў жыцці. Разнастайных заняткаў было мора. Бацька час ад часу ездзіў у Мінск і тое-сёе прывозіў. Прывёз аднойчы сачок і кнігу Брэма з яркімі малюнкамі матылькоў, жукоў і іншых насякомых. Ён хацеў, каб я, збіраючы калекцыю, знаходзіла ў кнізе іх назвы, а таксама прачытала аб іх жыцці, шкоднасці ці карыснасці. А драўляныя скрынкі для калекцый зрабіў наш сусед па кватэры Іпаліт. Канечне, самастойнае азнаямленне з жывым сусветам давала куды больш ведаў, чым вывучэнне па малюнках у школе. Але ж прыйшлося перажываць не толькі захапленні, была не толькі радасць, замілаванне прыродай, яе прыгажосцю. Бадай, усюды здараліся непрыемнасці, а то і вялікая бяда. Так, аднойчы ад станцыі Пухавічы нас давёз сусед Пракопа, стары Кенька, у возе на сваім кані. Калі бацька зняў усе рэчы з воза, ён паслаў мяне да Кенькі, каб той забраў каня і павозку. А ў Кенькі каля хаты стаялі вуллі з пчоламі. І калі я прыбегла на яго двор, на мяне напаў цэлы рой. Мне было толькі восем гадоў, а на мне толькі трусікі. Я махала рукамі, старалася адагнаць раз’юшаных насякомых, а яны яшчэ больш кусалі. Бацька ўбачыў і стаў крычаць, каб я бегла да рэчкі і нырнула ў ваду, што я і зрабіла. Але пчолы паспелі пакусаць мяне з ног да галавы. Цела ад укусаў распухла, страшэнна балела, паднялася высокая тэмпература. Бацькі былі ў жаху, ні бальніцы, ні доктара паблізу не было. Што рабіць? Пракоп прапанаваў звярнуцца па дапамогу да вядомай знахаркі. Ён перавёз на лодцы маці на другі бераг, і яны пабеглі да знахаркі. Тая дала маці бутэлечку з нейкай вадкасцю і наказала рабіць прымочкі на месцы ўкусаў, пакуль не спадзе пухліна. Два дні я была ў страшэнна цяжкім стане. Маці плакала, баялася, што я памру, але працягвала рабіць прымочкі. Я папраўлілася, але з тае пары баюся пчол, а ад мёду ўзнікае алергія. Усё цела пачынае свярбець.

Другім разам я ледзьве не загінула ў дрыгве. Гэта было на радзіме маёй маці. Ёй вельмі захацелася наведаць сваю родную вёску Вольберавічы, але без дазволу пагранічнікаў туды нельга было ехаць, таму што за вёскай знаходзілася мяжа з Польшчай. Бацька неяк пазнаёміўся з пагранічнікамі і выкарыстаў гэтае знаёмства. Яны дапамаглі маёй маці атрымаць адпаведны дазвол. У гэтую паездку маці ўзяла і мяне, шасцігадовае дзіця. Пасля нашага ад’езду бацька выявіў, што маці забылася ўзяць дазвол, і адразу ж па пошце выслаў яго ў Камайск. Калі мы прыехалі ў Вольберавічы, нас ужо чакала паведамленне, што дакументы будуць у паштовым аддзяленні Камайска. Нягледзячы на тое, што Камайск быў недалёка ад вёскі, маці адправілася, як ёй падалося, па знаёмай дарозе адна. Але за мінулыя гады мясцовасць так змянілася, што маці заблудзілася. На ўскрайку лесу згледзела пастушка і падышла запытацца, як трапіць у Камайск. Пастух спалохана адказаў: «Пані, пані, тут Польшча, бяжыце назад, пакуль вас не затрымалі жаўнеры!» І маці, не разбіраючы дарогі, кінулася бегчы назад. На шчасце, па дарозе яна нікога не сустрэла і вярнулася ў вёску. Аб тым, што здарылася, яна нікому не сказала. І на другі дзень з двума вайскоўцамі адправілася ў Камайск, дзе і атрымала важныя паперы. Перажыванняў было шмат.

Спыніліся мы ў старой хатцы, якая засталася ад дзедавых дзяцей. Там жыла маміна пляменніца, дачка старэйшага брата Міколы. А сам Мікола зімой захварэў, яго палічылі памерлым, і медыкі занеслі яго ў хлеў. А ён на холадзе ачуняў, але выбрацца не змог і замерз каля брамы хлява.

Незадоўга да нашага прыезду маміна пляменніца, кудысьці спяшаючыся, выйшла. І прапала. Хаты яна не зачыніла, карова і куры засталіся на двары... Так яна і не вярнулася дахаты, бясследна знікла.

Маці стала наводзіць у хаце парадак, памыла падлогу, прыбрала лішняе, а мяне паслала нарваць аеру, каб заслаць чыстую падлогу. Поруч з вёскай, намнога ніжэй будынкаў, разляглася балоціна з дрыгвой, у якую траплялі і коні, і каровы. А я гэтага не ведала. Сярод балота высіліся купкі аеру і я пачала рваць яго сцяблінкі. Пераскокваючы на другую купіну, паслізнулася і апынулася ў багне. Спрабуючы выбрацца, я толькі паглыблялася і, канечне, страшэнна перапалохалася. А калі мяне зацягнула па грудзі, я стала крычаць, зваць на дапамогу. На маё шчасце, мае крыкі пачуў пастух. Ён прыбег са сваёй доўгай пугаю і наказаў абкруціцца сплеценым скураным паскам, а затым моцна трымацца за пугаўё рукамі. І так ён выцягнуў мяне з балота. Маміны даўнішнія сяброўкі ў адзін голас казалі, што гэта дзейнічае праклён мамінай бабкі, памешчыцы, якая пракляла сваю дачку і яе дзяцей. Але тут жа ўсцешылі маці, сказаўшы, што калі дачцы пашчасціла выратавацца з багны, то ў яе ёсць свой анёл-ахоўнік, які заўсёды будзе яе ахоўваць. Ну як было не паверыць такому пераканаўчаму жаночаму прысуду? І сапраўды, колькі давялося перажыць здарэнняў, якія маглі закончыцца трагічна, але ўсе яны мелі шчаслівы зыход.

Дык за што бабка пракляла сваю дачку і яе дзяцей? Мой дзед, мамін бацька, Аляксандр Шылёнак быў таленавітым чалавекам, механікам. Так, надоўга захавалася і мянушка ад яго аднавяскоўцаў «Маханік», якая яшчэ помнілася, калі я ў сталым узросце наведала гэтую вёску. Дзед працаваў дзесьці ў горадзе, а калі памерлі яго бацькі, вярнуўся ў родныя Вольберавічы і арганізаваў арцель па рамонце сельскагаспадарчых машын. Памешчыкі куплялі ў замежжы розныя прылады і машыны, а рамантаваць іх не было каму. Таму рамонтныя работы расцэньваліся высока, і тыя, хто ўмеў іх выконваць, мелі нядрэнныя заробкі. Дзед са сваёй брыгадаю ездзіў ад пана да пана, звычайна ў вялікія маёнткі. У адным з іх у маладога прыгожага хлопца закахалася панская дачка. Бацькі дзяўчыны адхілілі сватаўство Аляксандра, а дачцэ забаранілі нават думаць аб ім. Але дзяўчына так закахалася, што ўцякла з бацькоўскага дому і выйшла замуж без бацькоўскага дазволу. За такі ганебны ўчынак яе пазбавілі спадчыны і адмовіліся ад яе.

Аляксандр добра зарабляў і забяспечыў сваёй сям'і някепскае існаванне. Ён пабудаваў вялікі дом, абставіў яго па-гарадскому, і жылі яны шчасліва. У яго было ўжо чацвёра дзетак, калі здарылася трагедыя. У навальніцу Аляксандр выйшаў на ганак і ад удару маланкі загінуў, а хата загарэлася. Паспелі вывесці толькі малечу, а з рэчаў амаль нічога не выратавалі — згарэла ўсё, набытае працай. І ў імгненне шчаслівая і забяспечаная сям'я стала абяздоленай і жабрачай.

Бедная ўдава з чатырма дзеткамі вымушана была звярнуцца да багатых бацькоў па дапамогу. Але маці яе адраклася ад дачкі, якая была за непаслушэнства пакарана Богам. Адмовіла ў дапамозе і прагнала дачку і яе дзяцей. На бедную ўдаву звалілася яшчэ адна бяда. Адзін падлюга, выраčаны некалі багатай нявестай, вырашыў адпомсціць безабароннай удаве. Ён падкараўуліў яе старэйшую дачку Марыю, зусім яшчэ маладзенькую, і згвалціў. Калі Марыя нарадзіла дачку, маці пакінула дзіця ў сям'і Мікалая, а Марыю накіравала ў Мінск да знаёмых. Пасля Марыя трапіла ў якасці нянькі ў дом Івана Фёдарава. А пасля смерці яе маці малодшую сястру Марыі — Стэфаніду — узяла да сябе багатая радня, якая жыла ў Мінску. Там Стэфаніда пачала наведваць сваю сястру Марыю.

Калі бацьку пры царскім рэжыме пасля звальнення з работы ў школе давялося ўтойваць свае заняткі педагагічнай дзейнасцю, то пасля Кастрычніц-

кай рэвалюцыі пры ўмовах тэрору, развязанага Леніным супраць духавенства, даводзілася ўтойваць, што яго першая жонка — папоўна. Таксама і старэйшы сын мусіў хаваць гэта і пры паступленні ва ўніверсітэт, і рабоце ў далейшым. У нашай сям'і аб гэтым ніколі не ўспаміналі. У часы бальшавіцкага рэжыму для спакойнага існавання трэба было мець рабоча-сялянскае паходжанне. З гэтым у бацькі было ўсё ў парадку: яго бацька — сталяр, а маці — беззямельная сялянка. Але ж і паходжанне чалавека далёка не заўсёды было гарантыяй ад пераследу. І аб тым, што другая жонка была ўнучкай паноў, таксама не прыходзілася гаварыць: служанка, з сялян.

У гады сталінскіх рэпрэсій, асабліва ў 1937 годзе, любы чалавек мог быць абвінавачаны бог ведае ў чым і асуджаны на доўгія гады высылкі ў лагер альбо наогул расстраляны. Калі пачаліся рэпрэсіі пісьменнікаў, бацьку па начах спалася кепска. Ён, як і большасць яго братоў па пяры, чакаў арышту. Але яму пашанцавала. Яго спачатку выклікалі да следчага НКУС для высвятлення некаторых пытанняў. А следчым аказаўся малады чалавек, які, як аказалася, быў прыхільнікам бацькавага таленту, у юначыя гады зачытваўся кнігамі Янкі Маўра. Ён вельмі далікатна сустрэў бацьку, нешта высветліў і адпусціў дахаты, сказаўшы, што яму няма чаго баяцца. Магчыма, ён выратаваў Маўра ад арышту.

Калі я крыху падрасла, то ўспрымала бацьку як вядомага і любімага моладдзю пісьменніка. Ён быў шырока эрудзіраваным і мудрым чалавекам. Да яго з рознымі пытаннямі звярталіся не толькі я і мае сяброўкі, але і знаёмыя людзі.

Мне прыпамінаецца такая забаўная гісторыя. У наш клас прыйшла новая дзяўчынка — Іра, якая часта выхвалялася, што яе бацька — самы разумны, а маці — самая прыгожая. І яна так надакучыла маім сяброўкам, што яны прыдумалі, як яе правучыць. Яны сказалі, што не вераць, што яе бацька самы разумны з бацькоў, і што мой бацька разумнейшы за яе бацьку. Гэта можна даказаць. Ірына спрачалася, і тады дзяўчаты прапанавалі правесці конкурс бацькоў, і тая пагадзілася. Дзяўчаты падрыхтавалі некалькі пытанняў, на якія канкурсанты павінны былі даць адказы. А па адказах вызначыць, хто ёсць хто. Спачатку дзяўчаты пайшлі да Ірынінага бацькі і папрасілі адказаць на пытанні. На першае пытанне той нешта адказаў, а па іншых — параіў звярнуцца да настаўнікаў.

Іра засмуцілася, але разам з усімі пайшла да майго бацькі. А ён, нічога не ведаючы пра конкурс, вельмі добра, зразумела адказаў на ўсе пытанні. Як-ніяк настаўніцкая шматгадовая праца сказалася. І Ірыне нічога не заставалася, як прызнаць сваю паразу. Але яна па-ранейшаму настойвала, што яе маці прыгажэйшая за іншых мам. Конкурсу прыгажосці дзяўчаты праводзіць не сталі. На тым усё заспакоілася. Калі ж бацька даведаўся аб удзеле ў конкурсе, вельмі смяяўся. І сказаў, калі б ён ведаў пра гэты эксперымент-экзамен, то расказаў бы болей і лепш.

У пачатку трыццатых гадоў савецкі ўрад адмяніў забарону на святкаванне Новага года з ёлкамі. І Саюз пісьменнікаў пачаў ладзіць для дзяцей навагоднія святы вакол ёлкі. Помніцца, як бацька прывёў мяне ў вялікую залу Дома пісьменнікаў, дзе ззяла прыгожа ўбраная ёлка. Паблізу ад яе стаяла групка малечы, а асобна, заклаўшы рукі за спіну, расхаджваў бялявы хлопчык гадоў сямі-васьмі. Бацька нахіліўся да мяне і кажа: «Натачка, паглядзі на гэтага хлопчыка, гэта той самы Міхасёк, пра чые прыгоды мы чыталі з табою». А чыталі мы паэму Якуба Коласа «Міхасёвы прыгоды», якая толькі-толькі выйшла з друку. Канечне, мне было вельмі цікава паглядзець на жывога героя гэтай паэмы. Так я ўпершыню ўбачыла малодшага сына Якуба Коласа. Ён чымсьці вызначаўся і адрозніваўся ад маіх суседскіх хлапчукоў.

У двары нашай школы знаходзіўся аднапавярховы драўляны дом на дзве кватэры з асобнымі ўваходамі. У першай кватэры ў адным пакоі жыла жанчына з дачкою, а ў другой — два старэйшыя сыны Платонавых, старэйшы — гарбаценькі Коля, меншы — Грынька — равеснік і сябра Арсеня. Самі Платонавы з трыма

меншымі дзецьмі займалі вялікі пакой з асобным уваходам. Гэты пакой служыў адначасова і кухняй, і сталовай, і спальняй. Дачка Платонавых Вера была на год старэйшая за мяне, а Валодзя і Барыс — меншымі. Разам з дзецьмі Івашына Пулькам і Цэзікам мы складалі дружную каманду двара. Іншы раз да нас далучалася Ніна з суседняга двара і мая сяброўка па школе Ліда.

Жыхароў нашага двара напаткала трагедыя за трагедыяй. Так, гарбаценькі Мікола закахаўся ў дачку суседкі, але разумеў, што прыгожая дзяўчына ніколі не палюбіць калеку. І ён вырашыў скончыць жыццё самагубствам: павесіўся ў сваім пакойчыку. Брат яго Грынька, надзвычай добры хлопец, калі падрос, пайшоў працаваць. Ён любіў сваіх меншых брацікаў і сястрычку і на зробленыя грошы купляў ім цукеркі, марожанае, чаго бацькі ніколі не рабілі. Яны, як толькі атрымоўвалі заробак, першым чынам запрашалі сваіх сяброў Крукавых і ладзілі грандыёзную папойку, а на грошы, што заставаліся, так-сяк кармілі дзяцей, якія заўсёды былі галоднымі. Мае бацькі бачылі гэта і стараліся дапамагчы дзецям, але і ў саміх было не густа. Калі Валодзя і Барыс прыходзілі да мяне не без намеру ў час абеду, маці іх чым-небудзь частавала. А ў Грынькі ўжо з'явілася любімая дзяўчына. Яна ўгаворвала яго перайсці да яе, але Грынька не мог пакінуць у бядоце сваіх меншых братоў і сястру. Калі ж ён на зробленыя за некалькі месяцаў грошы купіў сабе першы прыстойны касцюм, то яго маці, раззлаваўшыся на такую трату грошай, крыкнула: «Каб табе на смерць гэты касцюм адзець!» Нервы ў хлопца не вытрымалі і ён застрэліўся з дробнакаліберкі, якую пазычыў у Арсеня. Арсень жа атрымаў яе для ўдзелу ў нейкіх спаборніцтвах, і яму давялося даваць паказанні ў міліцыі. Бацька вельмі перажываў заўчасную смерць юнака, сябра Арсеня. Маці Грынькі, канечне, не жадала смерці сыну, яна праклінала сябе за гэтыя словы, выказаныя ў гневе. Як трэба асцярожна выказвацца ў адносінах да дзяцей!

І яшчэ адна жудасная трагедыя напаткала наш двор. Поруч з лесвіцай, якая вяла на трэці паверх, была зроблена невялікая прыбудова, дзе месцілася аднапакаёвая кватэра. У ёй жыла адзінокая жанчына, якая працавала ў школе. Аднойчы яна ўзяла да сябе на кватэру студэнта ўніверсітэта. З часам яна пакахала яго. Усе гады сваёй вучобы ён жыў у яе на поўным пансіёне. Яна яго карміла, мыла адзежу, што магла купляла. І да ўсяго нарадзіла яму двух хлопчыкаў. Калі ён закончыў вучобу і з'ехаў ад яе, старэйшаму хлопчыку было тры гадкі, а меншаму — некалькі месяцаў. У хуткім часе пасля ад'езду іх бацькі жанчына прывяла старэйшага хлопчыка да суседзяў і папрасіла пакінуць яго на ноч, маўляў, заўтра забярэ. Яна тлумачыла гэта тым, што пасля ад'езду студэнта трэба правесці ўборку і перастаноўку, а хлопчык будзе ёй замінаць. Але раніцай яна не прыйшла. Тады суседзі пайшлі да яе, дзверы былі зачынены, а на стук ніхто не адклікаўся. Адчуўшы нешта нядобрае, давялося клікаць домакіраўніка і міліцыянера. Дзверы ўзламалі, увайшлі ў кватэру. У пакоі ўсё было прыбрана, на стале ляжаў клуначак з адзежынай і цацкамі сына і яго метрыка. Больш не было нічога. Дзверы на кухню былі шчыльна зачынены. Калі зайшлі туды, то ўбачылі... на падлозе ляжыць жанчына, прыгарнуўшая да сябе немаўлятка. Абодва мёртвыя. А ў адчыненай печы яшчэ тлелі галавешкі. Атручэнне чадным газам. Гэтая трагедыя ўзрушыла ўсіх жыхароў нашага двара. Бацька казаў маці, што можна зразумець гора пакінутай жанчыны, але не можна зразумець, як яна, маці двух дзетак, магла так з імі абысціся — трохгадовага пакінуць без маці, а немаўля забраць з сабою ў магілу. Хіба не абавязак маці гадаваць дзетак, тым больш, што ў яе было жытло, была работа. Бацька дзяцей з'явіўся на пахаванне, пасля доўга сядзеў у пакоі і плакаў. А пасля забраў сына, яго нешматлікія рэчы і больш яго ніхто не бачыў. Мой бацька быў выбіты з каляіны з-за гэтай трагедыі.

Паступова перажыванні гарадскіх бядот адыходзілі, асабліва калі вярталіся ізноў у аблюбаваны куток летняга адпачынку. Адпачывалі не толькі сваёй сям'ёй — амаль кожным летам маці запрашала сваю пляменніцу Мусю, дачку згвалчанай сястры. Пасля народзін Мусі, яе бабка адправіла дачку ў Мінск, і тая



*Наталля з Тамарай Шумейкінай. 1941 г.*

сама гадавала маленькую дзяўчынку. Пасля таго, як бабка памерла, Мусю адвезлі ў Вольберавічы, дзе яна расла ў свайго дзядзькі Міколы. Не соладка ёй прыйшлося, нацярпелася кпінаў і папрокаў. Калі пачалася Першая сусветная вайна, Муся сышла з гэтай хаты. Пасля доўгіх блуканняў яна выйшла замуж за афіцэра НКУС Мікалая Шумейкіна, які пакахаў дзяўчыну і стараўся стварыць найлепшыя ўмовы для яе. Жылі яны тады ў Харкаве. Іншы раз Муся прыязджала да нас з мужам і дачкой Тамарай, маёй аднагодкай.

Тут, на Лысай гары, так называлі гэты куточак, мы разам хадзілі і ў ягады, і ў грыбы, а ў дажджлівыя дні пасля абеду Муся ў пары з Шурай рэзаліся ў падкіднога супраць пары Арсень — Фёдар і амаль заўсёды прайгравалі ім. А хто прайграў — пазбаўляўся салодкай стравы ў абед і пірага на вячэру. Гэтую смакату з агромністым задавальненнем з'ядалі Фёдар з Арсенем. Гулялі і на кубачак ягад, якія даводзілася збіраць у лесе. А я ўважліва сачыла за карцёжнікамі, і мне так хацелася ўключыцца ў гэтую гульню! Але каму цікава было бавіць час за картамі з такой малечай, як я? Хіба цікава абыграць дзіця і пазбавіць яго смачнай стравы, на якую маці была майстрыхай. І ўсё ж Федзя пашкадаваў мяне і згадзіўся згуляць тры партыі з умовай — калі ён выйграе, то я стануўлюся яго рабыняй на цэлы дзень, буду выконваць усе яго пажаданні. Маё жаданне згуляць было настолькі вялікім, што я пагадзілася. Канечне, Фёдару і ў галаву не магло прыйсці, што прайграць можа ён. Першую партыю ён гуляў нядбайна, не задумваючыся над ходам, і... прайграў. Другую партыю ён гуляў больш асцярожна і ўважліва, але таксама прайграў. Прайграў ён і трэцюю партыю. Гэта быў удар па яго сябелюбівай асобе. Як можна прайграць дзіцяці, якое першы раз у жыцці ўзяло ў рукі карты? Але нічога не зробіш: зараз ён паступае ў распараджэнне сястрычкі. На дварэ дажджыла, і мы ўсе леглі адпачываць. А я думала і думала, якое заданне даць свайму рабу. Ні да чаго лепшага не дадумалася, як папрасіць прынесці шклянку вады. Нічога не кажучы, Фёдар з неахвотаю ўстае з ложка і ідзе па ваду. Усе абалдзелі, як такая маляўка змагла паслаць старэйшага брата па ваду! Маці

стала мяне лаяць, я — апраўдвацца, а Фёдар сарамліва маўчаў. Маці забараніла патрабаваць ад старэйшага брата чаго б там ні было. Пасля гэтага ніхто са мной у карты не гуляў.

У тыя гады Муся была матэрыяльна добра забяспечана і дапамагала нам. Яна была някепскай швачкай і адзявала мяне, як і сваю родную дачку. Брала яна мяне ў Харкаў, і я лічыла яе сваёй цёткай, хаця яна даводзілася мне стрыечнай сястрой.

Аднойчы завітала да нас на дачу яшчэ адна маміна пляменніца — Зіна, дачка матчынага брата Аляксандра. Вельмі прыгожая жанчына, равесніца Фёдара, з якім яна пасябравала. Фёдар закахаўся ў яе. Выпадкова я стала сведкаю нечаканага відовішча: на беразе ракі амаль што ў евінай адзежы ляжала Зіна ў абрамленні белых лілеяў, а Федзя плаваў і даставаў іх для сваёй каханай. Выгляд у яе быў казачнай русалкі. Мне стала сорамна, і я ціхенька ўцякла, каб мяне не ўбачылі.

Маці многія гады нічога не ведала пра лёс Сашы. Ён яшчэ пры жыцці бабкі паехаў у горад вучыцца на доктара. Са смерцю бабкі абарваліся сувязі з ім. Праз многа гадоў маці выпадкова сустрэла на вуліцы Мінска аднавяскоўца, які расказаў, што яе брат Саша жывы, працуе доктарам у Жмерынцы. Такая навіна ўзбударажыла маці, і яна, даведаўшыся адрас, кінулася да яго, прыхапіўшы і мяне. А гэта было ў тым самым годзе, калі на Украіне быў страшэнны голад, галадамор. У маёй памяці на ўсё жыццё засталіся жахлівыя карціны: на вазах з высокімі-высокімі «бартамі» ляжалі трупы схуднелых людзей, а рукі, ногі звешваліся з воза…

Дзядзя Саша нас добра прыняў, сям'я доктара не галадала, але мне ўсё роўна страшна хацелася вярнуцца дахаты.

У 1939 годзе бацька нарэшце атрымаў асобную кватэру. Гэта была чатырохпакаёўка ў двухпавярховым драўляным доме па Танкавай вуліцы. Тут жылі пісьменнікі. Самымі блізкімі суседзямі сталі сем'і Ільі Гурскага і Міхася Лынькова. Іх дзеці былі нашмат меншымі за мяне, зімою я іх часта вазіла на санках.

Фактычна ў новай кватэры жылі бацькі і я. Арсень рэдка бываў дома, прыходзіў паесці і паспаць. Фёдар пасля абароны кандыдацкай дысертацыі атрымаў пакой у «прафесарскім» доме, дзе жылі пераважна супрацоўнікі ўніверсітэта. Але кожны дзень ён прыходзіў да нас абедаць, а вольныя ад заняткаў вечары праводзіў з бацькам. Шура пасля заканчэння школы паехала на вучобу ў Ленінград, паступіла ў інстытут кінаінжынераў, а заканчвала ў блакаду электратэхнічны інстытут.

Нарэшце ў бацькі з'явіўся свой кабінет. Знайшоўся невялікі пакойчык і для мяне. У гэтай кватэры была ў нас сталовая і невялікая гасціная, дзе на канапе спаў Арсень. А маці радавалася асобнай кухні, кухні толькі на адну сям'ю.

Да бацькі часта прыходзілі сябры, знаёмыя — ён быў таварыскім і надзвычай інфармаваным чалавекам з нетрадыцыйнымі поглядамі і выказваннямі. З яго сяброў часцей за іншых прыходзілі настаўнікі — Манькоўскі і Раманоўскі. Апошні быў жанаты з сястрою першай жонкі бацькі. Іншыя знаёмыя не запомніліся, бо калі збіраліся госці, бацькі лічылі, што дзяўчынцы-школьніцы не месца за сталом з дарослымі. Манькоўскі прыходзіў з жонкаю Анэляй Восіпаўнай, выдатнай гаспадыняй, якая ўмела так смачна гатаваць ежу. Іншы раз бацькі бралі мяне з сабою да Манькоўскіх. У іх былі дачка і сын. Калі пачалася вайна, Манькоўскія спрабавалі ўцячы ад немцаў, дайшлі да Барысава, а мост быў ужо ўзарваны. Прыйшлося вяртацца ў разбураны і спалены Мінск. Каб выжыць у час акупацыі, давялося ісці настаўнікам у школу, адчыненую немцамі. За гэта савецкія ўлады пасля вызвалення горада засудзілі яго на 10 год зняволення, як і многіх іншых настаўнікаў, за тое, што яны вучылі дзяцей у гады акупацыі. А на якія сродкі маглі існаваць людзі, кінутыя на волю лёсу? Пасля вайны, калі я жыла ў доме Якуба Коласа, запрасіла Анэлю Восіпаўну пераехаць да нас весці гаспадарку, бо мы, маладыя нявесткі, працавалі і толькі вучыліся гаспадарыць. Калі Манькоўскі адбыў свой тэрмін, жонка яго вярнулася ў сваю сям'ю. Пазней, калі падрос мой старэйшы сын, то Манькоўскі займаўся з ім матэматыкай. А яго сын загінуў ці не ў першым баі з немцамі, калі яго, непадрыхтаванага, пасля вызвалення Мінска

адправілі на фронт. Хадзілі чуткі, што так паступалі з большасцю моладзі, якая засталася на акупаванай зямлі і не пайшла ў партызаны.

Вясною 1940 года бацька атрымаў 2 пуцёўкі ў адзін з санаторыяў Сочы і вырашыў узяць з сабою і мяне. Не пакідаць жа школьніцу адну на доўгі час. Але мне трэба было здаваць экзамены — у той час, пачынаючы з чацвёртага класа, кожны год адбываліся экзамены па большасці прадметаў. Паколькі я была адной з лепшых вучаніц, мяне вызвалілі ад экзаменаў, акрамя аднаго — па матэматыцы. Наш строгі настаўнік матэматыкі Філосаф Дзям’янавіч Панкавец настаяў, каб я трымала экзамен. Ён быў адным з лепшых нашых настаўнікаў. Ён ніколі не крычаў на вучняў, але на яго занятках была абсалютная цішыня. І як цікава іншы раз здараецца ў жыцці! Мой любімы настаўнік, як я даведалася пазней, быў бацькам Лёні — лепшага сябра майго мужа. Яны здружыліся з другога класа і сябруюць і зараз, а ім ужо за восемдзесят. Калі пасля вайны мы наведалі Філосафа Дзям’янавіча, ён адразу пазнаў мяне, хаця мінула шмат гадоў і я была даўно не школьніцай, а замужняй жанчынай, у мяне былі ўжо свае дзеці. У час вайны бацька і сын незалежна адзін ад аднаго пайшлі ў партызаны, але ваявалі ў розных групах. Як расказваў Лёня, калі іх моцна прыціснулі немцы, уцякаючы, ён згледзеў у канаве чыюсь галаву: чалавек намагаўся выбрацца з багны. Лёня пабег далей, але нешта вымусіла яго вярнуцца, дапамагчы бедаку. Аказалася, гэта быў яго бацька. Так яны сустрэліся ў партызанах.

Калі мы прыехалі ў Сочы, бацька ўладкаваў мяне на кватэру медсястры. А сталавацца я хадзіла ў сталоўку для супрацоўнікаў санаторыя. Увесь астатні час праводзіла з бацькамі, зрэдку заначоўвала ў іх.

Бацька намагаўся паказаць мне як мага больш новага і незвычайнага. Аднойчы ён завёў мяне ў дэндрарый. Колькі прыгожых расквечаных кустоў і дрэў! І ўсе — незнаёмыя, непаўторныя. І мне захацелася хаця б часцінку іх захаваць, зрабіць гербарый з чароўнай лістоты. Бацька памагаў мне, а я асцярожна, каб ніхто не ўбачыў, зрывала лісточкі, а ён складаў іх у журнал, запісваючы назву расліны. Я засушыла іх у тоўстай кнізе, а дома зрабіла сапраўдны экзатычны гербарый. Бацька прасачыў, каб я зрабіла подпіс пад кожным экспанатам. А пасля з энцыклапедыі азнаёмілася з тым, чым карысная тая ці іншая расліна — ці яе выкарыстоўваюць у лекавых мэтах, ці з’яўляецца дэкаратыўнай, аздабляючы паркі і садовую гаспадарку. Бацька заўсёды настойваў: калі я збіраю якую-небудзь калекцыю — раслін, матылькоў ці жукоў, я павінна ведаць іх назвы і іх асаблівасці. Так я пачала збіраць маркі. Да бацькі прыходзіла шмат пісем з розных краін. Ён вывучаў эсперанта і вёў перапіску з эсперантыстамі многіх краін. І гэта дапамагала атрымоўваць інфармацыю, якая была патрэбна для яго пісьменніцкай работы. А маркі з канвертаў ён аддаваў мне. Але патрабаваў, каб я ведала па карце, дзе знаходзіцца адпаведная краіна, чым яна багатая, які там клімат, прырода, звяры і г. д. Відаць, не пакідала яго настаўніцкая прафесія географа, а геаграфічных карт, кніг у нас было больш, чым дастаткова. А калі я не буду ведаць усё пра краіну, то якой бы каштоўнай ні была марка, ён яе забярэ.

Гербарый атрымаўся надзвычай прыгожым і інфарматыўным, я яго аддала ў кабінет батанікі школы. А вучылася ў «прэстыжнай» школе № 4, якая лічылася лепшай у горадзе. У ёй навучаліся дзеці многіх вядомых людзей таго часу. Так, у маім класе вучыўся Валянцін Сямёнаў, сын генерала НКУС; Тася Буракова, дачка пракурора; Ліля Ляонава, дачка акадэміка; Ірлена Гельфанд, дачка кіраўніка аптэк рэспублікі. А самай блізкай сяброўкай была Валя Шліўко. Бацька яе, інжынер, загінуў пры выбуху на заводзе.

Вучыліся мы ўсе добра, паколькі ў нас былі выдатныя педагогі, яны ўмелі і зацікавіць сваімі дысцыплінамі, і прымусіць рыхтавацца да кожнага ўрока. Памяць аб іх захавалася на ўсё жыццё. Акрамя Панкаўца, выкладчыка матэматыкі, добра памятаю настаўніка геаграфіі Правашынскага. Добра памятаю класнага кіраўніка Рэвеку Гіршаўну, выкладчыцу хіміі. Яна некалі атрымала траўму пазва-

ночніка, была крыху гарбаценькая і моцна кульгала. Сям'і ў яе не было, і яна ўсю сваю любоў і пяшчоту пераносіла на нас — сваіх вучняў. Яна ведала кожнага з нас мо лепей за бацькоў. І часам дзяўчаты дзяліліся з ёю сваімі сакрэтамі, якія не даверылі б сваім бацькам. Яна была строгім педагогам і патрабавала ад кожнага з нас грунтоўных ведаў.

Настала вясна сорак першага. Маці цяжка хварэла на плеўрыт, і бацька зноў атрымаў пуцёўкі ў сочынскі санаторый на май месяц. Ізноў узнікла пытанне, што рабіць са мною. Яшчэ ішлі заняткі, і на гэты раз мне адмовілі датэрмінова пакінуць школу. Тады бацька папрасіў Фёдара пераехаць у нашу кватэру на час адпачынку ў санаторыі. Гатаваць абеды не было каму, і Федзя прапанаваў хадзіць на абед у рэстаран гатэля «Беларусь». Якраз у той час у гэтым гатэлі спыніліся музыканты славутага джаза Эдзі Рознэра, якія таксама там сталаваліся. Яны звярнулі ўвагу на незвычайную пару, якая на працягу двух тыдняў кожны дзень прыходзіла абедаць. Высокі малады мужчына гадоў трыццаці і дзяўчынка гадоў 15—16. Ніяк не маглі зразумець, што нас звязвае. Мы прыходзілі, садзіліся за столік, Федзя пытаўся, што замовіць, замаўляў, даставаў кнігу і чытаў, не звяртаючы на мяне аніякай увагі, а я разглядала, што робіцца навокал. Пасля брат расплачваўся, і мы моўчкі пакідалі залу. Аднойчы, калі Фёдар адышоў у буфет, адзін з музыкаў падскочыў да мяне і запытаўся — кім мы даводзімся адзін аднаму — яны аніяк не могуць зразумець. І я сказала — мы сястра і брат, які прыводзіць мяне сюды на абед, пакуль не вернуцца бацькі. У таго музыкі нібы ад сэрца адлягло. А ў канцы мая прыехалі бацькі, і жыццё вярнулася ў старое рэчышча. Я стала рыхтавацца да экзаменаў. Апошні здала 20 чэрвеня і, як і ўсе іншыя, на выдатна. Некалькіх вучняў, якія паспяхова завяршылі экзамены, бацькі аднаго з нашых таварышаў запрасілі адпачыць у іх на дачы. Але 22 чэрвеня адгукнулася рэхам вайны, і нашы надзеі на адпачынак рухнулі, як рухнулі планы і лёсы многіх. Вайна раскідала нас у розныя бакі. Мне і Лілі Ляонавай з бацькамі пашчасціла паспець выбрацца з палаючага Мінска, Соня Пелеп з бацькам патрапіла ў гета, іх немцы расстралялі. Ірына Маркоўская трапіла ў партызанскі атрад, Ірына Ленская апынулася ў дзіцячым доме, які паспеў эвакуіравацца, Валянцін Сямёнаў і Юрый Алёхін, бацькі якіх былі ваеннаслужачымі, трапілі ў армію. А мая сяброўка Валя Шліўко дабралася да Самарканда, дзе пахавала сваю маці, якая захварэла на тыф. Ні родных, ні блізкіх у яе не было, і яна вырашыла ісці ў армію, на фронт. У войска прызвалі Генадзя Баннікава, які сядзеў за апошняй партай за мною і Валяй. І праз яго я ледзьве не стала калекаю. А было гэта так. На вялікім перапынку, калі я перапісвала ў сшытак хатняе заданне па матэматыцы, прыбег Гена. Яму было горача, і ён адчыніў акно. Ад ветру разляцеліся ўсе мае паперкі, і я ўскочыла на падаконне, каб зачыніць акно. А Гена кінуўся перашкодзіць мне зрабіць гэта. Намнога вышэйшы за мяне, ён у выніку валтузні выціснуў шкло, якое пасыпалася мне на галаву, і адзін востры асколак, як лязо скальпеля, упіўся, як мне падалося, у вока. Я выцягнула асколак, і кроў палілася струменьчыкам мне ў рукаў. Гена перапалохаўся і паспяшаўся заспакоіць: «Ната, не хвалюйся, не хвалюйся, я ажанюся з табою і буду любіць і аднавокую». Тут падбеглі дзяўчаты і адвялі мяне да медсястры, якая зрабіла перавязку. І зноў у каторы раз мне пашанцавала: шкельца ўпілося не ў вока, а ў некалькіх міліметрах ад яго. Шрам застаўся на ўсё жыццё. І як было не ўспомніць перасуд жанчын з Вольберавіч, што ў мяне ёсць анёл-ахоўнік! Пачалася вайна і пачыналіся новыя цяжкія выпрабаванні. А Гена Баннікаў з вайны не вярнуўся...

## Эвакуацыя

Пасля далучэння зямель Заходняй Беларусі з'явілася магчымасць набыць добры па тым часе радыёпрыёмнік Віленскага завода. І па вечарах, калі Федзя быў свабодны, ён прыходзіў да нас і разам з бацькам слухаў навіны з Англіі.

Фёдар добра ведаў англійскую мову і, памятаецца, як яны з бацькам абмяркоўвалі пачутае. Бацька дзівіўся: няўжо толькі англічане ведаюць пра тое, што хутка пачнецца напад Германіі на Савецкі Саюз, а наш урад не ведае?

Незадоўга да пачатку вайны першым беларускім тэатрам была прынята да пастаноўкі п'еса Янкі Маўра і налічаны за яе вялікі ганарар. Назва гэтай п'есы, як стала вядома з архіўных матэрыялаў, прыведзеных у цікавай і каштоўнай кнізе Людмілы Рублеўскай і Віталя Скалабана «Время и бремя архивов и времен», — «Балбатун». І яна, як і многія іншыя творы беларускіх пісьменнікаў, трапіла пад вострую крытыку загадчыцы секцыі друку ЦК КП(б)Б Л. Сцерын. Камедыя не была надрукавана, і тэкст яе беззваротна загінуў. Прапаў і ганарар, бо калі бацька прыйшоў у касу 21 чэрвеня, там былі толькі дробныя купюры, і яму параілі прыйсці на наступным тыдні. Пачалася вайна, і ўсе банкі, касы былі зачынены, мы засталіся без грошай. На трэці дзень вайны сталі бамбіць горад. Вакол узніклі пажары, іх ніхто не тушыў, ды і немагчыма было патушыць, драўляныя хаты выгаралі кварталамі. Мора агню і дыму. На наступны дзень бамбардзіроўка працягвалася, хаця і не так інтэнсіўна. Нямецкія самалёты ляталі нізка, поўнасцю завалодалі прасторай. Зрэдку пастрэльвалі зеніткі. Раніцай даведаліся, што нашы ўлады пакінулі горад. Кожны стаў думаць сам аб сабе. І бацька вырашыў уцякаць. Мы хутка сабраліся. Бацька ўзяў партфель з дакументамі, маці — невялікую кашолку, паклала туды кавалак сала і цукар, які нарыхтавала для варэння. Больш у нас нічога не было. Хлебныя магазіны ўжо не працавалі. Я адзела на сябе пару сукенак, а ў рукзак паклала чатыры адрэзы матэрыялу, што бацька прывёз мне і сястры з Заходняй Беларусі. Мне надта шкада было іх пакідаць. Бацька прапанаваў нам узяць з сабою паліто. Так, не абцяжараныя рэчамі, мы выправіліся ў дарогу. Праводзіў нас Федзя. Але ён не пайшоў з намі. Як законапаслухмяны грамадзянін ён павінен быў 26 чэрвеня прыйсці ў ваенкамат. Пры развітанні бацька даў яму адрас маёй знаёмай дзяўчыны са Свярдлоўска, праз якую мы маглі пасля звязацца.

Спачатку мы думалі спыніцца дзе-небудзь у вёсцы, перачакаць, пакуль нашы войскі адкінуць немцаў за мяжу. Але гэтага не здарылася, немцы хутка прасоўваліся ў глыбіню нашай краіны. А мы разам з іншымі людзьмі, якія ўцякалі з палаючага Мінска, пайшлі на ўсход уздоўж чыгункі. Каля станцыі Азярышча мы ўбачылі таварняк, з якога выгружаліся ваенныя. Яны сказалі, што ў хуткім часе цягнік паедзе назад у бок Масквы. І ўсім бежанцам дазволілі забрацца ў вагоны. Але цягнік стаяў і прастаяў усю ноч, калі можна было ехаць. Ноччу немцы не бамбілі. На світанні цягнік рушыў, пры кожнай бамбёжцы чамусьці спыняўся. Даехалі да станцыі Смалявічы. Немцы скінулі бомбы, апошнія вагоны загарэліся. Адна бомба ўпала насупраць нашага вагона. Яна трапіла ў домік чыгуначніка, дом загарэўся. Адтуль у наш вагон прынеслі параненых: дзяўчынку з перабітымі нагамі, яна была без памяці, і бабку, у якой была адарвана ступня. Яна страшэнна крычала. Маці дзяўчынкі была забіта. Бежанцы вымушаны былі пакінуць вагоны і пешшу рухацца далей. Ісці з рэчамі было цяжка, людзі па дарозе вызваляліся ад сваіх нош, пакідаючы сабе самае каштоўнае. Мы не адважваліся пакінуць параненых, але ж і дапамагчы ім нічым не маглі. Напрыканцы з'явіліся, відаць, кіраўнікі мясцовых улад і параілі нам выйсці з вагона, клопаты аб параненых яны возьмуць на сябе. І мы рушылі далей. Бацька спяшаўся дабрацца да Барысава і перайсці праз Бярэзіну па мосце, пакуль ён не ўзарваны, бо ні бацька, ні маці не змаглі б пераплысці досыць шырокую раку. І мы, выбіваючыся з сіл, ішлі далей і далей. Раптам з лесу выехаў грузавы ваенны аўтамабіль. У кузаве знаходзіўся нейкі груз, закрыты брызентам. Каля нас машына прыпынілася, бацька падышоў да яе, паказаў вайскоўцам свае дакументы, паведаміў, што ён пісьменнік, разам з жонкаю і дачкою ўцякае з палаючага Мінска. І ён папрасіў, каб яны пагадзіліся ўзяць з сабою і перавезці праз Бярэзіну. Відаць, нечаканае, жахлівае становішча, у якім апынуўся наш народ, адбілася і ў сэрцах вайскоўцаў, і яны пагадзіліся ўзяць нас з сабою. І мы не толькі без перашкод мінулі Бары-

саўскі мост, але і даехалі да станцыі Крупкі. А там мясцовыя ўлады фарміравалі эшалон з мноства бежанцаў для адпраўкі ў тыл. Усіх перапісалі, уладкавалі ў таварныя вагоны і павезлі ў Оршу.

Многія дэталі тых абставін, у якіх мы апынуліся, сцерліся з памяці, але захаваліся бацькавы запісы, якія ён вёў у тыя жудасныя часы. З іх найбольш каштоўнымі, напэўна, з'явіліся ўражанні аб псіхалагічным стане бежанцаў. Так, «26 чэрвеня. Рушылі на досвітку, калі сапраўды пачалася бамбардзіроўка і кулямётны абстрэл. Пры кожным налёце поезд спыняецца, а так як налёты беспераапынныя, то за ўвесь дзень мы праехалі 30—40 км. Нервы!

Два чырвонаармейцы. Адзін зняў шапку і выцер пот. Немы крык аднаго дзядзькі: «Ты каму гэта кепкай махаў? Трымайце яго!» Чалавек 20 адразу паверыла. Схапілі яго. Патрабавалі дакуманты. «Нямецкі дакумант!!!» — загаласіў адзін бледнатвары хлопец. «Здалі шпіёнаў», а праз некаторы час схапілі адну дзяўчыну. Тая галосіць: «Мама!» Яе цягнуць. Маці кінулася ратаваць. «Прыцягнуты» да адказу.

А самалёты рэгулярна, метадычна прылятаюць з аднаго і таго ж боку, пралятаюць над поездам і лятуць к Барысаву, затым вяртаюцца і абстрэльваюць нас з кулямётаў. Некаторыя скідваюць бомбы тут жа на ўбогую хацінку (два выпадкі), на шасэ за некалькі дзясяткаў метраў ад нас. І два разы... поезд спыняецца, і пасажыры ў жаху мітусяцца. Горш за ўсё бывае, калі чырвонаармейцы пачынаюць мітусіцца, тады «штацкія» зусім шалеюць. І наадварот: прыклад супакою таксама эфектыўны. У гэтым мне даводзілася ўпэўніцца на ўласнай скуры. Я (і дачка) досыць хутка прывыклі к абстрэлу, улічыць ступень небяспекі, асвойваліся са становішчам — і былі заспакоены. І тады да мяне стаў цягнуцца ўвесь вагон: пытацца, што рабіць ім? Куды ехаць? Куды мы едзем? Ці скора прыедзем? Чаму мы стаім? Ці скора поезд скранецца? Што з намі будзе далей? Ці пераможам мы немца? Ці будзе самалёт нас бамбіць? Ці пападзе ў нас? І г. д. да бясконцасці. Я сядзеў спакойна ў кутку і ні ўва што не ўмешваўся, але на мяне глядзелі як на ўладальніка сакрэту выратавання. Калі б я сказаў: вылезці і пайсці ў лес, у балота — усе бясспрэчна рушылі б за мною. Ім усім хацелася, каб я ўзяў гэтую ўладу, яны намякалі на гэта. І толькі таму, што я быў спакойным.

Вось чалавек саскочыў на ўзаранае поле і папоўз па ім, пакідаючы след. Чаго ён паўзе? Куды? Навошта? Самалёт пралятае ў староны. Цяпер я ўпэўніўся, што храбрасць — гэта здаровы сэнс. Дачка мая (16 год) вельмі і вельмі баіцца, але ў вачах спадарожнікаў яна храбрая, бо не мітусіцца і арыентуецца ў абстаноўцы».

Наш эшалон дапоўз да станцыі Орша пасля яе бамбардзіроўкі. Перад намі ўзнікла жахлівая карціна: кругом пажары, на рэйках — забітыя людзі, трупы абгарэлых коней з уздутымі жыватамі... З Оршы наш эшалон накіравалі на поўнач. Пакуль мы ехалі па роднай Беларусі, то на кожнай станцыі нас сустракалі мясцовыя жыхары і прапаноўвалі нам, галодным, што маглі: вараную бульбу, хлеб, тварог, яйкі. А на адным прыпынку пажылая жанчына дала мне, дзяўчынцы, цэлага пасмажанага гуся. А калі мы пакінулі межы Беларусі і ехалі далей на поўнач, нас ужо ніхто на прыпынках не сустракаў, і чым мы сілкаваліся, я не памятаю. Апошні раз мы трапілі пад абстрэл на станцыі Вялікія Лукі. Эшалон прыбыў пасля бамбардзіроўкі. Цягнік спыніўся, і я з бацькам выйшла з вагона. Нечакана аднекуль вынырнуў нямецкі самалёт і выпусціў па нас чаргу з кулямёта. Кулі прабілі сценку вагона крыху вышэй нашых галоў. З Вялікіх Лук нас павезлі далей на поўнач. У начы мы прачнуліся ад таго, што больш не чулі гуку колаў і не адчувалі пагойдвання вагона. Эшалон стаяў. Раніцай, на досвітку, бацька выйшаў з вагона даведацца, што здарылася, чаму так доўга стаім. У скорым часе ён вярнуўся і сказаў, што паравоза няма, няма нікога з начальства, і што мы дайшлі да «Ручкі» — так называўся паўстанак.

Калі зусім развіднела, з'явіўся начальнік эшалона і абвясціў, што далей эшалон не пойдзе, адсюль нас будуць развозіць па вёсках Іванаўскай вобласці на

жыхарства. Нас прывезлі ў маленькую вёсачку, якая прывяла нас у засмучэнне. Большай галечы мае бацькі не бачылі нават у галодныя 20-я гады. Вёсачка была невялікай, назва яе не запомнілася, усяго дзясяткі са два счарнелых ад часу падслепаватых хатак, урослых у зямлю. Ва ўсёй вёсцы не было ніводнага пладовага дрэўца, ні кусточка. Дрэвы сяляне высеклі, каб не плаціць дадатковы падатак, якім савецкія ўлады абклалі кожнае дрэва. Дый вывозіць ураджай не было магчымасці. Большасць хат не была абгароджана плотам.

Нас пасялілі ў хаце адзінокай бабулькі, у якой з жыўнасці была толькі адна курка, якая жыла пад ганкам і прыносіла праз дзень адно яйка. І гэтыя яйкі наша гаспадыня прыносіла мне. У хацінцы з земляной падлогай і маленькімі акенцамі было цёмна і сыра. Амаль што ніякай мэблі ў доме не было. Сама бабка спала на вузенькім тапчане, а нас адправіла спаць на печку-ляжанку.

Усіх працаздольных эвакуіраваных уладкавалі на працу ў калгас. Бацьку, як самага старога і адукаванага чалавека, прызначылі на працу ў праўленне калгаса. За яго работу плацілі прадуктамі, якімі ён дзяліўся з нашай гаспадыняй.

Мая сяброўка Ада Зайцава, з якой я пазнаёмілася ў Маскве на школьных спаборніцтвах, запрасіла нас прыехаць да іх у Свярдлоўск. І мы накіраваліся да яе. Яна жыла са сваёй маці і малодшай сястрой у двухпакаёвай кватэры ў цэнтры горада. Бацькі Ады ў маладосці сталі рэвалюцыянерамі і за сваю дзейнасць былі асуджаны царскімі ўладамі і высланы ў Сібір. Там яны і пабраліся. Бацька Ады быў намнога старэйшы за жонку і даўно памёр. Маці таксама была пажылая жанчына, сям’я ж жыла на яе пенсію. Сустрэлі нас надзвычай сардэчна, прапанавалі адзін пакой, а больш нічым не маглі дапамагчы, бо самі жылі вельмі сціпла. Атрымаць прапіску ў горадзе нават пры наяўнасці жыллёвай плошчы не ўдалося, паколькі гарадскія ўлады рыхтаваліся да пераезду ўрада з Масквы. А без прапіскі немагчыма было ўладкавацца на работу, ды і зімовай адзежы ў нас не было, а пра сібірскія маразы было добра вядома. І бацька вырашыў ехаць далей, на поўдзень, у больш цёплыя мясціны. Ён выбраў Алма-Ату, куды немцы пры ўсім сваім жаданні ніколі не дойдуць. І мы зноў рушылі ў дарогу.

У Свярдлоўску бацька атрымаў ліст ад Фёдара. Ён пісаў, што, прыйшоўшы ў ваенкамат у вызначаны час, нікога там не застаў. Ваенкамат быў зачынены, і ранкам 27 чэрвеня Фёдар пакінуў Мінск, а ў гэты час немцы скінулі пад Мінскам дэсант. Дэсантнікі былі апрануты ў цывільную адзежу і мелі неабходныя дакументы савецкага ўзору. Спецыяльны атрад вайскоўцаў вылоўліваў дэсантнікаў. Але як іх адрозніць ад бежанцаў? І Фёдара прынялі за дэсантніка-шпіёна, тым больш што фотакартка на пашпарце была прыклеена не лепшым чынам, сам у акулярах, з партфелем. А каго бачылі ў Мінску з партфелямі? Фёдар ніяк не мог даказаць, што ён мінчанін. І яго павялі на расстрэл. Па дарозе яго пазнаў адзін з ваенных, і Фёдара адпусцілі. А гэта быў выкладчык хіміі Афанасій Андрэевіч Ахрэм — у будучым акадэмік нашай акадэміі. Яму Федзя абавязаны сваім выратаваннем. А колькі іншых людзей, якія ўцякалі без дакументаў, было расстраляна?.. Ніхто не даведаецца — прапаў без вестак і ўсё.

Федзя пехам дайшоў да Бярэзіны, моста ўжо не было — яго ўзарвалі. Фёдар умеў добра плаваць і без цяжкасці пераадолеў раку, і ў час, бо нямецкія танкі, якія прарваліся ў Барысаў, пачалі абстрэл другога берага. Фёдар бачыў, як ад снарада з танка загінула цэлая сям’я, якая спынілася на беразе...

У бліжэйшым населеным пункце Фёдар звярнуўся ў ваенкамат, але яго вызвалілі ад прызыву з-за пароку сэрца і кепскага зроку. Яго накіравалі на работу ў горад Кісялёўск. Там ён уладкаваўся выкладчыкам фізікі ў школу і цяпер мог крыху дапамагаць бацьку.

***Працяг будзе.***

Казімір КАМЕЙША

# УБАЧЫЦЬ У ЧАСОВЫМ ВЕЧНАЕ

**Ганад ЧАРКАЗЯН**. **Чатыры крокі.** *Мінск. «Логвінаў І. П.» 2010.*

Гэты паэтычны зборнік Ганада Чарказяна выйшаў з друку ўслед за ягонай кнігай прозы «Белая вежа», пра якую мне ўжо даводзілася пісаць. Нават па самой назве («Чатыры крокі») лёгка здагадацца, што гэтым разам чытачу прапануюцца новыя чатырохрадкоўі — чаргаві. Своеасаблівая назва сталася добрай знаходкай Г. Чарказяна. І трэба сказаць, што яна сёння трывала сцвердзіла сябе ў нашай літаратуры. Зараз, напэўна, кожны аматар беларускага паэтычнага слова скажа вам, што чаргаві ў перакладзе з курдскай мовы азначае «чатыры крокі». Паўтару сказанае ўжо некалі: паэзія і проза — гэта два раўназначныя крылы ў творчасці Г. Чарказяна. Усё часцей і часцей, вяслуючы тым, празаічным, пісьменнік не дае расслабіцца і першаснаму, паэтычнаму. Больш таго, ён працягвае тое, што аднойчы праграмна заявіў у сваіх першых чаргаві: думаць, разважаць, узважваць, быць у адказе за ўсё тое, што так не проста ўладкаваць на зямлі, гэта значыць — за жыццё.

Не будзем сцвярджаць, што Г. Чарказян дае нам гатовыя і вычарпальныя адказы на ўсе пытанні, якія ўзнікаюць у нашым, багатым на неспадзеўкі, жыцці. Не трэба шукаць у яго радках і нечага прарочага. Прарочае хіба што ўзнікае з падказкі самога Бога. Паэт сам ставіць пытанні, выносіць іх на строгі чытацкі суд, змушае чытача задумацца:

Звадкі і войны, рабства і кроў —<br>
Ці ўсімі свету трагедыя ўчута?<br>
Што трэба, каб больш не было ліхвяроў,<br>
Каб з душаў і сэрцаў сышла пакута?

Выклікаць чытача на даверлівую і шчырую размову, адказаць разам з ім на ўзніклыя пытанні, у гэтым і заключаецца аўтарская пазіцыя, але ні ў якім разе не зададзенасць.

Жыццё наша сапраўды шматграннае і непрадказальнае. Няма, не існуе ў свеце нейкай адной формулы ці схемы для жыццёвага ўладкавання. Заўсёды ёсць толькі пошук, хада, праца і змаганне. Пра гэтыя катэгорыі, якія ўрэшце зводзяцца да самой вечнасці, і разважае ў сваіх чатырохрадкоўях паэт:

Тыя, хто ступяць за намі, — убачаць нас,<br>
Нам жа не ўдасца ўбачыцца з імі.<br>
Непрыступныя межы сталюе Час,<br>
Заняты штукарствамі ўсімі сваімі.

«Чатыры крокі» — менавіта з такой назвай пагадзіліся на гэты раз і аўтар, і перакладчык новых чаргаві. Менавіта такім чынам, як мне здаецца, яны хацелі падкрэсліць саму беларускую аснову кнігі і ўсяго яе зместу. Доказаў тут асаблівых не трэба. Пра гэта сведчыць і неаднаразовы зварот да імён нашых класікаў: Купалы, Коласа, Багдановіча, ды і сама зацікаўленасць айчыннай гісторыяй. Паглядзіце, як удала кладзецца на беларускі фальклорны лад і сама інтанацыя чатырохрадкоўя:

Чмелю мой, чмелю, ружа завяла,<br>
А колькі цноты і хараства было.<br>
Нават тваё грознае джала<br>
Пялёсткі ад спёкі не ўсцерагло.

Гэта, светла-шчымлівае і меладычнае, не толькі схіляе нас да роздуму, але і закалыхвае ветрыкам роднай лагоды і саму душу. Тут ужо можна весці гаворку пра нейкі сінтэз беларускай фальклорнай прыпеўкі з чатырохрадковым усходнім мудраслоўем, кара-

ні якога цягнуцца далёка ў мінулае, узнаўляючы ў памяці многія славутыя імёны — і ў першую чаргу Амара Хаяма і яго сусветнавядомыя рубаі. Хай сабе афарыстычнасць — не чыста беларуская рыса, але ў сплаве з добра прыземленым нашым гумарам, яна дае амаль заўсёды нечаканы плён. Тады і сама іронія робіцца надта лагоднай:

Шануюць бароды, вусы пагладжваюць,
А сябар мой — рыжыкі перабірае…

А ўзяць, да прыкладу, радкі пра сучасны Мінск. З такой узрушанасцю і заклапочанасцю пра свой горад можа гаварыць толькі сам яго жыхар:

Горад віруе, вулкі жывуць,
Няміга булькоча глыбока ў трубе.
Бегма бяжыш… Павярні галаву —
Што застаецца пасля цябе?!

Гэта ж тое самае, што кожны з нас з той жа трывожлівасцю прамаўляе не адно дзесяцігоддзе.

«Чатыры крокі» ў паэтычнай хадзе хацелася б параўнаць са строгімі чаканна-зладжанымі армейскімі страявымі крокамі. Але, у адрозненне ад іх, тут часта за знешняй яркасцю і глянцам крыецца цэлае багацце сакрэтаў унутраных. Як вядома, аб вартасці мудраслоўя заўсёды мяркуюць па важкасці і яркасці самой думкі. І калі яе абрыс будзе расплывістым, невыразным, цвёрда не акрэсленым і нявывераным, дык і сама яна мае небяспеку страціць свой сэнс. Думка можа атрымацца і дваістай, і ледзьве ўлоўнай, у выглядзе намёку. Усё залежыць ад майстэрства самога аўтара. Але існуюць яшчэ і сакрэты творчасці. Яны ніколі не ляжаць на паверхні. Іх сутнасць заўсёды схавана дзесьці ў глыбіні душы самога творцы. Яны часта залежаць ад нейкіх зрухаў і ўскалыхаў гэтай душы. Рэдка калі і сам творца можа растлумачыць, як узнікла тое ці іншае яго адкрыццё. Часта разгадку ўсіх аўтарскіх творчых сакрэтаў бяруць на сябе крытыкі. Іх «адкрыцці» нярэдка бываюць нечаканасцю для саміх таямнічых аўтараў — пра свае сакрэты творцы даведваюцца з чужых вуснаў. Што ж, творчасць — рэч, як і ўсе іншыя сакрэты, з катэгорый невытлумачальных. Але згадкі пра тую ж самую хаду даюць і добрую падказку: шукаць трэба ўсё ў радках:

Мы — на дарозе жыцця хадакі,
Вечар глядзіцца вусцішшу шэрай.
І толькі вершаў светлых радкі
Мераюць шлях наш сваёй мерай.

Гаворачы пра кнігу «Чатыры крокі», нельга абысці ўвагай удумлівую і сумленную працу яе перакладчыка Міколы Мятліцкага. Адчуваю, што пераклады гэтыя даваліся яму няпроста. Паэзія, тым больш лаканічнае чатырохрадкоўе, — гэта не проза, дзе можна ісці крок у крок за аўтарам, улічваючы ўсе асаблівасці і каларыт той мовы, на якую перакладаеш. Тут жа трэба захаваць трапнасць самога выразу, лаканічнасць думкі ды яшчэ змацаваць усё дакладнай рыфмай.

Часта думка патрабуе нечаканага павароту, а гэтага можна дасягнуць з дапамогай інверсіі. Тут павінна быць запатрабавана напоўніцу і перакладчыцкае майстэрства. І ў гэтым Міколу Мятліцкаму не адмовіш. Сапраўды, усю глыбіню творчасці Ганада Чарказяна мы можам спасцігнуць менавіта дзякуючы перакладу. Я, пэўна, не перабольшу, калі скажу, што кніга гэта — добры прыклад удумлівага сааўтарства. Невыпадкова, відаць, і на вокладцы аднолькава раўнапраўна пачуваюць сябе партрэты аўтара і перакладчыка.

Агаворымся, што ёсць і яшчэ адзін сааўтар у кнізе — гэта мастак Каміль Камаль, чые малюнкі так вобразна і адэкватна дапаўняюць яе змест.

А сам перакладчык наконт чатырохрадкоўя Г. Чарказяна выказаўся так: «У радках чаргаві, як і ў сэрцы паэта, моцнай ніткай лёсу пазначана тая духоўная прастора, якая і робіць яго радок своеасаблівым, адметным. Яго чаргаві набліжаюць Беларусь да Каўказа, а далёкі горны Каўказ да Беларусі. Гэты сімбіёз паэтычных культур дае свой плён — вырастае ў вялікую духоўную еднасць, ва ўзаемаўзбагачэнне паэтычных плыняў, у тую сардэчнасць і шчырасць, якая толькі і вядома сапраўднаму паэтычнаму слову».

Нельга не пагадзіцца з гэтымі словамі, хацелася б да іх дадаць вось яшчэ што. Чаргаві — гэта не толькі чатыры аўтарскія крокі пошуку, розуму, бачання і адчування. Чытаючы іх, падсвядома адчуваеш і рэха пятага кроку. Гэта ўжо тое, што належыць чытачу, які павінен прайсці ўслед за паэтам і перакладчыкам. Скажу, ужо са свайго асабістага ўспрымання прачытанага. Сама форма па-філасофску вымудраванага **катрэна** патрабуе разважлівага і ўдумлівага прачытання. Як ні парадаксальна, а кароткія чатыры аўтарскія крокі выліваюцца ў не зусім кароткую дарогу чытацкіх асацыяцый, асабістых удакладненняў і суадносін, нават нейкіх уласных прыгадак. Кожнае чатырохрадкоўе ў гэтай сімвалічнай хадзе змушае яшчэ спыніцца і задумацца. Словам, кароткае мае на мэце працяглае. Часта само аўтарскае адкрыццё нагадвае нейкае здзіўленне, дзе, здаецца, і здзіўляцца няма чаму:

Выблісне золак зямны, як надзея,
Узрушыць наплыў салаўіных рулад.
Глянеш — і сэрца ў грудзях халадзее, —
Свет ледзяны не змяніўся, Ганад!

Ёсць тут над чым задумацца чалавеку. Як мала, аказваецца, змяніўся ён, свет, за часы свайго існавання. Колы, як круціліся, так і круцяцца. Птушкі, як лёталі, так і лётаюць. Людзі, як жылі, так і жывуць. Кахаюць гэтак жа, як і кахалі тысячы гадоў таму. Зусім не змяніліся рэўнасць і здрада, дабро і зло. Змяняюцца хіба што хуткасці, але нязменнай застаецца хада чалавека. А ўсе спробы перайначыць тое, што разумна і велічна створана прыродай, на свой чалавечы лад, заканчваюцца заўсёды крахам. Той жа горны ручай ніколі не будзе шукаць зваротнай дарогі ў горы, бо яго засмяе сама вада:

За перавалам дарога кручэй і кручэй,
Нялёгка на пік вяршыні ўзысці.
Таропка бяжыць толькі горны ручэй,
Ды плыні зваротнай яму не знайсці.

Ад неразумення і непрыняцця самых простых жыццёвых ісцін кожны раз і церпіць, і пакутуе чалавек. Усё гэта, як ніхто іншы ў свеце, разумеюць паэты. Хай яны і не заўсёды прамаўляюць голасам Бога, але і тое, што спрабуюць дакрычацца да глухаты чалавечай, вартае ўсялякай ухвалы. Сэрцы не заўсёды адчыняюцца на стук паэта, якім бы настойлівым ён ні быў. Як часта кожнаму з нас не хапае таго самага мудраца, якога заўсёды трэба шукаць у самім сабе. Магчыма, і галоўнейшая задача паэта толькі ў тым, каб дапамагаць нам у гэтым нялёгкім пошуку.

Пра што б ні разважаў Ганад Чарказян у сваіх чатырохрадкоўях, дзесьці ў падтэксце заўсёды прачытваецца думка пра тое, які скарб ці след мусіць застацца пасля з’яўлення твайго на свеце гэтым. Прыйсці ў яго і толькі «адзначыцца галачкай» (А. Твардоўскі. — **К. К.**) занадта мала для чалавека. Грэшна і пакінуць пасля сябе толькі адны «шрамы»:

Быў кумірам няподаўна, усімі апетым.
Час надышоў — і расстаўся са светам.
Сыходзяць адны, пакідаючы шрамы,
Другія — дарогі, кнігі і храмы…

Між іншым, думка гэта часта вар’іруецца і ў прозе Г. Чарказяна. Але там ужо свае, уласцівыя іншаму жанру, часта прытчавыя, прыёмы. Але і там, і тут аўтарскае мудраванне часта грунтуецца на адным канкрэтным вобразе. Вельмі характэрны чарказянаўскі прыём, але ні ў якім разе не схему, можна прасачыць у звароце да вобраза збана. Гэты зямны вобраз, дарэчы, ужо сустракаўся і ў прозе пісьменніка. Звернемся канкрэтна да радкоў чаргаві:

Люблю ганчарскі занятак шчыры, —
Збан кожны далучан да продкаў славы.
А над зямлёй — азонавыя дзіры,
Планета наша — як збан дзіравы.

Сапраўды, як шмат сказана ў адным чатырохрадкоўі. І якая нечаканая выснова. Уражвае сам пераход ад звычайнай рэчы да ўявы маштабу планетарнага. І, здаецца, няма нічога нечаканага ў вельмі сумнай выснове наконт недальнабачнасці чалавецтва, неразуменні таго, што яму пагражае.

У цэлы ланцужок чатырохрадкоўя сплятаюцца думкі паэта пра «Купалы чароўны спеў». Як спасцігнуць веліч песняра, адчуць першародны водар яго паэзіі думае аўтар, блукаючы па вуліцы з яго імем, а потым ужо седзячы ў пакоі схіляецца над томікам яго-ных вершаў:

Купалу бяру — жыцця падручнік —
І чую голас ягоны.

Але важная для нас сама выснова, да якой урэшце прыходзіць паэт:

І разумею, што лёс беларуса і мой
Гэтак падобны гаркотай.

А ў іншым чаргаві прамовіцца і такое:

Мой лёс да твайго, Беларусь, падобны —
Гэткі ж упарты і гэткі ж ахвярны.

На беларускай зямлі паэт знаходзіць шмат таго, што з'яўляецца блізкім, нават роднасным яго сэрцу. Больш таго, ён пачуваецца шчырым абаронцам непаўторнай беларускай прыроды. І таму ля Свіцязі пад ценем дубоў просіць: «Тых, хто сякерай узносіць любоў, // Дзень мой, на беразе перапыні!»

Цэлы россып тэм прабягае перад намі пры няспешлівым прачытанні гэтай цікавай кнігі. Адно, найбольш яркае, адразу запамінаецца, іншае закранае толькі злёгку, нейкім сваім прыблізным водбліскам. Што ж, як і ва ўсялякім пошуку тут непазбежныя і нейкія выдаткі. Часам не лепшым чынам паўторыцца і ўжо даўно адшуканае. Не без гэтага. У вялікай хадзе часам даводзіцца ступаць і ў адны і тыя ж сляды.

Самае галоўнае, што за радкамі паэта адчуваеш упэўненую хаду чалавека, які мае за плячыма добрую школу жыцця, вытрымаў не адзін экзамен чалавеказнаўства, меў і радасці, і расчараванні. Гэтым ён і мудры.

І ў сваіх чаргаві, як і ў прозе, Г. Чарказян славіць чалавечае сяброўства, усё тое, што зблізкае, а не раз'ядноўвае людзей. Плячо, калі яно сагрэта цяплом сяброўства і добразычлівасці, лёгка знаходзіць сабе суплечніка. Гэтаксама і са словам: калі яно шчырае, ад самага сэрца, на якой бы мове яно ні прамаўлялася і якому б народу ні належала, яго заўсёды зразумеюць і прымуць як сваё. Прыемна, што паэтычнае роздумнае слова Ганада Чарказяна важка і шчыра гучыць і ў нашай Беларусі, якая для паэта даўно ўжо сталася роднай. Думкі яго ёміста вяжуцца з нашымі настроямі, трывогамі і спадзяваннямі. Толькі шчыры давер ды насалоду выклікаюць яго радкі, якія, дзякуючы перакладчыкам, мы сёння чытаем на роднай мове. Яны — зерні з засеўка нашай літаратуры.



Уладзімір МАЗГО

# МОЙ ЗЯЛЁНЫ ГАРАДОК

***Зэльва і зэльвенцы***

Аднойчы славуты Францыск Скарына сказаў: «Звяры, якія жывуць у лясах і пустынях, ад нараджэння ведаюць свае норы; птушкі, якія лятаюць у паветры, любяць свае гнёзды; рыбы, якія плаваюць у морах і рэках, чуюць свае віры; пчолы абараняюць свае вуллі; так і людзі да таго месца, дзе нарадзіліся і выраслі, вялікую ласку маюць».

Можа, таму што я нарадзіўся і вырас у Зэльве, а можа, з нейкай іншай нагоды, але да гэтага маляўнічага зялёнага гарадка на беразе хуткаплыннай Зальвянкі ласку маю сапраўды вялікую. А хіба магчыма інакш?..

Любімая зямля спакон вякоў,
Ты для мяне найлепшая на свеце.
Натхняючы сяброў і сваякоў,
Тут зоры над Зальвянкай ярка свецяць.

Табе клянуцца сейбіт і паэт:
Няма мілей нідзе кутка другога.
Дарога, што адкрыла цэлы свет,
Вяртаецца да роднага парога.

Дзе віравалі ўчора кірмашы,
Спявае сёння Зэльвенскае мора.
Расці, квітней і мары калышы,
Мой родны і любімы сэрцу горад.

Колькі гадоў Зэльве?.. Адказаць на гэтае пытанне адназначна, бадай, немагчыма.

Зазірнуўшы ў кнігу беларускага археолага Л. Побаля «Древности Белоруссии в музеях Польши», можна даведацца, што ў 80-я гады XIX стагоддзя на тэрыторыі мястэчка была знойдзена «сякера з шэра-зялёнага каменю даўжынёй 6,5 см, шырынёй 4,5 см, таўшчынёй 2,5 см». Знаходка сведчыць аб існаванні жыцця на гэтай зямлі яшчэ ў эпоху неаліту.

А першая летапісная згадка аб Зэльве адносіцца да 1258 года, калі князь Даніла Галіцкі ў час паходу на літоўскага князя Міндоўга ўзяў Ваўкавыск і паслаў атрад на чале з сынам Львом на Гародню, а ваяводу Міхайлу — ваяваць «по Зелеве». Пра гэта паведаміў нам Іпацьеўскі летапіс.

Ёсць меркаванне, што пачаткам Зэльвы паслужыла гара, якая ўзвышаецца над мясцовасцю на 20—25 метраў, з прыкметамі старажытнага паселішча і з рэшткамі валоў. Менавіта на гэтую акалічнасць звяртае нашу ўвагу «Энцыклапедыя археалогіі і нумізматыкі Беларусі».

Дакладна вядома з пісьмовых крыніц, што ў 1470 годзе Міхаіл Начовіч заклаў у Вялікай Зэльве касцёл, пры якім у 1508 годзе быў заснаваны шпіталь. У 1477 годзе адкрыты касцёл і ў маёнтку Малая Зэльва, якім валодаў Іван Гінейтавіч. Пасля пераходу ў 1568 годзе ва ўладанне Мікалая Крыштофа Радзівіла Вялікая Зэльва стала называцца Зэльвай. У 1616 годзе пры князях Сапегах

мястэчка складалася з рынку, трох вуліц: Дворнай, Мяжэрыцкай і Ваўкавыскай, 17 корчмаў, 2 млыноў. У Зэльве імкліва развіваліся рамяство і гандаль. Аб росце мястэчка яскрава сведчыць і павелічэнне колькасці жыхароў: у 1701 годзе тут налічвалася 806 чалавек, а ў 1785 годзе — 1169...

Шмат вядомых людзей і важных падзей пабачыла гэтая зямля. Так, напрыклад, у 1643 годзе князь Казімір Сапега прымаў у Зэльве караля Рэчы Паспалітай Уладзіслава IV.

Ішлі гады і вякі. Ад аднаго магната да другога пераходзіла мястэчка, але найбольшага свайго росквіту яно дасягнула пры князях Сапегах, якія атрымалі прывілей ад 20 мая 1720 года вялікага князя літоўскага і польскага караля Аўгуста II Моцнага на правядзенне штогадовых кірмашоў. З гэтага часу Зэльва становіцца адным з найбуйнейшых гандлёвых цэнтраў Еўропы.

Вось што піша аб гэтым «Еўрабюлетэнь» (№ 5/ 2010): «Раней, калі праводзіўся Ганненскі кірмаш, людзі казалі: зэльвенцы адзінаццаць месяцаў на год сумуюць, а месяц жывуць — кірмаш доўжыўся з 25 ліпеня да 25 жніўня. У XVIII стагоддзі ён быў другім па памеры кірмашом Старога Свету пасля Лейпцыгскага. На Ганненскі кірмаш, названы ў гонар святой Ганны, прыязджала да 5 тысяч купцоў, а гандлёвы абарот складаў да мільёна рублёў»...

Як бачым, Зэльва ўяўляла ў той час амаль што Лейпцыг у гандлёвых маштабах. Сюды з’язджаліся купцы з Расіі, Украіны, Польшчы, Францыі, Саксоніі, Баварыі, Нідэрландаў, Аўстрыі, Прусіі, Італіі, Даніі, Швецыі і іншых краін Еўропы. Тавары, прывезеныя на Зэльвенскі кірмаш, былі самыя разнастайныя. У расійскіх купцоў тут можна было набыць скураныя, жалезныя, медныя, бронзавыя вырабы, фаянсавы і фарфоравы посуд, футра, цукар, чай, цыгарэты, мыла, баваўняныя тканіны. Гандляры з Еўропы прапаноўвалі шоўкавае, ільняное палатно, баваўняныя вырабы, швейцарскі сыр, турэцкі тытунь, напоі і бакалейныя тавары.

Як сведчыць кніга «Памяць. Зэльвенскі раён»: «Гандлявалі на Ганненскім кірмашы буйной рагатай жывёлай і коньмі. Іх прыганялі памешчыкі і гандляры Лідскага, Кобрынскага і Брэсцкага паветаў Гродзенскай губерні, часткова Валынскай і Люблінскай (Каралеўства Польскае) губерняў. Збывалі тут коней і Сапегі,



*Віруе Ганненскі кірмаш.*

якія мелі свой конны завод, дзе было каля паўтары тысячы галоў англійскай, дацкай і турэцкай парод.

Асноўным прадметам гандлю (54 працэнты) было сукно, якое пастаўлялі са слонімскай, косаўскай, ружанскай, заблудаўскай і кнышынскай фабрык. Віленскія, гродзенскія і мінскія купцы забяспечвалі кірмаш цукрам, чаем, цыгарэтамі, тытунём, мылам, слонімскія і віленскія — галантарэяй».

Каб павесяліць народ, у час кірмашу выступалі акрабаты, жанглёры, фокуснікі, цыганы з дрэсіраванымі мядзведзямі і тэатральныя калектывы. Аматары азартных гульняў мелі магчымасць зацугляць сваю ўдачу ў рулетцы, якую прывезлі ў Зэльву з Парыжа і празвалі «фартунай». Вялікай папулярнасцю сярод наведвальнікаў кірмашу карысталіся таксама шынок пані Валабрынскай і драўляны павільён, празваны «сабачай горкай», дзе пад музыку некалькіх скрыпачоў можна было пры жаданні танчыць ажно да раніцы.

Найбольшага свайго росквіту славуты Зэльвенскі кірмаш дасягнуў у канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзя, калі сюды штогод прывозілася тавараў на суму да трох мільёнаў рублёў асігнацыямі. На працягу амаль 130 гадоў ён быў адным з самых буйных у Вялікім Княстве Літоўскім.

У наш час адбываецца аднаўленне традыцыі вялікага Ганненскага кірмашу, вяртанне яго з мінулых стагоддзяў у сучасную Зэльву.

Рэальнасць,
Прагнаўшы міраж,
На змену сумненням прыходзіць:
Вяртаецца ў Зэльву кірмаш
З далёкіх мінулых стагоддзяў.

З шыкоўнай карэты сышоў,
На плошчу спяшаецца пехам,
Каб лепшы адкрыць з кірмашоў,
Што Ганненскім клічуць,
Сапега.

Дзябёлы,
Як бульбы капец,
Рахманы,
Як конь зацугляны,
Стаіць разамлелы купец
І строіць багатыя планы.

Гандляр, перагрэты,
Скрывіў
Ад спёкі асмяглыя губы —
Усмешкай сагрэў краявід
У знак пасяховай рахубы.

Віруе кірмаш і гудзе.
Шчыруюць і людзі,
І коні...
Не ўчуеш такое
Нідзе,
Не ўбачыш такога
Ніколі.

Глыбока ўзараўшы пласты
Стагоддзяў,
Там конік з разбегу
У зэльвенскім скверы застыў,
Чакаючы князя Сапегу.

Кажуць, Сапегі вельмі цанілі Зэльву і ў сваіх уладаннях называлі яе «Зэльвенскім графствам». У XVIII стагоддзі яны адкрылі тэатр, у якім гралі прыгонныя беларускія, вольныя французскія і польскія акцёры.

Развіццю Зэльвы спрыяў не толькі Ганненскі кірмаш. Тут праходзіў важны гандлёвы шлях: Мінск — Слонім — Ваўкавыск — Гродна — Беласток. Зальвянка ў той час была суднаходнай і пераўтварала мястэчка ў дзеючы рачны порт. А ў 1886 годзе на чыгунцы Беласток — Баранавічы адкрылася станцыя «Зэльва», якая сёлета адзначае свой 125-гадовы юбілей.

Дарэчы, начальнікам зэльвенскай чыгуначнай станцыі ў 1920 годзе працаваў бацька будучага паэта Валянціна Таўлая, куды разам з сям'ёй вярнуўся з бежанства. А шасцігадовы Валік з трапятаннем у сэрцы слухаў гудкі цягнікоў і ляскат колаў, наталяючы нястрымную прагу дарог. У Зэльве памерла і пахавана яго маці, пасля чаго Таўлаі пераехалі на Слонімшчыну.

Зэльвенская зямля ва ўсе часы была багатая на літаратурныя таленты. З ёю цесна звязаны лёсы паэтаў, празаікаў, драматургаў, публіцыстаў, якія нарадзіліся, альбо вучыліся, альбо жылі і працавалі ў гэтым паэтычным кутку. Згадаю некаторых з іх...

Вядомая польская пісьменніца Кацярына Лявоцкая (дзявочае прозвішча Ліпінская, 2.10.1799—23.2.1890) нарадзілася ў сям'і памешчыка ў Зэльве. Рана страціўшы бацькоў, выхоўвалася ў доме дзядзькі ў Варшаве, дзе атрымала добрую хатнюю адукацыю. Уваходзіла ў Варшаўскае таварыства дабрачыннасці, узначальвала літаратурна-мастацкі салон. Выдала драму «Каспар Аўчарак» (1832), «Апавяданні для дзяцей з праўдзівых здарэнняў» (1837), аповесці «Бервяно ў запас і дом на багне» (1838), «Аповед старога слугі для сваіх калег» (1840). Пакінула шмат твораў мемуарнага жанру і перакладаў.

Радзіма знакамітай паэтэсы Ларысы Геніюш (9.8.1910—7.4.1983) — маёнтак Жлобаўцы Гродзенскага павета (цяпер Ваўкавыскі раён). Скончыла Ваўкавыскую польскую гімназію (1928). Разам з мужам Іванам Пятровічам, выпускніком Пражскага (Карлавага ) універсітэта, і сынам Юркам з 1937 года жыла ў Празе, дзе прымала актыўны ўдзел у дзейнасці беларускай эміграцыі. Друкавалася з 1939 года ў эмігранцкіх выданнях. Пасля арышту і зняволення (1949—1956) у савецкіх папраўча-працоўных лагерах пераехала на радзіму мужа ў Зэльву. Менавіта тут напісала большую частку сваіх твораў, асноўная тэма якіх — любоў да роднай Беларусі. У розныя гады выйшлі яе кнігі: «Ад родных ніў» (1942), «Невадам з Нёмана» (1967), «Казкі для Міхаські» (1972), «Добрай раніцы, Алесь!» (1976), «На чабары настоена» (1982), «Белы сон» (1990), «Споведзь» (1993), «Ластаўка» (2000), «Выбраныя творы» (2000) і іншыя. Ансамблем «Беларускія песняры» на вершы паэтэсы створаны песенны альбом «Жывем» (музыка Аляксандра Кацікава).

Блукаючы зялёнымі вуліцамі свайго гасціннага гарадка, я назіраю, як над дахамі дамоў беляхцяць адвечныя аблокі, падобныя на белыя ветразі. Як на пазалочаных сонцам хвалях Зальвянкі гайдаюцца быстраходныя віціны, нагружаныя багатым таварам. Як насустрач зэльвенцам крочаць вядомыя літаратары, якія жылі тут раней. Магчыма, гэта толькі творчая фантазія. А можа, я на нейкі міг апынуўся ў іншым стагоддзі?..

Паэт Валянцін Таўлай (8.2.1914—27.4.1947) нарадзіўся ў сям'і чыгуначніка ў горадзе Баранавічы. У маленстве ў 1920—1921 гадах жыў з бацькамі ў Зэльве. Вучыўся ў Слонімскай настаўніцкай семінарыі, Віленскай беларускай гімназіі, Беларускім дзяржаўным універсітэце. Актыўны дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. У 1934 годзе быў арыштаваны і асуджаны на 8 гадоў турэмнага зняволення. У 1939 — вызвалены з гродзенскага астрога Чырвонай Арміяй. У гады Вялікай Айчыннай вайны — сувязны партызанскага атрада Баранавіцкага злучэння, разведчык спецгрупы «Буравеснік». Працаваў адказным сакратаром навагрудскай раённай газеты «Звязда» (1944—1945), старшым наву-

ковым супрацоўнікам і намеснікам дырэктара Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску (1945—1947). Друкаваўся з 1928 года. Выйшлі кнігі паэзіі «Выбранае» (1947), «Выбраныя творы» (1951), «Вершы і паэмы» (1955), «Творы» (1961), «Выбраныя вершы і паэмы» (1967), «Пілую вершам краты» (1984). Выступаў як крытык, публіцыст і перакладчык.

Беларускі і бельгійскі педагог, праваслаўны духоўнік Яўген Смаршчок (25.9.1914—4.10.1984) нарадзіўся ў сям'і настаўніка парафіяльнай школы ў Зэльве. Доктар педагогікі (1957), прафесар (1977). Скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю (1934). Настаўнічаў у Поразаве (Свіслацкі раён ). Удзельнічаў у польска-германскай вайне. З 1950 года жыў у Бельгіі. Скончыў педагагічны факультэт універсітэта ў Лювене (1957), Інстытут філалогіі і гісторыі славян універсітэта ў Бруселі (1966), дзе заняўся беларусазнаўствам. Адначасова праходзіў курс святарскага навучання ў Інстытуце святога Сергія ў Парыжы. Быў старшынёй Саюза беларусаў Бельгіі. Працаваў выкладчыкам Вышэйшай фламандскай школы ў Антверпене, служыў святаром. З'яўляецца аўтарам навуковай працы «Гісторыя і актуальны стан беларускай бібліяграфіі» (1966).

Міхаіл Іоська (5.3.1929—20.2.1986) — беларускі філосаф, культуролаг, педагог і журналіст нарадзіўся ў бліжэйшай ад Зэльвы вёсцы Бародзічы. Кандыдат філасофскіх навук (1966), дацэнт (1970), член Саюза журналістаў СССР (1960). Сярэднюю адукацыю атрымаў у Зэльвенскай сярэдняй школе. Скончыў філасофскае аддзяленне гістфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1954). Працаваў літсупрацоўнікам, загадчыкам аддзела, намеснікам рэдактара самаркандскай абласной газеты «Ленинский путь» (1957—1963). Выкладаў гісторыю замежнай філасофіі ў БДУ, рэдагаваў універсітэцкую шматтыражную газету «Беларускі ўніверсітэт», быў дацэнтам кафедры навуковага камунізму Мінскага інстытута культуры. Выступаў у друку з вершамі, нарысамі, дакументальнымі аповесцямі. Аўтар шматлікіх артыкулаў, даследаванняў і кніг, сярод якіх асабліва хочацца адзначыць такія выданні, як «Беларусь і Узбекістан. З гісторыі развіцця міжнародных адносін беларускага і ўзбекскага народаў» (1970), «Мікалай Судзілоўскі-Русель. Жыццё, рэвалюцыйная дзейнасць і светапогляд» (1976).



*Погляд у мінулае (вуліца Савецкая).*

Празаік, драматург і публіцыст Юрка Геніюш (21.10.1935—20.11.1985) — сын Ларысы Геніюш нарадзіўся ў Зэльве. Жыў у Празе і Беластоку. Вучыўся ў медыцынскай акадэміі, працаваў лекарам. Дэбютаваў на старонках газеты «Ніва» ў 1963 годзе. Аўтар кнігі п'ес «Зборнік сцэнічных твораў» (Беласток, 1976 г., у сааўтарстве з С. Яновічам), зборніка апавяданняў-

замалёвак «На пачатку было толькі слова» (Беласток, 1981). Пасмяротна таксама ў Беластоку выйшлі ў свет празаічныя кнігі «Маці і сын» (з Л. Геніюш, 1992), «З маёй званіцы» (1994).

З наступнымі пісьменнікамі, паяднанымі лёсам з маёй роднай Зэльвай, мне пашчасціла сустракацца даволі часта. І на «Зэльвенскіх сакавінах», і на гродзенскіх імпрэзах, і ў час вучобы ў Белдзяржуніверсітэце. Гэта нашы сучаснікі, якія дасягнулі зеніта сваёй творчай сталасці.

Алена Таболіч — мовазнаўца, педагог і перакладчык нарадзілася 15.4.1940 г. у вёсцы Горна Зэльвенскага раёна. Кандыдат філалагічных навук (1983). Скончыла сярэднюю школу ў Зэльве, Мінскі інстытут замежных моў (1963). Настаўнічала ў СШ № 6 у Маладзечне, у Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы (Польшча). З 1968 года выкладае ў Мінскім інстытуце замежных моў (Лінгвістычным універсітэце). З'яўляецца аўтарам слоўнікаў, метадычных дапаможнікаў, навуковых кніг. Перакладае на беларускую мову англамоўных паэтаў. Вялікую цікавасць у айчынных чытачоў выклікаў зборнік яе перакладаў «Срэбны дождж» (1999).

На хутары каля вёскі Горна 20.10.1947 г. нарадзіўся адзін з найбольш яркіх і самабытных паэтаў сучаснай беларускай літаратуры Юрка Голуб. Яго вобразна-метафарычныя творы лёгка пазнаць па адметным паэтычным почырку. Росныя словы ў паэта гэтак вясёлкава пераліваюцца рознымі адценнямі, што міжволі заўважаеш : «жарэбчыкам радок танцуе ў канюшыне». Важнымі і паслядоўнымі крокамі ў адукацыі для пісьменніка сталі Зэльвенская сярэдняя школа і філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Юрка Голуб працаваў загадчыкам аддзела мастацкага вяшчання Гродзенскага абласнога тэлерадыёаб'яднання, загадчыкам аддзела культуры газеты «Гродзенская праўда». Аўтар зборнікаў лірыкі «Гром на зялёнае голле» (1969), «Дрэва навальніцы» (1973), «Векапомнае поле» (1976), «Помню пра цябе» (1983), «Сын небасхілу» (1989), «Поруч з дажджом» (2001), «Зажураны камень» (2002), «Брама зімы» (2004), «Багра» (2006) і іншых. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1999).

Вядомы пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік нарадзіўся 14.2.1956 г. у вёсцы Кастровічы суседняга Слонімскага раёна. А сярэднюю адукацыю атрымаў у Зэльве, скончыўшы мясцовую школу-інтэрнат. Памятаю, як у школьныя гады з захапленнем чытаў вершы свайго земляка ў зэльвенскай раённай газеце «Праца» і ў часопісе «Бярозка». Потым Ягоўдзік паступіў на філфак БДУ і перайшоў з паэзіі на прозу, дэбютаваўшы з апавяданнем «Стрэл дуплетам» у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Пасля заканчэння ўніверсітэта працаваў у брэсцкай абласной газеце «Заря», на брэсцкай студыі тэлебачання, у газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Нёман», узначальваў газету «Дзеці і мы», часопісы «Бярозка», «Лесавік». Выдаў кнігі «Стронга» (1984), «Вочы начніцы» (1989), «Прыручэнне птушкі» (1989), «Белыя росы на чорным полі» (1995), «Выбранае» (кніга першая і кніга другая, 2005) і іншыя. Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1993), Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1994).

Шмат гадоў у зэльвенскай раённай газеце «Праца», якая з'яўляецца пераможцам Нацыянальнага конкурсу друкаваных сродкаў масавай інфармацыі «Залатая Ліцера», рэгулярна выходзіць літаратурная старонка «Зоры над Зальвянкай». Адпаведную назву носіць і мясцовае літаратурнае аб'яднанне. Памятаю, як у снежні 1975 года мне, дзесяцікласніку сярэдняй школы, выпаў гонар прадстаўляць Зэльвеншчыну на Рэспубліканскім семінары-нарадзе кіраўнікоў літаб'яднанняў у Мінску, бо ўжо ў той час актыўна друкаваўся ў многіх перыядычных выданнях.

Болей за два дзесяцігоддзі «Зоры...» запальваў вопытны краязнаўца Пётр Марціноўскі, які падрыхтаваў да друку зборнік вершаў паэтаў-землякоў «Зоры над Зальвянкай». Пры падтрымцы Зэльвенскага райвыканкама кніга пабачыла свет у 2008 годзе. Прэзентацыя яе адбылася на святкаванні 750-гадовага юбілею Зэльвы.

У апошні час літаб'яднанне ўзначальвае таленавіты публіцыст Яніна Шматко. Яна вядзе ў раённай газеце старонкі «Зоры над Зальвянкай» і «Малюся Слову». Актыў творчай суполкі складае каля двух дзясяткаў чалавек. Гэта настаўнікі і школьнікі, бібліятэкары і медработнікі, якіх натхнілі на творчасць маляўнічыя зэльвенскія краявіды і самыя светлыя чалавечыя пачуцці.

Яшчэ прабабкі, мусіць,
Шукалі лекі ў зеллі.
Лістотай захлынуся
У зеляніне:
— Зэльва...

Вятры вякоў заснулі
На сцішанай галінцы.
Не хлебам-соллю —
Куляй
Прывеціла чужынцаў.

Размашыстая ўлада
Касы —
Не размінуцца.
На вербы азірнуцца —
Сівая, як балада.

Усім: душой і целам —
Ты з ім,
Касцом вясёлым.
Расшпілена нясмела
Двухшпілевым касцёлам.

Над Зэльвай узвышаецца прыгожы, велічны касцёл Прасвятой Тройцы пачатку XX стагоддзя. І адкуль сюды ні едзеш — з захаду, усходу, поўдня ці поўначы, першае, што адкрываецца тваім вачам — дык гэта той самы касцёл. Здалёку здаецца быццам ён сваімі высокімі шпілямі расшпільвае мясцовы далягляд.

У XIX стагоддзі тут, на падмурку драўлянай царквы 1443 года, архітэктарам Аляксандрам Градзецкім была пабудавана Свята-Троіцкая царква, у якой мяне хрысцілі пры савецкім часе. Побач з царквою ў 2003 годзе ўсталяваны помнік-бюст паэтэсе Ларысе Генію ш, благаславёны Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі Філарэтам. Аўтар — вядомы скульптар, ураджэнец Зэльвы Міхаіл Інькоў. Гэта ён стварыў помнікі Кірылу Тураўскаму ў Тураве (1993), лётчыку А. Гараўцу ў Віцебску (1995, у сааўт.), княгіні Слуцкай для горада Слуцка (1999), мемарыяльную дошку на вуліцы Максіма Танка ў Мінску (1999) і іншыя творы ў жанрах манументальнай і станковай скульптуры.

Захаваўся ў Зэльве і помнік прамысловай архітэктуры — стары млын, пабудаваны з чырвонай цэглы на рацэ Зальвянка ў канцы XIX стагоддзя. Высокі падмурак зроблены з бутавага каменя, а будынак мае два паверхі і мансарду. У дзяцінстве мы з сябрамі любілі купацца і загараць каля млына, зачараваныя яго таямнічай прыгажосцю.

Мемарыял савецкім воінам і партызанам, якія загінулі ў ліпені 1944 года за вызваленне Зэльвеншчыны, размешчаны на ўзвышшы. Таму знячэўку ствараецца ўражанне, што сямнаццаціметровая стэла ўзносіцца ажно да нябёс. А ад падножжа да вяршыні гары цягнецца бясконцая лесвіца памяці.

Пры ўездзе ў раённы цэнтр з боку Ваўкавыска, каля самай шашы, узвышаецца манумент абаронцам Айчыны. Устаноўлены ён да 50-годдзя Вялікай Перамогі (1995). Пад мармуровай плітой знаходзіцца капсула са зваротам да нашчадкаў.

Да 750-гадовага юбілею Зэльвы ў цэнтральным скверы адкрыты помнік каню. Менавіта гэта свойская жывёла адлюстравана на гербе гарадскога пасёлка, як напамін аб славутым Ганненскім кірмашы.

Зальвянка, Зэльва... Якое паходжанне такіх блізкіх па гучанні слоў? На гэты конт існуюць розныя погляды.

Так пісьменнік і мовазнаўца Уладзімір Юрэвіч у сваёй кнізе «Слова жывое, роднае, гаваркое...» сцвярджае: «Назву цяперашні гарадскі пасёлак атрымаў ад ракі Зэльвеі, якая паступова ператварылася ў Зальвянку. У аснове назвы слова **залева** — месца паводак у веснавую і летнюю пару, калі вада залівала вялікія прасторы».

Другую версію, выказаную народным пісьменнікам Беларусі Янкам Брылём, нагадаў паэт Юрка Голуб: «Пражыў паўстагоддзя і не ведаў, што Зэльва — ад літоўскай **жалёі-зялёная**»...

Калі я з цікавасцю гляджу на Зэльвенскае вадасховішча, люстраная плошча якога складае 1190 гектараў, а аб'ём вады — каля трыццаці мільёнаў кубічных метраў, то здаецца, што найбольш адпавядае сапраўднасці першая версія. Але ж раней вадасховішча не было, яно пабудавана толькі ў 1983 годзе. Тым не менш, у памяці захаваліся паводкі на Зальвянцы, калі вада разлівалася ад Бярэжак амаль да Горны.

На беразе вадасховішча, у маляўнічым сасновым бары (акурат насупраць таго месца, дзе раней стаяла наша бярэжкаўская хата), цяпер размешчана база адпачынку. Каля Навасёлкаў дзейнічае дзіцячы аздараўленчы лагер «Блакітная хваля». Наўкол сапраўднае раздолле для рыбаловаў-аматараў. У вадасховішчы водзяцца шчупак, акунь, лешч, карась, ёрш, верхаводка, чырванапёрка, карп, таўсталобік... Тут плануецца будаўніцтва магутнай цеплавой электрастанцыі.

Калі ж уважліва прыгледзецца да самой Зэльвы, якая спакон вякоў патанае ў зеляніне садоў і паркаў, прыбярэжных лугоў і агародаў, то найбольш прымальнай выглядае другая версія паходжання назвы райцэнтра. Але, мне здаецца, абодва выказаныя вышэй погляды маюць права на сваё існаванне.

Я нарадзіўся ў Зэльве 5 сакавіка 1959 года. Як потым даведаўся, менавіта ў гэты дзень (але ў розныя гады) на свет з'явіліся вядомыя сягоння людзі Зэльвеншчыны — кандыдат філасофскіх навук, дацэнт, журналіст Міхаіл Іоська і доктар філалагічных навук, прафесар, мовазнаўца Павел Сцяцко.

Наша сям'я — бацька, мама і я — жыла ў двухпавярховым доме № 5 па вуліцы Савецкай. Кватэра была на другім паверсе, а на першым у той час знаходзілася аптэка. Побач, на другім баку вуліцы — Свята-Троіцкая царква. У суседнім доме, як малітвы, чытала свае вершы паэтэса Ларыса Геніюш. Таму я рос, можна сказаць, у атмасферы высокай духоўнасці.

Назіраўся няспынны рост і гарадскога пасёлка.У гэты перыяд павялічыўся машынны парк МТС, былі пабудаваны паліклініка, кінатэатр, шэраг прадуктовых магазінаў, з'явіліся новыя вуліцы. А яшчэ быў праведзены капітальны рамонт ГЭС, уступіў у дзеянне водаправод. Зэльва пашырыла свае межы ажно да чыгункі Ваўкавыск — Баранавічы.

Здавалася б, толькі жыві — і радуйся... Але нечакана для многіх па новым адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленні Зэльвенскі раён быў ліквідаваны, а Зэльва страціла свой ранейшы статус. Як быццам рай разам з райцэнтрам быў парушаны. Працоўных месцаў у арганізацыях стала значна менш і паступова многія зэльвенцы пачалі раз'язджацца па свеце ў пошуках лепшай долі.

Так наша сям'я апынулася ажно ў Кемераўскай вобласці, дзе бацька ўладкаваўся на працу на Заходне-Сібірскай чыгунцы. Але мы пастаянна падтрымлівалі сувязь са сваімі сваякамі ў Зэльве. І праз два гады пасля аднаўлення раёна і райцэнтра, у 1968 годзе, вярнуліся на маю радзіму. У Сібіры я скончыў толькі два класы сярэдняй школы.

Пакуль свайго жытла не было, жылі ў зэльвенскіх сваякоў. Потым бацька купіў хату ў суседняй вёсцы Бярэжкі, адкуль я кожны дзень праз сасновы бор



*Юныя зэльвенскія каратысты.*

хадзіў за тры кіламетры ў Зэльвенскую сярэднюю школу. Вучыліся мы спачатку ў будынку, у якім цяпер гімназія № 1. Але хутка перабраліся ў новую школу на 960 месцаў (СШ № 2). Тут, адчуўшы творчае натхненне, напісаў свае першыя вершы і песні. А ў зэльвенскай раённай газеце «Праца» адбыўся мой паэтычны дэбют.

Нейкі час займаўся ў секцыі гандбола ў заслужанага трэнера Беларусі Леаніда Гана. Гэта Леанід Пятровіч вырасціў з нашых хлопцаў Уладзіміра Міхуты і Валерыя Цівунчыка ігракоў каманды СКА (Мінск) і чэмпіёнаў свету сярод юніёраў.

Далёка за межамі нашай краіны ведаюць спартыўны клуб каратэ-до «Фудасін-Зэльва», у якім займаецца больш як пяцьдзясят дзяцей з райцэнтра і раёна. Трэніруе іх вопытны спецыяліст Уладзімір Ламека. Члены гэтага клуба заваявалі на першынстве свету каля двух дзясяткаў медалёў, з якіх пяць — залатыя. А на міжнародных і рэспубліканскіх спаборніцтвах імі заваявана больш як сотня медалёў.

На маіх вачах расла і прыгажэла родная Зэльва. Непазнавальна змянялася яе аблічча, фарміраваўся сучасны выгляд. Тут пабудаваны новыя жылыя дамы і вытворчыя карпусы, а на паўночнай і паўднёвай ускраінах з’явіліся новыя мікрараёны. Некаторыя вуліцы пасёлка названы ў гонар славутых землякоў. Напрыклад, вуліца акадэміка (былога прэзідэнта АН БССР) Антона Жэбрака. Альбо — вуліца камандзіра партызанскай брыгады «Перамога» Паўла Булака...

Сягоння ў райцэнтры працуе некалькі сярэдніх навучальных устаноў: гімназія № 1, СШ № 2, СШ № 3, санаторная школа-інтэрнат. Ёсць дзіцячая школа мастацтваў, навучэнка якой Дзіяна Іванова стала лаўрэатам міжнародных фестываляў фартэпіяннай музыкі. Дзейнічае дзіцяча-юнацкая спартыўная школа. А для самых юных зэльвенцаў гасцінна расчынілі свае дзверы чатыры дзіцячыя сады-яслі.

Аматараў літаратуры і мастацтва тут заўсёды чакаюць дзве ўтульныя бібліятэкі і прасторны Дом культуры. Дарэчы, ансамблю народнай песні і музыкі «Весялуха» і аматарскаму драматычнаму калектыву раённага Дома культуры нададзена званне народных. Такі ж тытул носяць хор ветэранаў вайны і працы «Успамін», аматарскі аркестр духавых інструментаў, ансамбль народных інстру-

ментаў дзіцячай школы мастацтваў. Нездарма зэльвенцы здавён любілі добра папрацаваць і добра адпачыць.

Я заўсёды ганаруся, што нарадзіўся на гэтай цудоўнай зямлі. Яна для мяне, можна сказаць, святая. Здаецца, цэнтр планеты знаходзіцца ў роднай Зэльве, бо ўсе мае дарогі — далёкія і блізкія — нязменнна прыводзяць менавіта сюды.

Мая раённая сталіца,
Калыска мар маіх і сноў,
Я шчыра прагну наталіцца
Тваёй гасціннасцю ізноў.

Тут вобраз вечнасці лунае
У спелым водары травы,
Дзе бусел крылы развінае —
Абсягаў родных вартавы.

Царква прыветная спаткае,
Як маці хросная, мяне,
А зеляніна трапяткая —
Пяшчотай лісця ахіне.

Чароўнай музыкай Зальвянка
У сэрцы сцішана гучыць,
Нібы маленства калыханка, —
Калі прыеду адпачыць.

Я пакланюся кожнай былцы,
Здалёк вярнуўшыся дамоў,
І наталюся словам, быццам
На свет народжаны ізноў.

Ідучы з начнога цягніка, я чуйна прыслухоўваюся тут да кожнага гуку і шолаху. І мне чуецца: «А наўкола — цішыня. Напявае вышыня, каб пад коўдраю аблок спаў салодка гарадок».

На небасхіле займаецца новы дзень. Хай жа ён будзе для зэльвенцаў сонечным!

***Фота Віктара Макоўскага.***

***(На вокладцы — Свята-Троіцкая царква ў Зэльве.)***

